Яўген
Каршукоў

# І НАДЫХОДЗІЦЬ ДЗЕНЬ

Апавяданні
Гумарэскі

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1982

# АПАВЯДАННІ

## ДЗІНЬ-БОМ

Гэта незвычайны, чароўны гадзіннік... Не першы год стаіць ён на маім стале ў бліскучым бляшаным корпусе, стаіць і не проста цікае, адлічваючы час, а пазваньвае — тоненька, тужліва, нібы аднекуль здалёку, з незабыўнага дзяцінства.

Так і бачу залацісты надвячорак, росны лужок і невялікую бурую кароўку са званочкам на шыі: дзіньбом, дзінь-бом... Над ёю, амаль бязрогай, роем снуюць камары, яна матае галавой, бароніцца і прагна скубе траву паўз канавы. Ціхі змрок паволі ахінае зямлю. Толькі ў полі, над жытнёвым пагоркам, за якім схавалася сонца, мякка ружавее неба. Росная трава халодзіць босыя ногі. Але я цярпліва стаю з доўгай вяроўкай, начэпленай на кароткія абламаныя рожкі каровы, і замілавана пазіраю на сваё нечаканае шчасце. Вяроўку трымаю так сабе, для большай упэўненасці: нікуды не збяжыць наш набытак — кароўка ледзьве ступае на пярэднюю левую, бо пад самым капытом болька...

З-за гэтай хворай нагі і пакінулі ўчора яе бежанцы — такія ж, як і мы, гаротнікі-бадзягі. Узрадаваная маці не ведала, як іх улагодзіць, чым аддзячыць: і апошні мяшэчак пшана, і выменяны на бацькавы касцюм кавалак старога жоўтага здору, і нават аблігацыі, што хаваліся на дне чамадана пад бялізнай, аддала за карову. І, радасная, ззяючая, усё паўтарала нам з сястрой: «Ну, дзеткі, цяпер кончыцца наша нішчымніца... Малочная трапілася кароўка, абы толькі акрыяла».

А карова стаяла ў двары, схуднелая, з запалымі бакамі, нейкая абыякавая да ўсяго. Побач з хатулямі за плячамі тапталіся яшчэ яе гаспадары: змрочны барадаты стары, кругленькая ўвішная жанчына і дзве бледнатварыя дзяўчынкі. Дарослым было шкода каровы. Яны не хавалі гэтага і сумна, моўчкі пазіралі на жывёліну. Толькі дзяўчынкі, абдымаючы карову за шыю, неяк вельмі ўжо жаласліва і настойліва прасілі мяне добра карміць яе.

— Яна вельмі любіць дзятлавінку, хлопчык! Пасі на дзятлавінцы, чуеш?

...Гадзіннік на стале ўсё дзінькае, усё адзвоньвае сваё тужлівае «дзінь-бом». І выразна выплываюць з далечыні часу і сур'ёзны не па гадах хлопчык з вяроўкай у руках, і маленькая бурая кароўка на лужку. Калі, калі ўсё гэта было?!

*1978*

# ПЯТРОЎСКАЯ БЫЛЬ

— Ну, прыехаў... Вунь ужо і мая вёсачка... Спыні, браце!

Я выкульваюся з прапахлай бензінам кабіны на гарачае каменне бруку, пазіраю, як знікае за лясным паваротам грузавік, і, не спяшаючыся, збочваю ў маладым сасоннік.

Вузкая, усыпаная мяккім шыгаллем сцяжынка вядзе пад гару. Рэдкія ў сасонніку бярозкі ўжо атрасаюць сваё бледна-жоўтае лісце. І яно, і яркія сонечныя плямкі рабацяць перад вачамі. А вакол — сонная ціша і душны востры пах перагрэтай смалістай ігліцы.

Неўзабаве лясок радзее, разбягаецца ў бакі сасоннік, і перада мной — Пятроўка, уся, як на далоні. У сто двароў доўгая вуліца, адзін канец якой уткнуўся ў шашу, а другі — вось-вось дабярэцца да самага лесу. Колькі ўжо тых пасляваенных гадоў мінула, як выбраліся мы з Пятроўкі ў горад! І родзічы хто куды параз'язджаліся, акрамя цёткі Анелі, а вось цягне сюды нястрымна, неадольна: то тую ж самотную цётку праведаць, то заваліцца ў грыбныя, знаёмыя з маленства мясціны, то напытаць бульбы надумаеш, як зараз... Жонка толькі пацяшаецца з майго дзівацтва: вунь у магазіне якая хочаш бульба, на выбар... І праўда — ёсць на выбар. Ды хіба ж яна такая, як наша, пятроўская? Сопкая, крухмалістая...

Я шыбую ў вёску нацянькі, цераз жытнёвае зжатае поле, да якога сіратліва прыткнуліся лапічкі агародаў петраўчан. Жоўтае выцвілае ржышча слізгае, суха ломіцца пад нагамі. І ўжо здалёк я пазнаю на агародзе кароткую постаць цёткі Анелі ў чырвонай хустцы. Вось яна паволі разагнулася, падняла кошык і, кульгаючы, нясе яго перад сабой пад старую дзічку... Але раптам спыняецца, апускае кошык на зямлю і, прыкрыўшы вочы рукой, узіраецца ў мой бок. І па тым, як яна хутка пачынае выціраць аб спадніцу рукі і папраўляць хустку, здагадваюся: пазнала. Падыходжу бліжэй.

— Глядзі ты — Пецька-а... І не чакала! Даўно не быў. Як там твае? Усе здаровыя? Ну і дзякуй богу!..

Даведаўшыся, што я прыехаў напытаць бульбы на зіму, яна разважае, у каго можна купіць.

— Саковічы — прадалі ўжо, Хвенька Піліпава — свайму сыну паабяцала... Варка, чула, пакідае аднаму з горада. Позна ты спахапіўся...

Склаўшы на грудзях рукі, яна доўга пазірае пад ногі на пабурэлы вялы бульбоўнік:

— І што табе параіць — проста не ведаю... Пачакай, мажа, у Хрысціны яшчэ ёсць? Картопля ў яе ўрадзіла добрая. Толькі не хочацца мне ісці пытаць...

Цётка адводзіць убок вочы, потым неахвотна гаворыць:

— Я не пайду, не дружым мы з Хрысцінай... А ты — ідзі, калі трэба... Ідзі, яна прадасць.

Па-жніўеньску спякотнае сонца смаліць які дзень — нібы так і спяшаецца аддаць людзям сваю цеплыню перад першымі халоднымі дажджамі. Нікуды ад яго не схаваешся, нават тут, пад ліпамі ля хаты, даймае. Міцька сядзіць з хлопцамі на лавачцы, выцірае ад поту лоб і гаворыць:

— Не бачыць немцам Масквы, як свайго носа... Выпруць іх нашы! Калісь вунь французы ў Маскву зайшлі, а што потым было? Як турнулі іх, дык драпалі без аглядкі! Я ведаю, мы ў рамесным па гісторыі вучылі...

Хлопцы слухаюць, не адводзячы вачэй ад Міцькі, ад яго вялікіх загарэлых рук, сочаць, як Міцька лоўка выразае ўзоры на карычневай арэхавай палцы — розныя квадрацікі, ромбікі... Хлопцы слухаюць, і на іх тварах — пачцівасць і зайздрасць: ну і Міцька-рамеснік, усё чыста ведае!

А Міцька ганарліва ўскідвае галаву з белай чупрынай, насмешліва жмурыць вочы, шырока расцягвае пульхныя губы і праз зубы ціхенька насвіствае «Кацюшу». Ён даўно ведае: хлопцы зайздросцяць яму, што пабываў у рамесным вучылішчы і жыў у горадзе... Чырвоная выцвілая майка ў Міцькі шчыльна аблягае яго шырокія плечы, і пругка варочаюцца, бы яблыкі, на натруджаных працай руках моцныя мускулы. У гэтых руках каса — ого як ходзіць! На лузе Міцька ад заядлых касцоў не адстае, пракос у пракос гоніць. І матка хваліцца не нахваліцца сынам: гаспадар! Міць-

ка ўжо і на вечарынкі спрабуе хадзіць. А што? Хлопцы даўно як свайго прымаюць, ды і дзяўчаты на яго глядзяць...

— Мі-іць-ка-а! Скоранька ідзі дахаты! — раптам чуюць хлопцы з двара прарэзлівы голас Міцькавай маці.— Скоранька! Тут прыйшлі да цябе...

— Хто яшчэ там? — абзываецца Міцька.— От жа, пасядзець не дадуць...

Ён неахвотна падымаецца з лаўкі, складвае ножык, суха пстрыкаючы лязом. Паволі сунецца ў двор.

Пад паветкай у двары стаяць маці і суседка Хрысціна. Чарнавалосая, у белай вышыванай кофце з кароткімі рукавамі Хрысціна ловіць здзіўлены позірк Міцькі і весела смяецца:

— Да цябе, да цябе, Міця, прыйшла. Памачы прасіць па-суседску...

Голас у яе чысты. І ўся яна выглядае неяк святочна.

Міцька збянтэжана апускае вочы, чакае, што скажа Хрысціна.

— Сынок,— падыходзіць да Міцькі маці і, сухенькая, нізенькая, ласкава заглядвае ў твар.— Ты памажы Хрысцінцы — сенцы ў яе забурыліся... А яна табе... во, гімнасцёрку прынесла.

— Новая, няношаная, Міця, нават не сумнявайся,— ужо сур'ёзна гаворыць Хрысціна.— Бяры, насі на здароўе...

— Ды навошта? Я і так... Калі што...

Няёмка Міцьку — за плату ён яшчэ нічога нікому не рабіў. Але маці паспешліва, нібы баючыся, што Хрысціна раздумае, совае ў рукі яму зялёную вайсковую гімнасцёрку... Зусім, зусім новенькую! На каўняры — малінавыя пятліцы без праколаў. І гузікі блішчаць на сонцы, зорачкамі іскрацца, і зачараваны Міцька не можа стрымаць радасці.

— Ну, калі так,— нарэшце гаворыць ён,— калі так... то дзякуй вам, цётка Хрысціна! Я — адраблю... Я хоць цяпер магу: пакажыце сенцы...

І яны ідуць у Хрысцінін двор. Цераз агароды. Хрысціна — уперадзе, Міцька — следам. Сухі бульбоўнік шамаціць пад нагамі, а шэрая гарачая зямля, як прысак, апякае ногі, пыліць. Хрысціна азіраецца і гаворыць так, бы ў чым апраўдваецца перад Міцькам:

— Дрэнна, Міця, адной: куды ні кінь — усюды клін... І там паспець трэба, і там, а з малой маёй не вельмі разгонішся, за спадніцу трымае. Вунь яшчэ ўся бульба стаіць...

За купчастымі кустамі парэчак Хрысціна прыпыняецца і адсоўвае жэрдку ў плоце:

— Лезь, лезь, Міця... Табе не прывыкаць: чула, як ты са сваімі верхалазамі Панасаў сад абчысціў.

З-пад бялявых веек у Міцькі весела блішчаць блакітныя вочы. Бач, ужо і Хрысціна дазналася! Ды хай цяпер усе ведаюць, што з таго. Панас — стараста — сам пранюхаў, хто пахадзіў у яго садзе... У халодную гразіўся пасадзіць. І пасадзіць, ён не спусціць, гарбаты злыдзень.

У Міцькі перад вачамі так і стаяць зялёны зашмальцаваны фрэнч з нашытым белым арлом над кішэняй і твар старога — зморшчаны ды жоўты, як печаны яблык.

— А так яму, халую нямецкаму, і трэба,— жартаўліва заўважае Хрысціна.

Яны заходзяць у нізенькія сенцы. Міцька доўга і старанна разглядае шчыліны ў прагнілай падлозе, слухае, як Хрысціна бразгае ў цёмнай бакавушцы, шукаючы малаток і цвікі. І калі яна выносіць адтуль шчарбаты чыгунок з рознымі жалязякамі, Міцька, уздыхнуўшы, паважна зазначае:

— Вам бы, цётка Хрысціна, трохсцен які прыляпіць замест гэтага дзіравага будана.

— Яно праўда — як рэшата сенцы,— у тон яму адказвае Хрысціна, пазіраючы на чырвоны смаляны сучок у дошцы, праз які прыгожа прабіваюцца сонечныя промні.— Толькі ж уся хата парахнявая, Міця. Ды і не мая. Дзякуй, што хоць у такой людзі пажыць дазволілі...

Апусціўшы галаву, яна маўчыць. Аб чым думае — Міцька не ведае. Можа, аб тым, як прыбілася бежанкай да іх вёскі і вось ужо цэлы год жыве ў старой хаце Цімоха, забітага летась ля кароў асколкам бомбы; можа, аб тым, як цяжка жыць адной сярод чужых... Міцьку вельмі хочацца хоць чым-небудзь падбадзёрыць яе:

— Нічога, цётка Хрысціна, я мігам усе дзіркі залатаю... Дошкі ёсць?

— Дошкі — ёсць. Вуняка звалены пад хлевам,

Міцька і Хрысціна доўга выбіраюць сярод аполкаў і абрэзкаў шалёўчыны. Потым Хрысціна прыносіць аднекуль кароценькую лесвіцу — драбінку, Міцька ўзбіраецца на сенцы і са скрыгатам аддзірае сякерай ад бэлек спарахнелыя дошкі, прыбівае новыя. Іржавыя цвікі не лезуць, гнуцца. І ён тут жа раўняе іх і зноў заганяе ў сухія, патрэсканыя аполкі.

Спякота даймае Міцьку. Але трэба пастарацца, трэба зрабіць так акуратна, каб не залівала сенцы дажджом, не наносіла снегу ўзімку. Трэба пастарацца: вунь якую гімнасцёрку не пашкадавала Хрысціна, прынесла!

Недзе ў небе гудуць самалёты. Гул — трывожны, перарывісты, моцны. Ён хутка нарастае. Міцька закінуў галаву, узіраецца ў густы блакіт. Толькі ж нічога не відаць — высока! Свае, чужыя? Можа, і свае... От бы знізіліся ды шарахнулі з кулямётаў па школе, у якой паліцаі гаспадарацъ, от здорава было б! Міцька нават усміхаецца, уяўляючы, як перапалоханыя паліцаі выскокваюць са школьных акон, разбягаюцца хто куды...

Ды не зніжаюцца самалёты, губляецца ў блакітным бяздонні іхні гул... Міцька не заўважае, як усё ніжэй апускаецца засмужанае гарачае сонца, як цямнее лісце на ліпах і лёгкія зеленаватыя цені наплываюць, густа ахінаючы дворышча. І вось чуйная цішыня разбуджана надвячоркавымі гукамі — раз-пораз рыпіць калодзежны жураваль, і гулка стукае аб цэментавыя сценкі вядро; коцяцца, грукацяць па вуліцы пустыя калёсы, сіпата лаецца нехта на каня:

— Но-о, воўчае мяса... Но-о...

А ўнізе то знікае, то з'яўляецца ўвішная Хрысціна. Яна падае Міцьку дошкі, выпускае з хлеўчука і корміць падсвінка, намывае ў вёдры бульбу, ласкава выпраўляе на вуліцу, каб не круцілася пад нагамі, сваю чатырохгадовую Юльку.

— Гэй, цётка Хрысціна, правярайце! — гукае зверху Міцька.— Лезьце ды зірніце...

— Не, не палезу... Дожджык пройдзе — і праверыць,— жартуе Хрысціна.— А ты злазь, памыйся: абедаць будзем.

— Абедаць дык абедаць. Кішкі ўжо даўно марш іграюць...

Міцька спрытна саскоквае ўніз. Запэцканы ўвесь, як чарцянё, аж смешна Хрысціне.

— Ідзі, Міця, палівацъ буду,— ласкава гаворыць Хрысціна.

Міцька здзірае з мокрага цела майку, кідае на бярвенне, на якім стаіць вядро з вадой, і, смеючыся, падстаўляе плечы пад халодны струмень...

У хаце — прыцемкі. Санліва цікаюць на сцяне ходзікі з іржавым малатком замест гіры. На трэснутай пазялёнай шыбіне б'ецца, звініць, нібы перацíснутая пасярод, жаўтаватая аса... Абапёршыся на падаконнік, Міцька сядзіць за сталом насупраць Хрысціны і ўжо не аднекваецца — зухавата дапівае шклянку кіславатай самагонкі. Хрысціна хуценька падсоўвае яму міску з маласольнымі гуркамі, якія смачна пахнуць кропам, і клапатліва, як маці, угаворвае:

— Ты хоць трошку еш, закусвай, а то ап'янееш... Яна ж моцная.

І, счакаўшы хвілінку, збянтэжана гаворыць:

— А што рабіць, Міця? І ўзараць, і пасеяць, і дроў прывезці, і той жа паганы калок дзе ўбіць — як без яе? Пачаставаць чалавека трэба. Пачастуеш, глядзіш — другі раз спагадлівейшы...

І ўжо няма на твары Хрысціны таго найграна-вясёлага выразу, з якім яна паказваецца звычайна на людзях. Гаворыць Хрысціна праніклíва, шчыра, з нейкімі жаласлівымі ноткамі ў голасе, нібы скардзіцца, і цёмныя добрыя вочы пазіраюць на Міцьку даверліва і сур'ёзна — як на роўнага. Мабыць, даўно не даводзілася Хрысціне так сардэчна размаўляць, і цяпер яе, захмялёную, цягне выказацца пра ўсё набалелае, пра ўсе свае журботы-крыўды.

— У вас на мяне пазіраюць ведаеш як? Не свая, прыблудная... А стараста вунь, той надоечы сустрэў і давай чапляцца: дзе, пытаецца, твой мужык — камуніст, партызан? З бандытамі па лесе туляецца? Ды які, кажу, партызан? Нічагусенькі я пра яго не ведаю... Да вайны яшчэ разышліся з ім... Не хоча верыць! Пагражае агарод абрэзаць: мы, кажа, камуністаў не кормім...

Міцька слухае і не ведае, што з ім робіцца — ён ужо не можа ўседзець на месцы, ускоквае з услона і моцна сціскае кулакі.

— Цётка Хрысціна! Не плач... Не будзе па-іхняму! От пабачыш... Я гэтаму прыхвасню такое падстрою, што ён і родных забудзе. Хай толькі кране!

І такі сярдзіты голас у Міцькі, што Хрысціна, уражаная, перастае плакаць і здзіўлена пытаецца шэптам:

— Ой, хлопчык, ты што гэта? Шкадуеш так мяне?

А Міцька не зводзіць вачэй з Хрысціны, з яе заплаканага твару, з жаласліва скрыўленых губ, і яна здаецца яму кволай пакрыўджанай дзяўчынкай, за якую трэба заступіцца, сказаць нешта харошае, каб больш ніколі не плакала. Але ён раптам моўчкі бездапаможна ўтыкаецца тварам у шырокі падол Хрысцінінай спадніцы і пачынае сам усхліпваць ад нейкіх незнаёмых пачуццяў...

— Ну... што ж ты? Не трэба так, Міця, устань, устань скоранька,— спалохана шэпча, азіраючыся, Хрысціна.— Чуеш? Ідзі дамоў, родненькі... Ідзі...

Звечара прайшоў невялікі цёплы дождж. Нават грымнула трошкі, а потым сцішэла, і толькі ўсю ноч жахліва бліскала ў вокны далёкім сіняватым святлом.

Але раніца выдаецца ясная.

Я выскокваю з душнай, густа настоенай цяплом хаты, і твар прыемна казыча халаднаватае вільготнае паветра, у якім і тонкі водар спелых яблыкаў з суседскага саду, і духмянасць расістай травы з поплава, і гаркаваты пах алешніку, што пачынаецца адразу за агародамі. Яшчэ не пралупіўшы як след заспаныя вочы, заўважаю пад паветкай Міцьку. Напэўна, даўно ўжо на нагах! То ж чуў я праз сон стук — ён кляпаў касу. А цяпер, ціхенька насвістваючы нешта вясёлае, Міцька асцярожна набівае на kaccё баньку. Каса брынчыць і суха, нецярпліва пазвоньвае, нібы ведае, што Міцька спяшаецца на Пахомаву балацянку — там парасла атава. Побач, заклапочана пазіраючы на Міцьку, стаіць цётка Анеля з торбай у руках, з якой тырчыць зялёнае рыльца бутэлькі з малаком. Міцька ж на цэлы дзень збіраецца!

— Пачакай, я табе яшчэ колькі цыбулін вырву,— спахапіўшыся, гаворыць яна і, накульгваючы хворай нагой, скоранька ідзе да градкі.

Прыткнуўшы касу да сцяны, Міцька паварочваецца да мяне.

— Гэта ты, соня? — смяецца ён.— А яшчэ ж прасіўся ўчора са мной... Калі хочаш ісці — не валаводзь, адпрошвайся ў маткі.

Але я не кранаюся з месца. Уражаны, пазіраю на Міцьку, на яго новенькую гімнасцёрку, па-салдацку туга падпяразаную скураной вузенькай папружкай, пазіраю і не магу адарваць вачэй...

— Міця, дзе ты ўзяў такую? Купіў? — ледзь не шэптам пытаюся я.

— Купіў — аблупіў,— жартуе Міцька, задаволены ўвагай.

А я, як той уюн, кручуся вакол яго, зайздросліва мацаю гімнасцёрку. Ды Міцька раптам лёгка адхіляе мяне рукой і насцярожана замірае, прыслухоўваючыся.

— Чакай, брат...

Але і я чую — з лесу даносяцца стрэлы... І ўжо зусім блізка — частая чарга! У тую ж хвіліну з-за хлява паказваецца спалоханая цётка Анеля і крычыць:

— Хавайся... Міцька! Немцы...

Міцька бяжыць да плота, злаўчыўшыся, сігае цераз яго, каб кінуцца ў алешнік, ды маленькія зялёныя чалавечкі бягуць і адтуль, з усіх бакоў бягуць да вёскі. Акружаюць! І ўжо відно, як блішчаць на сонцы прымкнутыя да вінтовак штыкі-цесакі...

— Во-ой! — стогне збялелая цётка Анеля.— Божач-ка-а...

А маці, выбегшы з хаты, хапае мяне і сястру, прыціскае да сябе і стаіць, скамянелая, толькі чуцён яе з трывожнымі ўсхліпамі голас:

— Не плачце, дзеткі... Стойце тутака. Усе разам... Што будзе, то й будзе...

Немцы — на агародах. Я крычу і рвуся з матчыных рук: бегчы, бегчы куды вочы глядзяць! Але позна ўцякаць. Двое немцаў выбягаюць з-за хлява, нешта злосна гергечуць і, піхаючы прыкладамі, гоняць усіх на вуліцу — і Міцьку, і цётку Анелю, і нас з маці...

— Шнэль, шнэль... Партызан!

На вуліцы ўжо амаль усе вяскоўцы. Баязліва стоўпіліся, збіліся ў кучу. Стаяць панурыя, маўклівыя, са спалоханымі шэрымі тварамі, а жанчыны, выціраючы слёзы, туляць, супакойваюць дзяцей. Толькі стараста Панас круціцца каля нямецкага афіцэра: той яму нешта тлумачыць, а Панас, прыціснуўшы рукі да грудзей, ліслівa трасе галавой і паўтарае голасна адно і тое ж слова — аж мы чуем:

—Ферштэй... Ферштэй... Ферштэй, пан!

Потым ён, баязліва азіраючыся на немцаў, неяк бокам сунецца да нас і, наблізіўшыся, цэдзіць праз зубы:

— Ну, дажыліся! Партызаны іхняга генерала ўзарвалі на дарозе... Цяперака праз етых усім нам капцы...

Людзі маўчаць, адводзячы позіркі ад старасты. Нехта байчэйшы вытыркаецца з натоўпу і просіць Панаса растлумачыць афіцэру, што ніякіх партызан у вёсцы не было. Ды Панас сярдзіта адмахваецца:

— Цяперака кажы не кажы — адзін канец! Дайграліся...

Цэлы дзень трымаюць нас на поплаве за вёскай. Бязлітасна паліць сонца, хочацца піць. Паблізу, заблытаўшыся ў густой асацэ, цурчыць раўчук. Чорныя рулі кулямётаў пазіраюць з трох бакоў. Здаецца, паспрабуй хоць хто крок куды зрабіць — і яны застрочаць...

Апоўдні прыводзяць аднекуль ўсяго збітага дзеда Антося з аброццю ў руках — ён ледзьве дапаўзае да нас. А калі падкатвае вялізная крытая машына ў светла-зялёных плямах і забірае ўсіх мужчын — бабы не вытрымліваюць, пачынаюць галасіць:

— А куды ж вы іх везяце, куды-ы?..

Гурчыць, надрыўна раве машына, узбіраючыся па пясчаным схіле назад, на шашу.

Толькі надвячоркам дазваляюць нам вярнуцца дамоў — без дзеда Антося, які заўсёды насіў, заліхвацка ссунуўшы на патыліцу, вайсковую фуражку з чырвоным аколышкам; без сухарукага Сцяпана Маткоўскага — у яго немцы знайшлі ў кішэні вінтовачны патрон, які надоечы ён адабраў у сына; без трох маладых хлапцоў — двух Бартнеўскіх і майго стрыечнага брата Міцькі... У абодвух Бартнеўскіх былі сінія дыяганалевыя галіфэ, у Міцькі — гімнасцёрка...

...Хрысціну я не застаю дома. У дварэ сустракае мяне яе дачка — настаўніца, зграбная светлавалосая дзяўчына. У яе матчыны цёмныя вочы і той жа матчын жартаўлівы позірк. Такой вось, дарослай, бачу я ўпершыню дзяўчыну, ды і яна мяне не пазнае, мусіць.

— Можа, трошачку пачакаеце? Мама зараз прыйдзе,— ветліва гаворыць яна.

Не, мне некалі... Мне трэба ісці, каб не спазніцца зноў на аўтобус. Я прашу дзяўчыну перадаць маці, што калі ў яе будзе лішняя бульба на продаж — хай пакіне.

— А каму? Чые вы?

— Накажыце праз цётку Анелю — я і прыеду.

Развітаўшыся, выходжу на вуліцу. Аж пакуль не хаваюся за суседняй хатай, адчуваю зацікаўлены позірк дзяўчыны...

Праз колькі хвілін дабіраюся да шашы, і прыдарожны гонкі сасоннік сустракае мяне сваім ціхім журботным шумам.

*1970*

# БОМБА Ў ЖЫЦЕ

Мы з галавой хаваемся ў высокіх каноплях — ідзём цёплай разорай і размаўляем: Шурка, я і Сцёпка кульгавы.

— Ох, і драпаў я ўчора ад Панасіхі! — кажа са смяшком Шурка.— Толькі падкраўся да бомбы, а Панасіха — за мной... Ох, і драпаў! Думаў, ужо зловіць.

— Дык ты ж казаў, што яна спала? — не верыць Сцёпка.

— «Спа-а-а-ла»! — перадражнівае Шурка.— Яшчэ як спала, а потым прачнулася і — за мной...

Недаспелыя каноплі пахнуць саладкавата і духмяна. Ад іх вострага паху і спякотнага летняга сонца хочацца хутчэй схавацца куды-небудзь у цень. Блізка, адразу ж за поплавам, бярэзнік. Адтуль цягне прыемнай сырасцю. Але цяпер мы нізашто не звернем з разоры — страшэнна хочацца абдурыць сярдзітую Панасіху: падпаўзці да бомбы ў жыце і пакратаць рукой яе гладкае, нагрэтае сонцам цела.

Канечне, гэтую бомбу не раскурочыш, як які-небудзь снарад. Бомбу цяжка, чарцяку. От снарад — справа іншая. Заклаў паміж штыкецін у плоце, туды-сюды, туды-сюды, і — гатова... Галоўку ў адзін бок, медны бліскучы стакан — у другі. А потым даставай са стакана чорныя, доўгія саломінкі пораху.

Але бомба ёсць бомба. Яна нам не дае спакою. Яшчэ вясной нямецкі самалёт некалькі бомбаў скінуў. Усе паўзрываліся, а гэтая ўрэзалася ў зямлю, ды так і тырчыць цяпер у жыце.

Вось мы і крадзёмся да яе.

— Па́дай! — шэптам загадвае Шурык.— Вунь Панасіха сядзіць...

Мы бухаемся ў шэры цёплы пясок мяжы: недалёка ад нас, у жыце, чарнее постаць Панасіхі. Сэрца ў мяне тахкае так моцна, што, здаецца, нават Шурка чуе.

— Што, струсіў? — кпіць ён.— Паўзі, паўзі. Панасіха дрыхне!

— А калі... не спіць?

Але Шурка больш не размаўляе. Ён пагардліва цыркае праз рэдкія зубы слінай і першы перапаўзае мяжу. Мы — за ім. Жыта драпае голыя рукі. Але мы паў-

зём услед за Шуркам. Вунь і бомба чарнее. Недалёка ад яе — Панасіха. Шурка падпаўзае да бомбы, прыўзнімаецца і махае нам рукой: паўзіце хутчэй...

Але Сцёпка і я ляжым, як прышытыя, не варушымся, пазіраем на Панасіху: а што, як прачнецца?

Толькі яна сядзіць нерухома. Прама на зямлі, абхапіўшы рукамі вострыя калені. Спіна выгнулася абручом. Галава, прыкрытая белай хусцінкай, звесілася ўніз. Твару не відно. Адны ногі — вялікія босыя ногі — тырчаць з-пад сіняй спадніцы. Панасіха спіць.

Шурка ўжо ўзлез на бомбу, усеўся, нібы на той пень, і немаведама што вытварае: крывіць морду, паказвае нам язык, круціць кукішы... Сцёпка ўжо не можа стрымацца, заціскае рот рукой і хіхікае. І раптам Шурка закладвае ў рот два пальцы і... свішча!

— Палундра! — крычыць ён, кідаючыся нацянькі да вёскі.

Імчымся і мы за ім што ёсць духу. Хутчэй, хутчэй! Каласы балюча хвастаюць па твары, шыі, руках.

— Ой-я-ёй!

Нага мая слізгае некуды ўбок, і я з разгону плюхаюся носам у пясок. Учэпістыя пальцы хапаюць і моцна сціскаюць маю руку. Гэта — Панасіха... Страшная Панасіха! Крычаць — няма сілы. Яна ўжо апускаецца побач, яна паднімае мяне, прыціскае да сябе, і я чую, як яна хутка-хутка гаворыць:

— Віцечка, сынок, родненькі мой... Ну, чаму ж, чаму ж ты мяне не слухаеш? Чаму? Ці ж я не прасіла, ці ж я не маліла цябе — не лезь ты да етых снарадаў... От, дурненькі, от, непаслухмянец! Ты ж адзін у мяне, а-дзі-ін...

Панасіха плача. Плача і ўсё мацней прыціскае мяне да грудзей.

— Не хадзі ты болей сюды, чуеш, Віцечка? Не хадзі, хлопчык мой!

Я ціхшэю, перастаю шморгаць носам: што гэта яна гаворыць? Панасіха называе мяне Віцькам. Яна прымае мяне за свайго Віцьку... Віцьку, якога разбамбіла ў хаце, якога пахавалі той жа вясною!..

— Ну, паабяцай мне, Віцечка, што ты сюды ніколі-ніколі не прыйдзеш... Не прыйдзеш, сынок, а? І хлопцаў не прывядзеш? Не прыйдзеш, а? — ласкава просіць Панасіха і ціхенька трасе мяне за плечы.— Скажы...

— Не прыйду-у...

— Ну і разумнік, ну і малайчына...

Яна адпускае мяне.

— Бяжы, сынок, дамоў, а я пасяджу яшчэ тут.

Я раблю крок, другі і — зрываюся з месца. Імчуся, нібы за мной зноў гоніцца Панасіха. Толькі на мяжы спыняюся, каб аддыхацца. Не, Панасіха стаіць нерухома ў жыце. І нават не глядзіць на мяне.

Шурка і Сцёпка вылазяць з канапель, баязліва падпаўзаюць да мяне.

— Ты чаго равеш? Біла? — спалохана пытаюцца яны.

— Не-е, не біла...

— Дык чаго ж ты?

— Яна думала... што я... разбомблены Віцька...

— Ну-у...

А сонца смаліць. Залівае залацістым святлом усё навокал, хоць вочы заплюшчвай. Але мы стаім і доўга пазіраем у той бок, дзе ў спелым жоўтым жыце чарнее постаць Панасіхі.

*1968*

# БУЛЬБАЧКА

Ён прыязджае да нас заўсёды неяк нечакана — па дарозе... Шасейка праходзіць побач з вёскай, і разы два я нават бачыў, як спынялася на мосце машына, Альберт Іванавіч саскокваў з кузава і крочыў, высокі і хударлявы, напрасткі праз мяжу ў вёску. Крочыў нейкай смешнай хадой — дыб, дыб... Здавалася, што хадок правальваецца ў пясок то адной, то другой нагою, і ад гэтага ўся яго цыбатая постаць хістаецца, як ад ветру.

Таропка злазіць ён з машыны і на гэты раз... У кузаве на мяшках сядзяць трое мужчын у светла-зялёных брызентавых куртках. Яны, смеючыся, нешта гавораць Альберту Іванавічу, потым кідаюць яму знаёмы ўжо мне жоўты партфель, і абшарпаная зялёная трохтонка, якіх адразу пасля вайны яшчэ было шмат, коціцца далей па шашы.

— Віцька, браценік твой прыехаў! — узрушана крычаць хлопцы, з якімі я гуляю на поплаве. — Вунь ідзе...

— Сам бачу!

Ды я, узрадаваны, не кідаюся з абдымкамі насустрач да свайго стрыечнага брата, не магу нават падумаць пра такую смеласць. Трохі счакаўшы, плятуся з хлопцамі следам, пачціва аглядаючы ягоную постаць. Усё, усё ў ім падабаецца мне: і выцвілая вайсковая шапка, і сіняе паношанае галіфэ, і гімнасцёрка з залатымі гузікамі, падпяразаная такім шырачэзным рамянём, што з яго, пэўна, папружак пяць мог бы я зрабіць сабе. Але найбольшую павагу і зайздрасць выклікае стары скураны партфель Альберта Іванавіча — вялікі, ёмісты, перахоплены пасярэдку, як і гаспадар, шырокім поясам з блішчастым замком... Побач з гэтым шыкоўным партфелем я нават не бачу брудных трафейных ботаў сваяка, якія даўно просяць кашы. Што боты! Што ўвогуле нейкія нязначныя недахопы ў знешнасці чалавека, калі ён мае столькі яўных пераваг! Слухаючы, з якім захапленнем шэпчуцца за маёй спіной хлапчукі наконт самавітай асобы Альберта Іванавіча, я адчуваю сябе на сёмым небе.

— Ого, які начальнік Віцькаў родзіч! Бачыш рэмень? Камсастаўскі...

— А штаны, штаны шырачэзныя — як у генерала.

— Кінь! Лепш зірні на шапку з чорненькім брыльком... Мне б такую! І партфель...

— На, схапі... партфель яму! Яшчэ вырасці ды зрабіся такім начальнікам, як Віцькаў брацёнік!

Мы падыходзім да нашай хаты. За Альбертам Іванавічам грукаюць веснічкі. Але сябрукі і не думаюць разыходзіцца. Яны ўмольна пазіраюць на мяне: дазволь ім хоць у двор зайсці...

— І не прасіце, і не маліце — не пушчу: чалавеку з дарогі адпачыць трэба,— якраз як маці, строга, заклапочана кажу хлопцам.— Пачакайце нас на лавачцы! Ды цішэй тут...

На вуліцы — гарачыня. Прыпякае чэрвеньскае сонейка. А ў хаце прыемны халадок, нейкая незвычайная цішыня. Толькі куры пад вокнамі квокчуць-сакочуць... Альберт Іванавіч ужо сядзіць за сталом з расшпіленым каўняром, курыць, спаважна гутарыць з маці, але як толькі заўважае мяне — жвава падхопліваецца.

— А-а, вось і партызан наш! Малайчынка... Мы тут толькі што пра цябе гаварылі... Скажы, хочаш у горадзе жыць, а?

Па праўдзе кажучы, не дужа мне хочацца ў той горад. Боязна. Ды каб не крыўдзіць стрыечнага брата, я ківаю галавой у знак згоды.

— Ну і добра... Вось толькі куды цябе ўладкаваць, а? Трэба падумаць... Хлопец ты з галавой?

Я зноў старанна ківаю кучаравай галавой: не бачыш, ці што, галава як трэба...

— Ну, калі з галавой, то можна не тое што ў рамеснае, а нават у сувораўскае... На ўсё, братка, гатовенькае! І накормяць, і апрануць, і ў кіно тое зводзяць... Ведаеш, цётачка, у мяне ж усюды сувязі, я — магу...

Маці ўзрадавана ўсміхаецца і хуценька гаворыць, сарамліва пазіраючы яму ў самы твар:

— Уладкуй, уладкуй, Альбертка, я ўжо так цябе прасіць буду, так дзякаваць... Сам бачыш — у мяне ж, акрамя гэтага, яшчэ двое бязбацькавічаў... Хоць аднаго б куды ўтыркнуць! Усё б лацвей...

— Зробім, цётка... Раз сказаў — зробім. Адно маё слова, і, лічы, твой Віцька — гараджанін. Вось так!

Альберт Іванавіч адным махам перакульвае ў свой шырокі рот цэлую конаўку малака, з задавальненнем злізвае белыя кропелькі з губ. Потым, заклаўшы нагу на нагу, пачынае заўсёдную гаворку пра сваю адказную пасаду, пра тое, што вельмі мала мае вольнага часу: бясконцыя камандзіроўкі ды камандзіроўкі... Усё прыходзіцца трымаць на сваіх плячах, лічы, увесь той гарадскі гандаль... Што зробіш — плечы дужыя, ды такая ўжо і работа. Затое ж як прыемна ўварваць хвілінку і заскочыць у святыя родныя мясціны!

— Ці паверыш, цётка, вось жыву не горш за іншых: і кватэра як мае быць, і зарплата, як гаворыцца, міністэрская, а толькі без нашай бульбачкі не магу. Прывык да яе, роднай, рэж мяне, еш мяне — не магу.

Расчуленая маці замілавана слухае Альберта Іванавіча, сама зрэдку нясмела ўстаўляе слова-другое — што праўда, то праўда, такой картоплі, як наша, пашукаць... Ды вось прыкрасць якая, на гэты раз Альберту Іванавічу яна не зможа насыпаць у кайстру бульбы, толечкі кончылася... Адна дробненькая ў падполлі засталася.

— Хіба што пайсці ды падмацаць на агародзе маладзенькай? — Твар маці аж ззяе ад гэтай выратавальнай думкі.— Пайду! Памятаю, колькі кустоў скараспелкі садзіла...

— Падмацай, падмацай, цётачка,— дзякуй скажу,— гудзе Альберт Іванавіч.— Можа... памагчы?

— А што ж, хадзем, Альбертка, весялей будзе... Ты, відаць, ужо і адвык ад нашай працы? Усё з начальніцкімі паперкамі возішся?

Толькі зачыняюцца дзверы за імі — я тут як тут, ля партфеля. Кручуся вакол стала, на якім ён ляжыць, бы кот ля смятаны. І так мне карціць яго пакратаць, так хочацца хоць па хаце панасіць, што сіл маіх не стае болей. А тут яшчэ ў акно сябрукі заглядваюць:

— Віцька, дурны, вазьмі партфель... Чаго баішся? Братан жа на агародзе!

Не вытрымаўшы спакусы, я хуценька бяру партфель са стала, заціскаю пад пахай і — сам не свой ад радасці ды гонару: чым не начальнік! Выпяў грудзі, шчокі надзьмуў — чак-чак, чак-чак да акна... Хлопцы чмыхаюць, аж кіснуць ад смеху.

— На-чаль-нік!.. І пузца тое тырчыць каўбушком... Дай, дай партфель памацаць!

Цягнуцца рукамі з акна. І раптам — цоп, нехта хапае партфель моцна — не вырваць.

— А ну, аддайце! — крычу.

Не аддаюць: я да сябе цягну, яны — да сябе... І тут замок шчоўкае, партфель адкрываецца, і ўсё, што ў ім, вывальваецца на падлогу: бліскучае доўгае шыльца, клубок нітак, паперка нейкая... У гэты момант, як на тое ліха, рыпяць дзверы, уваходзіць маці. Ад нечаканасці і прыкрасці стаіць, збялелая, на парозе і слова не можа прамовіць.

— Во-о-ой! Што ж ты нарабіў, ідал? — нарэшце спалохана крычыць яна.— Заб'ю! Збірай хутчэй рэчы... А гэта што яшчэ за паперка? З партфеля?

Бярэ ў мяне з рук, чытае ўголас:

— «...сапраўдная выдадзена... Альберту Іванавічу Канапляніку ў тым, што ён працуе на гандлёвай базе... грузчыкам...» Ай, божачка мой...

Голас у маці дрыжыць, яна ледзь паспявае ліхаманкава сунуць тую паперчыну ў партфель, як з'яўляецца і наш сваяк з добрай кайстрай бульбы. Пануры твар яго пасвятлеў, ён нават спявае нешта вясёленькае сабе пад нос.

— Шкада, цётачка, ехаць ад цябе, павер! — уздыхае ён.— Такое хараство навокал! Але сама ведаеш, колькі на маёй шыі... На гэтых вось плячах цяжару... Давайце развітвацца.

Маці неяк паспешліва суе ў рукі Альберту Іванавічу партфель і сумна пазірае то на яго, то на мяне. Няўжо прагаворыцца, няўжо скажа? Не, маўчыць. Толькі на вачах чамусьці блішчаць слязінкі.

Ужо ў двары яна крычыць Альберту Іванавічу наўздагон:

— Дык ты не забывай нас, прыязджай, чуеш? Як бульба падрасце...

*1978*

# ПЛЫЎ ПАРАХОД

Параход зварочвае да берага і, сцішыўшы ход, асцярожна напаўзае носам на пясок... Пясок шоргае аб жалеза, за кармой чуюцца слабыя ўсплёскі. Жвавы падлетак прабягае па палубе. Каля капітанскай рубкі яго спыняе рулявы:

— Максім, што ж гэта ты пра музыку забыў? Уключы радыёлу, хай пасажыры слухаюць...

— Зараз, зараз,— чуецца наўмысна грубаваты галасок.— Вось толькі пасажыраў прыму...

І матрос Максім хутка спускаецца з палубы на нос парахода, скідае ў ваду сходні, з размаху ўтыкае ў вільготны пясок гладка выструганы шост — замест поручняў.

— Гатова! — весела крычыць ён.— Праходзьце, таварышы грамадзяне!

Пасажыры асцярожна паднімаюцца па трапе. Максім стаіць збоку — у даўгаватым бушлаце, у старой шапцы з залатой цэшкай, — стаіць і пагардліва глядзіць на дзяўчыну, якая вельмі ўжо баязліва ступае па трапе.

— Па-апрашу хутчэй, грамадзянка,— не вытрымлівае ён.— Вунь колькі яшчэ чакаюць...

На беразе нецярпліва пераступаюць з нагі на нагу два хлапчукі гадоў па дванаццаць — абодва босыя, у абодвух — вудачкі, на плячах матляюцца кайстры, відаць з рознымі рыбацкімі прыладамі. Услед за дзяўчынай хлапчукі хутка ўзбягаюць на параход.

— Здароў, Максім! — у адзін голас кажуць яны, радасна ўсміхаючыся.

— Прывітанне,— стрымана адказвае Максім і спаважна падае па чарзе ім руку.— Праходзьце, я зараз...

Хлапчукі трасуць яго руку і ідуць на палубу. А Максім усцягвае на нос парахода мокрыя драўляныя сходні, акуратна кладзе іх побач з заржавелым якарам і крычыць штурману:

— Парадак!

Вые сірэна. Прарэзліва, сярдзіта, нібы той кот, у якога адбіраюць кавалак мяса... Але Максім прывык і да гэтай сірэны, і да гулу матора, ад якога, здаецца, трымціць, вібрыруе ўвесь корпус парахода.

Нарэшце параход адплывае ад берага. За кармой пеніцца, серабрыцца ў сонечных праменнях вада, хвалі набягаюць адна на адну і плешчуцца аб бераг, абмываюць там кусты ярка-зялёнага вербалозу... Усё меншае і меншае слуп з таблічкай «Рудня», а потым зусім знікае за павароткай ракі.

Вада ў рацэ пасля веснавой паводкі яшчэ вялікая. Але з прырэчнага лугу ўжо сплыла. Нібы старанна вымыты, луг лашчыць вока чыстай, аксамітнай зелянінай. Далёка за лугам сінее роўнаю істужкаю лес. Недзе ўперадзе ён упрытык падыдзе да самай ракі, а пакуль задуменна пазірае на яе здалёк.

Хлапчукі паселі ўжо на палубе, ціха, заклапочана аб нечым размаўляюць, нешта перабіраюць у сваіх кайстрах. Яны нават не заўважаюць, як да іх падыходзіць Максім.

— Ну што, браточкі, рыбачыць? — пытаецца ён і насмешліва жмурыць вочы.— Нешта вы не вельмі спяшаецеся — восьмая гадзіна! Праспалі рыбку...

— Наша нам будзе, Максім.

— А куды? Пад Белую гару?

— Ага ж... Памятаеш, якіх там, у вірах, летась акунькоў цягалі?

— «Ця-га-лі»,— перадражнівае Максім.— Калі б не я, жаб вы нацягалі б...

Хлапчукі не крыўдзяцца — яно ж і сапраўды так...

А Максім усё з той жа насмешлівасцю дарослага заўважае:

— Вы б, рыбаловы, лепш што-небудзь людскае рабілі б... Ну, ды што з вамі зробіш — пайшлі да мяне, у маю каюту! Не бойцеся, я вас без білетаў правязу.

Пераглянуўшыся, хлапчукі нерашуча кладуць вудачкі і кайстры на лаўку і ідуць за Максімам. І кожны з іх цяпер думае пра свайго колішняга таварыша з павагай і зайздрасцю: «Матрос!» Гэта ж тое самае слова, з якім і яны звязваюць сваю самую запаветную мару аб падарожжах. Але іх мара застаецца пакуль што толькі марай. А вось Максім...

Праўда, здарылася ўсё гэта ў Максіма зусім нечакана — у яго памерла летась матка ў Рудні. Хварэла і памерла. Застаўся ён адзін. Тады і прыехаў дзядзька-рачнік, забіў аполкамі дзверы і вокны хаты, забраў з

сабой Максіма ў горад, уладкаваў на параход матросам...

Каля буфета хлапчукі спыняюцца. Максім купляе дзве бутэлькі напітку.

— Грошы — заўтра з палучкі, Анюта,— гаворыць ён маладой жанчыне сіпаватым баском.— Згодна? А то ж, бачыш, вось землякоў напаткаў...

— Добра ўжо,— стомлена ўсміхаецца буфетчыца,— добра... Бяры.

Спусціўшыся ў салон, Максім падводзіць сяброў да дзвярэй з надпісам «Матрос» і доўга, заклапочана шукае ў кішэнях ключ. Затым з той жа саліднасцю адчыняе каюту і жартаўліва прапаноўвае:

— Поўны наперад, рыбакі! Мая хата...

Хлапчукі заходзяць, аглядаюць маленькі пакойчык — такі маленькі, што ў ім ледзь-ледзь месціцца ложак ды тумбачка, на якой стаіць радыёла. Крыху вышэй на сцяне вісіць карта, а побач з ёй сінее круглае акенца-ілюмінатар.

— Што, падабаецца? — пытаецца задаволены Максім.— Такая ж каюта і ў капітана... Толькі ў яго радыёлы няма.

Максім ставіць на стол бутэлькі, дастае з тумбачкі алюмініевую кварту.

— Сядайце на ложак, хлопцы,— кідае ён, адкаркоўваючы бутэльку,— ды расказвайце, як там жыццё ў нашай Рудні...

Усе трое садзяцца на ложак і па чарзе п'юць з адной кварты салодкі напітак. Тут, у каюце, хлапчукі адчуваюць сябе больш упэўнена, яны ахвотна расказваюць аб руднянскіх навінах — аб тым, што крывога Антона праўленне калгаса прызначыла сад сцерагчы, што шафёр Мішка купіў матацыкл і цяпер катае зарачанскіх дзевак, што Шурка, Цыбулькавай Варкі сын, упаў з грушы разам са шпакоўняй, расказваюць аб школе...

Максім слухае з прагнай цікавасцю. Але раптам напускае на сябе абыякавасць.

— Сумна, сумна жывяце,— разважліва гаворыць ён.— Відаць, і кіно вам прывозяць трохгадовай даўнасці, як раней... Затое вось у нас добра — хоць кожны дзень новенькі фільм глядзі! Пасля рэйса можна нават у тэатр пайсці. Я тры разы хадзіў... А на той год дзядзь-

ка абяцае да сябе на цеплаход узяць — на механіка будзе вучыць...

На круглым да чарнаты загарэлым Максімавым твары паблісквающь неспакойныя шэрыя вочы. Быццам ён ужо адчувае сябе механікам... А хлапчукі ўсхвалявана ловяць кожнае Максімава слова, засмучона ўздыхаюць і з зайздрасцю аглядаюць цяльняшку, якая бялее пад бушлатам.

Раптам, схамянуўшыся, Максім устае: над галавой чутна тупаніна. Значыць, параход набліжаецца да чарговага прыпынку.

— Ох ты, ну і загаманіўся я тут з вамі! — гаворыць Максім, узіраючыся ў ілюмінатар.— Вунь ваша Белая гара відаць ужо... Давай, палундра, на палубу!

Хлапчукі з жалем пакідаюць каюту.

— Я зараз! Вось толькі радыёлу ўключу,— крычыць ім наўздагон Максім і ставіць першую, што трапіла пад руку, пласцінку.

Праз мінуту параход пад нейкі бравурны марш прыстае да ўкрытага вербалозам берага. Пасажыры асцярожна сходзяць па трапе, хапаючыся за шост, які моцна трымае абедзвюма рукамі Максім. І зноў шэсце замыкаюць хлапчукі з вудачкамі.

— Грамадзяне, вашы білеты! — грозна, нібы кантралёр, гаворыць раптам ім услед Максім.

Чацвёра вачэй здзіўлена спыняюцца на яго твары:

— Ды ты што... Максім? Ты ж нас без білетаў абяцаў...

Але хлапчукі недагаворваюць. Яны заўважаюць, як, задаволены жартам, Максім весела ўсміхаецца.

— Ух ты... Напужаць хацеў... Ну, мы пайшлі! Дзякуй, што падвёз.

— Чаго там! Калі што — назад таксама падвязу. Толькі не спазніцеся. Чуеце?

Максім бачыць, як, перагаворваючыся, хлапчукі ідуць па беразе, азіраюцца на параход. «Пра мяне гавораць»,— думае Максім, і непрыкметна для самога сябе ён высока, якраз як капітан, падымае галаву. Перад яго вачамі — высокі абрывісты бераг, гліністы, белы каля падножжа і зялёны, укрыты хмызняком угары. Каб узысці на яго, трэба лезці па схіле — крутой, вытаптанай сцяжынкай. Максім бачыць, як хлапчукі

ўзбіраюцца на абрыў. Яшчэ хвіліна-другая, і іх ужо не відаць — схавалі кусты.

Доўга яшчэ стаіць Максім, гледзячы хлапчукам услед... Ён прыкідвае, дзе яны цяпер ідуць — напэўна, параўняліся з дуплістай абгарэлай ліпай. Максім там аднойчы шукаў галубоў, засунуў руку па локаць у дупло і ледзьве выняў назад. А самае смешнае, што ў дупле замест галубоў аказаліся мышы... Максім усміхаецца гэтым успамінам і ўяўляе, як пасля рыбалкі сябры будуць хваліцца адзін перад адным — чый большы акунёк.

— Мой лепшы! Зірні, які тоўсты...

— Не, братка, такога, як мой, ты нізавошта не зловіш! Грамаў трыста, не меней...

Максім на нейкі момант жыва ўяўляе гэтага вяртлявага калючага акунька з зялёнай спінкай, а побач — шчаслівыя хлапчуковыя вочы...

І раптам Максіма апаноўвае сум. Такі сум, што хочацца нават плакаць. Ён і сам не разумее, адкуль гэты недарэчны сум. З твару знікае ўся напускная сур'ёзнасць, ён робіцца да жалю прастадушным... Максім з болем адчувае, што ад яго вось зараз адышло нешта такое блізкае, такое харошае і светлае, як гэтая ціхая, бясхмарная чэрвеньская раніца. Адышло і не вернецца ўжо...

— Ты чаго, Максімка, нос павесіў,— спыняецца побач капітан і кладзе на яго плячо шырокую цёплую далонь.— Успомніў сваё маленства? Бывае... Усе мы грэшныя — жывём, хлеб жуём і ўспамінаем нешта. Не сумуй. Вось будзем другім рэйсам ехаць — ссаджу цябе ў Рудні, пагуляеш... Адразу настрой паправіцца.

Максім удзячна ўсміхаецца капітану, але сам адчувае, што гэты ціхі і прыемны смутак аб маленстве застанецца ў яго сэрцы назаўсёды.

*1960*

# СВЕТ ПЕРАВЯРНУЎСЯ

Які ўжо дзень сцяной вісіць за акном дождж. Чуваць шум, з нейкім глухім шамаценнем. Нібы моцны вецер гойдае стары бор, дзе кожнае дрэва ў тры абхваты. Трывожна ўзіраючыся ў акно, ці маці, ці бабуля не вытрымаюць, скажуць:

— Няйначай, свет перавярнуўся.... Патоп!

І я ўяўляю, што гэты праліўны дождж на вуліцы бушуе, як мора. Яно затапляе ўсё на сваім шляху, бурліва наступае, коціцца на нашу старэнькую хату, разпораз шалёна кідаецца на сцяну, за якой туліцца адзіная выратавальніца — цёплая печ. Ірвецца да яе вада, ды не прарвецца: усё ж яшчэ трывала абараняюць ад непагадзі старыя бярвенні. Вось толькі дах падводзіць — бяда! Са столі, адтуль, дзе на пабеленых дошках распаўзліся жоўта-шэрыя плямы вільгаці, дружна скачуць уніз срэбныя жучкі — у тазік, ночвы, чыгунок, бляшанку... І так гучна шлёпаюць, бы музыка якая. Сцішышся, прыслухаешся да гэтага звону і раптам уловіш у ім такія гукі, што аж плакаць хочацца: мелодыя на дзіва журботная, як і сіні густы змрок за акном. Халодныя дрыжыкі прабягуць па спіне, скаланешся, скурчышся, ухутаешся з галавой у коўдру, шчыльней прыціснешся да печы і аднаго прагнеш: нічога не бачыць, нічога не чуць... Толькі слухаць у сабе нешта ціхае і светлае разам з роўнымі і ўпэўнена-спакойнымі штуршкамі сэрца. І неўзабаве забудзеш і пра надакучлівы шэры дождж, і аб дзіравай столі, і аб усім, усім на свеце...

— Свет... перавярнуўся...

Чый там унізе знаёмы голас, чый кашаль? Маці, бабулі? Чые рукі асцярожна папраўляюць коўдру?

Салодкая бесклапотная дрымота ахоплівае ўсё мацней, усё ўладарней. І ўжо нічога болей...

*1980*

# НА РАЦЭ

Ужо так цёпла, так прыемна і дурманліва пахне навокал маладая трава і гаркаватая спічастая лаза, што ў Ваські міжволі збягаюцца вейкі, і вочы санліва пазіраюць у вузенькія шчылінкі... Яны амаль абыякава ловяць на траве сонечныя плямы, блакітна-шэры цень ад бясконцых воблакаў, які то з'явіцца раптоўна, то гэтак жа нечакана знікае... І тады відно, як бяжыць, адступае да ракі густая палоса ценю, а за ёю імкліва коціцца хваля залацістага святла. І зноў — сонца, зноў сляпуча блішчыць рака — бы тое добра вышараванае пясчынкамі лязо ножыка, якім хлапчукі гуляюць на мурожным беразе.

Васька сядзіць наводдаль ад іх, паклаўшы побач мыліцы, і абыякава назірае за гульнёй, за тым, як ножык у спрытных хлапечых руках вырабляе розныя мудрагелістыя фігуры — пстрыкае, ляціць уверх, падае, але абавязкова ўтыркаецца ў зямлю вострай дзюбкай. У гэтым — сакрэт гульні.

— А можа, скупнёмся, хлопцы? — густым лянотным баском прапаноўвае цыбаты рамеснік Антон.— Прыпякло нешта...

І ўсе, нібы па камандзе, нібы толькі і чакалі Антонавых слоў, у момант падхопліваюцца, жвава сцягваюць з вузкіх хударлявых плячэй кашулі, кідаюць ля ног вопратку і навыперадкі імчацца да ракі — на «штуршок».

— Гэй, салага, сцеражы адзежу там! — крычаць яны Ваську.— На тэй бок паплывём...

І вось яны адзін за адным скачуць з дзярновага штуршка-вышкі ў ваду — плясь-плясь! — толькі срэбныя пырскі ляцяць у блакітнае паветра.

Васькаў твар ажывае, вочы пад бялявымі рэдкімі бровамі акругляюцца, ён не ў сілах стрымаць захаплення:

— Ух ты!

А хлопцы, вынырнуўшы з вады, плывуць сажонкамі, плывуць і крычаць нешта звонка-вясёлае. Васька ведае: яны дабяруцца да другога жоўтага берага і, стомленыя, плюхнуцца ў гарачы мяккі пясок пад кустамі лазы. А наваляўшыся ўволю, пачнуць вытвараць

немаведама што — такі тэатр, хоць лопні ад смеху! І ніхто там, мусіць, не ўспомніць аб ім, Ваську, з ягонай сухой нагой-карантышкай, ніхто ніколі не падумае нават жартам запрасіць яго ў кампанію. Добра, калі сам прыкалдыбае... Крыўдна. Гэтая крыўда прыжылася ў Васькавым сэрцы, засядзелася там, як непрыемны госць — і цярпець яго горка, і выгнаць нельга... Хіба ж ён не хацеў бы з хлопцамі на той бок? Або апынуцца на сярэдзіне ракі, дзе моцная плынь так і штурхае, так і нясе цябе ўперад? Або ганяць на прырэчным поплаве футбол, нарэшце, у лес махнуць — часу вольнага хоць адбаўляй: канікулы. Але Васька добра ведае — так, як яны, ён не зможа ні бегаць, ні плаваць. Ведаюць гэта і хлапчукі. А вось, каб мог... О, тады гэты жардзіна-Антон не строіў бы з яго кпінаў...

Уздыхнуўшы, Васька безнадзейна пераводзіць позірк з абы-як пакіданай хлапчукамі вопраткі на раку. Не надта далёка гудзе нястомны буксірок. Ён падцягнуў да берага паром, і вось ужо з драўлянага насцілу з'язджаюць, паволі паўзуць, выбіраюцца з пяску на грунт, бы тыя зялёныя казяўкі, машыны. Адна, другая, трэцяя... Цалюткі дзень снуюць туды-сюды. Колькі іх з раніцы да вечара перацягне паром! А колькі прастаяць шафёры з машынамі, пакуль дачакаюцца сваёй чаргі. Стоўпяцца на прыпарамку, пажартуюць хвіліну-другую, а потым спахмурнеюць: спяшаюцца яны з грузамі... І шкада Ваську гэтых белазубых людзей з загарэлымі тварамі, у зашмальцаваных спяцоўках, калі яны нецярпліва топчуцца ля сваіх машын, незласліва лаюць няўклюдных паромшчыкаў.

Васька раптам салодка пазяхае, хіліцца на мурог і, падклаўшы пад кучаравую галаву рукі, адчуваючы ўсім целам пяшчотнае цяпло, пачынае драмаць. Востра пахне сырасцю кароткая, нібы падстрыжаная, трава, прыемна халодзіць твар. І Васька ціхамірна засынае. У гэтыя мінуты ён паспявае ўбачыць у сне і ўвесь свой трэці клас, і маладзюткую настаўніцу Ганну Прохараўну, і суседа дзядзьку Сымона з вялізным сінім шчупаком, хвост якога вываліўся з кашолкі і цягнецца па зямлі... Але самае дзіўнае і прыемнае, што сніцца, нібы сам Антон-рамеснік угаворвае яго, Ваську, пагуляць у ножык. Так угаворвае, так смешна просіць, што сілы не стае ўтрымацца, і Васька — рагоча.

І навокал рагочуць, кіснуць ад смеху.

— Ой, памру! Паказычце яшчэ, яшчэ яму пад носам!

Васька тут жа спалохана расплюшчвае вочы і перад самым тварам заўважае Антонаву руку з тоненькай сухой былінкай...

— Што, вартаўнічок, дрыхнеш?

Хлапчукі апранаюцца і смяюцца з Ваські, пацяшаюцца. Ваську сорамна. Так сорамна і крыўдна, што ён гатовы заплакаць, нават кінуцца на Антона з кулакамі. Але нешта большае, чым звычайная крыўда, прымушае яго ўскочыць на мыліцы і кінуць гарачыя словы Антону:

— А я вось... пераплыву раку... Пераплыву. Давайце ў заклад. На трыццаць капеек... Што, баіцёся, баіцёся? Ага-а!

Антон пагардліва моршчыць свой пляскаты, шырокі, як лапатка, нос, ганарліва нахіляецца да Васіля:

— Ты, салага, пераплывеш раку?

— Пераплыву!

— Ды ну, слабец!.. Куды табе!

— А вось пераплыву! — грозна крычыць Васька і пеўнем наступае на Антона.

— Хлопцы, вы чулі? Іду з ім на заклад, на грошы,— робячы сур'ёзны твар, нечакана згаджаецца Антон.— Ну, па руках? Пан ці прапаў?

Але Васька ўжо не зважае на кпіны. Таропка распранаецца. Хлапчукі з зацікаўленымі ўсмешкамі сочаць, як ён даскоквае на адной назе да вады, кідаецца ў яе і паволі плыве... Па праўдзе кажучы, ніхто не верыць, што Васька пераплыве раку. Самае вялікае — выберацца з вузкай затокі, аддыхаецца на мелкаводдзі і вернецца назад пад вясёлы смех хлапчукоў. Антон ужо нават абыякава адвярнуўся ад ракі і зноў дастаў з кішэні свой двухлязовы ножык. І ўсе адразу ж стоўпіліся побач, забыліся пра няўдалага плыўца.

Ды і Васька не думае пра іх: ён даплывае да густа парослага водарасцямі кліна, які няпрошана ўразаецца ў раку з боку лугу, і доўга стаіць па пояс у вадзе, схіліўшыся над дзівоснымі лапушыстымі гарлачыкамі. Вада тут цёплая, чыстая, да самага дна прасвечвае. Сярод сцяблістых водарасцяў мітусяцца вёрткія рыбінкі, торкаюцца ў ногі. Зачараваны Васька спрабуе

злавіць — дзе там! Толькі мільгануць сваімі срэбнымі бачкамі і знікнуць у цёмна-зялёным зарасніку вадзянога царства. А з берага даносяцца здзеклівыя галасы:

— Што, струсіў? Стоп матор? Гані трыццаць капеек, гер-рой. Чуеш?

Васька — не абзываецца. Бровы сярдзіта сыходзяцца на пераноссі. Хай не думаюць, што ён вагаецца... Ён паплыве. Зараз жа. Вось толькі прыкіне, як лепш плыць. Да другога берага яшчэ далекавата. І вада пакуль стаіць вялікая — лета ж толькі пачынаецца. На сярэдзіне ракі плынь хуткая, абавязкова аднясе ўбок, як моцна ні грабі...

— Ага, струсіў, струсіў,— падражніваюць хлапчукі з берага.— Хвалько!

Рашуча расхінаючы перад сабой гарлачыкі, не азіраючыся, Васька кіруецца да глыбокага. Вада прымае яго ў абдымкі, але не так гасцінна, як раней. Ён не адчувае той першароднай радасці ад пругкай халаднаватай вады, той незвычайнай лёгкасці, якая з'яўляецца ў целе, калі робіш першыя сажонкі. Зыркае сонца бязлітасна б'е ў твар, дробныя хвалі блішчаць, гушкаюцца ля самых вачэй. Усе думкі, усе жаданні Ваські засяроджаны цяпер на адным: адолець плынь, дабрацца да плыткага месца. Ды цяжка. Ён забірае ўправа, а яго адносіць назад. Часам здаецца, што ён наогул не прасунуўся ні на адзін сантыметр уперад. Рукі дзеравянеюць, шыя ад напружання ные, перахоплівае дыханне, аж страшна... Упершыню Васька думае, што можа ўтапіцца. І чамусьці прыгадваецца, як раніцай маці паабяцала купіць транзістарны прыёмнік. Такі ж, як у Антона, у чорным пластмасавым корпусе, з бліскучай антэнкай... І так шкада Ваську гэтага транзістара, якога, напэўна, ужо ніколі не ўбачыць яму! Так шкада маці і сябе, што нават слёзы набягаюць на вочы... А можа, легчы на спіну, так, як дарослыя робяць, адпачыць? Перавярнуўся —не атрымалася ў яго, сербануў вады. Ён зусім разгублены. Зноў упарта штурхае пад сябе пругкія, вязкія, як тая смала, хвалі. А пясчаны бераг усё яшчэ далёка. Так далёка... Здранцвелыя рукі ледзьве варушацца. Не, усё — болей ён не здолее трымацца на паверхні. Захлынецца. Аніякай надзеі. Знясіленая Васькава нага які раз апускаецца ўніз, падсвядома шукаючы дно, і раптам... нібыта чыркае па пяску.

Падалося? Няўжо падалося? Ды не, не, сапраўднае дно! Хай глыбакаватая вада, па самыя вушы, хай імкліва падмывае пясок пад падэшвай, але ж ён стаіць, стаіць!

Адразу прыбаўляецца сіл у Ваські... Некалькі ўпартых рухаў наперад, і вось ужо ўзбіваецца ён на травяністую купіну, дзе вада нават і плеч не закрывае, і бокам — паволі, вобмацкам, яшчэ не верачы ў сваё выратаванне,— вельмі асцярожна сунецца да берага.

Васька не памятае, як выпаўзае на бераг, як падае ніцма ў гарачы пясок, які, бы прысак, апякае яго знясіленае цела. Ён ляжыць нерухома мінуту, другую... Але раптам Васькавы плечы пачынае дробна калаціць ад безгалосага, амаль бязгучнага плачу. Гэтак яшчэ ніколі не даводзілася яму плакаць — і з горыччу, і з палёгкай, і з крыўдай, і з невыказным пачуццём перамогі... Потым, прыўзняўшыся, ён доўга пазірае на той бераг, дзе засталіся хлапчукі, і ў яго заплаканых вачах — ціхая бясконцая ўрачыстасць...

— Э-гей! — крычыць ён тонкім голасам.— Хлопцы-ы!

Хай не чуюць там хлапчукі... Хай не бачаць, як, адпачыўшы, ён зноў заходзіць у ваду і плыве назад. Цяпер не ў іх справа. Зусім не ў іх...

*1972*

## У ДАРОГУ

Пачынае вечарэць, і пакой напаўняе шэры змрок. Толькі каля акна, дзе я сяджу з кніжкай, яшчэ відно. Праз ледзь замерзлае шкло бачу я бурае, па-зімоваму няветлівае неба. І толькі там, дзе заходзіць сонца, над верхавінкамі алешніку, яно ярка-ружовае. Ружовая палоска з кожнай мінутай цямнее, робіцца танчэй. Здаецца, што яе нехта нетаропка, але настойліва засоўвае за зубчасты грабянец алешніку. Чытаць не хочацца, і я гляджу ў акно, гляджу і думаю, што заўтра, мабыць, будзе ветрана. А мне — у дарогу... Дамоў заехаў зусім выпадкова: быў у камандзіроўцы ды і заскочыў на які дзень наведаць маці. Але некалі вось так, зімой, прыязджаў рэгулярна на канікулы са свайго вучылішча...

Ціха рыпяць дзверы пакоя, чуюцца асцярожныя крокі. Не паварочваючыся, я ведаю, што гэта — маці.

— Можа, павячэраеш, Толік?

Голас такі родны, такі блізкі і знаёмы да кожнай ноткі! Я адчуваю, як мае грудзі запаўняе нешта вельмі цёплае і пяшчотнае.

— Дзякуй, мама... Не хачу.

Маці садзіцца на канапу.

— Ох, і стамілася я за дзень, Толік! Ох, стамілася! Анічога, здаецца, не рабіла... Пакуль з гаспадаркай управілася ды грубку распаліла, і час непрыкметна прайшоў... А мароз бярэцца. Паставіла ў сенцах вядро з вадой, не паспела адвярнуцца — ураз замерзла! Як ты заўтра, сынок, да горада дабярэшся?

Я гляджу на маленькую шчуплую постаць маці, на яе ўжо старэчы, зморшчаны твар і, здаецца, бачу яе такую ўпершыню... Пастарэла, вельмі пастарэла ты, мама. Асабліва за гэты год, як памёр бацька. Прыбавілася маршчын на твары, сівізны — у валасах... Стала ты нейкая задумлівая, ціхая. У куточках рота назаўсёды ляглі тужлівыя зморшчыны, у вачах — глыбокі смутак. Міжволі я кідаю позірк на сцяну, дзе вісяць у акуратных рамках два партрэты: бацькі і маці. Маці, маладая, з гарэзнай усмешкай на прыгожым круглым твары весела глядзіць з фатаграфіі на мяне. І зусім, зусім не падобна на яе гэта суховенькая, задумлівая, са

стомленым выглядам жанчына, якая сядзіць цяпер перада мною.

— Старэю, сынок, я,— нібы ўгадваючы мае думкі, нечакана гаворыць маці.— Хутка мінаюць гады... Вось і ты ўжо вырас, працаваць стаў. Дачакацца б мне тваіх дзетак — і памерці спакойна можна!

— Можа, лямпу запаліць, мама? — пытаюся я.— Цёмна...

— Запалі, запалі, сынок. А можна і так пасядзець. Як хочаш.

Але чамусьці я не іду ў кухню па лямпу, а прысаджваюся побач з маці на канапу. У пакоі ўжо зусім цёмна. Ад грубкі цягне прыемным цяплом. Гаркавата пахнуць асінавыя дровы. Недзе пад печкай незмаўкана пішчыць цвыркун. На сцяне, абклеенай шпалерамі, адбіваюць гадзіны тыя ж ходзікі. Усё тут напамінае аб прайшоўшым дзяцінстве. І бясконца мне хочацца сядзець побач з мамай у гэтай старой роднай хаце, слухаць яе ласкавы, ціхі голас.

— Вось забыла табе расказаць... Федзьку памятаеш, дзядзькі Пятра? Ажаніўся нядаўна... Мяне запрашалі на вяселле, а як жа. Хацела адмовіцца, прыхварэла тады крыху, дык дзе там. Ты верыш, сама нявеста з Федзькам па мяне прыходзілі. Добрая дзяўчына, культурная, далікатная такая... Хадзем, і ўсё тут! А то, кажа, будзе ваш сын жаніцца, і мы да яго на вяселле не прыйдзем. Што рабіць? Не пайсці — пакрыўдзяцца. Пайшла. Бага-а-тае вяселле было, ой багатае! А колькі гасцей, сынок, запрасілі... Сам старшыня калгаса за свата быў. Стары Пятро і цяпер ніяк не нахваліцца нявесткай суседзям. Ёсць, кажа, у мяне пяць нявестак, а толькі Федзьку лепш за ўсіх пашанцавала!

Федзька — мой стрыечны брат. Я слухаю маці, мне сумна і ў той жа час смешна: успамінаецца Федзька-школьнік, нязграбны, тоўсты, з недаверлівым панурым поглядам. «Мядзведзь!» — так яго дражнілі дзяўчаты, і ён ніколі за гэта на іх не крыўдзіўся. А цяпер... Федзька жанаты, сямейны чалавек, ветфельчар калгаса!

— Ну, а ў Івана Цыганка ўжо сын нарадзіўся... Такі тоўсценькі, чарнавокі... На рукі яго ўзяла — смяецца. Выліты бацька!

Голас у маці ў гэтую хвіліну радасны, усхваляваны. Здаецца, нібы яна цяпер трымае на руках хлоп-

чыка, галубіць яго. І яшчэ доўга расказвае яна пра тых маіх равеснікаў, якія пажаніліся, у якіх ужо ёсць сем'і, дзеці. Потым раптам сумна ўздыхае, глядзіць на мяне, і ў яе вачах я лаўлю нямое пытанне... Я разумею, пра што хоча спытаць яна ў мяне гэтым доўгім сумным позіркам. Разумею, чаму яна ўстае з канапы і канчае размову словамі:

— Старэю, здаю, сынок, я... Не ведаю, колькі і жыцця мне таго засталося ўжо. Ох, штосьці спіна мая разбалелася, ломіць. А трэба яшчэ да Сямёніхі схадзіць — сіта ў яе брала. Можа б, ты аднёс, сынок? А то ж Марыйку сваю яна таксама ў дарогу збірае... На курсы аграномаў едзе. Аднясі, сынок, зрабі ласку.

— Добра, мама.

Я хутка накідваю на плечы свой кажушок, а маці запальвае лямпу. Мне зразумела маленькая яе хітрасць. Ведаю, што падабаецца ёй стройная быстравокая Марыйка, дачка суседкі... А мне? Гэтага я і сам яшчэ не магу сказаць. Але калі, апрануўшыся, падыходжу да люстэрка,— доўга і прыдзірліва разглядаю свой твар. Ён у мяне самы звычайны, твар як твар. Толькі вось нос... крыху даўгаваты. Эх, калі б хоць на якую кропельку быў карацей! Але нічога не зробіш. З-пад шапкі выбіваецца чорны, як смоль, чуб. Яго я не зачэсваю ўгору. Чуб мне па густу. Такі ж быў і ў майго бацькі.

— Ну, пайду я...

— Ідзі, ідзі, сынок!

Дамоў я вяртаюся позна. Маці ўжо спіць на цёплай ляжанцы, побач з ёй мурлыкае наш стары кот. Ад падкручанай лямпы ў хаце — жаўтаватае святло. Я кладуся ў ложак; але яшчэ доўга не магу заснуць, радасна ўсхваляваны сустрэчай з Марыйкай. Мы былі з ёю ў кіно. А потым доўга-доўга хадзілі па ўкрытых снегам вуліцах вёскі, успаміналі юнацтва, школу, гаварылі пра сваю работу. Падаў рэдкі снег. Сняжынкі, нібы начныя матылькі, садзіліся на рукі, на твар, на адзенне. Марыйка лавіла іх і звонка смяялася. Я згадзіўся б гуляць так бясконца доўга, гуляць і глядзець у чорныя, нейкія на дзіва прыгожыя пад заснежанымі вейкамі Марыйчыны вочы. Але калі развіталіся ля яе хаты, я нічога так і не сказаў, толькі ледзь не шэптам спытаў:

— Будзеш адказваць на мае лісты, Марыйка? Я першы напішу...

І чакаў адказу.

Але яна маўчала. Толькі вусны ледзь варухнуліся ў шчаслівай усмешцы, а рукі яе моцна абвілі маю шыю...

Прачынаюся назаўтра я рана. У адчыненыя дзверы на момант урываецца бадзёрае марознае паветра. Я радасна ўскокваю з ложка, апранаюся.

А праз гадзіну, развітаўшыся з дамашнімі, мы з Марыйкай выходзім за вёску. Ісці да шашы, дзе спыняецца аўтобус, з кіламетр. Сняжок, які выпаў за ноч, блішчыць і пераліваецца рознакаляровымі іскрынкамі. Да горада нам з Марыйкай — адна дарога.

*1958*

# У ПЕРШЫЯ ДНІ

І зноў раніцою ўсё старанна было падрыхтавана Сямёну — як учора, пазаўчора... Усё — гэта стары чорны пінжак, зеленаватыя штаны, не першай ноські кашуля... Маці нават гальштук адпрасавала модны. Але Сямён непрыкметна ўсміхнуўся і паблажліва сказаў:

— Не трэба, мама. Не ў рэжысёрскую іду — на завод...

Ён адмовіўся і ад тэрмаса з кавай. Навошта браць з сабой? Сталовая ў цэху выдатная, за якіх пятнаццаць хвілін паабедаць можна. А вось за выгаралы на сонцы берэт, які маці адшукала яшчэ ў школьных рэчах, быў удзячны: у берэце будзе зручна за станком. У многіх бачыў...

Праглынуўшы свой традыцыйны сняданак — падсмажаную скрылькамі бульбу і кефір, Сямён накінуў плашч, сказаў нешта жартаўлівае на развітанне маці, пачуў ад яе знаёмыя з дзяцінства словы: «Усё будзе добра, сынок» — і заспяшаўся да ліфта. Затрымаецца раптам аўтобус, спознішся — сораму не абярэшся. Лепш ужо раней даехаць да месца.

На вуліцы былі прыцемкі. Не дужа яркія ліхтары ў густой сінечы паветра здзіўляюча нагадвалі асмужаны месяц. Перадсвітальная свежасць бадзёрыла. Санлівасці — як не было. Тут, на ўскраіне горада, каля самага лесу, надыход вясны адчуваўся па-сапраўднаму. Ногі паволі прыміналі шорсткі пясок. За дарогай, зусім побач, ляжала лугавіна з маленькай рачулкай, аблепленай чэзлымі кустамі, і поле — зямля без звыклага асфальту, камення, чорная ад вільгаці, нейкая набрынялая, неспакойная, нібы ў ёй нецярпліва варушацца адагрэтыя за цёплыя пагодлівыя дні незлічоныя карэнні і карэньчыкі... Гэтак і чакай — не сёння-заўтра праклюнуцца, вылезуць на паверхню першыя нясмелыя цвічкі пяшчотна-зялёных травінак, а за імі — і жоўценькія пахкія кветкі дзьмухаўцу, і навокал разальецца непаўторны водар вясны.

Сямён падышоў да прыпынку, прыхіліўся плячом да слупа і, прыжмурыўшы вочы, спрабаваў уявіць сабе, які сёння можа быць прыгожы сонечны дзень... Нішто так не ўзрушвала яго з самага маленства, як вяс-

на. Нават не сама вясна, а чаканне яе — тыя дні, калі першыя адлігі, туманы непрыкметна з'ядаюць снег, а крохкія ледзяшы са звонам ляцяць са стрэх долу і шматлікія раўчукі, як лязом, рэжуць мёрзлую зямлю, срэбнымі ланцужкамі-змейкамі варушацца, блішчаць на сонцы.

Некалі там, на Поўначы, дзе служыў у арміі, ён з нецярпеннем чакаў надыходу вясны, амаль упэўнены, што нясе яна з сабой прыемныя перамены ў яго жыцці. І было такое адчуванне, нібы адсякаецца адзін рубеж, а за ім, наперадзе, яшчэ больш цікавае і светлае. І так было заўсёды...

Было... Сямён усміхнуўся, падумаўшы, што і цяпер ён, нягледзячы на нечаканы паварот у сваім жыцці, быў упэўнены, што ўсё самае добрае — хай, можа, і не лёгкае — наперадзе. І ўжо нават не хацеў болей успамінаць аб сваіх непрыемнасцях у гэтай студыі тэлебачання, у якую трапіў пасля арміі, пра той скандал, што надарыўся нібыта па яго віне... Калі разважаць, то хіба ён, памочнік рэжысёра, павінен адказваць за ўсе ўчынкі чалавека ў кадры? Ну, трапіўся такі бесталковы пенсіянер, які, не падазраючы, што студыйны павільён уключаны ў эфір, нагаварыў глупства... Але справа, мажліва, і не толькі ў гэтым скандальчыку. Сямён мог бы працаваць у студыі тэлебачання, як і працаваў. Ніхто не думаў, што ён сам звольніцца. Галоўны рэжысёр упрошваў яго ўзяць заяву назад, застацца: маўляў, здольны, расці будзеш! Але такі ўжо чалавек Сямён — калі адчуў раптам незадаволенасць сабой, калі нават самае маленькае сумненне закралася ў душу наконт сябе і свайго месца ў жыцці, значыць — сігнал небяспекі, нешта не тое, нешта не так. І тут варта сур'ёзна разабрацца, не панікаваць, а разабрацца ў сваіх справах: хай і на заводзе, але не ў студыйнай мітусні, дзе адчуваў сябе нярэдка да зневажальнага лішнім. Толькі б не схібіць, не здрэйфіць за такарным станком... Каб ні ад каго не чуць дакору, каб ніхто не кідаў насмешлівых позіркаў у яго бок. Больш усяго ў жыцці не любіць Сямён насмешак, і не таму, што яны б'юць па самалюбству,— проста часцей за ўсё насмешкі несправядлівыя, а значыць, і нядобразычлівыя.

На прыпынку непрыкметна сабраліся людзі. І Ся-

мён дакладна ведаў ужо, што большасць з іх спяшаецца туды ж, куды і ён — на свой завод. Усяго некалькі дзён назад ён пазнаёміўся тут з адным старым. Якраз, калі так цяжка было ад таго, што бярэшся за зусім новую працу і невядома, якім бокам яна да цябе павернецца: звычайны токарны станок здаваўся жахліва складаным і мудрагелістай машынай — накшталт таго спадарожніка... А сустрэліся як — выехаў дужа рана з дому, і гэты рабочы непрыкметна апынуўся побач. Сярэдняга росту, у кароткім дэмісезонным паліто, у кучомцы з прымятым верхам, ён з цікавасцю, як падалося Сямёну, разглядваў яго. Мабыць, таму, што на прыпынку ў такую рань яшчэ нікога не было. Папрасіў закурыць, і, калі запалка асвяціла яго хударлявы твар з кручкаватым носам над рэдзенькімі вусамі і нібы ўціснутымі пад шырокі лоб вачамі, Сямён сам пачаў традыцыйную і бессэнсоўную размову пра надвор'е: усё ж не маўчаць. Але стары гэтай размовы не падтрымаў. Папыхкаўшы цыгарэтай, ён коратка спытаў:

— На завод?

— На машынабудаўнічы... Першы рабочы дзень...

Магчыма, яны так бы і разышліся, калі б не гэтая нечаканая Сямёнава адкрытасць.

— Упершыню, кажаш? Новенькі? Ого!

Стары прыкметна пажвавеў, пачаў цікавіцца, распытваць. І ўжо ўсю дарогу, уладкаваўшыся побач у аўтобусе, яны размаўлялі... Дакладней, гаварыў больш Сямён. Ён і злаваў на сябе за гэтую сваю празмерную гаварлівасць, але не мог спыніцца, мабыць, даўно не хапала яму спагаднага субяседніка. Асабліва цешыла, што стары не проста чалавек у гадах, а майстар з суседняга механічнага і ведае ўсе гэтыя станкі назубок. Сямён не мог стрымацца, каб не выкарыстаць зручны момант: папрасіў пазычыць хоць які-небудзь дапаможнік па такарнай справе. І стары ў знак згоды кіўнуў галавой.

Бадай, толькі цяпер, седзячы побач, Сямён так блізка ўбачыў знявечаную шчаку суседа — на ёй была нібы наварана круглая шызая латка... Але шчака ўсё роўна выглядала меншай, чым левая, і ў час размовы дзіўнай варонкай уцягвалася ўнутр. Сямён нават прыўзняўся ад здзіўлення: яму падалося, што твар з гэтай

ірванай д'ябальскай лапінай на ўсю шчаку ён ужо недзе бачыў... Але як ні намагаўся прыпомніць — не мог: сярод суседзяў і знаёмых гэтага чалавека не сустракаў.

Яго моцны голас лагодна вуркатаў побач, стары майстар не супакойваў Сямёна, праца на заводзе не з лёгкіх, асабліва для таго, хто паспытаў іншага хлеба... Ды, у рэшце рэшт, не багі гаршкі лепяць. Авалодаць любой спецыяльнасцю няцяжка, калі за плячамі ўсяго дваццаць пяць, як у Сямёна. Вунь нават маёр адзін на завод прыйшоў пасля дэмабілізацыі — і нічога, спраўляецца не горш іншых. А непрыемнасці... У каго ж іх у жыцці не бывае? Толькі вось пытанне: ці варта доўга аб іх памятаць?

Стары ўсміхнуўся, паказваючы рэдкія зубы, неяк асабліва мякка і зычліва пазіраў на Сямёна. І ўвесь час, пакуль яны, як выйшлі з аўтобуса, крочылі да прахадной, з яго твару не сыходзіла гэтая ўсмешка мудраца. Насустрач ім неслася з дынаміка песня. Яе Сямён чуў і раней, ды не звяртаў увагі на словы. А тут майстар раптам спыніўся, моўчкі крануў яго за плячо і шматзначна кіўнуў на дынамік: паслухай! І гэтая песня чамусьці адразу ўсхвалявала Сямёна. Прыемны тэнар пеў аб тым, што сум — дарэмны і ён абавязкова знікне, калі будзеш адчуваць і любіць, як у апошні раз...

Як у апошні раз... Нечакана за лёгкай мелодыяй і простымі словамі Сямёну прыадкрыўся такі вялікі сэнс, што ён нават унутрана скалануўся. Сапраўды, колькі людзі беззваротна губляюць у штодзённай мітусні, слізгаючы халодным позіркам па бясконца дарагому — да чаго прывыклі і да чаго неразумна абыякавы: і зеляніна дрэў іх не кранае, і блакіт неба, і вясновае паветра... Але ж толькі на хвіліну, на нейкае імгненне ўяві, што і пах зямлі, і шурпатая кара дрэва, і вочы маці, з якіх струменіць непаўторная пяшчота, усё, усё, значнае і нязначнае, вось-вось знікне для цябе назаўсёды, толькі паспрабуй уявіць — і балюча, ой, як балюча, сціснецца сэрца ад журбы і горычы! І добра, калі шчымлівую журбу заменіць упэўненая радасць: не, не ў апошні, яшчэ многа-многа разоў блакітны ранак абдыме цябе, сонечныя дні сагрэюць і суцешаць, і ціхі змрок прапяе твае песні... Толькі не абдзялі сябе гэтым шчасцем, не дай засланіць дробнаму і нікчэм-

наму цудоўны свет, прагна, да самазабыцця дыхай пахам роднай зямлі — так дыхай, каб п'янеў, каб кроў яшчэ мацней стукала ў жылах: не ў апошні, не ў апошні раз...

Гэтыя думкі захапілі Сямёна настолькі, што ён нават збянтэжыўся, калі пачуў зноў голас старога:

— Пойдзем, ці што... Песня песняй, а праца чакае.

Ну, вось, расфіласофстваваўся... Можа, чалавек пажартаваў, а ён... Сямён кінуў насцярожаны позірк на майстра — не, той быў сур'ёзным, нават журботным. Падобна, што імі валодалі зараз адны і тыя ж думкі, адзін настрой. І развітаўся стары стрымана, але не суха:

— Ты кнігу прасіў — прынясу. Зазірні як-небудзь, спытай Цімоха Лукіча... Кнігу табе дам! Толькі, павер, лепшая кніга — у тваім цэху... Там вучыся, хлапец.

І вось сёння — і на прыпынку, і па дарозе на завод — Сямён у думках вяртаўся да старога, прыгадваў падрабязнасці іх нечаканага знаёмства і ўжо быў упэўнены, што ён той самы чалавек, які паможа Сямёну адолець душэўную блытаніну, стаць трывала на нogi ў гэтым вялікім рабочым калектыве. Трэба толькі яго абавязкова ўбачыць, адшукаць у канцы змены. Ім жа — у адну дарогу.

З нейкім нязведаным пачуццём і трывогі, і гонару за сябе, за сваю рашучасць вось так смела ўзяцца за незнаёмую справу, павярнуць сваё жыццё ўваходзіў Сямён у цэх. Разам з усімі ён хутка пераапрануўся ў гардэробнай, зачыніў за сабой шафку і чынна паклаў ключык у кішэню. Усміхнуўся, бо злавіў сябе на думцы: хто б з сяброў-тэлевізійнікаў пазнаў цяперака яго ў гэтым гаманкім натоўпе рабочых? Няспешна пакрочыў на свой участак. Гаспадарліва агледзеў станок — усё ў парадку. Рашыў не чакаць наладчыка, якому даручана было апякаць яго, навічка. Сам тузануў ручку электрарубільніка, сам націснуў на кнопку... Роўны шум станка незвычайна абрадаваў Сямёна. Але гэта быў яшчэ не рабочы шум, станок працаваў на халастых абаротах. Зірнуўшы на гадзіннік — талерка цыферблата бялела якраз на сцяне насупраць,— задаволена адзначыў: да пачатку змены заставаўся яшчэ час. З лёгкасцю напружваючыся целам, адчуваючы прыемную стому ў руках — усё роўна як пасля шасці-

кілаграмовых гантэлін,— Сямён нацягаў бліжэй да станка загатовак. Дэталі разлажыў акуратнымі слупкамі побач з канвеерам: зручней браць. І дужа рады ад таго, што позніцца наладчык, што ён пакуль адзін гаспадар станка, Сямён скоранька замацаваў на шпіндалі першую дэталь — свежаафарбаваную ў чырвоны колер покрыўку рэдуктара, зноў націснуў кнопку. Назіраючы, як плаўна апускаюцца супарты з разцамі, як асцярожна і дзелавіта ліжуць разцы жалеза і шэрая стружка ў малочна-белых пырсках эмульсіі імкліва адлятае ўбок, Сямён па-сапраўднаму адчуў усю ўрачыстасць моманту — пачатак рабочай змены.

Побач круціўся каля свайго станка свідравальшчык — маленькі, вёрткі і мітуслівы, з панурым, засяроджаным тварам. Сямён не быў знаёмы з ім, толькі штораз лавіў на сабе пільныя позіркі суседа, калі ў яго, Сямёна, нешта не ладзілася. І тады яму здавалася, што вось-вось той падыдзе і скажа з дакорам: «Эх, зваліўся ты на нашу галаву... Патрэплем нервы, пакуль куем, пакуль навучым». Але свідравальшчык, дзякуй богу, не падыходзіў. Не звярталі на яго асаблівай увагі і іншыя суседзі. Толькі ж з Валяй, танклявая постаць якой мільгала справа за станком, учора нечакана пазнаёміўся. Яна сама падсела да Сямёна ў сталоўцы і, звыклым жэстам хаваючы пад касынку пасмачку каштанавых валасоў, з добрай усмешкай узіралася ў яго і хутка-хутка гаварыла. Сямён настолькі быў збянтэжаны на той час, што, бадай, не запомніў ні аднаго яе слова... Але Валін спагадлівы твар яшчэ доўга стаяў у яго перад вачамі, і яму было крыху ад гэтага спакайней. Прыемна было думаць пра дзяўчыну. Урэшце, перамагаючы сваю нерашучасць, потым нават звярнуўся да яе за дапамогай — зламаўся разец, і трэба было тэрмінова адшукаць слесара.

Што ні кажы, але сёння Сямён упершыню адчуваў асалоду, задаволенасць ад працы. Ён ужо не так стамляўся, без напружання сачыў за станком, паспяваў у час не толькі зняць апрацаваную дэталь і замацаваць новую покрыўку рэдуктара, але нават паднесці новыя загатоўкі. Праўда, калі па цэху праходзіла дэлегацыя замежных гасцей і затрымалася на іх участку, ён зноў захваляваўся. Ды толькі цяпер хваляванне было зусім іншае — ад усведамлення адказнасці і значнасці сваёй

асобы ў гэтыя хвіліны. Гаварылі госці па-англійску, і Сямён, карыстаючыся скупымі школьнымі ведамі мовы, паспеў нават улавіць два знаёмыя словы: савецкі рабочы... Ну, вось, гэта пра яго, гэта ўжо і пра яго! І ўсё ў душы раптоўна запела, забурліла ад незнаёмага дагэтуль пачуцця. І, напэўна, заўважыўшы Сямёнаву ўзрушлівасць, спыніў на яго ззяючым твары цёплы позірк пажылы чалавек у моднай жоўтай куртцы. Сямён прачытаў у яго вачах зычлівасць, і ён, гэты госць, усёй сваёй хударлявай постаццю, прыжмурам усмешлівых вачэй нагадаў нечакана старога майстра. Дэлегацыя прайшла далей, а Сямён рашыў: дачакаецца канца змены, пойдзе і адшукае Цімоха Лукіча. Цяпер, калі ўсё ладзілася, калі ўсведамленне жыццёвай уладкаванасці і трываласці пранізвала яго істоту, калі знікла ранейшая прыгнечанасць, ён, нарэшце, можа дазволіць сабе сустрэцца са старым, узяць абяцаную кнігу. Але ж сустрэцца, мабыць, не толькі дзеля кнігі...

Адзінае, што крыху азмрочвала і непакоіла Сямёна, дык гэта боязь, што вось-вось з'явіцца наладчык і, як учора, папросіць Сямёна ўступіць яму рабочае месца — каб падагнаць працу... Зусім яшчэ малады, куды маладзейшы, чым Сямён, ён потым моўчкі будзе стаяць побач на памосце, стуліўшы губы, назіраць за ім праз зялёныя шкельцы засцерагальных акуляраў. Паспрабуй даведайся, што ён думае, аб чым маркоціцца. Тыя некалькі нязначных слоў, якімі яны перакідваюцца з Сямёнам за дзень, зусім нічога не гавораць... Сямён ужо даведаўся, як завуць яго настаўніка,— Юзік. Толькі ж імя самае звычайнае, па ім не вызначыш, што за чалавек. Падобна, што тут увогуле не любяць балабоніць. Але маўклівасць хлопца прыкрая, злуе, так і здаецца, што ты нешта не тое робіш. А раптам ён, гэты непрыступны Юзік, даўно ўжо знаёмы з Сямёнам? І самым найлепшым чынам — назіраў, калі ён, выконваючы заданне, фарсіста разгульваў з кінаапаратарам па цэхах завода ў пошуках цікавага кінасюжэта для тэленавін? Таму і загадкава маўчыць, таму і афіцыяльна, нават насмешліва «выкае», нібы хоча сказаць: «Калі ласка, мне загадана навучыць — навучу, толькі наўрад ці атрымаецца з вас, маэстра, што-небудзь талковае...» Ад такой здагадкі Сямёну аж горача зрабілася.

Сямён і сам разумеў, што нічога благога ў яго міну-

лым памочніка рэжысёра няма — праца як праца. Але з кожным днём неяк сама па сабе ў ім расла ўпэўненасць: цяперашні занятак куды больш пачэсны і адказны. Гэта, урэшце, не застаўкі з аб'явамі перастаўляць перад камерай у тэлестудыі... А галоўнае — адразу ведаеш, што твае намаганні і час недарэмна патрачаны. Вось яна перад табой, зробленая дэталь, ты яе бачыш, ты яе адчуваеш усёй сваёй істотай... Прыемна халодзіць руку важкі метал, прыгожа, нібы той камень-самацвет, адлівае блакітам і яшчэ нейкімі дзівоснымі колерамі абточаны чыгунны дыск. Усё надзейна, трывала, адчувальна. І ніхто не скажа табе — не так... Станок не памыляецца, ён, Сямён, таксама. Адтуліны да міліметра дакладныя — колькі хочаш правярай іх тым шаблонам. Вось тут і ўпэўненасць, і гонар за сваю працу, і павага да сябе, без якой, ой, як цяжка жыць чалавеку.

За гэтымі новымі, супярэчлівымі думкамі і застаў яго Юзік. Кінуў звыкла гаспадарлівым вокам на слупкі абточаных рэдуктараў, але нічога не сказаў. Не прамовіў, як учора:

— Адхініся, памагу...

Падобна, не так ужо і мала зроблена Сямёнам за гэтыя некалькі гадзін. Але чаму ж тады такі журботны, змрочны твар у Юзіка? Чаму так доўга і пільна пазірае, узняўшы галаву, на рознакаляровыя квадраты шклянога даху? Паклаў акуляры ў нагрудную кішэню пінжака, плюскае вачамі, жмурыцца ад зыркага святла і пазірае ўгору, пазірае... Вунь нават вочы заслязіліся, і маленькая гарошынка пакінула на смуглявай шчацэ бліскучую мокрую дарожку. Не, мабыць, справа не ў ім, не ў Сямёне. Калі хлопец маўчыць — гэта яшчэ нічога, а вось калі забывае сцерці слязу са шчакі... тут, пэўна, нешта іншае. Сямён ужо наважыўся спытаць Юзіка, што з ім, як той раптам сам, схаваўшы вочы за шкельцы акуляраў, прамовіў ціхім голасам:

— Майстар мой... колішні памёр.

— Дзе? — неўпапад, нібы гэтае ўдакладненне мела зараз нейкі сэнс, спытаў Сямён.

— Там жа, у цэху... Сэрца ў яго... З вайны, ці што... Шкода Нікіценку: чалавек!

І скупых слоў Юзіка было дастаткова, каб не распытваць болей, не вярэдзіць яму сэрца. І Сямён не рас-

пытваў. Ён толькі спачувальна пазіраў на вузкую юнацкую спіну наладчыка, на якую траплялі сонечныя промні. Промні ліліся зверху, і Сямёну здавалася, што ён адчувае іх шчодрую цеплыню, вясновую сілу на сваім твары. І з горыччу падумалася раптам, як гэта неразумна, недарэчна, што нехта памірае ў такі радасны час абуджэння прыроды.

Сямён наўмысна заўсёды пазбягаў думак аб смерці, не хацеў азмрочваць сваё жыццё нават напамінкам аб гэтай, як ён быў перакананы, ненатуральнай з'яве... І калі паміраў хто са знаёмых, не заўсёды бываў на пахаванні. З сорамам упікаў сябе за свае паводзіны і ў той жа час шукаў апраўдання: хай лепш у памяці застанецца жывое аблічча, жывы твар...

Наладчык непрыкметна знік. І Сямён, крыху паразважаўшы пра няшчаснае здарэнне, зноў аддаўся цалкам працы.

Заканчвалася змена, але Сямён не адчуваў стомленасці, правільней, яму не было часу думаць аб ёй. Ён і свідравальшчыка-суседа заўважыў толькі тады, калі той вываліў у яму металічную стружку і пратарахцеў тачкай побач.

— Канчай, друг... Пакінь на заўтра трошкі... Гайда піва піць! — пачуў Сямён яго жартаўлівы голас.

Але ў голасе прагучалі і ноткі адабрэння. І ад гэтага на душы зрабілася яшчэ цяплей. Што ж, можна і закругляцца: вунь колькі апрацавана рэдуктараў... Сямён спыніў станок, выключыў электрарухавік. За якія хвіліны прывёў у парадак рабочае месца, нават вакол станка падмёў. Можна было б і ў душавую махнуць, ды з ёй паспеецца. Сямёну трэба хутчэй трапіць у суседні механічны цэх — пакуль не пайшоў Цімох Лукіч. Заступала чарговая змена. Выцершы рукі нейкім фланелевым абрэзкам, паклаў яго зноў у скрынку, паправіў на галаве берэт і асцярожна пачаў прабівацца паміж станкоў: да вузкага калідорчыка, які злучаў абодва механічныя цэхі.

Насустрач Сямёну ішлі такія ж маладыя рабочыя, як і ён. Некалькі чалавек тоўпіліся каля акенца табельшчыцы. Можна было б даведацца ў каго-небудзь з іх, дзе шукаць Цімоха Лукіча. Але Сямёну падалося за лепшае адразу ж зазірнуць у вагончык старшага

майстра — так больш надзейна, ды, мажліва, і сам Цімох Лукіч патрапіцца там...

Невялікі квадратны вагончык прыткнуўся недалёка каля ўвахода ў цэх — блакітненькі, як дачны домік, з шырокімі акенцамі і нават белымі фіранкамі на іх. Сямён толькі дакрануўся да дзвярэй, як яны раптам самі расчыніліся і на парозе застыў мажны мужчына, які ледзь умяшчаўся ў дзвярным праёме. Ён стаяў, ссутулены, схіліўшы долу галаву, і нагадваў чымсьці ў сваёй чорнай спяцоўцы натапыраную вялікую птушку. І, можа, ад таго, што сустрэча была такой нечаканай, Сямён не адразу знайшоў, што сказаць.

— Вы да мяне?

— Не, я да Цімоха Лукіча...

Мужчына, відаць, хацеў нешта адказаць, але памарудзіў, пільна і неяк дзіўна пазіраў на Сямёна сумнымі чорнымі вачамі. Нарэшце ўздыхнуў, спытаў:

— А што-о... вы хацелі?..

— Ды нічога асаблівага. Ён мне кнігу абяцаў адну, тэхнічную,— растлумачыў Сямён ужо больш спакойна і дадаў, нібы просячы прабачэння: — Я тут нядаўна, на заводзе...

Нічога не кажучы, мужчына адышоў ад дзвярэй, пакорпаўся на стале ў паперах і вярнуўся з кнігай.

— Гэтая? Вазьміце... Ён яшчэ раней мне пакінуў... Прасіў аддаць, калі хто зойдзе... Можаце не вяртаць.

Апошнія словы здзівілі Сямёна: чаму не вяртаць? Ён заўсёды акуратна вяртае чужыя рэчы. Вось толькі крышку падзубрыць гэтую тэхніку і — верне.

Падзякаваўшы, Сямён зноў накіраваўся ў свой цэх. Толькі назад ён ішоў нетаропка — балазе, спяшацца няма куды, хіба ў душавую. Стомлены позірк лянiва затрымліваўся на шматлікіх аб'явах, розных спісах, зводках спаборніцтва — яны віселі ўздоўж усёй сцяны. Каля невялічкага стэнда ветэранаў вайны Сямён прыпыніўся — зацікавілі здымкі. Праз зеленаватае шкло са старых пажоўклых адбіткаў пазіралі пераважна маладыя салдацкія твары... У самым куточку стэнда раптам напаткаў знаёмае аблічча. Пазнаў не адразу. У гімнасцёрцы са старшынскімі пагонамі, у зімовай шапцы, з-пад якой выбівалася чупрына, вайсковец толькі аддалена нагадваў цяперашняга Цімоха Лу-

кіча... Ён усміхаўся. Ці здавалася так, што ўсміхаецца — з-за гэтай ірванай раны на шчацэ... Але ў шырокіх адкрытых вачах праменіліся тая бясконцая дабрыня і прага жыцця, з якімі вярталіся пераможцы дамоў, і мужны твар ад гэтага быў яшчэ прыгажэйшы.

За спіной Сямён пачуў прыцішаныя галасы. Азірнуўся — размаўлялі рабочыя. Адзін з іх пазіраў на дошку аб'яў і ўслых чытаў: «...член КПСС з 1942 года, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны, ветэран завода...» Быццам нешта апякло Сямёна, ён крутануўся на месцы і імгненна ўпіўся вачамі ў белы аркуш паперы на сцяне. Ён яшчэ не верыў, хоць у вушах звінелі словы, сказаныя побач. Адчуваючы, як нейкі брыдкі холад запаўняе грудзі, Сямён спрабаваў адагнаць ад сябе чорныя літары і — не мог: яны мільгацелі, скакалі перад вачамі... Жахлівы сэнс жалобнай аб'явы павалі пранікаў у свядомасць — памёр чалавек, памёр Цімох Лукіч... А ён жа, Сямён, ішоў да яго. Чаму, чаму так атрымліваецца ў жыцці? Чаму такая несправядлівасць? Той, каму б жыць ды жыць, радаваць сваім шчодрым сэрцам, абдорваць сваёй дабрынёй і мудрасцю іншых, памірае заўчасна, заўчасна пакідае зямлю...

Сямёну было па-сапраўднаму балюча. Стаяў, нібы прышыты да падлогі. Стаяў, пакуль зусім побач не запрацаваў станок. Строгі ўладарны гул, у якім адчувалася ўпэўненая сіла, скрыгат пакоранага металу запаўнялі цэх. І, мабыць, менавіта гэты ўрачысты, магутны гул прымусіў Сямёна адарваць позірк ад белага аркуша...

Навокал ужо нікога не было: людскія постаці застылі ля станкоў.

Пачыналася новая рабочая змена.

*1976*

# ПАЕЗДКА Ў СТАЙКІ

Шасейка блішчыць на сонцы, адлівае срэбрам і заманліва, імкліва бяжыць роўнай стужкай наперад — на Чарнігаў, Кіеў... Туды, да вялікай ракі, памчаліся толькі што на сваіх вішнёвых «Явах» сябры, Антон і Міша. Іх не відно ўжо, расталі постаці ў зялёна-блакітным марыве на гарызонце. Але Аркадзь і не збіраецца даганяць зараз хлопцаў, рэзка тармозіць, спыняе матацыкл, упіраецца нагой у асфальт... І выгляд у яго такі, нібы ён яшчэ раздумвае, рашае, ці ехаць яму далей паміж халаднаватых алешнікаў, сухіх сасновых бароў і пахкіх лугавін-балацянак, ці збочыць тут жа на пясчаную палявую дарогу, да тых двух вёсачак, знаёмыя назвы якіх акуратна выпісаны на дошчачцы-паказальніку выцвілай фарбай: «Стайкі», «Глыбокае»...

Лёгка, размерана тахкае матор. Часта, неяк вельмі гулка ўторыць яму сэрца. Аркадзь хмурыць вочы, разгублена азіраецца па баках, нібы шукае нешта, нібы не можа зразумець, адкуль такая бурлівая хваля радасці ў грудзях... Ды што ж гэта сапраўды з ім? Аж дыхаць цяжка — як ад таго ветру, што ашалела б'е матацыклісту ў твар...

Запылены, стомлены, Аркадзь збягае з дарогі да раўчука, які булькае, цурчыць унізе паміж альховых карчоў і высокай асакі. Асцярожна апускаецца на мяккую дрыготкую купіну і прагна ўзіраецца ў жаўтавата-бурую ваду. І здзіўлена, шчасліва ўсміхаецца, бо бачыць на люстраной паверхні сябе — туга схопленыя скураной курткай дужыя плечы, шырокі кірпаты твар пад каскай... Ну, сапраўдны матацыкліст, такі, дакладна такі, як спартсмены на партрэтах у часопісах, якімі яшчэ ў школе захапляўся. Але тады ў яго быў толькі стары бацькоўскі веласіпед. З пагнутым рулём, з аблупленай рамай. І на гэтым веласіпедзе ён вазіў пасля ўрокаў з Глыбокага ў Стайкі аднакласніцу Зойку... І надаралася вельмі часта, што клееныя і пераклееныя камеры падводзілі ў дарозе. І ён смешна пыхцеў, збянтэжана накачваў іх дзе-небудзь пасярод васількаватага жыта, а Зойка, гэтая бесклапотная Зойка, стаяла воддаль, задумліва кусала травінку і маўкліва пазірала ў той бок, адкуль беглі па жыце цёмныя і

светлыя хвалі... Ды Аркадзю ўсё роўна здавалася, што Зойчын насмешлівы, крышачку здзіўлены позірк скіраваны быў толькі на яго. Але ён не злаваў. Ён не мог на яе злаваць.

Пырснуўшы ў твар халоднай вадой, такой халоднай, нібы і не было спякотнага ліпеня і не дымілася нагрэтая зямля, Аркадзь бадзёра ўскоквае на ногі і вяртаецца да матацыкла.

У Стайкі ён урываецца як вецер, імчыць па вуліцы, палохаючы санлівых курэй, пакідаючы ля хат зачараваных хлапчукоў, і, газуючы напрапалую, хвацка разварочваецца якраз насупраць крайняй хаты з чырвонымі аканіцамі... Колькі разоў Аркадзь уяўляў гэты шчаслівы момант! Тады, калі толькі адкладваў грошы на матацыкл. І тады, калі набыў яго і калі па загаду старога лейтэнанта аўтаінспекцыі круціў на асфальце мудрагелістыя «васьмёркі»... І цяпер вось усё адбываецца амаль так, як уяўляў: трашчыць, раве матацыкл, з акна трывожна выглядае пажылая жанчына, Зойчына цётка, здзіўлена пляскае рукамі, а праз хвіліну выскоквае ў двор і сама Зойка — у белай касынцы па самыя бровы, маленькая, моцненькая, загарэлая, як не чорная, радасная, зніякавелая... Падбягае і прагна, дапытліва пазірае на яго, ашаломленая нечаканасцю. Следам, прывычна кульгаючы, выплывае і тоўстая Пятроўна.

— Што ж ты стаіш, дзеўка, чаму госця не запрашаеш у хату? — густым голасам трубіць яна і бязгучна смяецца. Смяецца ўвесь яе ласкавы маршчыністы твар, шчыра і зычліва, аж дрыжаць пакатыя плечы пад сіняй кофтай.— А мы ж толькі з поля. Толечкі абедаць пачалі... І не гадалі, што такі госць прыкоціць...

«Такі госць» з асалодай цешыцца ўвагай да сваёй асобы, першымі хвілінамі сустрэчы і не спяшаецца злазіць з матацыкла. І толькі калі Зойка, спахапіўшыся, кранае яго за руку, ён пакідае матацыкл ля веснічак, а сам паважна крочыць за ёй вузкай сцяжынкай паміж пышных кустоў вяргінь і флёксаў, на хаду прыдумвае і тлумачыць, чаму заехаў: кніг папрасіць на час водпуску...

— А ты... у водпуск? — ціха пытаецца, нібы не верыць, Зойка, і шэрыя яе вочы загадкава блішчаць пад густымі вейкамі.

— А то як? У нас такі парадак на заводзе: адпрацаваў сваё — гуляй. Я і тое вунь затрымаўся колькі з водпускам — майстар папрасіў... Ды і хлопцаў сваіх са зборачнага чакаў: разам дамовіліся адпачываць на Сажы... Яны ўжо там, у сасняку на кручы, палаткі ставяць. Ох, і заядлыя рыбаловы! Гэта ж прашу іх: заедзем да маіх бацькоў спачатку. Дзе там! Потым кажуць, перш-наперш — на раку... Ну, а я — да вас... Яшчэ паспею ў сваё Глыбокае.

І ўвесь гэты час, пакуль Пятроўна цырымонна, як ніколі раней, з падкрэсленай павагай усаджвае Аркадзя за круглы стол з вышываным абрусам, заклапочана мітусіцца, бегае ў сенцы за маласольнымі агуркамі і вяндлінай, ставіць на стол шклянкі і бутэльку гарэлкі і ні то жартаўліва, ні то сур'ёзна называе яго «зяцем», а за перагародкай стукае шуфлядкамі камода, шамаціць сукенкай, прыбіраецца ўсхваляваная Зойка, Аркадзь расказвае... З выглядам бывалага чалавека, з нейкай найгранай весялосцю «травіць» пра сяброў, пра тое, што за цудоўныя хлопцы з ім працуюць ды колькі праз свае рукі штодзённа трактароў прапускаюць, ды якія прэміі атрымліваюць... І — вартыя: вунь нават у той далёкай Індыі хваляць «Беларусь»!

Гэтак гаворыць і гаворыць, толькі б не маўчаць. Ніякавата маўчаць зараз яму, не з рукі: са сталіцы ж прыехаў... Ён бы і рады суняцца ўжо, сам заўважае — гаваркі празмерна, але прысутнасць у хаце Зойкі, яе наіўныя і мілыя пытанні так бударажаць і падахвочваюць, што словы зноў зрываюцца з вуснаў нястрымным патокам...

Але вось Зойка паказваецца ў новай беласнежнай сукенцы... І, зачараваны, Аркадзь ужо не можа прамовіць ніводнага слова. Зойка садзіцца за стол, насупраць, побач мосціцца Пятроўна, выціраючы аб фартух рукі, гасцінна запрашае закусіць з дарогі.

— Ты што больш любіш, Гаўрылавіч,— як між іншым, цікавіцца цётка і налівае ў стограмовыя шклянкі,— віно ці гарэлку?

— Ні то, ні другое,— смяецца Аркадзь.

Ды, напэўна, для Пятроўны гэтае кароткае прызнанне вельмі важнае, таму што яе круглы жаўтаваты твар робіцца яшчэ дабрэйшы і яна жвава падхоплівае:

— Вось і мой чалавек такім быў самастаяцельным...

Яму што ёсць гарэлка, што няма — усё роўна. Хай яе, гарэлкі гэтай! Але ж некалі і без чаркі не абысціся, во хоць бы як зараз... Будзьце здаровенькія, дзеткі, ды шчаслівыя... Выпі, выпі, зяцёк!

Зойка толькі прыгублівае, не п'е, але Аркадзь не можа адмовіцца: «зяцёк» жа... Дзіўна, цяпер гэты незвычайны зварот амаль не бянтэжыць яго, толькі хвалюе і гучыць, нібы нейкая чароўная музыка. Ён таропка нюхае чорны хлеб, закусвае агуркамі і здзіўляецца, як ужо свабодна і лёгка адчувае сябе ў жаночай кампаніі. Цётка таксама робіцца гаваркой. Яна падрабязна распытвае аб жыцці-быцці ў сталіцы, цікавіцца наконт кватэры... І Аркадзь, улавіўшы раптам у гэтых цётчыных пытаннях нешта большае, чым звычайную цікаўнасць да жыллёвай праблемы, нейкі надзвычай прыемны для сябе намёк, зноў горача распісвае, колькі будуецца ў горадзе дамоў, колькі наваселляў спраўляюць рабочыя...

Ён нават не заўважае, як неўзабаве некуды знікае Пятроўна і яны застаюцца з Зойкай зусім адны... З гэтай хвіліны час для іх бяжыць так хутка і непрыкметна, і рэдкія словы, і само маўчанне напаўняецца такім глыбокім сэнсам, зразумелым сваёй патаемнасцю толькі ім, дваім, што, пачуўшы на вуліцы шум трактара, з жалем пазіраюць у адчыненае акно: там ужо ў надвячоркавым прыцемку густа сінее неба...

— Чуеш, наш спявае,— чамусьці шэптам гаворыць Зойцы Аркадзь, хоць думае цяпер не аб гэтым запыленым працаўніку-трактару, а зусім аб іншым.

Уваходзіць Пятроўна. Весела пазірае на іх. Аркадзь ловіць гэты позірк і разумее яго па-свойму: трэба ехаць, гасціннасцю не злоўжываць. Развітацца і ехаць. Вунь як хутка цямнее... Ды і дарога ў бацькаву вёску хоць не дужа і далёкая, але праз лес. Уздыхнуўшы, ён неахвотна ўстае, просіць прабачэння ў Пятроўны, дзякуе за пачастунак, зноў просіць прабачэння...

— Золатца ты маё, ды за што просіш прабачэння, за што так дзякуеш? — усміхаецца Пятроўна.— Які такі пачастунак? Кінь, не смейся... Няма за што дзякаваць. А вось з хаты мы цябе не пусцім. І не думай! Куды ж на ноч гледзячы ехаць? Лепш пераначуй — хата вялікая...

Голас у жанчыны рашучы, і Аркадзь не ведае, што

яму рабіць. Ён бездапаможна топчацца на месцы, спрабуе пярэчыць ды ўжо адчувае, што гэтая яго празмерная ветлівасць тут зусім недарэчная, што і сам ён, урэшце, у душы даўно згодны з заманлівай цётчынай прапановай пераначаваць. Вось толькі як успрыме Зойка яго згоду, ці не раззлуецца?

Крадком ён пазірае на дзяўчыну і бянтэжыцца яшчэ больш: Зойка абыякава павярнулася да акна, нібы яе ніколькі не цікавіць размова...

— Як скажа Зойка, так і будзе,— раптам набіраецца смеласці Аркадзь.— Дазволіць — пераначую...

— А мы і пытацца ў яе не будзем,— жартаўліва перабівае Пятроўна.— Мы нават ложак у яе канхвіскуем — хай хоць раз з цёткай старой паспіць...

Пятроўна нырае за пераборку, дзе стаяць два ложкі, шумна возіцца там, чутно нават, як узбівае падушкі, потым вяртаецца і ласкава паведамляе:

— Ну, можаш, хлопец, класціся... На Зойчын ложак. А мы з ёй — удваіх...

Але Аркадзю не хочацца спаць, хоць і здарожыўся. Нейкае асаблівае пачуццё ўрачыстасці валодае ім. Ён не можа схаваць гэтага свайго настрою і радасны, узрушаны звяртаецца да Пятроўны:

— Цётка, можа, мы з Зойкай трохі яшчэ пасядзім на вуліцы?

— А чаму ж... Пасядзіце, дзеткі, пасядзіце. Толькі доўга не баўцеся.

Цёплая летняя ноч паволі абдымае вёску. Ціха, так ціха робіцца навокал, што чуваць нават лёгкі пошум маладога сасонніку за хатай. Мякка сінее над галавой неба. Аркадзь і Зойка ўзіраюцца ў яго і, зачараваныя, маўчаць.

...Зорная ноч.

Маладосць. Шчасце.

*1973*

# ЧАРНІЧКА

Алеська з выгляду вельмі дробненькая — нібы нейкая пяцікласніца, нібы зусім і не дарослы чалавек. Не адразу разбярэшся... На вуліцы, хто яе не ведае, так і клічуць: «Дзяўчынка!» А сяброўкі празвалі жартоўна — «чарнічка». Гэта ж у яе сінявата-чорныя валасы. І бровы такія, і вочы, і твар чарнявы, як у той паўднёвай жыхаркі. А родам жа дзяўчына з палескай вёскі. Можна было б назваць Алеську яшчэ і весялухай, бо заўсёды на яе ружовых вільготных вуснах блукала ўсмешка. Здаецца, прыкмеціла дзяўчо сабе нешта вясёлае і вось-вось не вытрымае, звонка, радасна засмяецца...

Яна і смяецца так шчыра. І не кожная сяброўка заўважыць, як часам недзе ў глыбіні яе жывых вачэй, пад густымі вейкамі, хаваецца і журбота, і незадаволенасць сабой. Вось як сёння. Раніца, а ва ўсім рабочым інтэрнаце нікога ўжо няма. Дзяўчаты, вольныя ад працы, разбегліся па вясновых вуліцах вялікага шумлівага горада. Пайшлі некуды і Вера з Зінай. Таропка збіраліся: вунь пакінулі на падаконніку ўсю сваю гаспадарку — флакончыкі з духамі, грабянцы, памаду, пакідалі на ложках плечыкі з-пад модных суконак. А вось Алеська ўсё сядзіць за гэтым сталом, бы прыкутая, абклалася кнігамі і піша колькі ўжо гадзін. Зусім як у Маякоўскага: «...а здесь — не знай ни зим, ни лет, сиди, рисуй плакаты...» Толькі ж не плакатамі займаецца, а курсавымі работамі. Завочніцы яны з Зінай: машынабудаўнікі... Ледзьве сваю закончыла, за Зініну курсавую ўзялася. Угаварыла памагчы, хітруха! Калі б прасіла Веру памагчы, тая, пэўна, адмовіла б. А вось у Алеські іншы характар. Шкадуе яна ўсіх. І Зіну шкадуе: каханне ў яе.

Можа, і не зусім пяшчотнае каханне, можа, памыляецца Алеська, але ж ходзіць хлопец, ходзіць гэты Андрэй да іх.

Ціхенька ўздыхае Алеська. Падабаецца і ёй Андрэй. Добры ён, зямляк Зінін: іх, казала, нават у камсамол разам прымалі. А цяпер вось служыць. Яфрэйтар ужо. Як толькі выхадны — у інтэрнат шыбуе. Праўда, іншых хлопцаў строгая вахцёрка цётка Клава не дужа пускае: нельга, і ўся тут размова. Пасадзіць у весты-

бюлі, чакайце. І тыя пакорліва чакаюць. Ды яшчэ лекцыю слухаюць, як паводзіць сябе ў жаночым інтэрнаце, як дзяўчат паважаць: нікуды не дзенешся. Добра, што хоць ганцоў на паверхі пасылае. Затое Андрэй нібы знайшоў патаемную сцяжынку да сэрца старой: ніколі не затрымлівае яго. А можа, разгадка тут простая: цётчын жа ўнук таксама ў арміі...

Зойдзе Андрэй да дзяўчат у пакой, прымосціцца ў кутку, пакладзе на калені свае вялікія рукі, прыжмурыць вочы і, сарамліва ўсміхаючыся, пазірае задаволена, як знарок сваволяць у яго прысутнасці дзяўчаты, моўчкі слухае, як насміхаюцца адна над адной. І невядома, колькі ён так моўчкі можа сядзець. Ды Зіна раптам спахопіцца: «Пайшлі ў кінатэатр!» — і тады Андрэй устане — такі высачэзны, пад самую столь!— акуратна зашпіліць свой шынель, уздыхне, спахмурнеўшы, нібы вельмі не хочацца пакідаць яму гэты куточак, і пачне развітвацца. Падыдзе да Веры і да яе, Алеські. І Алеська ўжо чамусьці не можа пазіраць Андрэю ў твар, схавае сваю далоньку ў яго гарачай руцэ і, схіліўшы галаву, толькі чуе Андрэеў мяккі ласкавы голас:

— Хочаш, я яшчэ адну табе цікавую кнігу прынясу... Прынесці?

Часам знікнуць Зіна з Андрэем, пойдзе Вера на трэніроўку ў Палац спорту, застанецца Алеська адна. І так зробіцца ёй крыўдна, і так пачне яна сябе шкадаваць і дакараць невядома за што, што нават слёзы пабягуць па шчоках. Не, ніколі не зайздросціць сяброўкам, ні ў чым не зайздросціць — няхай Веру, лепшую спартсменку цэха, паказваюць па тэлебачанні, няхай Андрэй захапляецца Зінай... Няхай! Яны — вясёлыя, прыгожыя, дасціпныя, а Алеська — так сабе. І ніхто ніколі, відаць, не зверне на яе ўвагі. Надумаецца гэтак, не вытрымае самоты, пабяжыць да цёткі Клавы пагутарыць. І пагутарыць, і выкладзе ёй свае ўсе сумненні, не схавае пачуццяў. І адразу адчуе палёгку ад паблажлівага сіпаватага смяшка жанчыны, якая ўсё разумее, усё на свеце ведае і супакоіць адным простым, але такім цудадзейным словам: мінецца...

Клапатліва паклаўшы сшытак з Зінінай курсавой у яе тумбачку, зірнуўшы ў акно на залітую сонцам вуліцу, Алеська і на гэты раз спяшаецца ўніз да цёткі Кла-

вы адвесці душу. «Маці,— скажа яна ёй, як звычайна,— маці, хачу нештачка табе сказаць...»

Адчуваючы лёгкую стому, паволі спускаецца Алеся па лесвіцы ўніз. І думкі яе круцяцца вакол сваіх вялікіх і маленькіх клопатаў: пра завод, пра сяброўак, пра пісьмо ад бацькоў, якое, магчыма, чакае яе ў агульнай паштовай скрынцы ў вестыбюлі.

Але, апынуўшыся ўнізе, Алеська раптам спыняецца ад нечаканасці. Нехта вельмі знаёмым голасам ветліва просіць дазволу прайсці ў іх пакой.

— Кажу табе яшчэ раз: Зіны няма, салдат, пайшла гуляць.

— Дык я не да яе, я ж да Алесі... разумееце?

Алеська бачыць з лесвічнай пляцоўкі, як цётка Клава здзіўлена падымае вочы на Андрэя, пазірае на яго руку, якая асцярожна трымае маленькі букет першых пралесак, і паступова з яе жоўтага, у зморшчынках твару сыходзіць выраз суровасці, і ён, хітраваты, робіцца надта добрым, лагодна-зычлівым.

— Ну, што з табой зробіш, салдат. Ідзі, ідзі ўжо...

Алеська не памятае, як узбягае на пяты паверх. Ускочыўшы ў пакой, кідаецца да люстра, нешта робіць са сваімі косамі, затым спяшаецца да стала, на якім раскіданы кнігі, грукае шуфлядкай шафы і — замірае... Так і стаіць, усхвалявана абхапіўшы рукамі свае гарачыя шчокі. І калі чуе за дзвярамі знаёмыя, нерашучыя крокі, у яе ўжо не стае сілы ісці насустрач госцю. Упершыню Алесі здаецца, што яна сапраўды малюсенькая-малюсенькая, як тая празяблая за ноч чарнічка ў вялікім лесе, якую вось-вось сагрэюць, прабіўшы густое лісце дрэў, цёплыя промні ранішняга сонца.

*1974*

# БОЛЬ

Некалі хлапчуком, няўрымслівы і цікаўны, я з пакутлівай настойлівасцю спрабаваў уявіць сабе смерць: клаўся на траву, моцна заплюшчваў вочы і, спішыўшыся, амаль не дыхаючы, заціснуўшы пальцамі вушы, лічыў ужо, што памёр. Гэты момант доўжыўся ўсяго нейкія хвіліны: я ляцеў у чорную бездань... Але самаадчуванне было такім жудасным, што ў тое ж імгненне я імкліва ўскокваў з зямлі і бег, бег куды вочы глядзяць, аж пакуль не спатыкаўся. Тады я спыняўся, няўцямна ўнурыўшыся на востры камень, які задзірліва блішчаў на сонцы, на збіты да крыві палец... І — дзіва! Замест таго каб плакаць ад болю, я пачынаў скакаць на адной назе, радасна круціў галавой ва ўсе бакі, бачыў белы ад квецені вішняк, бліскучую стужку ракі за выганам, блакіт майскага неба, прагна, на поўныя грудзі, хапаў духмянае паветра і, шчасліва смеючыся, крычаў:

— Я жывы, жывы, жывы! Ого-го-го...

Мабыць, больш востра, як тады, я ніколі не адчуваў гэтага брыдкага стану небыцця, хоць непазбежную, страшэнную сутнасць смерці спасціг толькі ў сталым узросце.

Памятаю кароткую, усяго ў тры словы, тэлеграму — яе прынеслі мне яшчэ ў студэнцкі інтэрнат: прыязджай, памёр бацька. Цяжка, немагчыма перадаць бясконцае шкадаванне і невыказную скруху, якія агарнулі мяне.

Потым, ужо дома, даведаўся: бацька ні на хвіліну не верыў, што памрэ. Змагаўся са смяртэльнай хваробай з апошніх сіл. І тады, калі хвароба ненадоўга адпускала яго, ледзь апрытомнеўшы, усміхаўся маці запалымі вачамі і гарачымі, сухімі вуснамі пераможна шаптаў:

«А я жывы... жывы-ы...»

*1980*

# КАЛІ ВЕРНЕЦЦА БАБУЛЯ

Сумна і аднастайна гудуць тэлеграфныя слупы. Дзяўчынка слухала-слухала і заснула на ўзбочыне дарогі, ля слупа, прыклаўшы вуха да шурпатага цёплага дрэва.

Тут і сустрэў яе гэты мужчына.

— Ты што тут робіш? — весела запытаў ён.

— Сяджу...

— І даўно сядзіш?

— Даўно.

— Каго-небудзь чакаеш?

— А ты... адкуль ведаеш?

— Ну, калі чалавек даўно сядзіць, значыць, чакае кагосьці...

Дзяўчынка падумала і згадзілася. Але тварык яе стаў сумны.

— Дык каго ж ты чакеш? — парушыў маўчанне мужчына.

Малая не спяшалася з адказам. Яна строга пазірала знізу на дарослага — на цёмны круг саламянага капелюша, пад якім хаваліся яго прыжмураныя вочы і тырчала маленькая смешная бародка. Схіліўшы да пляча кучаравую галоўку, яна нібы разважала: ці варта яму гаварыць?

— Я чакаю нашу бабулю,— нарэшце прагаварыла яна.— Толькі ты не кажы мамцы... Не скажаш?

Мужчына моўчкі кіўнуў.

— Не кажы мамцы. Яна не хоча, каб я хадзіла сустракаць бабулю...

Мужчына маўчаў.

— Мамка кажа — бабуля паехала ад нас далёка-далёка... Назусім. А я не веру...

Мужчына не сказаў ні слова, твар у яго стаў змрочны.

— Я так сумую па бабульцы. Я была ў гасцях у цёткі Кацярыны. Прыехала дамоў, а бабулі ўжо няма...

Мужчына апусціўся на траву побач з дзяўчынкай. Тэлеграфны слуп яшчэ мацней цягнуў сваю аднастайную журботную песню. І дзяўчынка паскардзілася:

— Кожны дзень прыходжу сустракаць, а бабулі ўсё няма... Калі ж яна прыедзе?

Мужчына маўчаў. Ён бачыў старую. Зусім нядаўна. З тыдзень назад. Калі праводзілі яе за сяло — у апошнюю дарогу. Ён бачыў старую, бачыў перад сабой вялікія тужлівыя вочы дзяўчынкі. Таму і не мог гаварыць.

— Яна яблыньку пасадзіла мне. Маленькую такую яблыньку...

Дзяўчынка паказала рукой, якую яблыньку пасадзіла бабуля. І мужчына раптам ажывіўся, загаварыў — жартаўліва, весела:

— Э-э, ды ты багаты чалавек! Бабуля падарыла табе такое цудоўнае дрэўца!

— Падарыла, а сама не едзе...

Мужчына задумаўся. Але толькі на нейкі момант. Не болей.

— Нічога. Яна яшчэ прыедзе да цябе, твая бабуля... Абавязкова прыедзе! І ведаеш калі?

— Калі? — з надзеяй спытала дзяўчынка.

Мужчына асцярожна ўзяў дзяўчынку за руку і ўжо зусім упэўнена сказаў:

— Хутка. Калі падрасце тваё дрэўца. Калі з'явяцца на ім новыя галінкі і першыя кветкі. Ведаеш, такія вялікія белыя кветкі. І ружовыя. Вельмі прыгожыя такія. Над імі будуць весела кружыць пчолы, цёплы вецер будзе ціха шапацець лісцем... І ў гэтым шапаценні ты пачуеш бабулін голас. Ты ўбачыш сярод лісточкаў яе добры твар, яе ласкавыя вочы...

Мужчына гаварыў з такім натхненнем, што дзяўчынка не магла адвесці ад яго сваіх даверлівых вачэй. Ён гаварыў і пазіраў туды, дзе заходзіла сонца, і, відаць, думаў пра сваіх блізкіх. Пра тых, каго ўжо даўно не было, але хто на ўсё жыццё застаўся ў яго памяці.

— Бабуля твая вернецца. Я ведаю.

Па дарозе прайшла машына, і чалавек на хвіліну замоўк. Потым спытаў:

— А табе хіба мама не сказала, што бабуля вернецца?

— Не,— прашаптала дзяўчынка.— Калі б яна мне сказала...

— Пачакай крыху, яна скажа абавязкова. Скажа,

што харошыя бабулі заўсёды вяртаюцца. Пачакай, хай толькі вырасце твая яблынька...

— Я хачу, каб яна хутчэй вырасла,— уздыхнула дзяўчынка.

— Вырасце! Толькі яе трэба паліваць. Вечарам. Вось такой парой, як зараз... Можа, пойдзем пальём?

— Пойдзем!

Дзяўчынка борздзенька падабрала з зямлі букецік палявых кветак, жвава ўстала. Мужчына ўзяў за руку яе, і яны пайшлі па дарозе — туды, дзе за сялом хавалася вялікае чырвонае сонца.

*1967*

# МАЦІ

У хаце было ціха. Ад лямпы з укручаным кнотам кругамі разыходзілася святло, і на сценах плямамі рухаліся мутныя цені. Аляксандра Пятроўна ляжала з расплюшчанымі вачамі, намагалася заснуць, але не магла. Натруджанае за дзень цела ныла, ламала ад раматусу ногі.

Цяжка вось гэтак, пад старасць гадоў, жыць адной... Дні цякуць аднастайна, доўгія ночы здаюцца цэлай вечнасцю. Недзе далёка, у горадзе, жыве дачка. Як хочацца хутчэй пабачыць яе, паняньчыць унукаў! Кожны прыезд дачкі быў для Аляксандры Пятроўны незвычайным шчасцем. Цэлыя дні яна забаўляла ўнучку, насіла па суседзях, і з яе старэчага худога твару не сыходзіла радасць. І хоць у кожным пісьме дачка з зяцем запрашалі прыехаць да іх жыць або хоць у госці, Аляксандра Пятроўна ўсё не згаджалася. У госці ехаць — гаспадарку няма на каго кінуць, ды і ехаць трэба недзе за свет. А на жыхарства... І адпісвала Аляксандра Пятроўна, што пачакае крыху, што хутка... сын павінен прыехаць, а з кім жа ёй жыць, як не з сынам?

Сын Алёша... Аляксандра Пятроўна кашлянула, павярнулася да акна. Позірк яе ўпаў на невялікую з мудрагелістымі ўзорамі этажэрку, стол з вытачанымі ножкамі. І ёй успомнілася, як кожны вечар Алёша прыходзіў з работы, увесь прапахлы дрэвам, вясёлы, са стружкамі ў чорнай капе валасоў. А ў нядзелю да Алёшы часцяком наведваўся майстар сталярнага цэха Іван Прохараў, пажылы, з доўгімі абвіслымі вусамі чалавек. Гаварылі аб розным: аб справах у цэху, аб палітыцы. Часцей за ўсё майстар расказваў, а Алёша слухаў — моўчкі, сур'ёзна. У такія хвіліны Аляксандра Пятроўна не зводзіла вачэй з сына, прагна ўглядалася ў яго твар, знаёмы і дарагі да самай маленькай рыскі. Пагутарыўшы, майстар уставаў, сурова, быццам папракаючы, звяртаўся да Аляксандры Пятроўны: «Вось што... Добры ў цябе сын, Аляксандра, добры... Сапраўдны чалавек з яго выйдзе».

Далёкі ўспамін абудзіў перапоўненае тугою сэрца, разварушыў уяўленні. Спаць Аляксандра Пятроўна не магла і ўсё думала, думала пра сына.

Па вуліцы прайшлі дзяўчаты. Галасістая песня доўга не змаўкала, па-маладому лілася, будзіла наваколле. «З кіно, мабыць»,— мільганула ў галаве Аляксандры Пятроўны. І ёй здалося, што зараз стукне брамка, дробна-дробна зазвініць пад Алёшавымі пальцамі шыба ў акне... Яна нават прыўзнялася, але кругом было ціха, толькі надакучліва папіскваў цвыркун ды недзе ў другім канцы сяла заходзіўся ад брэху сабака.

Цяжка... Аж трашчыць галава ад думак і ўсё — пра Алёшу. Цэлых тры гады чакала Аляксандра Пятроўна сына. Кожнае пісьмо ад яго ўваходзіла ў хату, як святло, і хата быццам рабілася прастарней. А калі доўга не было пісьмаў, Аляксандра Пятроўна ішла на пошту, дапытвалася: ці не прапала яно, ці не згубіў паштальён Мішка... Апошні тыдзень яна таксама нецярпліва чакала весткі ад сына. І вось сёння атрымала. Аляксандра Пятроўна кідае позірк на стол, вочы затрымліваюцца на разгорнутым аркушыку. Некалькі разоў перачытвала пісьмо і не ведала, як адказаць сыну. Так і лягла спаць з пакутлівым пытаннем: згадзіцца з ім ці запярэчыць...

Не хочацца верыць Аляксандры Пятроўне, што яшчэ доўга давядзецца жыць ёй без Алёшы, са сваімі бясконцымі трывогамі-думкамі аб сыне. А як бы добра было, калі б цяпер вярнуўся дахаты Алёша! Многія сябры яго папрыходзілі з арміі, жэняцца... Гэта ж толькі за два тыдні на сяле тры вяселлі згулялі! Жылі б і яны ўдваіх пакуль, а там... Сухія вусны Аляксандры Пятроўны ледзь-ледзь разыходзяцца ва ўсмешцы. Бачыць яна перад сабою смуглявы твар Марынкі, суседавай дачкі, побач — кірпаты нос Алёшы... Нездарма ж амаль кожны дзень заходзіць дзяўчына да Аляксандры Пятроўны, стараецца памагчы ёй па гаспадарцы... Заўважае часам Аляксандра Пятроўна ў вачах Марынкі такую засмучанасць, што хочацца прытуліць яе да сябе, прылашчыць, як роднае дзіця. Ды і хто не паважае Марынку на сяле — такая яна працавітая, прыгожая...

Рояцца думкі, знікаюць, і ўсплывае другое, сапраўднае. Хоча Аляксандра Пятроўна выкарыстаць сваё мацярынскае права і — не можа. Ёсць штосьці такое, што мацней за матчыны пачуцці, жаданні, штосьці больш важнае. Вочы Аляксандры Пятроўны нечака-

на цямнеюць, сціснутыя скiвiцы паглыбляюць i без таго глыбокiя ямкi на выцягнутых шчоках.

Скрыпнуў ложак. Аляксандра Пятроўна скiнула з сябе коўдру, паднялася. Падышла да стала, выкруцiла кнот. Начныя матылькi спалохана закружылiся ад яркага святла. Аляксандра Пятроўна села, нахiлiлася над пiсьмом. З хвiлiну, прыжмурыўшыся, яна шукала нейкiх радкоў. Калi знайшла, шэптам сама сабе пачала чытаць: «А цяпер парайце, мама, як мне быць. Не хачу адставаць ад таварышаў, ды i ў самога жаданне вялiкае... Як даведаўся я ад камандзiра, што прапаноўваюць ехаць дэмабiлiзаваным на новыя землi, дык адразу падумаў: паеду. Толькi вось засумаваў вельмi па вас, мама, ды i вы хутчэй прыязджаць просiце...»

Аляксандра Пятроўна адклала ўбок лiст, дрыготкiмi пальцамi выняла з канверта сынаву фотакартку. Глядзела доўга, быццам упершыню, глядзела, пакуль не ўздрыгнулi бровы i не заслала вочы туманам. Твар Алёшы напомнiў пра старэйшага сына, Васiля, якi загiнуў у час вайны на фронце. Мала жыў ён з маткай, здаецца, што толькi хлапчуком i запомнiла яго.

Баляць старыя раны, цяжка стрымаць слёзы. «I гэты ж такi самы... непаседлiвы»,— думае Аляксандра Пятроўна пра Алёшу, выцiраючы ражкамi хусткi вочы.

Але вось яна цяжка ўздыхнула i падсунула да сябе пачатае яшчэ днём пiсьмо сыну.

Шурпатыя патрэсканыя пальцы паволi выводзiлi словы — простыя, поўныя бязмежнага мацярынскага пачуцця. «Цяжка мне,— пiсала Аляксандра Пятроўна,— змiрыцца з тваiм жаданнем, сынок. Старая я, бог ведае, колькi мне жыць засталося... I чакала я цябе, Алёшка, чакала ўсю тваю службу. Ды толькi не магу пайсцi супроць сумлення: едзь, сыночак,— справа гэта вялiкая, дзяржаўная... Брат твой, Васiль, таксама на Амур ездзiў...»

Заснула Аляксандра Пятроўна пад самую ранiцу, i снiўся ёй добры, асветлены ўсмешкай твар сына. Бачыла Аляксандра Пятроўна яго на полi, сярод высокага каласiстага жыта, якое бясконцым морам бегла ўдалячынь... А першыя цiхiя праменнi мiтусiлiся па сценах i ласкава асвятлялi сiвыя валасы мацi.

*1956*

# СУСЕДЗІ

На вуліцы — мяцеліца. Круціць другі дзень. Снегам заляпіла ўсе вокны, праз шыбы ў хату, як праз ліст паперы, прасочваецца бела-малочнае святло, рэдкае і цьмянае. Рыпіць і грукае аб сцяну аканіца, што сарвалася з кручка,— ударыць, адскочыць і зноў калышацца, пакуль новы парыў ветру не шаргане ёю... Стары Ігнат моршчыцца ад кожнага ўдару яе. Шырокія плечы яго ўздрыгваюць пад лінялай гімнасцёркай. Але на двор ён не ідзе, а сядзіць моўчкі, панура схіліўшыся над жалезнай печкай.

У хаце прыцемак. Сценкі печкі чырванеюць, і на іх паверхні яркімі зорачкамі ўспыхваюць пылінкі. Са скуластага даўгаватага твару Ігната спаўзае шэрасць. Шчокі каля скроняў пачынаюць ледзь ружавець, а губы мякчэюць. Але вочы з-пад сівых густых броваў паранейшаму глядзяць сурова і пакутліва. Уся Ігнатава постаць — згорбленая, схіленая над печкай, як пытальнік: што рабіць?

— Ах ты, сук-кін сын,— сам сабе мармыча Ігнат.— Ах ты...

Раптам у сенцах нешта грукнула. Ігнат хутка ўстаў з бярозавага кругляка, прыслухаўся, і калі ў сенцах на хвіліну шум сціх, глуха спытаў:

— Хто там?

Нібы ў адказ, адразу ж бразнула клямка, дзверы рэзка расчыніліся. Каля парога заклубілася марознае паветра.

— Здароў, Ігнат...

На парозе сусед — Макар Стральцоў. Высокі, сутулы, ён закрывае сабой усе дзверы.

— Здароў, кажу, Ігнаце.

Ігнат моўчкі ківае галавой, моўчкі апускаецца на той жа бярозавы кругляк; гледзячы некуды ўбок, дастае кісет з тытунём, закурвае. Ён упэўнены: Макар зараз пачне гаварыць пра яго сына (уся вёска гаворыць!), з'едліва ўсміхнецца ў бараду і скажа: «Не журыся, куме. Не такое мы з табой у германскім палоне перажылі!..» Гэта — заўсёдныя яго словы, да кожнага выпадку. Скажа, адвернецца і ціха захіхікае. Затым і прыйшоў. Злая натура! Адпомсціць рашыў...

Пасварыліся яны летась. Ігнату тады адрэзалі дзве соткі ад Макаравага прысядзібнага ўчастка. Законна адрэзалі, лішнія яны ў суседа былі. Толькі з той пары ўсё здаецца Ігнату, што сусед на яго «зуб точыць», на людзях падчапіць заўсёды стараецца.

Але цяпер Макар Стральцоў чамусьці маўчыць. Са здзіўленнем узнімае на яго вочы Ігнат, гатовы на ўсё, падазрона глядзіць, як той, не спяшаючыся, скідвае вялікія зашмальцаваныя рукавіцы, здымае з галавы вушанку, падыходзіць да печкі і крэкча, працягнуўшы над ёй загрубелыя ў кузні рукі з растапыранымі, тоўстымі, як зуб'е ў баране, пальцамі. Вось ён ужо расшпіліў кажух і нахіліўся над печкай. Ігнат упершыню так блізка бачыць галаву суседа — лысую, з сівымі касмылямі на скронях.

— А ў цябе, брат, цёпла-а... Ладненькая печачка, грэе,— расцягваючы словы, гаворыць Макар Стральцоў і змаўкае.

Праходзіць яшчэ некалькі хвілін. Пра Ігнатавага сына — ні слова. І калі Ігнат не можа стрымацца ўжо, каб не паскардзіцца на сваё гора, з няшчыльна прычыненых дзвярэй суседняга пакоя даносіцца ціхі жаночы плач.

Макар збянтэжана азіраецца. Калі ж Ігнат, прычыніўшы дзверы ў пакой, асцярожна вяртаецца да печкі, Макар трывожным шэптам пытаецца:

— Яна... плача?

— Плача Анютка,— адказвае Ігнат.— Цяжарная яна, нельга ёй плакаць, а плача, убіваецца, бедная... Гора, Макар...

Пасля гэтых слоў уся напружанасць у размове і насцярожанасць знікаюць. Ігнат глядзіць на суседа і хмурыцца.

— Ты на мяне, браце, не крыўдуй,— гаворыць ён Макару.— Можа, я і вінаваты быў: крыху пагарачыўся тады... праз соткі. Але не пра гэта, суседзе, я хачу сказаць табе — Анютку шкада! Я ж яе, як дачку родную... палюбіў. І яна нас, старых, не крыўдзіла... А якая гаспадыня! Дай божа кожнаму такую нявестку. Дагледзіць, накорміць у час, чыстую кашулю да нядзелі прыгатуе. А мой сынок, бачыш...

Бледны твар Ігнатаў чырванее, стары задыхаецца ад абурэння, ад крыўды, ён забывае, што побач — Ма-

кар Стральцоў. Пачынае лаяць свайго сына за тое, што той кінуў цяжарную жанчыну...

А колькі радасці было, як сын жаніўся. Тры дні вяселле гулялі. Цяпер жа ўся вёска кпіць: «Вось дык сыночка Ігнат выгадаваў!.. Такую дзяўчыну пакрыўдзіў».

Баліць у Ігната сэрца, ные. Ён успамінае, як прасіў сына не пакідаць Анюткі. Успамінае, як не вытрымаў і кінуўся на сына з качаргой, а сын узяў яго за плечы, сціснуў, быццам жалезнымі абцугамі, і пасадзіў на ложак — абмяклага, прыніжанага, разбітага горам і крыўдай.

— Нявестка пакінуць мяне хоча. Кажа, да маткі пайду. А там ёй, што — лепш будзе? Ад гора не ўцячэш,— гаворыць Ігнат аслаблым голасам.— А як мне жыць? Адзін, як калок на гародзе, застануся... Вось парай, што рабіць?..

Пагас у печцы агонь. Бляшаныя сценкі астываюць, зноў робяцца бура-сінімі. Ігнат паднімае галаву, глядзіць на суседа. Макар шукае адказу. Раптам устае з табурэткі:

— А ты ў суд, у суд, кум, ідзі! Няхай за яго, за нягодніка, возьмуцца!

— Пайду, дальбог жа, пайду, — згаджаецца Ігнат.— Вось толькі апрануся цяплей.

Ён знімае з вешалкі кажух, старанна абмотвае шалікам шыю.

— І правільна робіш, кум,— сурова паўтарае Макар.— Правільна робіш... Там з ім пагавораць як трэба. Цацкацца не будуць, не-е...

Выйшаўшы з хаты, старыя спыняюцца ля варот.

— Дзякуй, сусед,— глуха гаворыць Ігнат.— Пайду. Толькі я не ў суд, да сына...

*1958*

# КРУПНІК

Ну і марозна на двары... Як тыя вуглы не трашчаць. На шыбінах — зеленаватая наледзь. Праз яе няроўныя заінелыя наплывы, блытаючыся дзівосна зіхатлівымі сонечнымі залацінкамі, прабіваецца ў хату святло. Дужа зімна. А ў хаце толькі-толькі прапалена, цёпленька. На сцяне з нейкім таямнічым шолахам цікае стары гадзіннік у паліраванай скрыначцы — неверагодна доўгі маятнік, аблуплены белы цыферблат... Да гэтага ўтульнага цікання прымешваецца нетаропкае шорганне падшытых валёнак бабулі Парассі. Маленькая, сухенькая, у чорнай целагрэйцы, тупае яна па рыпучай падлозе, акідвае заклапочаным позіркам то адну, то другую рэч няхітрага хатняга ўжытку. Там, глядзіш, адсталі, матляюцца ружовыя шпалеры, там вылез са сцяны цвічок, на якім вісіць рамка з фотакарткамі дзяцей. Спыніцца яна, маркотна ўздыхне — нікога ж ужо няма з ёю, і дачка ў горадзе, і сын — пастаіць, паправіць рамку, ідзе далей. Прабіраецца паміж этажэрак, тумбачак, ложкаў. А гэтыя ложкі — адзін ля аднаго, як на добрую сям'ю... Акуратна засланы байкавымі сінімі коўдрамі, бялеюць чысценькімі пухнатымі падушкамі. Бабуля Параска задумліва ўсміхаецца. І здаецца ў гэтую хвіліну, што на яе хударлявым, скуластым твары куды меней маршчынак. Яна ўсміхаецца і думае: добра ўсё ж, што ў яе кватаруюць хлапчукі з тэхнічнага вучылішча...

Спачатку, калі прасілі ўзяць іх на пастой, вагалася: каб не завельмі мітусні старому чалавеку. А цяпер вось задаволена. Весялей з імі, не так маркотна. І клопаты не вялікія. Гэта ж ім і ложкі тыя завезлі, і бялізну кожны тыдзень мяняюць. Не, хлопцы зусім някепскія. Вунь там, каля акна, Шурык спіць — ружовашчокі таўстунок з шэрымі бойкімі вачамі, кучаравы, прыгожы, усё жартуе ды на мандаліне трымкае. А побач — Мішкі-маўчуна ложак. Ён хоць і панурлівы, а добры сэрцам: прыйдзе з вучылішча — так і цікуе, каб памагчы ёй, старой, дроў насячэ, нават бульбы часам наабірае пам можа. Ну, а тых дваіх, што за печкай аблюбавалі сабе месца, Ваню і Васю, бабуля Парасся «кніжнікамі» называе: да раніцы чытаюць...

Прачнецца, раззлуецца на іх, цыкне нават, а яны — моляць: дазволь, бабуля, яшчэ пару старонак перагарнуць, самыя цікавыя засталіся. Угаворацць, махне рукой — чытайце. Што ім зробіш, жэўжыкам!

Цяпер вунь цэлымі днямі прападаюць, лазню будуюць. Практыка ў іх там нейкая, ці што. Кажуць: без абеда дамовіліся працаваць, каб час не марнаваць, каб у тэрмін усё закончыць. Хочам, кажуць, вам, бабулька, навагодні падарунак зрабіць: парылку padрыхтаваць... Гэта ж ёй, старой, тую парылку! Ай, жартаўнікі, ай, дзеці горкія...

І раптам бабуля Парасся насцярожана ўзнімае сваю маленькую сівую галаву з сабранымі ў тугі вузельчык-жмуток рэдкімі валасамі, пазірае на дзверы. У шчыліну сочыцца пара... Так бывае толькі ў моцны мароз. І вось ужо старой здаецца, што ўся хата напоўнілася гэтай сцюдзёнай парай, бязлітасным холадам, аж ногі закалола ў валёнках, аж дрыжыкі папаўзлі па спіне. Спалохана пляснуўшы рукамі, яна, узрушаная, толькі нейкі момант аб нечым засяроджана разважае. Потым кідаецца да печы, грымкае засланкай, дастае адтуль чыгунок з густым крупнікам. Абпальваючы рукі, хуценька загортвае яго суконкай, ставіць у кашолку і, апрануўшыся, выходзіць на вуліцу.

Калі столькі снегу было — не прыгадае нават бабуля Парасся. За якія два дні намяло вялізныя гурбы ўздоўж дарогі, па саменькі плот. Добра, трохі расчысцілі людзі. Але ўсё роўна цяжка ісці, грузнуць валёнкі.

— Куды ж гэта ты, цётка, у такую стынь? — аклікае сусед бабулю Парассю з двара.

— Ёсць куды, галубок, ёсць клопат,— папраўляючы пуховую хустку, бадзёра адказвае яна.— Во, да мужчынак сваіх кіруюся. Хіба ж ты не ведаеш, колькі ў мяне гэтых працаўнічкоў? Крупнічак ім нясу...

І, ужо забыўшыся на суседа, з хваляваннем уяўляе бабуля Парасся, як сустрэнуць яе на будоўлі, як будуць дзякаваць за гарачы крупнік хлапчукі... І нібы адразу сілы пабольшала ад гэтых думак. І здаецца старой, што яна не сунецца па вуліцы, а хутка, як не подбегам, крочыць наперад.

Сусед здзіўлена пазірае ёй услед.

*1973*

3*

# РАННЯЙ ВЯСНОЙ

З гадзіну мо і застаецца мне да начнога поезда... Сабраўся, стаю, апрануты, пазіраю на старыя ходзікі на сцяне: пакутліва цягнецца час... Нарэшце і гаспадыня выходзіць з-за дашчанай пераборкі спальні, уздыхае, засмучона ківае галавой:

— Ну, вось яшчэ адзін едзе... Не шанцуе мне з гэтымі кватарантамі, дый годзе: не затрымліваюцца! У іншых вунь і жэняцца, і дзяцей раджаюць...

Ціхі, дакорлівы голас самотнай Міканораўны, здаецца, гучыць далёка-далёка, як у сне.

— Прысядзьма перад дарогай — каб усё добра было на новым месцы...

Садзімся. Пажылая жанчына, склаўшы на каленях худыя рукі, усміхаецца, пазірае ў акно. Ці то ад вулічнага ліхтара на высокім слупе, ці то ад зіхатлівай поўні ў двары зусім светла. Далёка, наскрозь бачны голы сад... За ім — чорная купка хмызу, чыгунка. Дзіўны стан ахоплівае мяне — я ўвесь у палоне нейкіх яшчэ не ўсвядомленых пачуццяў страты, глыбокага шкадавання. Адкуль гэта шчымлівая туга? Што асабліва пакідаю я ў раённым гарадку?

Густая цішыня начнога дома чуйна ловіць гукі: соладка варочаецца за пераборкай унук Міканораўны; з мяккім шамаценнем падае з печы на падлогу вялікі сонны кот; надакучліва, кропля за кропляй, плёскае з рукамыйніка ў жалезны тазік вада...

— Ну, бывайце, Міканораўна,— кажу гаспадыні апошнія сардэчныя словы.— Дзякуй за ўсё вам...

А сам яшчэ добрую хвіліну баўлюся, не ўстаю з табурэткі — нібы прырос, нібы чагосьці чакаю. І прагна прыслухоўваюся, ды чую цяпер ужо толькі трывожнае тахканне ўласнага сэрца.

Нарэшце знаёма грукаюць за плячымі дзверы. Выходжу ў двор. Якая прыгажосць, якое хараство вясновай ночы! Лімонна-жоўтае святло шчодра залівае ўсё навокал, мякка падае на зямлю. У чорным праёме дзвярэй выразна бялее невысокая постаць Міканораўны. Затрымайся я на хвіліну яшчэ, і зычлівая гаспадыня не вытрымае, зноў пачне гаварыць мне ў дарогу

розныя спагадлівыя словы. Каб не чуць яе сумнага голасу, спяшаюся хутчэй выбрацца на вуліцу.

Ісці лёгка. Снег даўно сышоў, зямля адтала, але начны марозік добра прыхапіў яе зверху: звонка, як шкло, лопаюцца пад нагамі ў маўклівым бязлюддзі вуліц тонкія льдзінкі калюжын. І здаецца, менавіта гэтыя льдзінкі, гэтая сырая халодная зямля напаўняюць паветра незвычайным пахам вясны... Ціха. У дамах спяць. Спіць у празрыстым казачным святле гарадок. Магчыма, толькі я сваімі крокамі і парушаю яго цішыню. Вострае пачуццё самоты, таго незразумелага мне шкадавання не пакідае, усё мацней вярэдзіць сэрца. Няўжо вось так, са скрухай, усё жыццё давядзецца пакідаць розныя мясціны, як гэты першы ў маёй працоўнай біяграфіі гарадок?

І раптам узнікае да болю шчымлівае, неадольнае жаданне, каб хоць хто-небудзь застаўся ў маім сэрцы з усіх, каго тут ведаў, з кім гаварыў, смяяўся, сумаваў, каб і мяне, калі ўжо буду далёка адсюль, нехта помніў...

Захоплены гэтымі новымі, яшчэ не зусім яснымі для сябе пачуццямі я, уражаны, спыняюся ў двух кроках ад драўлянага моста, утрапёна слухаю, як трывожна шуміць, пульсуе пад ім талая вада, і нечакана, нібы звар'яцелы, зрываюся з месца. Амаль скочваюся з крутога схілу, бягу ўніз гразкім поплавам, паміж старымі пахілымі вербамі — туды, дзе ля самай рэчкі прыткнулася на грудку хатка з саламянай страхой. Адна думка, адно імкненне — убачыць яе, тую чарнявую маладзенькую настаўніцу, паспець сказаць ёй... Што — я і сам толкам не ведаю. Але калі дабягаю да хаціны, калі, кінуўшы ў рэдзенькі куст бэзу свой чамадан, стукаю ў шыбіну і бачу, як запальваецца святло ў яе пакоі, як паказваецца з-за белай фіранкі яе мілы спалоханы тварык, радаснае хваляванне перапаўняе мяне...

Потым мы стаім ля паркана, на ёй нейкая не па росту, надта доўгая, паддзёўка, белая пуховая хустка. Я сціскаю маленькія дзявочыя рукі ў сваіх, адчуваю іх цяпло і, невыказна шчаслівы, маўчу. І калі на развітанне яна ўжо сама даверліва туліцца да мяне, дакранаецца мяккімі губамі да маёй шчакі, нечаканая думка нібы абпальвае мяне:

«Божа, як жа раней не здагадаўся: я ж кахаю яе! Даўно, моцна кахаю... Куды еду? Навошта? Што раблю?!»

І ўжо ў цьмяным святле пустога халоднага вагона, уладкаваўшыся ля акна, прыгнечана сачу за змрочнай сцяной бясконцага лесу і пакутліва думаю, што ўжо ніколі не сустрэну такой цудоўнай дзяўчыны, як гэта: вось толькі прыеду на новае месца і адразу напішу ёй — пра ўсё, пра ўсё...

Дзіўна, але так і не напісаў ніводнага пісьма, хоць і цяпер трывожыць сэрца ўспамін: дастаткова прыплюшчыць вочы, і я выразна бачу перад сабой і зялёную месячную ноч, і тужлівы дзявочы твар, захутаны да самых вачэй у пуховую белую хустку...

*1978*

# ЖАНЧЫНА

Міша ўвайшоў у купэ і здзівіўся: да адыходу поезда ўсяго некалькі хвілін, а купэ — пустое. Ні аднаго чалавека. Вось дзіва! Ну, што ж, ён не скардзіцца на лёс. Праўда, сумнавата! Не прывык так. Прывык пастудэнцку — у кампаніі, шумна, з песнямі. Але ж усяму прыходзіць канец. Цяпер ён сапраўдны нафтавік і вяртаецца з першай саліднай камандзіроўкі.

Павесіўшы плашч, Міша наблізіўся да акна. На пероне ўжо заставаліся толькі тыя, хто праводзіў. Было холадна. Дзьмуў рэзкі асенні вецер, і людзі горбіліся, настаўлялі каўняры, хавалі рукі ў кішэнях паліто. Няяркае святло ліхтароў безнадзейна змагалася з вячэрнім змрокам. Але вось нібы ад холаду скалануўся вагон, яшчэ і яшчэ раз, і ціха рушыў уперад, пабег міма вакзала, пакгаузаў. Міша з палёгкай уздыхнуў і павярнуўся да люстра, каб прыгладзіць непакорную шчотку чупрыны. Ён ужо палез у кішэню за грабянцом, але так і не дастаў — па той бок нечакана тузанулі дзвярную ручку, нехта нешта сказаў, мабыць, праваднік, і дзверы мякка, амаль бясшумна адкаціліся ўлева.

— Можна?

Усё, на што быў здольны Міша ў гэты момант — нязграбна пасунуцца ўбок, даць праход жанчыне. Пад нагамі імкліва бегла зямля, поезд набіраў скорасць. «Ну, вось... ну, вось... ну, вось... — адразу ж насмешліва пачалі выстукваць колы на стыках рэек Мішавы думкі.— Ты і адзін...»

— Добры вечар.

Больш жанчына нічога не сказала. Паставіла невялікі чамадан і прысела за столік. Так сядзела яна доўга, не распранаючыся, задумліва пазірала ў цёмнае акно. І Міша, таксама прысеўшы, пазіраў моўчкі ў гэтае акно. Але ўпотай кідаў на жанчыну нясмелыя позіркі, разважаючы над становішчам, у якім апынуўся.

Яна была маладая, мажная. Пад чорнай з пупсікам шапачкай віселі колцы закручаных жоўтых валасоў, здавалася, яны ледзь-ледзь трымаліся на каўняры такога ж чорнага паліто — крані, і гэтыя колцы

скоцяцца ўніз. На яе паўнаватым белым твары тырчаў сімпатычны носік, а на століку ляжалі маленькія, нібы дзіцячыя, рукі.

Вось ужо неспадзяванка дык неспадзяванка. Ну, як ён тут будзе з гэтай жанчынай? Ехаць жа ўсю ноч. Няёмка. Вельмі няёмка. Ён — і жанчына. Неверагодна. Зусім адны. Адны ў купэ. Можа б, другі на яго месцы, напрыклад Генка Навіцкі, той, з пятага нафтаўчастка, ён не стаў бы асабліва хвалявацца. Язык добра падвешаны! І тэму б для размовы знайшоў, і пра нафту беларускую, і анекдоты расказаў бы салёненькія. Навіцкі з дзяўчатамі, як з ім, з Мішкам. А ты ж нават слова не праляпечаш. Спытай, спытай што-небудзь, а? Ну, куды яна едзе ці што іншае ў гэтым сэнсе.

— Вы... далёка едзеце? — нарэшце, чырванеючы, спытаў Міша.— Можа, да Гомеля?

Жанчына павярнула да яго задуменны твар і здзіўлена, нібы ўпершыню ўбачыла хлопца, павалі прамовіла:

— Не, я ў Харкаў... Да маці я...

Голас быў мяккі, пявучы, як у дзяўчынкі. І сказала яна ўсё так проста, даверліва, што калі б Міша спытаў у яе яшчэ нешта, яна абавязкова адказала б. Але Міша не знаходзіў патрэбных слоў, як ні намагаўся. Жанчына паднялася, павесіла паліто, зняла шапачку, прывычна адкінула назад галаву.

— У вас ёсць грабянец?

Міша хутка падаў грабянец. І пакуль спадарожніца расчэсвалася, ён, ужо не хаваючы зацікаўленасці, мімаволі пазіраў на яе зграбную постаць у светлай шэрай сукенцы, перахвачаную вузкім бліскучым паяском. Ён пазіраў і не мог адарваць позірку. Такога яшчэ з ім не было ніколі. Ён сябе апошнімі словамі лаяў, прымушаючы не пазіраць, але пазіраў. На прывабную постаць, шыю, ногі.

— Дзякую. Вазьміце грабянец.

Напэўна, яна заўважыла гэты яго позірк. Заўважыла, таму і ўсміхнулася. Крышачку, аднымі куточкамі губ. Але Міша прыкмеціў усмешку і адразу адчуў пякучы сорам. Ён не ўзяў, ён выхапіў грабянец з яе рукі і хутка выйшаў з купэ.

Насустрач па вузкім вагонным калідоры крочыў

праваднік. Міша яго спыніў. Міша стаў тлумачыць, чаго ён хоча. Там, у купэ, жанчына і ён... Няёмка. Не, не так яму, як жанчыне. Вось-вось, жанчыне... Але сярдзіты валасаты твар не разумеў Мішу. Ну і што? Што з таго? Што з таго, што ў купэ двое? Здараецца. Вось калі б жанчына сама прасілася ў другое купэ — тады зразумела... Але яна не просіцца. Ды і позна ўжо. Пасажыры ляглі адпачываць. Нельга турбаваць іх. Не дазваляецца турбаваць. Так што... Свінцовыя гарошынкі сонных вачэй недаўмявалі: дзівак! Не пасажыр, а дзівак.

Праваднік знік. Міша пахадзіў, пастаяў нерашуча ля акна, узіраючыся ў цёмную, як дзёгаць, ноч. Можа, там лес за акном, можа — поле. Не разбярэш. Хоць бы адзін агеньчык...

Толькі цяпер Міша адчуў, як холадна. Нават у гэтым пінжаку з тоўстай балгарскай шэрсці. Ён падумаў, што жанчына лягла і яму можна зайсці ў купэ.

Сапраўды, яна ўжо ляжала на ніжняй лаўцы, закруціўшыся ў нейкую белую коўдру. Гэта, бадай, была нават не коўдра, а капа — замест коўдры летам. Паверх капы з кароткіх рукавоў сукенкі тырчалі яе маленькія рукі.

Міша хутка паслаў пасцель і таксама юркнуў пад пакрывала. Святло ў купэ было выключана. Толькі ўверсе гарэў сіні плафон. І здавалася, што ўсё купэ напоўнена густым папяросным дымам. Дзіўна, але гэты таямнічы прыцемак не супакойваў, а трывожыў Мішу. І яшчэ холад. Белая прыгожая капа не грэла, а холад наступаў. Міша ніяк не мог заснуць, хоць і намагаўся. Думкі вярталі яго да жанчыны-спадарожніцы. Акрамя таго, што яна едзе да маці ў Харкаў, ён нічога пра яе не ведаў. Не паспеў даведацца. А можа, проста і не змог бы. Але ж спадарожніца стаяла ў яго перад вачамі і не знікала, як ён ні заплюшчваў свае вочы — да іскрынак, да зялёных плям.

Раптам ён ні з таго ні з сяго ўявіў сабе, што цалуе гэтую жанчыну. Як у тым учарашнім кінафільме. І яму зрабілася вельмі прыемна і страшна — аж мурашкі папаўзлі па спіне.

Вагон страсянула. Жанчына заварочалася. Міша насцярожыўся, прыслухаўся. І выразна пачуў усхліп.

Ад нечаканасці ён нават прыўзняўся. Чорт, ды яна ж плача! Ціха, у падушку. І таму ён адразу не пачуў. Але плач усё мацнеў. Міша адкінуў коўдру, разгублена сеў, выпрастаў доўгія ногі. Ён сядзеў і слухаў, як жанчына ўсхліпвае. Бездапаможна, баючыся варухнуцца. Чаго гэта яна? Што з ёй? Можа, хворая? Можа, у яе тэмпература? І ёй холадна?.. А поезд яшчэ не абаграваецца. Вядома, ёй холадна. Як гэта ён не мог раней здагадацца? Міша схапіў свой пінжак, устаў і нахіліўся над жанчынай. Накрываючы, ён незнарок дакрануўся да яе пляча і адчуў, як яно дрыжыць. Дробна-дробна, нібы ў ліхаманцы. Плечы дрыжалі і пасля таго, як Міша накрыў іх пінжаком. І тады, не раздумваючы, што рабіць, Міша падсеў да жанчыны.

Жанчына варухнулася. Але не павярнулася, засталася ляжаць ніцма. І плакала, толькі ўсё цішэй і цішэй. Потым Міша пачуў, як яна цяжка ўздыхнула. І яшчэ, і яшчэ.

— Ох, якая я няшчасная!

Жанчына сказала гэта шэптам і болей не плакала. Яна нават крышку павярнула галаву на падушцы, так, што можна было бачыць кончык яе мокрага носа.

— А да яго я больш не вярнуся. Ніколі, ніколі.

Міша маўчаў. Ён не мог варухнуцца. Ён толькі слухаў невясёлы блытаны расказ абражанай мужам жанчыны. Яна гаварыла і гаварыла. Тое, што назбіралася ў душы, відаць, за цэлы год, першы год сямейнага жыцця.

— Дома без работы сяджу днямі... Навошта ж я тады тэхнікум канчала, навошта? І ні ў кіно, ні ў тэатр... Хіба ў магазін толькі. А ўчора прыйшоў дамоў п'яны і...

Які страшэнны, грубы чалавек, гэты яе муж! Няўжо могуць быць такія? Пакрыўдзіць яе, маладзенькую, харошую, бездапаможную — проста вар'яцтва! Не, такіх злых людзей Міша яшчэ не сустракаў. І яму было шкада незнаёмку, хацелася суцешыць, сказаць ёй нешта вельмі пяшчотнае, добрае.

— Хай пажыве адзін... Не трэба мне яго кватэры! Нічога не трэба... Уладжуся дзе бухгалтарам, працаваць буду, не прападу.

Міша не заўважыў, як перастала яна дрыжаць, як змоўкла і, напэўна, заснула. А ён — спаў і не спаў.

Дзіўнае хваляванне ахапіла яго і не пакідала. І ён разумеў — віной таму жанчына. Яе дзіцячая даверлівасць. Яму здавалася, што ён цяпер можа зрабіць для яе — слабай, бездапаможнай жанчыны — усё на свеце! Пагаворыць са сваім начальнікам, уладкуе на работу, знойдзе кватэру. І яна забудзе пра тое кепскае недарэчнае жыццё, зноў будзе шчаслівай. І ніхто яе больш не пакрыўдзіць — ніхто! А да маці ёй ехаць не трэба.

Акенца ў купэ сінела. Стала шэрым — як звычайна на досвітку. Міша ціхенька ўстаў, асцярожна прыкрыў жанчыну зверху яшчэ сваім плашчом — хай спіць, уздзеў на босыя ногі туфлі і выйшаў з купэ. Перакурыць. Ён выняў з кішэні папяросы, пакруціў памяты пачак, ледзь адшукаў цэлую, раптам задумліва ўсміхнуўся. І гэтая шчаслівая ўсмешка доўга не сыходзіла з яго твару. Такога прыўзнятага настрою ў Мішы даўно не было. Ён курыў і не пераставаў думаць пра спадарожніцу. Але цяпер — без ранейшай баязлівасці, а з нейкай радаснай упэўненасцю ў сабе, у тое, што ён угаворыць яе сысці ў Гомелі, угаворыць пасяліцца ў яго горадзе, што ўсё будзе вельмі добра...

За акном замігалі пачарнелыя ад восеньскіх дажджоў будынкі невялікага пасёлка. Поезд збаўляў скорасць, ішоў цішэй. Хутка, значыць, станцыя. Вунь і заспаны праваднік паказаўся, дастаў сцяжок з брызентавага чахла, прыгатаваўся. Будзе стаянка. Цікава, колькі мінут? Спытаць, ці што. Колькі, пяць мінут? Ого, не вельмі многа, але дастаткова, каб збегаць у станцыённы буфет і купіць што-небудзь. Для яе, сваёй спадарожніцы.

— Убачок, убачок, малады чалавек. Пасажыры выходзіць будуць.

Міша саступіў убок. І не паверыў сваім вачам: з купэ выйшла яго спадарожніца. Апранутая, з чамаданчыкам. Ля Мішы яна нерашуча спынілася, сумна паглядзела на яго і вельмі проста сказала:

— Перадумала... Вяртаюся назад. А ты — добры. Дзякуй.

І — пацалавала. Мякка, у самыя губы. Зусім як маці. З хвіліну Міша разгублена глядзеў ёй услед. Потым ірвануўся за жанчынай, хацеў саскочыць на перон, дагнаць, нешта сказаць вельмі важнае. Але пасажыраў было многа, яны стоўпіліся ў вузкім праходзе, адцяснілі Мішу да сцяны. Постаць жанчыны мільганула ў разрэзе вагонных дзвярэй і — знікла.

Міша правёў пальцамі па вільготных губах і нібы зноўку адчуў той пацалунак — першы ў жыцці пацалунак.

І тут жа пачуў сярдзіты голас праваднікa:

— Малады чалавек! Не перашкаджайце пасажырам.

*1969*

# КАРНЕЙ

Карней выйшаў на лесвічную пляцоўку. Кружылася галава. Кружылася ад выпітага, ад вальса, ад Клаўкі!.. Ён і зараз яшчэ адчуваў яе мяккае цела, вострыя грудзі — у танцы яна так цесна прыціскалася да яго, гэтая Клаўка!

Самазадаволена ўсміхаючыся, ён паправіў накінуты на плечы сіні кіцель рачніка і стаў спускацца па лесвіцы. Прыступкі скакалі перад вачамі. Цэментовыя, вышчарбленыя па краях, яны зараз былі мяккімі, як вата. Карней паволі ставіў на прыступку нагу і чамусьці лічыў:

— Р-раз, два-а... Раз, два-а...

На першым паверсе спыніўся, прыслухаўся. Там, у Клаўкі, па-ранейшаму гучала музыка. Там быў Саўкін. І гэта была яго любімая пласцінка, якую ён прынёс з сабой.

— Олрайт! — выкрыкваў мужчынскі голас.

— Окэй! — уторыў яму жаночы.

Вось дык Саўкін! Вось дык механік... І дзе ён толькі такую пласцінку адкапаў? Дзе ён адкапаў гэтых дзяўчат?

Карнею ніколі так не было весела. І ўсё гэты Саўкін. Без яго нічога такога і не было б: ні музыкі, ні дзяўчат.

Карнею было што расказаць сваім равеснікам — тым, з іхняй вёскі. На вечарынку ён з'яўляўся расфранчаны, і яго адразу ж акружалі хлопцы. Яго, памочніка механіка цеплахода!

— Здароў, Карней!

І кожны імкнуўся сунуць сваю руку першы.

— Салют, пацаны,— вяла, нібы нехаця, адказваў Карней. І прапаноўваў: — Чыво талкацца тут? Выйдзем на вуліцу, азонам падыхаем, закурым...

Гаварыць ён стараўся прыгожа і ўжо толькі па-гарадскому. І выходзіла гэта ў яго смешна, таму што ўсё роўна вымаўляў ён словы так, як вымаўлялі іх у вёсцы — трохі працяжна, цвёрда, на свой лад.

Але хлопцы слухалі Карнея з вялікай цікавасцю — пра тое, як ён пасля палучкі сустрэўся з Нюськай —

буфетчыцай з рэстарана, колькі выпілі румынскага рому, як праводзіў...

— О-го-го-го-го! — дружна, як па камандзе, рагаталі хлопцы.— Ах, каб цябе... Ну і Карней!

Расказваючы, Карней, вядома, прыдумваў тое-сёе — так яно выходзіла цікавей. Але ў асноўным усё было праўда: жыў ён весела. А з'явіўся на цеплаход механік Саўкін — яшчэ весялей стала. У таго столькі было знаёмых дзяўчат...

Твар у Карнея быў нейкі мангольскі, з шырокім храшчаватым носам — не такі прыгожы, як у Саўкіна. Затое незалежны і гарачы позірк Карнеевых карых вачэй заўсёды бянтэжыў дзяўчат. Ды і ў плячах Карней быў моцны. І ростам — без малога два метры.

Не, сабой Карней быў задаволены! Прыйшоў з арміі — адразу ж уладкаваўся матросам на рэйсавы цеплаход Гомель — Кіеў. Праплаваў гады чатыры, падвучыўся і памочнікам механіка стаў. Жыў у інтэрнаце. Аб жаніцьбе неяк і не думаў — куды спяшацца?

Карней стаяў на лесвіцы і ўсміхаўся: зноў успомніў Клаўку, іх першае вясёлае знаёмства.

— Гэ-эй, каланча! Ты яшчэ доўга будзеш там прахалоджвацца?

Карней падняў галаву і ўбачыў у лесвічным пралёце маленькі, з кулачок, твар Саўкіна. Побач з Саўкіным, прыціснуўшыся да яго, стаяла Клаўка. Яна таксама нешта гаварыла, смяялася і паказвала на Карнея рукой.

— А ідзіце вы к чорту!

Карней нават сам не зразумеў, што яго раптам раззлавала: ці гэты п'яны голас Саўкіна і яго пагардлівае «каланча», ці тое, што побач з ім стаяла Клаўка.

— Ідзіце вы ўсе к чорту! — ужо зусім сярдзіта крыкнуў ён і, адштурхнуўшыся ад поручняў лесвіцы, не азіраючыся, выйшаў з пад'езда ў двор.

Тут было ціха. Сюды шум вуліцы амаль не даносіўся. Па-асенняму жоўтае лісце залацілася на сонцы, неяк ляніва варушылася і паволі шамацела — стомлена, тужліва.

Прысеўшы на лаўцы, Карней слухаў гэты шум, і твар яго мякчэў. Злосць прайшла, але стомленасць і адзінота адчуваліся мацней. Гэта з ім здаралася і ра-

ней: пустата і адзінота... Гэта было. Менавіта так, як зараз.

Каб пазбавіцца сумных думак, Карней стаў разглядаць двор. У левым кутку двара, пад нейкай дзіўнай паветкай, пенсіянеры «забівалі» казла. Маладая жанчына развешвала на валейбольнай пляцоўцы бялізну. Пасярод двара капаліся ў пяску дзеці. І з той жа незалежнасцю старая з прамой, як палка, спіной, высокая і хударлявая, каціла па алейцы насустрач Карнею блакітную дзіцячую каляску. Карней падумаў, што такія сухія жанчыны заўсёды злыя. Але гэтая жанчына здзівіла Карнея сваім добрым, зусім не строгім тварам. Сваёй ласкавай усмешкай. І голасам, мяккім, прыемным.

— Паранёк, што цябе папрашу... Паглядзі, мой даражэнькі, хлопчыка... Паглядзі, а я збегаю пліту выключу... Я хуценька!

— Ладна, ідзіце,— не зусім ахвотна кіўнуў галавой Карней.— Толькі ненадоўга. А то я пайду.

Старая падкаціла да самых Карнеевых ног каляску і, неяк смешна прысядаючы, подбегам рушыла ў пад'езд. Карней утаропіўся на дзіця. І трэба ж, вось з такога маленькага, чырвонага камячка павінен вырасці чалавек!

— Эх ты, недацёпа! — падміргнуў Карней хлопчыку.— Што маўчыш? Называецца — ча-ла-ве-ек...

Дзіця ляжала спакойна. Круглы поўны тварык яго паружавеў на паветры і быў ціхамірны, вочы нерухома глядзелі на Карнея. Толькі губы, прыхаваныя белым кружочкам пустышкі, хутка-хутка варушыліся.

— Ну і чалавечына, ссе сабе пустышку, і гора яму мала... Цябе ж, браце, ашукваюць! Эх, галава і два вухі — не разумееш? — спачувальна сказаў Карней.

Яму раптам захацелася па-сяброўску паляпаць гэтую неразумную істоту па плячы. Так вось проста, па сяброўску, як дарослага. Але дзе ў яго гэтае плячо? Захутала старая — толькі тварык і выглядае. Карней схіліўся над хлопчыкам і, працягнуўшы жылістую руку, асцярожна паправіў каля галавы мяккія складкі байкавай коўдры.

— Вось так, арол, лепш... Лепш? Ну, адказвай?

Дзіця раптам усміхнулася Карнею — пустышка з

белым кальцом адкацілася ўбок, пухлыя губкі ўздрыгнулі і прыадкрыліся.

— Ты што, а? Ты што? — здзівіўся Карней.

Ён не чакаў гэтай усмешкі ад хлопчыка. Ён упершыню бачыў яе так блізка — асаблівую, ні з чым не параўнальную ўсмешку дзіцяці, і яшчэ ніжэй схіліўся над каляскай.

Карней пазіраў на хлопчыка і адчуваў, як сэрца сціскаецца ад незнаёмай дагэтуль пяшчоты. Ён не заўважыў нават, як прыйшла старая. Яна падзякавала Карнею, сказала:

— Першы ён у мяне, унучак... Першанькі! Думала, не дачакаюся ўжо — гады ж ідуць! Ды вось бог даў, дачакалася гэтага сапліўчыка...

Старая схілілася над каляскай і са шчырасцю шчаслівай бабулі расказвала пра сына, з якім жыве, пра нявестку. І ўжо як добраму знаёмаму сунула Карнею патрымаць хлопчыка, каб знайсці ў калясцы пустышку.

Карней нерашуча, па-мужчынску няўмела ўзяў дзіця. Узіраючыся ў гарэзлівы твар хлопчыка, зноў раптам адчуў прыліў незнаёмай дагэтуль пяшчоты.

— Што, падабаецца? — спагадліва запытала Карнея старая, забіраючы дзіця.— Падабаецца, па вачах бачу... Нежанаты яшчэ? Вось і трэба жаніцца ды свайго такога мець!

Гэтыя звычайныя, але выказаныя менавіта цяпер словы жанчыны ўразілі Карнея сваёй прастатой і важнасцю. Старая пайшла далей па алейцы, коцячы перад сабой каляску, а ён стаяў і задумліва пазіраў ёй услед.

Праз некалькі хвілін Карней выходзіў на вуліцу — праз той жа пад'езд. Зноў там, наверсе, у Клаўкі, грымела музыка. Любімая Саўкіна пласцінка. Той жа мужчынскі голас выкрыкваў: «Олрайт!», і той жа жаночы пацвярджаў: «Окэй!» І цяпер Карнею здалося, што гэтыя чужыя рэзкія галасы належаць Саўкіну і Клаўцы. Ён не ўтрымаўся і вылаяўся. Але не злосліва, а з пагардлівай спакойнай усмешкай — як чалавек, які нечакана многае зразумеў, у якога наперадзе было ўжо нешта сваё, нешта харошае і радаснае.

*1968*

# НОЧЧУ

Яна расплюшчыла вочы і не адразу зразумела, што яе разбудзіла... Прыслухалася. Але ўсё было ціха. На століку, паблізу, цікаў будзільнік. Стары будзільнік, з вялікімі рымскімі лічбамі. Святло месяца рабіла пакой зялёным. І жоўты цыферблат таксама. Толькі стрэлкі выразна чарнелі супроць лічбы «адзін»... Гадзіна ночы! Яна ўздыхнула, павярнулася на другі бок. І тут убачыла, што яго няма побач, што адна палавінка дзвярэй у суседні пакой, дзе спяць дачка і ўнук, прыадчынена...

Яна паспешліва, з трывогаю ўстала з ложка, намацала нагамі шлёпанцы і, стараючыся не шумець, асцярожна прасунулася ў прыадчыненыя дзверы...

Тое, што яна ўбачыла, вельмі напалохала яе: схіліўшыся, ён стаяў, доўгі і страшны, над ложкам унука... Увесь нейкі зялёна-блакітны... Стаяў і нешта рабіў худымі даўжэзнымі рукамі. Яе спалохалі гэтыя рукі. Што ён робіць?! У сонная галаве мільганулі самыя неверагодныя думкі... Падаўшыся ўперад, яна ўжо збіралася крыкнуць. Так, каб разбудзіць усіх у хаце — дачку, унука... З гэтым дзікім крыкам яна гатова была кінуцца да яго і абараніць ні ў чым не вінаватае дзіця. Перад вачамі былі толькі рукі, знаёмыя і страшныя рукі...

Але яна не крыкнула... Жах у яе вачах раптам змяніўся здзіўленнем. Яна недаверліва глядзела на рукі. Глядзела і адчувала, як раўней б'ецца яе сэрца. Усё яшчэ насцярожана, яна сачыла за кожным іх рухам. А рукі — дрыжалі. Але ж жэсты былі мяккія, пяшчотныя. Доўгія і сухія, як сукі, пальцы бясшумна і ласкава папраўлялі дзіцячую коўдрачку... Яны толькі папраўлялі!

Маўклівая, яна стаяла ўсё там — ля дзвярэй. І ўжо з цікавасцю назірала за ім. Цяпер ёй было крыху сорамна за свой ранейшы жах. Ёй не верылася, казачнымі здаваліся і гэтыя рукі, і гэты незвычайна мяккі, палагаднелы твар старога, залітага цьмяным святлом...

Яна падумала, што век пражыла з ім і, магчыма, не зусім добра ведала яго характар. Часам і не ўгада-

еш, чаго ён хоча. Асабліва ўчора. Такі раз'юшаны ён яшчэ ніколі не быў. Дачкі, што прыехала з вячэрнім цягніком, не захацеў нават бачыць. «Хай пераначуе і выбіраецца! Хай жыве, як хоча!» — крычаў ён. Нібыта яна, нябога, у чым вінавата. Так здарылася... Нарадзіла ім унука. А хто яму бацькам даводзіцца — не кажа. Ёсць унук і няма зяця. Таго зяця, аб якім стары заўсёды марыў і гаварыў суседу, калі быў у добрым настроі:

— Кажаш, хату ладзіць трэба? Трэба... Трэба, браток, падрубы мяняць. Але я ўжо не здолею... Хай зяцёк ужо рамонты робіць, яму тут жыць!

І ёй стала шкада яго. Шкада ягоных дрыготкіх рук, шчаціністага твару, на якім, здавалася, блішчалі слёзы... Ёй самой хацелася плакаць. Але яна не заплакала. «Я зараз жа вярнуся ў спальню,— рашылася яна.— Так, каб ён не заўважыў. Нельга, каб ён заўважыў...»

І ўсё ж, калі ён праз некалькі хвілін увайшоў у спальню і стаў асцярожна ўкладвацца ў ложак, яна не вытрымала і спытала:

— Дзе гэта ты быў?

Ён рэзка павярнуўся да яе:

— А ты што... даўно не спіш?

— Ды не, я толькі прачнулася,— зманіла яна, каб яго супакоіць.— Нешта холадна...

— Гэта праўда, холадна,— трохі счакаўшы, сказаў ён.— Я выходзіў на двор — стынь, зямля ў інеі... Холадна.

— У нас яшчэ ў спальні тут нічога, а вось у суседнім пакоі...

Яна хацела дадаць — «дзе спіць дзіця», але не сказала, пабаялася.

І ўсё ж ёй здалося, што ён зразумеў яе.

— І там холадна і тут не горача, хата старая,ераканапачваць трэба,— ужо нейкім другім, трывожным голасам прагаварыў ён.— Ты спі, спі...

Нацягнуўшы коўдру да самых вачэй, яна зрабіла выгляд, што спіць. Старалася дыхаць спакойна і роўна. І хутка сапраўды задрамала. Ужо праз сон чула, як ён зноў устаў, як рыпнулі дзверы, як бразнула юшка ў коміне. Але цяпер яе гэтыя гукі чамусьці не трывожылі.

Раніцою яна ўстала, як заўсёды, недзе а пятай гадзіне. Але яго побач ужо не было. За сцяной, на дрывотні, чуваць былі ўдары сякеры... Яна здзівілася — што гэта ён там можа рабіць у такую рань?

І тут жа заспяшалася ў пакой да дачкі і ўнука.

Цёплая хваля паветра прыемна кранула яе заспаны твар, ледзь толькі яна адчыніла дзверы. Цяпло ішло ад грубкі. У ёй патрэсквалі дровы. Чырвоныя водбліскі мільгацелі на сцяне, на падлозе. Яна паспешліва падышла да грубкі і, нібы не верачы, прагна прыціснула свае шурпатыя далоні да гарачых цаглін...

Потым, радасна ўсміхаючыся, прыслухалася: у двары ўсё яшчэ раздаваліся глухія ўдары сякеры — ён калоў дровы.

*1960*

# АПЕЛЬСІНЧЫКІ

Было дзве гадзіны дня, Мікалай Пятровіч ішоў з жонкай у бальніцу да хворага. Ярка свяціла сонца, пад нагамі хлюпала снежная каша. Паветра было яшчэ халаднаватае, але ўжо з выразнымі пахамі нечага вясенняга. Дыхалася лёгка і радасна. Мікалай Пятровіч прыемна жмурыўся, ледзь усміхаўся, і думкі яго, што тыя вераб'і, весела пераскоквалі з аднаго на другое.

Верачка важна трымала Мікалая Пятровіча пад руку, ішла паволі, з пачуццём уласнай годнасці. Маленькі, хударлявы Мікалай Пятровіч бачыў толькі яе ружовы трайны падбародак ды пушысты каўнер выдры. Верачцы было цяжка ісці, гэта даўно заўважыў Мікалай Пятровіч і цяпер шкадаваў, што не выклікаў машыны.

— Вяруся, табе цяжка... Ты прабач мне, але трэба было б нам усё ж узяць легкавічок! Яшчэ... прастудзішся.

— Ну, мілок, не ўвесь жа час ездзіць... Не мяшчане мы якія-небудзь, і пяшэчкам можна. Паглядзі, як я цёпла апранута! І надвор'е добрае...

Сапраўды, не было нават маленькай шчылінкі ў вопратцы Верачкі — яна была яшчэ ва ўсім зімовым, як у лютаўскія маразы. Але Мікалай Пятровіч падазрона паківаў галавою. А яго заклапочаны, журботна-пяшчотны погляд, здавалася, гаварыў: «Як не турбавацца, ты ж у мяне адна, Верачка... Захварэць нядоўга!»

Чалавеку заўсёды хочацца думаць аб прыемным, хай нават гэтага прыемнага адна кропля. А ў Мікалая Пятровіча добрага было нямала: надзейная пасада, цудоўная кватэра, аклад, жонка... І цяпер думкі яго цалкам перанесліся да жонкі. Што ні кажы, а Верачка ў яго — малайчына! Вось пяць гадоў ужо душа ў душу жывуць. Ні адной сямейнай сваркі або яшчэ чаго-небудзь такога... «Ты, кажа, Коля, заўсёды мяне слухай, і ўсё будзе добра!» Разумніца! Вось і цяпер ідуць яны ў магазін, а там, нібы па дарозе, зойдуць праведаць дырэктара: захварэў ён, шосты дзень ляжыць у бальніцы... «Гэта табе патрэбны чалавек, Ко-

лечка. Да яго зайсці — абавязкова трэба. Апельсінчыкаў парачку аднясі... Разумееш?»

Што там гаварыць! Першыя гады сумеснага жыцця Мікалай Пятровіч не зусім разумеў жонку, а цяпер — зразумеў і ацаніў. Ды і хто не ацэніць? Спагадлівая жонка, разумнейшы друг — заўсёды падтрымка. А якая чалавечная, чулая! Жабрака не абыдзе, капейку дасць. А свае старыя сукенкі? Ды ўсе Ганне Міронаўне задарма аддае, хіба толькі часам тая бялізну памые... Добрая жонка! Не тое, што ў таварыша па службе, Андрыеўскага! Скандал за скандалам...

Мікалай Пятровіч ішоў і задуменна ўсміхаўся — ад паўнаты пачуццяў, ад асабістага шчасця, ад сваёй перавагі над гэтым самым Андрыеўскім. «Дурны ты, чалавеча! — кпіў з яго ў думках Мікалай Пятровіч.— Пярэчыць жонцы? Ды гэта ж... скарб для нашага брата: толькі прыслухоўвайся, што кажа...»

Але вось вялікі шэры будынак пошты стаў на рагу і засланіў сонца. У яго ценю адразу адчуўся непрыемны зімовы халадок. Верачка нават паскорыла хаду, але Мікалай Пятровіч нечакана спыніўся, нібы нешта ўспомніўшы.

— Вярусь, а можа, мы... зойдзем? Ну, на пяць хвілін, пашлём рублёў сто, га? — прагаварыў ён.

Верачка крута павярнулася да Мікалая Пятровіча. Яе твар у момант скрывіўся, быццам праглынула яна нешта вельмі горкае. У тую ж хвіліну тонка падведзеныя п'явачкі-броўкі рэзка падскочылі, і вялікія вочы злосна заблішчалі.

— Коля, я цябе не разумею: колькі пра гэта можна гаварыць? Куды ты спяшаешся? Вышлем, паспеецца... Не галодная ж твая маці там сядзіць! Вось... атрымаем... прэміяльныя, тады і пашлём... Нават хоць... дзве сотні, мне ўсё роўна!

Такі нездаволены выгляд і злосны голас заўсёды палохалі і псавалі настрой Мікалаю Пятровічу. Ён нават сам неяк непрыкметна пераняў у Верачкі гэты тон, і калі даводзілася прабіраць падначаленых або адмаўляць ім у чым-небудзь, гаварыў з імі іменна так:

— Колькі пра гэта можна гаварыць? Куды ты спяшаешся? Паспеецца. Вось выканаем план, тады...

Але цяпер Мікалай Пятровіч непрыемна паморшчыўся.

— Ды не, я нічога, я так сабе... Ты даруй, Вярусь, зноў праз мяне хвалюешся,— ціха прамармытаў ён.— Я думаў, што да зарплаты пачакаем купляць румынскі гарнітур. А наогул — ты правільна гаворыш.

Верачка толькі пагардліва зірнула на Мікалая Пятровіча і не сказала нічога. Але ў яе вялікіх вачах выразна свяцілася перавага дарослага над дзіцянём: «І колькі вучыць цябе! Эх, Коля...»

Зноў няспешна пайшлі па вуліцы... Невядома, ці ад таго, што Верачка не згадзілася зайсці на пошту, ці ад сваёй неабдуманай просьбы, але Мікалай Пятровіч ужо не адчуваў усёй чароўнасці сонечнага дня. Ён панура плёўся за жонкай, і яму здавалася, што цень ад будынка пошты паўзе ўслед за імі — сіні, змрочны... Ён нават адчуў на сваёй спіне лёгкі халадок і прыкра хмурыўся, намагаючыся рассеяць нядобры настрой. Але, як звычайна бывае, успаміналася і іншае, яшчэ больш непрыемнае.

Два тыдні таму назад Мікалай Пятровіч атрымаў з Глыбаўкі ад сястры ліст. Атрымліваў ён і раней іх, толькі гэты быў не такі: Соня прасіла хутчэй прыехаць дамоў, праведаць хворую маці, якая хоча яго бачыць... Спачатку Мікалай Пятровіч устрывожыўся, рашыў нават узяць на тыдзень адпачынак — усё ж не бачыў маці каля года! Сам дырэктар угаварыў яго паспяшацца. Толькі ж параіліся, прыкінулі назаўтра з Верачкай і вырашылі не ехаць пакуль што. «Старыя людзі ўсе хварэюць... Нічога тут страшнага. Настассі Фёдараўне яшчэ і шасцідзесяці няма! Мы, Колечка, ёй лепш грошай вышлем»,— рашыла жонка. Тады гэтым разумным рашэннем Мікалай Пятровіч быў вельмі заспакоены. Браць адпачынак за свой кошт — невялікая радасць! А маці — не такі ж яшчэ і стары чалавек... Гэта ж апошні раз, калі ён быў праездам у Глыбаўцы, нават песні з гасцямі спявала.

На момант Мікалай Пятровіч уявіў сабе кранутыя ўсмешкай твар маці, уважлівыя позіркі гасцей, і яму зрабілася не па сабе. Ды зрэшты прайшло паўмесяца, аб сястрыным лісце забыліся, а грошы... «Трэба было адразу выслаць,— думаў Мікалай Пятровіч, распырскваючы снежную кашу,— а то неяк нядобра выходзіць: не памагаю, не паехаў праведаць... Можа, там швагер жыве ў нястачы, вось і напісаў пра хваробу

маці знарок. Не вышлеш грошай, дык яшчэ скаргу дырэктару, чаго добрага, напішуць: не памагае маці...» Мікалай Пятровіч не паспеў падумаць, як быць далей, а Верачка ўжо жвава ўпіхвала яго ў мэблевы магазін.

Не болей як праз паўгадзіны яны выйшлі з магазіна. Твары ў іх былі задаволеныя, лагодныя. Мікалай Пятровіч быў задаволены перш за ўсё жонкай (гаспадарлівая, можа выбраць рэч!), гарнітурам. Жонка ўжо ўяўляла гарнітур у гасцінnай, бачыла суседку Ганну Міронаўну, як тая цмокае губамі каля пакупкі, і сэрца яе напаўнялася гонарам. Ганне Міронаўне не купіць такога. Дзе ёй, на восемдзесят рублёў у месяц. Не асабліва разгонішся...

— Ты малайчына, Верачка, чэснае слова! Густ у цябе! Густ...— не ўтрымаўся ад пахвалы Мікалай Пятровіч і, радасна паціраючы рукі, аж засмяяўся.— Ну, цяпер, значыць, у клініку!

Верачка кіўнула галавой, упершыню за ўсю дарогу ўсміхнулася: густ у яе ёсць... дзіва што!

— Вось я толькі наконт апельсінчыкаў,— няўпэўнена заўважыў Мікалай Пятровіч.— Мала іх... Можа, прыкупіць чаго-небудзь яшчэ? Піражнага ці гэтага... як яго... адным словам...

— Адным словам, мне абрыдла,— абарвала раззлаваная Верачка,— абрыдла твая балбатня. Ды ты ж да хворага ідзеш, хіба не разумееш? Яму і двух апельсінчыкаў... хопіць. Збыткаваць няма чаго тут. Яшчэ невядома, як у дырэктара са здароўем пойдзе.

«А і праўда, здароўе ў Ільі Ільіча і раней не надта што добрае было,— падумаў Мікалай Пятровіч.— Наўрад ці вернецца ён ужо да выканання сваіх службовых абавязкаў. Не вернецца?.. Ды гэта ж значыць...»

Мікалай Пятровіч ледзь не спыніўся ад уласнага адкрыцця. «Значыць, дырэктарам стане нехта другі! Але хто?»

— Коля, як ты думаеш, хто ў вас там мог бы... замяніць Ільлю Ільіча? — нібы ўгадваючы мужавы думкі, спытала Верачка.

— Не ведаю, Верачка, але...— і Мікалай Пятровіч пачаў ліхаманкава перабіраць супрацоўнікаў, быццам перад ім быў каталог асабовых спраў. У яго аж лоб успацеў ад напружання. «Аваднёў? Не, не падыдзе...

індывідуаліст! Пялёнкін, хіба ён? Але таксама... малады. А можа... Сукаваты?»

Ад густога паху, які звычайна ідзе ад лякарстваў, Мікалай Пятровіч гучна чхнуў. Падняў галаву і адразу заплюшчыў вочы: снежна-белая сцяна клінікі ярка ззяла на сонцы.

— Які мярзотны пах,— скрывілася Верачка.— Я... я так стамілася, прысесці б крышку дзе-небудзь.

— У двары, у двары, Верачка...

Свежавыфарбаваныя лаўкі ўжо былі расстаўлены ўздоўж вузкай бальнічнай алейкі. На адной з іх, каля ўвахода, і прыселі адпачыць Мікалай Пятровіч з жонкаю.

Адкінуўшыся на спінку лаўкі, Мікалай Пятровіч пацягнуўся, соладка, ва ўвесь рот пазяхнуў і... застыў. На яго акамянелым твары мільганула спярша здзіўленне, затым спалохана стуліўся рот, і разгублена заміргалі маленькія вочкі. Ён павярнуўся да жонкі, бязгучна паварушыў вуснамі, але тут жа хутка ўскочыў.

— Добры дзень, дзеткі...

Згорбленая бабулька ў паношанай ватоўцы, з маленькім жоўтым тварам стаяла за два крокі ад лаўкі і глядзела на Мікалая Пятровіча. За локаць яе асцярожна падтрымліваў рослы малады мужчына.

— Добры дзень, кажу... Не пазнаеш, сынок? — Голас старой быў хрыплы, цяжка перарываўся амаль праз кожнае слова.— А я вось... прыехала... з Васем, накіравалі ў бальніцу... Дзякуй богу, убачыліся... Хоць тут...

— Мама, ды як жа вы...

Мікалай Пятровіч хацеў пра нешта спытаць, але гаркаваты камяк падступіў раптам да горла. Ён не вытрымаў погляду старой, апусціў галаву. Потым рука яго неспакойна зашарыла ў кішэні пінжака, доўга там корпалася і нарэшце выцягнула новенькую старублёвую паперку.

— Вось, мама, грошы... Вазьміце,— прамармытаў ён.— Думаў паслаць, не паспеў, вазьміце...

Паперка трапятала на ветры і ледзь чутна шамацела. Нечым яна нагадвала сухі асенні ліст, які вось-вось адарвецца ад галінкі і ўпадзе пад ногі.

— Не трэба, Колечка, не трэба... мне грошай... Нічога... ужо не трэба.

Слабай, з сінімі пражылкамі ў пальцах рукой старая адвяла ад сябе працягнутую сынаву руку.

— Схавай, Коля,— нечакана ўмяшалася Верачка,— схавай. Гэта нават нетактоўна прапаноўваць грошы... Мы лепш купім фруктаў Настассі Фёдараўне, а пакуль — вось, апельсінчыкі... Бярыце, мама, бярыце. Вам патрэбны вітаміны.

Але старая ўсё гэтак жа нерухома і пільна глядзела на сына. Яна не помніла ўжо горкай і балючай матчынай крыўды. Толькі тонкія сіняватыя вусны ледзь чутна шапталі:

— Убачыліся, сынок... адзін ты... А я... ужо ўсё... Не акрыяю...

Верачка стаяла адвярнуўшыся, нервова пакусваючы напамаджаныя губы. Хаваў погляд Мікалай Пятровіч. Адны толькі цёмныя вочы швагра Васіля глядзелі гнеўна...

І ўжо даўно павёў швагер на прыём да ўрача растрывожаную сустрэчай старую, даўно зачыніліся за імі цёмныя масіўныя дзверы, а Мікалай Пятровіч усё стаяў, пануры, разгублены, з апушчанай галавой, і нібы чакаў, што вось-вось адчыняцца дзверы і зноў выйдзе маці — здаровая, з усмешкай, такая, якой помніў яе з дзяцінства...

*1962*

# НА БЮЛЕТЭНІ

Не люблю я хадзіць па розных паліклініках! Нават калі сур'ёзна хворы. А тут — усяго толькі кашаль... Глупства адно! Але жонка адправіла мяне ў паліклініку. Схадзіў. Ляжыць у маёй кішэні гэты бюлетэнь цяпер.

Званю на працу. Так і так, маўляў. Пасцельны рэжым прапісалі. Бюлетэньчык выдалі, што рабіць? Ну, што ж, адказваюць, ідзі і ляжы сабе на здароўе — якнебудзь і без цябе разбяромся... Без мяне? Не спадабаліся такія словы. Крыўдна.

Дома ж радуюцца, што на бальнічным. І жонка, і маці. Асабліва маці.

— Ну і паляжы, сынок. Не нудзіся. Не дзе-небудзь лячыцца будзеш, а дома. Пачакай, пасцялю пасцель зараз. Адпачнеш.

І ўздыхае:

— Божачка, як ты, сынок, мала дома бываеш...

— А я што, часцей? — не ўпускае моманту жонка.

Ёй усё здаецца, што маці да сына больш спагадлівая, чым да нявесткі. Можа, і яе праўда. Такія ўжо яны, гэтыя маткі. Але ці варта крыўдзіцца? Я ж яе, Люсю, так кахаю! Хутка чатыры гады, як пажаніліся, а ўсё адно без аднаго — ні кроку.

Вунь стаіць мая Люся ля акна, мокрыя чорныя валасы расчэсвае — на вуліцы дождж — і косіць вачамі на мяне, хворага. І я ўжо знаю, што зараз сказане ў мой адрас што-небудзь такое жартаўлівае, ад чаго ж сама першая пачне смяяцца, ды так шчыра, заразліва, што і я не ўтрымаюся і маці выйдзе з кухні, прыткнецца да сцяны і будзе ціха ўсміхацца харошай усмешкай дарослага: дзеці забаўляюцца.

Што ні кажы, а сімпатычная ў мяне жонка. Ростам невысокая, але ўся такая сонечная, вясёлая, моцненькая — як той жалудок. Такую доўга шукаў. А яе і шукаць не трэба было. Тут жа, побач, у дзіцячым садзе, медсястрой працавала. І колькі мы ўжо жывём, і колькі я ні гляджу на яе — усё мала. І яна прывыкла да гэтага позірку. Калі не адчувае яго — сама пытаецца:

— Ты чаго на мяне не глядзіш? Ці злуешся за што?

А блакітныя вочы тады ў яе такія здзіўленыя, як у нашай дачушкі, калі доўга не бяруць на рукі.

— Добрай ночы, дзеці.

Маці ідзе ў спальню. Там — дачка Таня. Ёй час пакласціся. Чутно, як шчоўкае выключацель. І маці пачынае пець калыханку, тую, што калісь спявала сястры, брату, мне:

— ...Толькі дзіцятка не спіць, не спіць, не гуляе.

Ох, Таня, ох, дачушка! Яе неспакойнае «ду-ду-ду» яшчэ доўга чуваць за дзвярыма.

А жонка, стаміўшыся за дзень, ужо спіць. Спіць, падклаўшы пад шчаку кнігу. Так яна заўсёды — засынае толькі з кнігай. Ну, хай адпачывае. Выключаю святло. Але Люсю бачу выразна — за акном палаюць агні электразваркі. Будуюць новы дом. І ў гэтых блакітна-зялёных водбісках маланкі Люсін твар робіцца нейкім казачным, яшчэ прыгажэйшым. Я магу ўстаць з ложка, падысці да акна. Люся не прачнецца. Спіць моцна, як тая царэўна з казкі...

Прыходзіць ноч, цішыня. У шэрым змроку губляюцца контуры хатніх рэчаў. Я ляжу з адкрытымі вачамі і не магу заснуць. Мрояцца думкі, цякуць смалянным раўчуком. І ніяк ад іх не пазбавіцца — напаўзае адно на другое, самае звычайнае, самае простае, думанае-перадуманае. І як калісь у дзяцінстве, позірк ловіць таямнічыя цені на сцяне, у дальнім кутку пакоя. Напэўна, я на самай справе крышку прыхварнуў. І хочацца, каб хутчэй мінула ноч, якую я ніколі не любіў, каб хутчэй разбудзіў мяне першы зыркі сонечны промень.

Але прачынаюся я ад яе позірку. Люся стаіць над ложкам апранутая ўжо і ласкава ўсміхаецца.

— Ну, як адчуваеш сябе? Ляжы і выздараўлівай.

Я ведаю, што яна скажа перш за ўсё гэтыя словы, што зараз пойдзе і цэлы дзень будзе заклапочана думаць пра маю маленькую, недарэчную хваробу, пра мяне самога. І, жмурачыся ад яркага святла таршэра, я лаўлю яе развітальны пацалунак — такі пяшчотны і гарачы...

Шчоўкнулі замком дзверы. Я застаюся адзін. Ма-

ці з Таняй спяць яшчэ. А я — ляжу, думаю. Назіраю ў шырокае балконнае акно, як асцярожна плавае пражэктар крана. Ён нібы намацвае нешта на зямлі. Сноп святла разразае прыцемкі, коса паўзе над будоўляй.

На дварэ ўжо развіднела. Толькі шэры ліпкі туман ліжа мокрыя сцены будынкаў. Не люблю я гарадскі туман. Нядобры ён, прастудны. Гэта не той, знаёмы з вясковага дзяцінства, малочна-белы туман над поплавам. Здаецца, што ён нават пахне сырадоем. Крочыш босы па расістай, выскубленай гусямі траве — не трава, а нібы пух перад табою: мяккі, лёганькі, дзьмухні — і паднімецца ён угору.

Той туман — як успаміны, а гэты...

Добра, што мяне ад яго надзейна засцерагаюць жалезабетонныя сцены будынка. У пакоі — суха, цёпла. І цяпло ідзе не толькі ад батарэй. Саграває хатняя ўтульнасць, звычайныя хатнія рэчы: стол, крэсла, шафа і — пах. У кожнай кватэры свой пах. У адной пахне вугалькам, бо гаспадар працуе машыністам паравоза, у другой — смалістай сасной ад вопраткі сына — сталяра. А ў нас усталяваўся цудоўны пах перасушанага сена: відаць, ад таго раскошнага сенніка, на якім спіць маці.

Хітры народ, гэтыя ўрачы! Ведаюць, што лечыць чалавека не столькі ложак, колькі хатняе цяпло і — пах. У мяне ўжо і той тэмпературы, здаецца, няма. Магу ўстаць. Шкада толькі пакідаць на ложку памяць Люсі — цёплую ўмяціну ад яе цела. Так мала мы бываем разам! Я дома — яна на працы, я на працы — яна дома. Застаецца толькі ноч. Ноч, якую я не вельмі люблю, якая спяшаецца надысці і праходзіць вельмі хутка.

А дом прачнуўся ўжо.

— Тук-тук-тук... Тук-тук-тук...

Зусім, як у лесе дзяцел. Нехта над ложкам, напэўна, дыван вешае і забівае цвікі. Я нават магу назваць хто — цырульнік Абрам Беленькі з 29-й кватэры.

— Тук-тук-тук...

І вось ужо да гэтага надакучлівага «тук-тук» далучаецца роў страшэннага звера: ву-у-у! Тыгр, леў, гіена? Ды не, стары патрыманы «Масквіч» падае голас са двара. Завядзецца, параве крышку, чыхне і глухне. З хвіліну ціха. Але потым на дварэ пачынаюць спрачацца. Карацей, яна злуецца, крычыць, а ён спрабуе

пратэставаць, пярэчыць. І калі падыдзеш да акна і зірнеш,— убачыш знаёмую карціну: перасварыўшыся з-за сапсаванай машыны, муж і жонка Мушкевічы дружна бягуць на тралейбусны прыпынак...

Таня прачнулася. Яна сама адчыняе дзверы і бяжыць да мяне ў доўгай белай кашульцы, смешна пераварваючыся на кароткіх, тоўсценькіх ножках.

— Та-та... та-та!

Здаецца, там, на двары, яшчэ вісіць шэры брыдкі туман? Ды чорт з ім, з гэтым туманам, калі ў хаце ёсць такое сонейка — маленькі вясёлы камячок.

Ах, хлопцы, хлопцы, старыя, даўгавухія халасцякі! Нічагусенькі ж вы не разумееце ў жыцці! Нічога!..

Ну, вось, прыціснулася да грудзей, верабейка, і цягнецца да кніжнай паліцы, давай ёй кнігі, вунь той зялёны томік. І хто цябе, дачушка, навучыў вымаўляць першае «мама», «баба»... Увесь бы дзень толькі і быў бы з табой, слухаў, як ты вымаўляеш кожнае новае слоўца.

Звоняць. Маці спяшаецца адчыніць дзверы. Суседка.

— Праходзьце, праходзьце, Антаніна Казіміраўна. Сюды, у кухню.

І ўжо ў кухні я чую іх таямнічы заклапочаны шэпт. Так аб сакрэтах могуць размаўляць толькі жанчыны: горача, узрушана, шчыра.

Шамаціць папера.

— Чытай, чытай, што твая дзеўка піша...

Антаніна Казіміраўна гучна шморгае носам, плача. І не магу я скеміць, які ў яе плач,— і жаль у ім, і смутак, і шчаслівыя ноткі.

— ...Так што, мамачка, вырашылі мы з Сямёнам пажаніцца,— чытае суседка дрыготкім голасам.— І ты болей мяне не адгаворвай, не паслухаюся: люблю я... Сямёна....

Відаць, далей суседка ўжо не можа чытаць з-за слёз, ды і не патрэбна яно болей — усё зразумела. З хвіліну ў кухні маўчаць, уздыхаюць. Але потым зноў чуваць ціхія галасы:

— Што рабіць мне, парай? Ёй жа семнаццаць гадочкаў усяго... Во ж толькі-толькі стукнула!

— Цяжка, галубачка, і раіць тут нешта,— разважліва гаворыць маці.— Але калі б здарылася ў мяне та-

кое — паехала б туды, паглядзела б, што там за каханне ў іх, што за жаніх. Каб сур'ёзна ўсё, каб без глупства етага... Нам памагаць ім трэба, Казіміраўна. Не паможам мы — хто паможа?

— Твая праўда. Паеду...

— Едзь, едзь, Казіміраўна. Разбярыся, што і як. I хай усё добра будзе. А што дзеўка твая маладая такая — дык і мы ж, мабыць, не ў трыццаць замуж выходзілі...

Маці доўга яшчэ корпаецца, грыміць посудам, уздыхае: перажывае, трывожыцца за чужое, як за сваё. Потым прыносіць мне гарачае малако і з жартаўлівай настойлівасцю прымушае выпіць і легчы ў ложак.

Але такі ўжо, напэўна, сёння дзень у нас людны: не паспела выйсці суседка, а я — выпіць шклянку малака, як за дзвярыма зноў званок і густы, моцны бас інваліда Гарбачука з нашага пад'езда:

— Гэй, хто жывы, адгукніцеся!

Ён увальваецца ў расхрыстаным паліто, з ускудлачанаю сівой чупрынай пад кубанкай. Стаіць, трымаецца за касяк, цяжка дыхае.

— Ну, дзякуй богу, хоць адзін мужчына ў хаце... А то ж да каго ні пайду — на рабоце! I выпіць няма з кім.

Толькі бачу — Гарбачук ужо выпіў. Добранька выпіў. Твар наліўся густой чырванню, у вачах — неспакойны бляск хмелю. Ён прагна аблізвае асмяглыя патрэсканыя губы і, прыжмурыўшыся, пільна пазірае на мяне. Потым кідае на стол кубанку, ставіць пачатую паўлітэрку і не садзіцца — свінцова падае на крэсла.

— Ты... на вайне быў, браток? — хмура пытаецца ён у мяне.— Быў ці не? Ет-то... ет-то...

Гарбачук моцна сціскае валасаты кулак левай уцалелай рукі, трасе ім над галавой, моршчыць лоб, але патрэбнага слова так і не знаходзіць. I тады яго кулак паволі апускаецца на стол, і ён ужо цішэй гаворыць:

— Карацей, давай вып'ем...

Маці моўчкі прыносіць закуску, ставіць шклянкі. I на маршчыністым твары яе — ні кроплі асуджэння, хоць добра ведаю: п'яных не хваліць. Гарбачука яна шкадуе.

Бачыў я пасля вайны розных інвалідаў. I тых, што тапілі гора ў віне, а потым, бязногія, сядзелі на рагу

людных вуліц з апушчанай галавой і, рыпаючы на трафейным акардыёне, панура пазіралі, як падаюць медзякі ў пілотку... Другія — пелі. Нешта такое жаласнае пра смяртэльна раненага рускага салдата, аж сэрца разрывалася... І жанчыны плакалі. Плакалі аб сваіх немаведама дзе забітых і пахаваных. І, здаралася, забіралі калек да сябе, абмывалі, саграваді, памагалі перасіліць гора.

Яшчэ балелі прастрэленыя ногі Гарбачука, яшчэ не мог ён рухацца без мыліцы, калі сустрэлася яму такая вось гаротная ўдава. Знайшоў прытулак ён у салдаткі, кінуў піць. Ачалавечыўся, набіў руку на шавецкім рамястве. І ўсё ж, калі находзіла на яго, ён напіваўся да ачмурэння. І ўсім расказваў, бясконца расказваў пра вайну, пра тое, як накрылі іх разведгрупу фрыцы і як загінуў адчаюга Пашка Новікаў.

— Ну, дык слухай,— хрумстае агурком Гарбачук.— Слухай, што з Пашкам было... Мне тады толькі ногі, а яму...

Гарбачук гаворыць горача, усхвалявана размахвае рукой і, калі даходзіць да месца, дзе амаль усю іх групу скасілі кулямётным агнём з будынка школы, і як паміраў у яго на руках Пашка-камандзір,— не вытрымлівае: з шумам уцягвае ў сябе паветра і моцна прыціскае далонь да мокрых вачэй.

Так сядзіць ён доўга. Потым устае, хістаючыся, ідзе калідорчыкам да дзвярэй. Я спяшаюся за ім, памагаю выйсці на лесвічную пляцоўку.

Вяртаюся назад, а маці, адвярнуўшыся да акна, выцірае вочы: напомніў Гарбачук ёй пра бацьку. І хочацца мне неяк супакоіць яе і сказаць нешта цёплае-цёплае. Але кажу я самыя звычайныя словы: «Не трэба, мама, не трэба...» Бацька ж быў вясёлым. Я памятаю. Успомні і ты. Успомні, як заскочыў ён да нас, калі вызвалялі горад,— здаравенны салдат у белым, перапяразаным рамянямі кажушку, і вочы радасныя гарэлі, іскрыліся пад шапкай-вушанкай... Успомні, маці, яго такім!

— Ба-ба!

І вось ужо святлее твар у маці, яна туліць, цалуе ўнучку, а тая тоненька, залівіста смяецца.

Я адчыняю фортку: хвораму не шкодзіць свежае паветра. Прыслухоўваюся: вельмі ўжо цікавая размо-

ва ў двары: лаюць нейкага Веньку за нейкага Жэньку.

Не, лепш адысці ад акна. Холадна і сыра. Здаецца, нават праз гэты вячэрні змрок я бачу космы шэрага туману. Хутчэй бы ўжо зіма, марозец! Такі, не вельмі сярдзіты, проста, каб крышачку хапаў за вушы, нос, шчокі, калі раніцою ідзеш на працу. Удыхнеш паветра — п'янееш адразу. І дыхаеш глыбей, і адчуваеш столькі бадзёрасці, такую свежасць, як пасля купання ўлетку.

— Ай-яй-яй! Ну, як цябе не лаяць, не сварыцца — стаіць ля акна ды яшчэ фортку адчыніў! — злуецца маці.— А ну, марш на ложак! Вось прыйдзе Люся, я ёй усё раскажу.

Мне смешна ад матчынай пагрозы. Люсяй палохае. Ды гэтае дзяўчо проста не ведае, як лаяць-прабіраць. Можа, калі-небудзь навучыцца — усе жанчыны гэта робяць адменна! Але пакуль я, відаць, шчаслівы чалавек.

А ёй, Люсі, час ужо быць і дома. Сёння яна, праўда, у дзве змены. Падмяняе сваю напарніцу — адпускніцу. Але ж усё роўна павінна вось-вось прыйсці. Здаецца, спыніўся ля дома тралейбус?.. Чутно, як рэзка, з форсам затармазіў вадзіцель. Напэўна, за рулём яшчэ зусім зялёнае хлапчанё. Цяпер гэтая прафесія ў нашым горадзе, ой, якая модная! Павучыўся трохі, пашкалярыў на курсах — і, калі ласка, маеш кавалак хлеба. У сухім сабе, у цёплым. Ганяй па вуліцах прыгожы фургон, аніякіх клопатаў.

У пад'ездзе грымнулі дзверы. Дробна-дробна застукалі абцасы на лесвіцы. Нібы лёганька малаточкам нехта б'е... Ага, гэта яе почырк, Люсін. Так спяшаецца дамоў у нашым пад'ездзе толькі яна. Вось ужо шчоўкае замок, загараецца ў калідоры святло, шамаціць вопратка. Хвіліна — і жвава ўваходзіць жонка. У руках — дзве бляшанкі.

— Лякарства! — хутка гаворыць яна, і твар у яе робіцца важны-важны, як у прафесара якога.— Нашы мне параілі. Згушчонае малако і мёд. Ад любой прастуды... Вельмі карысна, разумееш?

Ды разумею, разумею. Толькі хіба справа ў тым малацэ? Радуе іншае. Значыць яна, Люся, пра мяне і там, на працы, думала. Ах, чорт, як прыемна, калі пра цябе думаюць і клапоцяцца.

Люся бяжыць у спальню, дзе маці закалыхвае Таню.

Вяртаючыся, кранае мяне за плячо.

— Ну дык як, хворы?.. Паслухай, што было сёння. У маёй групе ёсць цікавы хлапчук, Ігарок. Ты яго, можа, бачыў?.. Акуратненькі такі, з шэрымі задумлівымі вачанятамі... Дык ведаеш, што ён мне сказаў?

Ну, цяпер да самага сну будзе мне з захапленнем расказваць пра сваіх карапузаў забаўныя рэчы. Накшталт гэтага Ігарка, які ўвесь дзень інтрыгаваў яе расказам пра «дамашні ранішнік».

— Так і кажа: у нас дома будзе хутка ранішнік. Што за ранішнік — ніяк не ўцямлю. Прыходзіць надвячоркам маці. Пытаюся. Смяецца: родную сястру, кажа, замуж выдаю... Праўляем вяселле.

Калі кладуся спаць і нарэшце стомлена закрываю вочы, бачу раптам сваіх калег. Як на якім нямым экране мільгаюць яны перада мной. Змаркоціўся я па іх, ці што?

Вунь пазірае на мяне мяккі, даверлівы твар інжынера Антона Крупенькі, вунь высунутая ўперад на танклявай шыі чорная ўскудлачаная галава Сашы Фельдмана з вялікімі вачамі пад бліскучымі шкельцамі акуляраў, вунь строга ссунутыя рыжыя бровы і тоўстыя, важна складзеныя трубачкай над вострым падбародкам губы загадчыка аддзела Карча — як у таго рыбака, што вось-вось падсячэ здаравеннага акуня; а вунь маленькі, смяшлівы тварык бухгалтара Валі Зайцавай... І ўсе яны такія свае, мілыя!

Не, заўтра абавязкова пайду на працу. Заўтра я іх усіх убачу. Таму што Люсін мёд і гарачае малако — сапраўды цудоўнае лякарства. І таму, што не ў маім характары сядзець дома, на бюлетэні. Я іх убачу. Можа, не зусім такімі, як на гэтым нямым экране. Нехта, здарыцца, незнарок скажа мне непрыемнае, крыўднае, нехта — добрае, зычлівае, нехта не спадабаецца мне і камусьці — я... Што ж, хай! Але я без іх не магу...

— Люся, а я раніцою іду на працу. Чуеш?

Ды яна ўжо даўно нічога не чуе — спіць, галубанька. Салодка, моцна.

*1966*

4 Зак. 1913

# ПАХ ЯБЛЫКАЎ

Ужо некалькі гадзін запар сыпаў дробны, надакучлівы дождж. Такая выдалася восень — халодная і змрочная... І ён з палёгкай уздыхнуў, калі нарэшце да прыпынку падкаціў аўтобус. Ён ускочыў у аўтобус і адразу ж сеў на свабоднае месца каля нейкай дзяўчыны. Ён бы і не звярнуў на яе абсалютна ніякай увагі і за ўсю дарогу не вымавіў бы ніводнага слова, але раптам яго шырокія моцныя ноздры заварушыліся, прагна пацягнулі паветра, і ён з радаснай упэўненасцю сказаў:

— Пахне... яблыкамі.

Дзяўчына нетаропка павярнулася да яго. Твар яе быў зусім юны, прадаўгаваты, з крышку кірпатым носам і шэрымі смяшлівымі вачамі. Над высокім ілбом з-пад капюшона дажджавіка выглядвала лёгкае воблачка рэдкіх светлых валасоў. І ў гэтых валасах-павуцінках яшчэ блішчалі малюсенькія кропелькі дажджу. Ад маўклівага позірку суседкі ён адразу стушаваўся. Але дзяўчына скоранька схілілася над шэрым саквояжам, што стаяў у яе на каленях, і, нічога не кажучы, толькі мякка ўсміхаючыся, дастала і працягнула буйны чырванабокі яблык.

— Каму? — разгублена азіраючыся, спытаў ён.— Мне?!

— Вам...

— Ну, калі так, дзякуй,— абрадаваўся ён, як дзіця.— Такі вялікі яблык...

Ён сапраўды быў з добры кулак, сакавіты, свежы, гладзенькі. Дзе-нідзе на жаўтаватай вільготнай паверхні ўжо свяціліся ізумрудныя мецінкі — пахучая антонаўка налівалася. Ён трымаў яблык на далоні і зачаравана пазіраў на незнаёмую дзяўчыну. Такое мілае дзяўчо. І ўжо неяк без асаблівай цяжкасці, лёгка і весела загаварыў з ёй, даведаўся, што яна студэнтка, што вяртаецца з прыгараднага саўгаса, куды кожны дзень яны ездзяць — абіраць яблыкі. Яна ціхенька гаварыла, і яму ўсё больш і больш хацелася чуць яе грудны, прыглушаны голас і ўважліва пазіраць у ласкавыя шэрыя вочы, і ўстаўляць у размову нейкія нечаканыя для яго самога жартаўлівыя пытанні. Цяпер ён не звяртаў ані-

якай увагі на аўтобусную мітусню і нікольні не бянтэжыўся, калі лавіў на сабе насмешлівыя позіркі пажылых жанчын. Дзіўна: яму здавалася, што недзе ён ужо бачыў і чуў гэтую дзяўчыну, што некалі з ім ужо было такое, ну, можа, толькі не ў аўтобусе, але было, і тады таксама востра пахлі мёдам яблыкі і так вось гулка білася сэрца. Дзякуй богу, знаёмства ён заўсёды заводзіў лёгка і проста.

— Ну, мне пара,— сказала дзяўчына і, зашамацеўшы абсохлым дажджавіком, пачала прабірацца да выхада.

А ён мог паклясціся, што і гэтыя кароткія развітальныя словы ўжо чуў раней.

Праз некалькі прыпынкаў сышоў і ён сам пад цьмяны жоўты ліхтар вуліцы. Імжэў той жа халодны дождж. Але адчуванне неспадзяванай радасці не пакідала яго, пакуль ён шлёпаў па лужынах, падніма́ўся па лесвіцы ў сваю кватэру. З загадкавай усмешкай на губах ён адчыніў дзверы і пачуў, як дробна-дробна строчыць швейная машынка.

— Гэта ты? — пачуўся глухі голас жонкі.— Што там у цябе ў руцэ?

Швейная машынка заціхла.

— Яблык...

— Цвёрды, мабыць. Здзяры мне яго на цёрку. Вунь кашаль... сёння б'е мяне...

Ён разгублена патаптаўся на месцы, нібы нешта шукаючы вакол сябе, чагосьці чакаючы. Але зноў застрачыла машынка.

І ён пакорліва пайшоў на кухню, узяў тарку...

*1967*

# ДОЖДЖ

Кап-кап... Кап-кап...

Гэтае бязладнае, то глухое, то звонкае, шлёпанне дажджынак з даху я пачуў, яшчэ не расплюшчыўшы вачэй. Пасля нейкага трывожнага сну дамавітае пазваньванне дажджу напоўніла мяне незвычайным пачуццём спакою і радасці. Касы, нетаропкі дождж лізаў сцены і дах будынка, тонкія, як іголкі, струменьчыкі зліваліся ў кроплі, і кроплі, даганяючы адна другую, ляцелі ўніз.

І можна было нават адрозніць, як адны зухавата плюхаюцца ў азёрцы лужын, а другія разбіваюцца аб каменьчыкі ці мякка падаюць на вільготны, прамыты за ноч вадой пясок.

Я ўстаў, апрануўся і ціхенька, каб не разбудзіць хатніх, выйшаў на вуліцу.

Такога цёплага дажджу ў канцы кастрычніка не помнілася. Было ўжо зусім холадна, неба лахмацілася, і густа-сінія марозлівыя хмары сурова паўзлі з поўначы. Голыя дрэвы трымцелі пад шквальным ветрам, блыталіся галінкамі, нібы шукаючы ратунку, бездапаможна хіліліся да мокрага ліпкага асфальту з пажухлым жоўта-бурым лісцем. І ўсё глядзелася па-восеньску адчужана і журботна.

І вось нібы які цуд... Цёплае вільготнае паветра пахла маладымі гуркамі, асвяжала, ціхія дажджынкі садзіліся на твар і ласкава казыталі. Усміхаючыся, я крочыў у перадранішняй цемры і з нейкім дзіцячым азартам стараўся трапіць нагой у лужыну. Было нешта ад ранняй вясны наўкола, радаснае, хвалюючае, што — я і сам дакладна не мог сказаць. Можа, спакойны шолах дажджу, можа, нечаканае цяпло, што прынёс з сабой паўднёвы вецярок. Але пад ціхае напеўнае мармытанне дажджынак добра думалася, успаміналася. Потым усё ўступала месца востраму адчуванню толькі таго, што бачыў: шэрыя лужыны, срэбраныя гарошынкі расы на зблытаных, прыбітых, але яшчэ зялёных травінках, шурпатая з глыбокімі чорнымі баразёнкамі кара старой абламанай бярозы — адзіная на ўвесь двор. А міма праходзілі паспешна людзі, праязджалі на веласіпедах. І ў многіх на рамах веласіпедаў, нібы жучкі,

сядзелі захутаныя ў плашчы дзеці. Маленькія ручаняты ўчэпіста трымаліся за бліскучае халоднае жалеза руля, слаба бялелі побач з вялікімі бацькоўскімі рукамі. Дзяцей везлі ў яслі. І колы асцярожна рэзалі лужыны на асфальце, а вада пырскала, ляцела з-пад шын у розныя бакі і шыпела, як сала на патэльні: ш-ш-ш...

Пачало віднець. Пашарэла. І здавалася, што дамы нехта клапатліва накрыў ад ранішняй сырасці, ад дажджу коўдрамі з жоўта-шэрых абрэзкаў: амаль усюды свяціліся жоўтыя квадрацікі вокнаў. Але ў нашай кватэры не было святла. І тут я схамянуўся, успомніўшы, што павінен быў ужо даўно разбудзіць на цягнік жончыну сяброўку, якая заначавала ў нас.

Хутка вяртаюся, з нейкай даўно забытай гарэзлівасцю ўзбягаю па лесвіцы на трэці паверх, уваходжу ў кватэру. Божа мой, якая салодкая дрымотная цішыня! Царства сну. Сухое цяпло пяшчотна кранаецца маіх халодных шчок. Асцярожна, каб не рыпець масніцамі, я набліжаюся да раскладушкі. Ну, канечне, дзяўчына спіць... Смешна гэтак, клубочкам, падабраўшы пад сябе ногі. Я нахіляюся, але не паспяваю сказаць і слова, як тая сама паволі расплюшчвае вочы і хвілінудругую няўцямна пазірае на мяне.

— Ой, праспала-а! — палохаецца яна.

— Ды не, не ж яшчэ, хопіць у цябе часу... Уставай хутчэй толькі!

Але яна сарамліва нацягвае да самага падбародка коўдру. Я адыходжу да акна і чую, як дзяўчына борздзенька ўстае, з асалодай пацягваецца гнуткім, адпачыўшым целам і таямніча шамаціць вопраткай.

— Падай мне, калі ласка, люстра,— гуллівым шэптам просіць яна.— Косы запляту...

А за акном — дождж: кап-кап, кап-кап... І з ціхай радасцю думаю я: якое шчасце чуць і гэты таямнічагуллівы жаночы шэпт, і бачыць прыгожыя дзявочыя рукі, што так спрытна запляталі доўгія чорныя косы, і слухаць нязмоўклае ціхамірнае шамаценне дажджу — цёплага, як вясной.

*1967*

# КАЗА

Федзька сядзіць каля акна і прышывае гузік да бушлата. Пяць гадоў бушлат у Федзькі, а які моцны! Зносу няма... Яшчэ калі шкіперам плаваў, купіў у Кіеве ў аднаго знаёмага матроса.

Федзька спяшаецца. Праз гадзіну яму заступаць дзяжурыць на прыстані. Работа там не цяжкая: сустрэнь цеплаход, дапамажы прышвартавацца ды правер білеты ў пасажыраў. Вось і ўсё. Але быць трэба без спазнення, нават лепей крышку раней — начальніку прыстані гэта падабаецца.

Нарэшце гузік прышыты. Федзька схіляецца над бушлатам, ніжняй губой падхоплівае нітку, каб перакусіць, і... раптам замірае. У расчыненае акно з двара даносяцца галасы: жончын і матчын. Сварацца! Федзька ўздыхае. Так у іх амаль кожны дзень. Што ж гэта такое? Зноў аўрал, зноў свістаць усіх наверх?

Не, не думаў Федзька, калі жаніўся, што будзе так. Гэта ж з-за кожнай дробязі сварацца. Паслухаеш — і матка не вінаватая, і жонка не вінаватая... Падык паспрабуй, разбярыся.

Звычайна, калі пачынаецца сварка, Федзька сыходзіць з дому ці ўключае радыё — абы нічога не чуць. Але ў акне Федзька бачыць маленькую згорбленую матчыну постаць, бачыць, як яна бездапаможна, нібы малое дзіця, выцірае рукавом слёзы,— і ў яго нешта пачынае шчымець у грудзях. Яго раптам ахоплівае вялікая, даўно забытая жаласць да маці. І ён адчувае, што нечым вінаваты перад ёю за гэтыя слёзы.

— Не будзе жыцця, не будзе! — з'явіўшыся на парозе, крычыць жонка.— Твая маці давядзе мяне, што кіну ўсё і пайду куды вочы глядзяць! Ты зірні: памыла каструльку, вышаравала, вычысціла, а яна яе так закурыла, што хоць выкінь! Ты зірні...

Федзька глядзіць на каструльку, потым на жонку і нібы ўпершыню бачыць перад сабой гэты скрыўлены злосцю жончын твар.

— Калі сама сабе стала варыць — хай зусім аддзяляецца ад нас. З мяне хопіць! Яна проста здзекуецца з мяне, а ты ёй патакаеш.

Звычайна ў такіх выпадках Федзька не вытрымлі-

вае патрабавальнага позірку жонкі: ён сярдзіта падыходзіць да маці і двума-трыма словамі прымушае яе змоўкнуць. І старая маўчыць, горка сцяўшы губы, куточкі рота апускаюцца яшчэ ніжэй. Потым, не гледзячы на сына, яна ідзе на вуліцу ці ў хлеў. І Федзька ведае чаму: у хляве каза. Белая, з чорнай зорачкай на лбе, каза Зойка, якую падарыла ў мінулым годзе маці яе сястра. А жонка, усміхаючыся, абавязкова зазначыць:

— Ну вось, зноў пайшла... скардзіцца... Каза ёй даражэй за нявестку. Казе яна гэткіх ласкавых слоў нагаворыць, якіх родным дзецям ніколі не казала...

І сапраўды, Федзька аднойчы чуў, як размаўляла маці з казой. Як з чалавекам. Пасля гэтага ён ноччу доўга не спаў, а назаўтра раніцою пайшоў і купіў старой хустку. Звычайную, паркалёвую, за рубель. Але гэтаму падарунку маці так узрадавалася, што Федзьку нават няёмка стала.

А зараз жонка ўсхліпвае побач. І вочы яе па-ранейшаму пазіраюць злосліва — так ад гора не плачуць, ад крыўды — таксама. Так плачуць ад злосці.

— Не вытрываю я гэтай катаргі, Федзька... Чуеш? Сіл маіх няма.

Толькі Федзька нібы прырос да акна і не звяртае ўвагі на жонку. Ён глядзіць, як маці выводзіць казу з хлева, навязвае ёй на рогі выбеленую ў расе вяроўку. Павядзе на пашу. Да ракі. Каза не слухаецца старой. Круціць галавой, упіраецца кароткімі моцнымі ножкамі.

— Зойка, не круціся! Каму кажу? Ну, не круціся, міленькая...

Федзьку здаецца, што ён нават бачыць, як ад натугі дрыжаць матчыны аслабелыя рукі. І ў гэты момант ён чуе голас жонкі:

— Што, можа, казу ёй павядзеш?

Федзькаў твар наліваецца чырванню.

— А што? І павяду... Павяду! — з пагрозай адказвае ён.

Федзька хутка выходзіць на двор, моўчкі забірае ў старой канец вяроўкі і цягне казу на вуліцу.

Але, зрабіўшы некалькі крокаў, Федзька нерашуча спыняецца. Яго гарачнасць праходзіць, а замест яе паяўляецца пачуццё сораму: няўжо яму, шкіперу, прый-

дзецца весці гэтую брыдкую жывёліну праз усё мястэчка? Засмяюць. Скажуць: флоцкі ўжо козамі камандуе! Ах, каб цябе... Яшчэ ўпіраецца, наровіцца... Вунь ужо і суседка насустрач ідзе:

— Федзь, а Федзь, ты яе не цягні так, ты адпусці вяроўку ды лёгенька падганяй сабе. Яна і пойдзе...

Федзька злуе, але вяроўку паслабляе.

— Ну, пайшла, воўчае мяса!..

Замахнуўся — патрухала ўперад. Хутчэй бы яе пераправіць на востраў, дзе пасвяцца козы з усяго мястэчка. Ды так, каб непрыкметна — каб ні начальнік прыстані, ні касір не бачылі. А то ад іх кпінаў увесь год чухацца будзеш.

Не-е, чуе Федзькава сэрца, што фокус яго не пройдзе. Вунь на дэбаркадэры цэлы ўзвод мужчын — нібы яго з казой толькі і чакаюць. І начальнік прыстані, Медзін, сярод іх, і Антон, касір.

Федзька гатоў праваліцца скрозь зямлю, павярнуць назад. Ён нават спыняецца, мяркуючы, як быць. Але каза нечакана ледзь не вырывае вяроўку з рук, па старой звычцы хутка бяжыць уніз, да ракі. Федзька — следам.

— Гэй, Федзька, ты што, казу на стометроўку трэніруеш? — крычыць з дэбаркадэра Антон.

Мужчыны рагочуць. На ўсю прыстань. Ліпкі пот выступае на твары ў Федзькі. Ён падганяе казу на прычал, прымушае яе скокнуць у вялікую лодку, улазіць сам і... А каб цябе... Вёслы ж на дэбаркадэры! Федзька кляне ўсё на свеце, груба лаецца і разгублена пазірае на мужчын.

— Сядзі, сядзі ў лодцы,— крычаць з дэбаркадэра.— Вёслы мы падамо табе.

Сапраўды, праз якую мінуту сам цыбаты Медзін прыносіць вёслы і, усміхаючыся, падае іх Федзьку.

— Што, маці рашыў памагчы? — ужо сур'ёзна гаворыць ён.— Правільна, братка. Старой з гэтым чортам рагатым цяжкавата справіцца.

Ад слоў Медзіна Федзьку адразу робіцца лепш. Ён з палёгкай уздыхае, але ўсё роўна спяшаецца адчаліць. Адвязаў, кінуў на нос лодкі ланцужок. Рукі ў Федзькі моцныя, грабануў раз-другі — і ўжо на сярэдзіне ракі. Ціха струменіць за бортам вада. Рыпяць уключыны. Вадзяная роўнядзь — як сіняе шкло. А сонца прыпя-

кае. Дарма што раніца. Вадзіца цёплая-цёплая. Толькі ж хіба стане Федзька купацца зараз? Вунь, хітрэнная, скасавурыла свае зялёныя вочы і пільна цікуе за рухамі гаспадара. Позірк — нібы чалавечы. Нездарма матка з ёю размаўляе.

Федзька ловіць сябе на думцы, што ўпершыню так блізка бачыць казіную галаву, гэтыя зазубрынкі на жаўтаватых вострых рагах, доўгую смешную бародку, а па баках — прыгожыя завушніцы. Падцягнуўшы вёслы, каб не знесла вадой, Федзька ласкава кранае пальцамі казу, гладзіць па мяккай поўсці. Але яна стаіць як укапаная. Толькі калі нос лодкі тыркаецца ў бераг, каза выскоквае на зямлю і спрытна ўзбіраецца па абрыве ўверх. Там яна стаіць хвіліну, павярнуўшы галаву ў Федзькаў бок, чэша рогам спіну. Дзіўна, але Федзька ўжо не злуе на казу.

— Ідзі, ідзі,— махае ён рукой.

Потым Федзька задумліва і моўчкі глядзіць з лодкі ў ваду. Доўга ўзіраецца ў зялёную глыбіню. І ўжо зусім спакойна робіцца на душы. І з лёгкай іроніяй і нездавальненнем ён думае пра сварлівую жонку, думае пра маці. Успамінае, як у дні вайны маці гадавала сястру і яго, як са скуры вылузвалася, каб толькі чым-небудзь накарміць іх. І Федзьку здаецца, што ён даўно так хораша, як цяпер, не думаў пра маці, не адчуваў да яе такой цеплыні і пяшчоты.

З таго боку ракі даносіцца голас Медзіна:

— Федзька-а-а!.. Давай назад! Цеплаход прымаць.

Федзька вяртаецца.

*1966*

# І НАДЫХОДЗІЦЬ ДЗЕНЬ

— Што, Пятроўна, сабралася ўжо ў шлях-дарожку? Нагасцілася ў сына?

Суседка стаіць, прыхіліўшыся да дзвярэй, зычліва жмурыць на маці санлівыя шэрыя вочы.

— Збіраюся, збіраюся, Насць...

Маці мітусіцца ў калідоры каля розных клуначкаў і сетак, шамаціць папяровымі мяшэчкамі, нешта закладзена пачана правярае, перасыпае і, сухенькая, дробненькая, у доўгім, як не да пятак, сінім байкавым халаціку, побач з высокай суседкай нагадвае дзяўчынку-падлетка. І мне дужа шкода яе: здароўя ў старой зусім няма, усю зіму хварэла. Куды, здаецца, нямоглай, спяшацца? Жыла б сабе ў маім халасцяцкім пакойчыку — на двух з лішкам... Але ніякія ўгаворы застацца ў горадзе далей зімы не дзейнічаюць. Яшчэ і снег долам ляжыць, і марозец па начах прыхоплівае зямлю, і сівер бушуе, злуецца напаследак, а маці ўжо толькі і трызніць домам, прысожскай вёсачкай... і хвалюецца, і ўздыхае, і трывожна спіць, і ўсіх прагна распытвае пра надвор'е: а раптам той крыгалом раней часу на рацэ пачнецца?

Нарэшце, сабраўшы ўсю сваю рашучасць, заяўляе пра свой ад'езд. І па тым, як зварушліва-ўпарта гучыць яе голас, як нецярпліва хмурыцца пасечаны маршчынамі высокі лоб і ўсхвалявана стульваюцца вузкія губы, я разумею: ніхто ўжо маці не ўтрымае — ні я, ні суседка...

— А, можа, пачакала б, Пятроўна, куды табе ў халодную хату? — і цяпер слушна даводзіць Насця.

— Што ты такое гаворыш, Насць? — спалохана ўзнімае галаву маці і з дакорам, сярдзіта пазірае ў мой бок.— Вось і ён усё не пускаў мяне... Не пускаў! А то б я ўжо даўно паехала. Мне затрымлівацца нельга. Сама ведаеш, пойдзе рака шугаць — як тады дабяруся? А тамака і дамок, і садок... Усё — без нагляду!

— А кватарантка?

— Што кватарантка?! Якая на яе надзея? Падмые слупы, знясе плот — не знойдзеш...

Памаўчаўшы, дадае ўжо іншым, вінаватым тонам:

— Я да вас буду наведвацца... Глядзіце тут майго сына...

— У крыўду не дамо! — жартаўліва адказвае Насця.— Хіба што... ажэнім?

— За гэта толькі дзякуй скажу, Насць... Ну, заставайцеся жывыя ды здаровыя! Пойдама, сынок!

Унізе ля пад'езда нас чакае матацыкл з люлькай. Транспарт не надта камфартабельны, але зручны, скоры. Маці ўладкоўваецца ў люльцы звыкла, хоць і не без жаночай палахлівасці, пакорна назірае, як прыкрываю ёй хворыя ногі кавалкам брызенту, заводжу матор.

— Памажы, божа! — шэпча яна, акідваючы развітальным позіркам захламлены двор з чахлымі дрэўцамі, круглую, даўно не фарбаваную альтанку, у якой не раз бавіла надвячоркі з такімі ж, як сама, старымі.— Едзь асцярожненька, сынок, не гані вуліцай задужа — баюся...

І я не ганю, хоць зранку вуліцы амаль пустыя. Толькі за горадам, выбраўшыся на шырокую асфальтаваную дарогу, не магу стрываць — вясновы прастор, вясёлае сонейкаклічуць наперад... Імкліва імчыць матацыкл, вільготны вецер б'е ў твар, выціскае слёзы з вачэй. Але вострае адчуванне скорасці захоплівае цалкам, напаўняе незвычайнай радасцю. Зрэдку азіраюся на маці — як яна? Нічога, маўчыць. Амаль уся схавалася ў люльцы, толькі галава, закручаная ў цёплую шарсцяную хустку, смешна тырчыць з настаўленага каўняра.

Нырнуўшы ў цёмную лагчыну, матацыкл раптам імкліва вылятае на ўзгорак. І адразу — мора святла! Яно шчодра залівае ўсё ўнізе — і шырокую стужку ракі, яшчэ скаваную зялёным ільдом, і дашчаны маленькі домік паромшчыка на высокім падмурку, і купку людзей каля лодак... Спуск круты, стромы, дарога віляе то ўправа, то ўлева, пакуль рэзка не ўпіраецца ў самы бераг.

— Вось і прыехалі,— усхвалявана ўздыхае маці, таропка выбіраецца з матацыкла.— Цяперака — перабрацца на тэй бераг...

І, падхапіўшы клунак і сетку, як не подбегам спяшае да людзей...

Некалькі жанчын трывожна стоўпіліся на беразе, чакаюць, калі пакліча перавозчык. Маці прыстройва-

ецца да іх і вось ужо жвава гутарыць з нейкай знаёмай. Такое ўражанне, што яна забыла аб маёй прысутнасці, уся там, на тым беразе... Да яго блізенька, здаецца, працягні руку — дастанеш, але трапіць на глiністую строму не так проста. Тугі лёд успучыла, прыўзняло над вадой, вось-вось не вытрымае ён, і з шумам і трэскам рушыць крыгалом. Заберажніца даўно сарвала шырокія кладкі, густая фіялетавая вада гуляе ля берага, круціць шэрыя, як каменьчыкі, ільдзінкі, крышыць, прыбівае іх на пясчанае мелкаводдзе. Нос вялікай лодкі ўрэзаўся ў пясок, на карме, наваліўшыся на шост, стаіць высокі хлапец у зялёнай вайсковага краю паддзёўцы і вясёлым баском пачынае камандаваць:

— Давай, давай, варушыся, сядай хутчэй, бабкі... Вось высаджу ваш дэсант на гэты пракляты лёд і — баста, годзе. Не хачу рызыкаваць! Яшчэ патопіцеся, потым адказвай за вас... Чуеце, трашчыць?

Жанчыны кідаюць палахлівыя позіркі на лёд, паспешна рассаджваюцца ў лодцы.

— Сынок, прыязджай, як ачысціцца рака! — чую я напаследак трывожныя і радасныя словы маці.

«Як ачысціцца рака...» Я хачу крыкнуць у адказ, што абавязкова прыеду з першым жа кацерам, але голас чамусьці не слухаецца, толькі бязгучна варушацца вусны. Маё ўяўленне малюе такую ж вясну. Крыгаход... Паводку... Незвычайна і святочна на душы ад гэтай вялікай вады: блакітнае бязмежнае раздолле ўрачыста абдымае ўсё навокал. Даўно затоплены і прыбярэжныя лугі, і пясчаныя пагоркі, да саменькага лесу падабралася вада. І вось ужо гарэзліва плешчуцца хвалі сярод маўклівых, нібы зачараваных дрэў, ласкава ліжуць іх сваімі срэбнымі язычкамі. І ты сам з захапленнем і шчаслівай усмешкай першаадкрывальніка гойдаешся на бацькавай пласкадонцы сярод беластвольнай бярозавай каланады, доўга і чамусьці вельмі пільна ўзіраешся ў чорную каламуць... Сырое паветра асвяжае гарачы твар, гаркавы пах мокрай кары казыча ноздры.

— Што ты там валаводзішся, Раман! Давай сюды лодку,— нецярпліва крычыць побач пажылы мужчына.

Я ўздрыгваю ад яго сіплявага прастуджанага гола-

су, няўцямна азіраюся па баках. Раптам шчымліва-тужлівае пачуццё беззваротнай страты ахоплівае мяне. І ўжо амаль са слязьмі на вачах назіраю, як высаджваюцца жанчыны на лёд, як асцярожна ідуць адна за адной, стараючыся абысці палонкі. Колькі б, здаецца, даў, каб вось так, як яны, ісці па небяспечнай сцяжынцы — да сябе, у свой стары дамок!

Серабрацца на ледзяной паверхні ракі люстраныя лужыны, мякказзяе над імі блакітнае неба. І ўсё навокал пранізана па-вясноваму яркім святлом. І сярод гэтага блакітнага ззяння маленькая постаць маці нібы раствараецца: як ні ўзіраюся, я зусім ужо не бачу яе...

*1977*

# МАТЧЫНА ХАТА

Ноччу спалася дрэнна. Мікалай Лукіч варочаўся, прачынаўся, нацягваў на галаву коўдру, аж пакуль трывожны сон зноў не агортваў яго. І тады зноў снілася даўняе... Калі б раптам і хацеў прыгадаць, не прыгадаў бы ў гэткіх падрабязнасцях далёкія гады дзяцінства ў Чарнігаўцы. Сніліся самыя страшныя немцы — тыя, што, равучы матацыкламі, першымі ўскочылі ў вёску. І той рыжы цыбаты гітлеравец, які са злосным гергетаннем садануў у нос дзеду Емяльяну. І перапалоханая маці — з мокрым ручнікам ля акрываўленага дзеда, заплаканая, бездапаможная. Ды яшчэ яе рукі з парэпанымі чорнымі пальцамі — нібы толькі з вільготнай зямлі... Але ўсё гэта знікала ў нейкі момант, Мікалай Лукіч супакойваўся, пачынаў дыхаць раўней, як нечакана выразна чуў выбухі: ірваліся снарады... І яны з братам Захарам уцякалі з вёскі праз алешнік, вязлі босымі нагамі ў балотнай гразі, сігалі з купіны на купіну...

Дзякуй богу, жахлівы малюнак мучыў нядоўга: чамусьці пасля таго алешніку ён ужо бачыў брата дарослым — у кароткім шэранькім пінжачку, такога ж бруднаватага колеру картузе, з-пад якога тырчалі, упарта лезлі ўскудлачаныя белыя валасы. Захар стаяў перад маці, нейкі вельмі святочны і збянтэжаны, трымаючы ў руках грашовыя паперкі: першы заробак на заводзе... І маці ўсхвалявана варушыла вуснамі, намагалася яму нешта сказаць, але толькі шчасліва ўсміхалася, толькі ўсміхаліся яе мокрыя ад слязінак вочы. А потым яны ўдваіх крочылі з Захарам на чыгуначную станцыю праз рэдзенькі самотны хвойнічак, па прасмоленых шпалах. Нязвыкла пахла вугалем і нафтай. Блішчалі на сонцы і сляпілі вочы сталёвыя рэйкі, нібы напятыя нечай моцнай рукой струны. І Мікалаю Лукічу здавалася, што ў гэтыя хвіліны неспакойнага сну ён бачыў менавіта той самы загадкавы, таямнічы паравоз з дзяцінства, які прыцягваў, клікаў да сябе кожны раз, калі надаралася бываць на станцыі: надта хацелася, каб і яго, як старэйшага брата, павёз ён у невядомы, неспазнаны свет...

Ах, як цяжка на душы! Напэўна, усё ад гэтага прыглушанага, тужлівага паравознага гудка:

— У-у-у...

Расплюшчыў вочы, падхапіўся, трывожна прыслухаўся: сапраўды, гудок. Пашанцавала з новай кватэрай — якраз дом насупраць гэтага шумлівага вакзала. Аніяк не прывыкне Мікалай Лукіч да чыгункі... Добра, што хоць ноч ужо мінула. Вунь і вокны пасвятлелі. Ранак, пэўна ранак. Павярнуўся асцярожна да жонкі — аж спалохаўся: не спіць. Нерухома пазірае ў столь. Засяроджана. Ды што яна, у рэшце рэшт, усю ноч... так? Бы мумія, адзін жаўтаваты кручок-нос варушыцца на доўгім твары — сярдзіта шморгае ім, чмыхае.. Злуе, злуе. І шкада Мікалаю Лукічу жонку, бо ведае — пакутуе. Можа, дарэмна, заўчасна, а пакутуе.

— Не спіш, Шурок?

— Не сплю... Гэта табе спіцца. Храпе, як бугай той... Табе ўсё роўна, табе ўсё трын-трава... Свае мазалі не шкадуеш...

Голас — злосны, хрыплявы. Лепш не пярэчыць зараз. Не спрачацца. Ведае жончын нораў Мікалай Лукіч. І так увесь учарашні дзень пасля тэлефоннага званка Захара спакою не было. Ашалела баба. Чорт ведае што з ёю здарылася. Месца сабе не знаходзіць. Уявіла, што брат не так сабе ў госці кліча, з нейкім пэўным намерам запрашае. І такую філасофію развяла, такія падазрэнні выказала — сам Мікалай Лукіч паступова сумнявацца стаў у братавай прыстойнасці. Ніколі не сумняваўся, а тут закралася нешта. Сапраўды, з чаго б, адкуль такія сваяцкія пачуцці раптам? Неяк склалася ўжо, што за апошнія гады жыцця ў горадзе яны больш цураліся адзін аднаго, чым бачыліся. Хоць, можа, яно так і лепей: хадзі ў госці сам, а потым мудруй, у сябе баль наладжвай. Пустыя клопаты, марная трата грошай ды і часу. Асабліва яму, Мікалаю Лукічу, бо ніколі не любіў шумныя кампаніі вадзіць з таго часу, як прысвяціў сябе навуцы... Апошні раз сустракаліся з Захарам, бадай што, з год назад — як маці пахавалі. Цяпер вось зноў пазваніў. І настырны які! Жонка аднекваецца, а ён насядае: абавязкова, маўляў, сустрэцца трэба... Нібыта гарыць! Хочаш ці не хочаш, але адно і застаецца думаць: для спецыяльнай размовы Захар заве. І — вядома якой. Тут ужо Шурку не ашука-

еш, яе праўда: мабыць, грошы будзе патрабаваць. За частку матчынай хаты. Вось табе і родны брат! А якое ён мае права? Што ён, траціўся на дом, рамантаваў яго, купляў той шыфер? І ўвогуле, гэтую будыніну даўно ўжо расцягнулі б людцы добрыя, калі б не было ў Мікалая Лукіча свайго транспарту. А так вось сядуць з жонкай на «Масквічок» і за якіх пару гадзін у роднай Чарнігаўцы. Кожны тыдзень. Можа, яно і далекавата ездзіць, на бензін расходы... Ды затое адпачнеш як трэба, а ўвосень і яблык напакуеш на ўсю зіму: сусед за садам па-сваяцку глядзіць. Цікава, які сёлетні год будзе, ці ўраджайны? Цвітуць добра...

Рыпнуў спружынамі матрац. Мікалай Лукіч убачыў заклапочаны жончын твар.

— Ты чаго маўчыш? Зноў дрыхнеш? Лепш скажы мне, што рабіць будзеш, што надумаў?

— Ды нічога не папішаш, Шурок, прыйдзецца выплачваць за хату,— горка ўздыхнуў Мікалай Лукіч і загаварыў развашліва, пераканаўча, як яму здавалася, няспешна вымаўляючы кожнае слова.— Не сплоціш сам — судом спагоніць. А мне цяпер толькі гэтага суда і не хапала... Пойдуць розныя пагалоскі, да інстытута дапаўзе, у рэктараце стане вядома... І гэта перад самай абаронай дысертацыі! Ні ў якім разе нельга даводзіць да суда.

Шурка прыўзнялася на локаць. Пільна, амаль варожа зірнула ў няголены, пакамечаны твар Мікалая Лукіча і, ужо не стрымліваючы сябе, ледзь не закрычала ад прыкрасці:

— Ды што ты заладзіў: суд, суд! І без яго абысціся можна, калі з розумам. Зрабі так, як табе раю: ідзі да Захара і пагавары з ім. Не цырымонься. Скажы: у нас лішнія грошы не валяюцца... Свае дзеці растуць. Якую сотню, калі што, яшчэ паабяцай. А пачне вымагаць за паўхаты — не паддавайся. Пачне нахабнічаць — прыгразі: да дырэктара завода пойдзеш скардзіцца. У іх наконт гэтага строга... Як ён, так і ты! Не глядзі авечкай, а наступай, наступай на яго...

Звычайна ў нядзелю Мікалай Лукіч любіў раніцай паляжаць у ложку даўжэй, папесціцца. Але цяпер ужо не было ніякага жадання, настрою драмаць. Жончына нервовасць перадалася яму... Карцела як мага хутчэй скончыць з непрыемнай справай.

Прычыніўшы дзверы спальні, пачаў збірацца да брата. Пагаліўся. Без асаблівай асалоды патыркаў у азызлыя сінія шчокі пластмасавым яйкам электрабрытвы. Прывычна апрануў стары, даволі пацёрты чорны касцюм, у якім ужо каторы год чытаў лекцыі студэнтам. Злуючыся на дзяцей, адшукаў у кабінеце пад канапай свайго заўсёднага спадарожніка — партфель, павагаўся трохі, але рашуча ўзяў з буфета і сунуў у яго паўлітэрку «Сталічнай». Хто ведае, можа, і спатрэбіцца там...

Праз нейкай паўгадзіны амаль пусты аўтобус давёз Мікалая Лукіча ў гарадскі мікрараён, і ён, адчуваючы ўсё большы неспакой і душэўную незадаволенасць, няўпэўнена набліжаўся да шматпавярховага дома, у якім жыў Захар. Заклапочана, напружана разважаў, як весці размову з братам. Для пачатку можна нешта гэткае прыдумаць, растлумачыць, чаму не прыехаў учора. Паверыць ці не паверыць — яго справа... Ну, а потым дыпламатычна намякнуць і пра матчыну хату: хата старая, і нічога, братуха, з тваёй афёры не атрымаецца! Канечне, трэба быць гатовым да ўсяго. Хоць Захар нібыта і мяккі характарам, рахманы, у маці ўдаўся, але тут ад яго згаворлівасці ніякай не чакай... Будзе лютаваць. І ўсё ж добра было б неяк дамовіцца, без лаянкі.

Сонечная маёвая раніца абяцала пагодлівы дзень. Нават шэрыя сцены буйнапанельных будынкаў пасвятлелі — здавалася, аж паблакітнелі, пад колер тых хмурынак, што, ціхмяныя, лянотна плылі па небе. Жыхары мікрараёна дружна корпаліся пад вокнамі сваіх кватэр, ускопвалі градкі, разбівалі кветнікі. І сярод іх, яшчэ здаля, не цяжка было заўважыць цыбатую, трохі сутулаватую постаць брата. У сіняй спяцоўцы, такі ж даўгарукі, хударлявы, як і сам Мікалай Лукіч, ён задаволена, з непрыхаванай асалодай рэзаў зямлю рыдлёўкай. І перад тым як кінуць тлустую скібіну чарназёму, нібы наўмысна, прытрымліваў яе, каб яшчэ і яшчэ раз удыхнуць непаўторны пах вільготнай, палітай першымі вясновымі дажджамі зямлі.

Мікалай Лукіч нават узрадаваўся, што напаткаў брата ў двары: не трэба заходзіць у кватэру, можна, не марудзячы, вырашыць усё тут жа, ля пад'езда. Праўда, Мікалай Лукіч не адразу загаварыў з Захарам. З хвіліну стаяў, таптаўся за яго спіною, моўчкі глядзеў на

братаву сівую галаву пад чорным берэтам — нібы збіраўся з думкамі.

— Здароў, Захар,— нарэшце вымавіў наўмысна ціха, каб не прыцягваць увагу непатрэбных сведкаў.— Памагай бог...

— Ха... Казаў бог, каб і ты памог! — у тон яму, не хаваючы жартаўлівасці, адказаў скорагаворкай Захар. І толькі тады, выпрастаўшыся, ветліва прывітаўся: — Здароў, здароў, вучоны свет!

Захар лёгка, як той Гулівер, пераступіў маленькі дэкаратыўны парканок, пайшоў насустрач Мікалаю Лукічу, выціраючы рукі аб спяцоўку.

— А я ўчора цябе з жонкаю чакаў... Чаму не прыйшоў? Не так мы ўжо часта бачымся з табой.

— Не часта.

Паціснуўшы адзін аднаму рукі, прыселі на свежапафарбаваную стракатую лаўку пад купчастымі кустамі бэзу.

— Ты не сярдуй, Захар,— пачаў адразу апраўдвацца Мікалай Лукіч.— Сам разумееш: хлеб мой не лёгкі... Працаваў. Кроў з носа, а дысертацыю абараніць павінен. Усяго праз пару месяцаў абарона...

— Ды я нічога, я не дакараю,— пасур'ёзнеў Захар.— Ведаю, што не шмат у цябе часу. А ўсё ж добра б было, калі б выбраў вечарок для маёй старэйшай: семнаццаць ужо! Калі тое і было... Нявеста, лічы. Сазваў вось гасцей на імяніны. Шаноўныя ўсё людзі. І табе б цікава было сярод іх... Нават мой колішні майстар, Мінчанка, зазірнуў. Знаеш, які мудрэчы чалавек? Ого, у рот пальца не кладзі... Гэтую тваю педагогіку ён мне так моцна ўбіў у башку — назаўсёды ўдзячны. Ты б толькі пагаварыў з ім...

«І куды ён гне, чаго цямніць? — адчуваючы, як міжволі закіпае ў ім злосць, падумаў Мікалай Лукіч.— Казаў бы ўжо адразу...» Не сцярпеў, палез у кішэню пінжака за партсігарам.

— К такому трапіш — на ўсё жыццё зарадка. Настаўнік! Ты, мабыць, і не помніш, як я збег з завода, не вытрымаў у кавальскім... Прыйшоў за разлікам, а Мінчанка — тут як тут. Чакае, барада... І смех і грэх! Як напусціўся на мяне, як пачаў чыхвосціць — аж спіна ўзмакрэла, да слёз давёў. Не, ты слухай, слухай, як ён

мяне: твайму, кажа, бацьку на фронце не так было, а не збаяўся, не збег... Чуеш?.. Во як!

Мікалай Лукіч ужо не мог спакойна пазіраць на ўзрушаны братаў твар, яго раздражнялі і гэты чорны берэт, бы бесказырка, шыкоўна насунуты на шырокі лоб, і кусцістыя натапыраныя бровы, пад якімі дабрадушна, упэўнена свяціліся вугалькамі вочы... Ён адвёў позірк, утаропіўся на доўгія бліскучыя насы сваіх лакіровак — толькі б схаваць напружанне. Нейкае чуццё падказала: зараз Захар скажа менавіта тое, дзеля чаго і запрашаў яго. І, нібы набліжаючы гэты момант, Мікалай Лукіч нечакана перавёў гаворку:

— Ты дзе адпачываць збіраешся летам? Можа, у Чарнігаўцы, га? Давай разам! Я такі-сякі парадак там навёў, хоць уклаў, як кажуць, і сіл, і здароўя... Давай, давай... Адпачнеш няблага!

Захар уважліва паглядзеў на натапыранага Мікалая Лукіча, затрымаў свой позірк на ім і, нешта скеміўшы, весела, з бадзёрасцю ў голасе адказаў:

— Не, у вёску мая сям'я не просіцца... Мора падавай ёй! Адзін раз, браток, звазіў — цяпер адбою няма. Што жонка, што дзеці. Захварэлі тым морам. А наконт Чарнігаўкі... Якраз хацеў цябе папрасіць.

«Ага, тут ты ўвесь і раскрыўся, галубок! — узрушана заёрзаў на лаўцы, не хаваючы з'едлівай, пагардлівай усмешкі, Мікалай Лукіч.— На поўдзень катануць сабраўся, а грошыкаў — цю-цю... Вось і ўспомніў пра матчыну хату: можна з браточка сарваць куш... Эх і дзялок!» Каб не даць Захару апомніцца і самому захапіць ініцыятыву, Мікалай Лукіч выціснуў з сябе:

— Дзвесце... возьмеш?

— Чаго дзвесце? — не зразумеў Захар.— А-а, на паездку... Ды не, дзвюма сотнямі, браток, не адкруцішся тут. Малавата!

«Ах ты, шантажыст... З яго мала! Шурка як у ваду глядзела. Бачылі бессаромніка, а? Пачаў вымагаць. Ну, чакай, пагляджу, што далей запяеш, родненькі». Ледзьве стрымліваючыся, каб не ўскочыць і не закрычаць на Захара, Мікалай Лукіч ухапіўся абедзвюма... 

— Паслухай, Колька, не крыўдуй... Вядома, працу-

еш ты... Але і я працую, мне яшчэ мо цяжэй куды-небудзь вырвацца, хоць бы ў тую ж Чарнігаўку.

Мікалай Лукіч адчуў, як братава рука, нібы калода, лягла на яго сціну, і яму адразу зрабілася горача, млосна. Ужо зусім не валодаючы сабой, сатанеючы ад нянавісці, прахрыпеў:

— Ды кажы, чаго хочаш?!

— Агароджу зрабіў... Адвязі, брат...

— Куды?!

— На маміну магілу...

Ніколі яшчэ не адчуваў такога цяжару на сваёй спіне Мікалай Лукіч. Захарава рука, здавалася, бязлітасна прыціскала яго да зямлі ўсё ніжэй і ніжэй і, гарачая, пякла нясцерпна. Але ён нават не спрабаваў разагнуцца, паварушыцца... І не мог узняць вачэй на Захара...

*1973*

# ЧОРТ

Адкуль, цікавіцеся, гэтае ў мяне чарцяня на ветравым шкле? Ад пасажыра... Падарунак не падарунак, а так, круціцца перад вачамі лялька як напамінак пра адну гісторыю. Таксісту рознае даводзіццаназіраць... Хочаце — раскажу.

Увесну неяк па выкліку паехаў — у канцы сакавіка, ці што... Снег тады злізала раненька, і сонца таго было навокал — мора! Гэткае яркае ды вясёлае, сапраўднае веснавое сонейка. Душа радуецца... Горад добра ведаю, адразу па адрасе трапіў, затармазіў перад саменькім пад'ездам. Такое ўжо маё правіла: падганяць ледзь не пад дзверы — а раптам там стары, хворы, дзеці... Ды ці мала што. Не брысці ж ім па лужынах праз увесь двор да машыны... І наогул, люблю, калі мной задаволены. Я нават ніколі не сігналю пад вокнамі, не прыспешваю: навошта? Раз выклікалі таксі — марудзіць не будуць, самім час дарагі.

І праўда, гляджу — вось ён, мой кліент, бяжыць да машыны з пад'езда... Зашпільвае на хаду гузікі моднай зялёнай курткі, усміхаецца, бы прабачэння просіць. Гэткі прыгажун — чупрыністы, светлатвары і высокі, нібы каланча... Яны ж, маладыя, цяпер такія рослыя — пазайздросціш!

— Я вас вельмі прашу: пазычце, калі ёсць, малаток і пачакайце хвілінку,— вінавата гаворыць ён мне.

Ну, у чым справа? Просіць чалавек — ніколі не адмоўлю. Характар такі... Знайшоў яму і малаток, і пласкагубцы, на ўсякі выпадак сам следам іду — можа, памагу, хутчэй будзе. А ён усё прабачэння просіць за затрымку, усё «выкае» мне... Ды кінь ты, дарагі, цырымонію сваю, кажу, лепш растлумач толкам, што табе трэба. Аказваецца, не так ужо і многа: забіць цвікі ў сценку... Але ж і не проста! Дужа моцныя сцены ў новых будынках, сам жыву ў такім, ведаю.

Заходзім — у кватэры яшчэ фарбаю пахне. Фарбай і... пірагамі. І тут я ўсё разумею: гасцей чакаюць... Улазіны. Вунь і жоначка яго, таксама бялявая, блакітнавокая, кругленькая, з носікам-гузікам, смешна задзёртым угору, так іззяе ад радасці і дабрыні — носіц-

ца па хаце, парадак наводзіць, нешта ўсё выцірае, хоць тыя паліраваныя шафы і так люстэркам блішчаць. А дачушка — копія мамулі — круціцца каля акна ў зале, дзе мы гакаем у сценку малатком, вешаем шаўковыя шторы, і з цікавасцю жмурыць на нас свае вачаняты, смяецца, аж заліваецца пры кожным удары, званочак.

— Галка, адыдзі! — злуецца бацька.— Ты перашкаджаеш. Лепш малюнкі свае пашукай — пакажаш дзеду.

— А дзед з барадой? — прыстае няўрымслівая дзяўчынка ўжо да маці.— Скажы: у яго доўгая-доўгая барада, як у Бармалея?

Ну, цяпер ужо канчаткова праясняецца: я павінен прывезці ім дзеда ў госці.

— Супакойся, Галка,— спрабуе злавацца і маці, толькі нічога ў яе з гэтага не выходзіць, усё роўна твар вясёлы ды радасны.— Дзед як дзед. Самы звычайны. Вунь вазьмі картачку на паліцы, паглядзі...

Круціць у руках дзяўчынка пажоўклы здымак, і я кідаю позірк: малады яшчэ на гэтым здымку дзед, выразны твар, лоб шырокі, а вочы пад ім зусім схаваліся ды так адтуль спалохана выглядаюць, нібы дзве шэрыя мышкі-нарушкі. Мабыць, доўга муштраваў нявопытны фатограф.

— Мой бацька,— чамусьці збянтэжана тлумачыць мне гаспадыня.— Галка яшчэ свайго дзеда і не бачыла.

— Бывае,— далікатна спяшаюся закругліць я размову, каб не губляць час,— усё бывае... Але можаце быць упэўнены: дастаўлю вам дзядулю ў поўным парадку. Вось толькі заб'ю гэты паганы цвік... Закляпаў! Цяпер завіце мне сюды гаспадара. Хопіць яму звінець там на кухні бутэлькамі. Хай пакіне свой занятак на вечар. Пара ехаць.

А новыя блакітныя шторы ўжо вісяць на акне, да самай падлогі спускаюцца. І пакой ад іх зусім блакітны. Хораша! Гэтак во далучышся да чужой радасці — і самому прыемна...

Паехалі.

Ды ехаць — пехтурой мо хутчэй, пару якіх кварталаў усяго. Можна і раззлавацца на хлопца: і без яго ад заказчыкаў адбою няма. Толькі ж я не злую, разумею майго пасажыра, відаць, хочацца яму даставіць

дамоў цесця з усім камфортам. Як кажуць, не дарага піва, а дарага дзіва... І падкацілі мы па ўсёй форме да будынка, я нават, улічваючы ўрачыстасць моманту, прасігналіў тройчы: вось і мы, сустракайце! Выскачыў з таксі хлопец, просіць пачакаць і ўсё такое, а я яму:

— Не хвалюйся, колькі трэба — столькі пачакаю.

Пабег ён. Знік у пад'ездзе. Не ведаю, на які там яму паверх. Хай бяжыць. Я тым часам перакуру. Вылез з машыны. Ніколі не шкодзіць размяцца. Здараецца, усю змену за баранкай прасядзіш... Ну, пыхкаю сабе цыгарэткай і ўяўляю ўжо, як зараз грымнуць дзверы і выплывуць з пад'езда гэтыя двое — мой хлапчына і якінебудзь таўстун сівы. У абдымку. Як родныя. Далібог, яны, гэтыя старыя, народ дужа пацешны: цягне іх да маладых, як магнітам, шукаюць, мабыць, тое, чаго ў сабе ўжо знайсці не могуць.

Так я разважаю, прагульваюся каля высокіх кустоў бэзу, ды раптам чую — грымнулі дзверы... І ляціць мой хлапец з пад'езда, нібы за ім хто гоніцца.

— А дзед, дзед твой дзе? — пытаюся.— Пачакаем, ці як? Мо апранаецца яшчэ?

— Ды не, не ж! — як не крычыць ён ад крыўды.— Не трэба чакаць гэтага... Паехалі!

Газануў, выскачылі на праспект, пазіраю скоса на хлопца: цікава, што ў іх з тым дзедам здарылася, чаго не падзялілі? Вось табе і булкі... Ужо трэба на яго вуліцу зварочваць — маўчыць, нічагуткі не кажа.

Потым кранае мяне за плячо:

— Давайце яшчэ праедзем...

— Куды?

— Куды хочаце...

Мне што? Катацца дык катацца. Але сам сабе кумекаю: хлопцу не хочацца адразу вяртацца дамоў. Не хапае ў яго смеласці з'явіцца без дзеда. І, нібы чытаючы гэтыя мае думкі, ён мне раптам говорыць:

— Што рабіць — розуму не дабяру. Вы не ведаеце маёй жонкі. Яна так чакала гэтага дня: атрымаць новую кватэру і запрасіць бацьку. Даведалася, што ён па дарозе з курорта заедзе да сваёй сястры — усе мне вушы пратрубіла: як сустрэнем, ды што купім, ды якіх гасцей запросім... Колькі той мэблі навезлі! Вы ж бачылі... Хай, кажа, паглядзіць бацька, як жывём! І ўсё яму даравала: і тое, што некалі кінуў яе з хворай

маці і што ніколі не памагаў — нават калі вучылася. Ну, вось... А цяпер што выходзіць? Запрасіў у госці — адмаўляецца, маўляў, няма часу, вяртацца тэрмінова трэба, чакаюць на працы. Ды які ён пасля гэтага бацька, які ўвогуле чалавек?

Верыце, столькі горычы, столькі гневу ў хлопца на твары, што і мне міжволі перадалося яго абурэнне, і з маіх вуснаў гатовы былі сарвацца зневажальныя словы ў адрас «дзеда». Але хіба словамі паможаш? Хіба паможаш тым дзвюм блакітнавокім, якім так хочацца мець бацьку і дзеда — роднага, блізкага чалавека, якія і думкі не дапускаюць, што ашукваюць свае даверлівыя душы? О, я добра ведаю гэты сум па бацьку! Колькі мне было ў вайну? Ну, ад сілы, гадоў восем... Усяго нацярпеліся, усяго хапіла. Але аб ім, бацьку, увесь час думалі. І тады, калі вакол стралялі, калі ад жаху скрозь зямлю хацелася праваліцца, і тады, калі было ўжо ціха. Не вярнуўся бацька... Колькі з вайны часу прайшло, а прыгадаю — ледзь не плачу...

Уявіў я сабе, як вернецца хлопец дамоў і раскажа аб усім, і вочы жыццярадаснай жанчынкі затуманяць слёзы... І ніхто ўжо — ніякія там сябры, ні знаёмыя, што прыйдуць на наваселле,— не пагасяць на яе твары глыбокага смутку. Параіў хлопцу:

— Ты не кажы жонцы, што бачыў сёння гэтага чалавека. Потым, калі-небудзь скажаш. А сёння — не трэба. Пастарайся зрабіць так, каб ваша наваселле было па-сапраўднаму вясёлым. Зробіш?

Адразу ўсё зразумеў... Нават уздыхнуў з палёгкай, бядак. Павёз я дамоў яго. Але калі расплачваўся са мной за таксі, нечакана дастаў з кішэні вось гэтага самага чорціка з рожкамі — ну, як бы падарунак ад таго дзеда ўнучцы... Хацеў выкінуць, а я, стары дурань, успомніў, што ў нашага брата мода ёсць: вешаць лялькі-цацкі перад самым носам, на ветравым шкле. Пакінуў, бачыце, сабе, павесіў. Здаецца часам мне, што не чарцяня гэта вісіць, а той самы нягоднік! Во пакараў дык пакараў — перад усімі маімі пасажырамі на шнурочку боўтаецца... Дзівак я, праўда? Ды з песні слоў не выкінеш — як было, так і расказаў.

— Ну, вось і дабраліся... Вас куды зараз, у гасцініцу?

*1976*

# ДЗЕД МАРОЗ

Ён увайшоў у кабінет загадчыцы дзіцячага сада, прывітаўся і сказаў:

— Вам, гаспадынька, Дзед Мароз не патрэбен?

Загадчыца здзіўлена глянула на госця — высокага, круглатварага мужчыну з вясёлымі вачамі — і абрадавана заўсміхалася.

— Ой, што вы! Патрэбен... Мы якраз шукаем Дзеда Мароза...

— Я і ёсць Дзед Мароз. Лепшага не знойдзеце — прыехаў з самай Поўначы... Ды і садзік жа ваш знаёмы мне, некалі жыў у гэтым горадзе. Жыў і нават быў у вас на ёлцы, таксама Дзедам Марозам. Толькі вось загадчыца тады другая была... Старэнькая. У акулярах...

— Гэта праўда, я тут нядаўна...

— Ну, дык як — згода?

Праз дзень ён прыйшоў адсвяткаваць з дзецьмі Новы год. З чамаданам. З такім звычайным дарожным чамаданам, невялікім, але даволі ёмістым. Там, напэўна, было ўсё, што неабходна Дзеду Марозу. І раскошны белы кажух, і серабрыстая вастраверхая шапка, і грым. Там усё было, таму што так дамовіліся. І загадчыца прапанавала яму для пераадзявання свой кабінет.

— Толькі хутчэй — народ у нас вельмі нецярплівы...

Мужчына ўзняў галаву і ўсміхнуўся: разумею, усё будзе ў парадку!

Загадчыца выйшла. Ён застаўся адзін. Адзін перад люстрам. Ён пазіраў, і яму не хацелася пазіраць на сябе — на свой спахмурнелы твар, на журботныя вочы... Колькі сустрэч было ў яго з дзецьмі на ёлках! Колькі карагодаў! Так павялося. Яшчэ са школы пачаў ён іграць дабрадушнага, вясёлага Дзеда Мароза... Але цяпер яму было не вельмі весела, не вельмі спакойна. Трывожна... Так трывожна, што нават рукі дрыжалі, калі прыклейваў бараду. І ўсё ж у яго было нешта ад акцёра, хоць, акрамя Дзеда Мароза, ён ніколі і нікога не іграў. Ён раптам зухавата падміргнуў сабе калматым прылепленым брывом і, шырока ўсміхаючыся, накіраваўся ў залу.

— Дзед Мароз, Дзед Мароз! — закрычалі дзеці.

Яны чакалі яго, гэтыя мілыя, смешныя мордачкі. Проста пацеха. І куды ні зірнеш — усюды цікаўныя, радасныя вачаняты. Такія хітраватыя, нібы кажуць: «А мы ведаем, Дзед Мароз, што ў цябе ў торбе, ага!»

— Добры дзень, дзеткі-малалеткі! — прамовіў ён старэчым голасам.— Ішоў я да вас па палях, па гарах, па лясах...

Ён ласкава гаварыў прывычныя словы, а дзеці ўважліва слухалі. Слухалі і бацькі, уладкаваўшыся ўздоўж сцяны, з падабрэлымі лагоднымі тварамі. І было ціха. Да той мінуты было ціха, пакуль ён не ўбачыў яго... Нешта зазвінела тонка-тонка. Нібы крохкія ледзяшы падалі з даху. Дзеці ўжо танцавалі, ужо вадзілі карагод вакол ёлкі. І ён, Дзед Мароз, танцаваў разам з імі, мякка прытупваючы нагамі ў тоўстых шэрых валёнках. І ўсміхаўся, і жартаваў, і спяваў «Ёлачку»... Але бачыў ён у карагодзе толькі аднаго: чорнагаловага хлапчука з вялікімі блакітнымі вачамі...

Ах, як ты вырас! Ну, як ты хутка вырас... За нейкія два гады. Усяго два гады. Падыдзі, падыдзі бліжэй. І дай руку... Вось так, мой родненькі. Гэта твая цёплая далонька грэе мне сэрца. Калі б ты ведаў, як яно там трымціць! Але ж я Дзед Мароз. Толькі Дзед Мароз, праўда?

Потым ён раздаваў падарункі. І калі аддаў бліскучы слюдзяны мяшэчак сінявокаму хлопчыку, не вытрымаў, схапіў яго моцнымі рукамі і высока падкінуў над галавой: «Будзеш касманаўтам!» Малыш весела смяяўся. І ўсе смяяліся. Ну і добрага ж Дзеда Мароза адшукала загадчыца! І дзе такога весельчака яна выкапала? Вунь колькі радасці дзецям...

Апусціўшы хлопчыка на падлогу, ён адчуў на сабе чыйсьці пільны позірк. Мажліва, ён ужо даўно яго адчуваў. Патрабавальны позірк, неспакойны, трывожны. І ён паглядзеў туды, куды пабег малыш. У далёкі куток, ля самых дзвярэй. І ўбачыў яе, маці. Зусім яшчэ маладую, чарнявую жанчыну. Яму здалося, што на вачах у яе слёзы. Яму здалося, што позірк яе быў жаласны і разгублены. І яна, напэўна, не магла ўжо глядзець у той бок, дзе быў ён, Дзед Мароз. Яна хутка цягнула за руку хлопчыка да дзвярэй — ад яго... Пачакайце, куды вы? Ён хацеў кінуцца за імі, крыкнуць, але толькі моцна, да крыві, прыкусіў губы.

А на ёлцы гарэлі рознакаляровыя лямпачкі — сінія, зялёныя, чырвоныя. Дзеці танцавалі і спявалі: «Добры, слаўны Дзед Мароз падарункі нам прынёс!»

Так, прынёс падарункі. І раздаў. Усё, што было. І нават тыя, што прывёз для таго, сінявокага хлапчука. А вы, гаспадынька, хоць задаволены? Задаволены... Не, не, у ведамасці ён распісвацца не будзе... Ніякай платы. Ён — пойдзе. Ён спяшаецца на вакзал. У яго ж у кішэні білет на цягнік. Толькі не трэба, гаспадынька, пазіраць так жаласліва...

Ён хутка развітаўся і выйшаў на вуліцу. Падаў буйны, густы снег. Халодныя камякі садзіліся на твар, на вейкі. Раставалі. Вочы былі мокрыя. Ён ужо нічога не бачыў скрозь гэтую заслону вільгаці. Толькі наперадзе малочныя постаці прахожых... І размыты контур вакзала...

*1968*

# ЛЯЛЬКІ

Кіёск стаяў побач са школай. У ім прадаваліся лялькі і іншыя дзіцячыя цацкі. Сценкі кіёска былі зроблены з тоўстага шкла. І ўсе лялькі пазіралі праз сінявата шкло на вуліцу здзіўленымі блакітнымі вачамі. І калі школьніцы вярталіся дамоў, яны заўсёды спыняліся ля кіёска.

Тамара ўсміхалася. Многіх з гэтых маўклівых «пакупніц» яна бачыла ля кіёска амаль кожны дзень — у чысценькіх школьных сукенках і вязаных шапачках, з партфелямі і сумачкамі, у якіх, напэўна, смачна, густа пахла хатнімі бутэрбродамі і новымі сшыткамі з першымі мілымі каракулямі. І ёй хацелася распытаць, як цяпер там, у школе, якая ў іх настаўніца, якія ўрокі. Проста так распытаць, каб пачуць звычайную дзіцячую гаворку. Дзеці ёй заўсёды падабаліся. Падабалася іх любоў да лялек, з якімі — яна добра ведала — яны яшчэ доўгія школьныя гады будуць употай гуляць, сарамліва хаваючыся ад дарослых.

Так было з дня ў дзень. І дзеці прывыклі да Тамарынай ласкавай усмешкі, як да лялек на паліцах. Але аднойчы гэтая ўсмешка знікла з твару прадаўшчыцы. З тае пары, як Тамара вярнулася з бальніцы, дзяўчаткі ўжо не бачылі яе вясёлай. Калі дзеці збіраліся перад акенцам кіёска, Тамара або адварочвалася, або раззлавана гаварыла:

— Ну, што вы тут тырчыце ўвесь дзень? Усё роўна ж нічога купляць не будзеце.

І дзеці неахвотна і нават пакрыўджана адыходзілі. А яна — заставалася. І разам з ёй заставаліся на паліцах лялькі: вялікія і маленькія, пластмасавыя і з матэрыі, у акуратных модных сукенках і вышываных блузках, з доўгімі косамі і прыгожымі бантамі, і ўсе — з блакітнымі наіўнымі вачамі. Але Тамары ўсё часцей і часцей здавалася, што лялькі пільна пазіраюць на яе. І ў іх блакітных вачах — ні то спачуванне, ні то дакор. Яна хмурылася, адыходзіла ад лялек, ды часам ужо не магла стрымаць сябе: адчувала, як хутка-хутка мокнуць ад слёз шчокі. Добра, што пакупнікі падыходзілі рэдка.

— Добры дзень, Томачка... Тавар новы атрымала?

Вясёлы жаночы голас паказаўся вельмі знаёмы. Яшчэ не павярнуўшыся да акна, Тамара ўспомніла, каму ён належыць: іх ложкі ў палаце стаялі побач.

— Дзень добры, Паліна Маркаўна.

— Ну, як адчуваеш сябе, Томачка? Доўга ты пасля мяне там ляжала?

— Дні чатыры... Пакідалі яшчэ, ды я ўгаварыла выпісаць.

— Што ні кажы, даражэнькая, цяжка нам. І раджаць цяжка, і не раджаць цяжка. Ну, навошта мне болей? І так у хаце трое гарлапанаў...

Тамара моўчкі пазірала на здаровую, шчаслівую жанчыну, у якой былі дзеці і муж, якая зусім не шкадавала ці не задумвалася пра тое, што адбылося там, у бальніцы, і цяпер круглы чырванашчокі твар Паліны Маркаўны, і яе какетлівая ўсмешка, і бесклапотны голас, і нават пах тонкіх духоў выклікалі ў Тамары непрыязнасць.

— Не дарую я сабе, Паліна Маркаўна, ніколі не дарую... Мне ж так хацелася хлопчыка!

— Ну, а ён што? Хоць цяпер задаволены? Пажэніцеся?

— Я яго ненавіджу...

Хаваючы няёмкасць, жанчына яшчэ нешта спытала пра выстаўку моднага адзення і заспяшалася ісці.

— Як-небудзь яшчэ зазірну да цябе, Томачка.

Але назаўтра, калі школьніцы гаманлівай чародкай падышлі да кіёска, яны ўжо не ўбачылі Тамары: лялькі перакладвала другая прадаўшчыца.

*1969*

# ПЕРАД НОВЫМ ГОДАМ

Гэта, мабыць, заўсёды так: калі пайшло на папраўку, калі адчуваеш, як дужэе, напаўняецца сілай тваё цела і хвароба амаль не нагадвае аб сабе — лічыш у бальніцы кожны дзень... І ўжо з сумам і радаснай нецярплівасцю пазіраеш з акна палаты: там — жыццё, там — людзі, там — праца, у якую марыш акунуцца з галавой.

Эх, хутчэй бы...

А тут яшчэ жару паддаюць тыя, хто збіраецца дахаты. Пазіраеш, як на вачах мяняецца чалавек, колькі нязвыклай энергіі з'яўляецца ў яго рухах, голасе, вачах, і не верыш, што яшчэ нядаўна бачыў яго бездапаможным, прыгнечаным. І па-добраму зайздросціш здароваму чалавеку. І думаеш, мо ўпершыню, якая гэта неацэнная перавага перад усім астатнім — быць здаровым, усміхацца толькі з той прычыны, што здаровы, што твая рука можа моцна пацiснуць руку сябра.

Але ў мяне — нечаканая, прыкрая затрымка... Мяне не паспелі падрыхтаваць да выпіскі з бальніцы, і я, зусім здаровы, вандрую з калідора ў калідор,назіраю не зусім звычайную мітусню (і тут адчуваецца надыход свята) і лаю свой нешчаслівы лёс: гэта ж трэба, каб так надарылася, каб так не пашанцавала — Новы год сустракаць у палаце сярод двух хворых...

Дзень цягнецца нясцерпна доўга. Я ўжо і тэлевізар паглядзеў, і ўсім сябрам паштоўкі віншавальныя напісаў, і наслухаўся цікавых франтавых гісторый майго суседа па ложку, і нагаварыў кучу кампліментаў дзяжурным медсёстрам. Ды вось зноў таўкуся ля стала адной ■ іх: бялявай Сашанькі. Яна нахілілася над журналам, робіць выгляд, што не звяртае на мяне ўвагі, на маю балбатню, што занятая толькі праверкай запісаў-прызначэнняў хворым. Нават нібыта незадаволена хмурыць свае вузкія броўкі, але па тым, як не-не ды ўставіць слаўцо ў размову, як кіне хуткі насмешлівы позірк у мой бок,— не цяжка здагадацца: слухае. І ўсё ж, у рэшце рэшт, яна, чырванеючы, гаворыць мне сваім пяшчотным галаском:

— Хворы, не перашкаджайце...

— Ну, вось і паспачуваць мне няма каму,—

скарджуся я.— А ў інстытуце ў нас сёння навагодні баль...

— Што вы! — палохаецца Сашанька.— Я вам вельмі-вельмі спачуваю, хворы...

— Ды не хворы я! — прытворна абураюся.— Які ж я хворы? Вось зірніце...

Саша смяецца, гледзячы, як я малайцавата выпінаю грудзі, і яе жыццярадасны смех весела звініць на калідоры. Ах, як добра яна смяецца, як па-юнацку шчыра і душэўна. Адразу ад гэтага смеху цяплее на сэрцы.

— Ідзіце вячэраць,— загадкава раіць яна.— І не кісніце, усё яшчэ наперадзе...

Павячэраўшы, я прывычна кладуся на ложак. Думкі настойліва цякуць у тым жа кірунку: бальніца — дом... Ціха дрэмлюць пасля снатворнага мае суседзі-старыя. Чуваць за дзвярамі мяккія крокі: гэта прабягае нястомная Сашанька ў сваім беласнежным халаціку. Думаючы аб ёй, уяўляючы яе добры блакітнавокі твар, засынаю.

Не ведаю, колькі сплю, але раптам чую: нехта настойліва кранае за плячо...

— Хворы, у працэдурную!

— Навошта? — пытаюся санліва.

— Вам ін'екцыя...

Яшчэ канчаткова не прачнуўшыся, дрэнна ўяўляючы, на што мне тая ін'екцыя, устаю і паслухмяна іду следам за Сашай у працэдурную.

Адчыняем дзверы і...

— Зірніце на гадзіннік, хворы!

Божухна — стрэлка падбіраецца ўжо да дванаццаці!

— А цяпер ідзіце хутчэй сюды...

Не, дарэмна я лаяў свой лёс: у кутку, за белым столікам, сядзяць знаёмыя мне медсёстры, а на стале — сапраўдная з залатым рыльцам цёмна-зялёная бутэлька шампанскага і высокія мензуркі.

— Вось, сустрэнеце з намі Новы год! — чамусьці шэптам, бліскаючы вачамі, гаворыць Саша.

Але тут здараецца самае нечаканае — Сашыны спрытныя рукі закасваюць мне рукаў, і яе голас паспешліва, спалохана просіць:

— Шпрыц, дзяўчаткі! Глюкозу...

Толькі цяпер я заўважаю ў дзвярах кудлатую галаву дзяжурнага ўрача Альшэўскага.

— Што з хворым? — сурова пытаецца ён, не пераступаючы парога.

— Нешта з сэрцам.

— Ну-ну, лячыце... Каб у Новым годзе не хварэў малады чалавек!

І гаспадарліва прычыніўшы дзверы, знікае.

А кусачая іголка, апошняя ў гэтым годзе, бязлітасна джаліць маю руку пад вясёлы, усхваляваны рогат дзяўчат...

*1973*

# НАДВЯЧОРКАМ

Цёплыя чэрвеньскія надвячоркі. Нейкае незвычайна мяккае, лёгкае паветра вісіць над зямлёй. Здаецца, яно, гэтае паветра, ахоплівае цябе ўсяго і нясе, нясе невядома куды... Можа, у далёкі свет твайго дзяцінства — знаёмымі дарогамі, за срэбную стужку ракі, у напоеныя салодкім водарам разнатраўя лугі. Можа, туды, дзе як бы зусім блізка, за цёмнай шчоткай садоў усё яшчэ кубліцца, сонна бліскаючы агеньчыкамі, вёсачка... Адтуль далятаюць нават асобныя гукі, прыглушаныя адлегласцю. І зусім выразна — музыка...

Мы сядзім на балконе. І нязвыкла, нават дзіўна, у гэтай ціхамірнасці чуць устрывожаны голас маёй цёткі Анелі:

— Вы мне даруйце, што так позна да вас... Не хацела ўжо ісці, непакоіць, ды так надумалася, так сэрца маё растрывожылася, што месца сабе не знаходжу... Пайду, думаю, да цябе, Хведзька, раскажу ўсё. Каб толькі спаць не кляліся...

Жонка супакойвае: і не збіраліся яшчэ. Якраз добра, пасядзім разам. Шкада ў такі вечар спаць.

Ды ўрэшце мы ж заўсёды радыя, калі яна зойдзе — адна цётка ў мяне тут, у горадзе. Даўно ўжо забраў яе да сябе сын Віктар — з тае пары, як вывучыўся лётаць на самалёце. І колькі ўжо гадоў жыве ў яго маці, але вясковых звычак не губляе. Любіць часта наведваць знаёмых, родзічаў. Любіць успамінаць. Прыйдзе — абавязкова «гасцінца» прынясе. «Ды навошта вы, цётка Анеля, яечкі прынеслі? У нас жа ёсць...» — не вытрымае, скажа жонка. «А мне ўсё роўна, ёсць у вас ці няма. Я ўнучцы прынесла». Паспрабуй растлумач ёй што-небудзь. У яе свой погляд на рэчы. Але так мне прыемна бачыць яе, нетаропкую, разважлівую, зычлівую...

— Ну, што ж у вас там здарылася? — першым парушаю я маўчанне. І жартую: — З нявесткай нелады?

Цётка Анеля нібы і не чуе жарту. Пазірае некуды ўбок, нарэшце пытае:

— Ці помніш ты майго Захара, Хведар?

5 Зак. 1913

— Адкуль жа мне яго помніць? Я яшчэ, напэўна, пад стол хадзіў, калі ён на вайну пайшоў.

— І то ж праўда, што гэта я, дурная, пляту... Адкуль табе яго помніць? Ты, мабыць, нават не помніш, як і пахавальную даслалі... Дык вось, паслухай, пляменнічак, што я табе зараз скажу: Захар — жывы!

— Што?!

— Жывы, жывы. Адшукаўся...

Цётка Анеля, абапёршыся на поручні балкона, пільна пазірае на нас з жонкай.

— Я даўно гэта адчувала... І вам казала: недарэмна ён мне сніцца. Не павінен быў загінуць!

Ашаломлены, не адразу я знаходжу патрэбныя словы. Потым усхвалявана накідваюся з першымі пытаннямі: хто сказаў пра дзядзьку Захара, хто яго бачыў ці, можа, пісьмо аднекуль прыслаў?

— Не-е, пісьма не прыслаў,— уздыхаючы, ужо больш спакойна тлумачыць цётка Анеля.— У тым і справа, што не прыслаў пісьма. Тут увесь і сакрэт... А жыве ён на Украіне. У адным горадзе. Запарожжы ці... Задарожжы? Віцька мой туды лётаў. Тамачка і сустрэў яго... Копія, кажа, бацька! Як на фотакартачцы... На эледроме працуе. І ўсё нібыта супадае. І хвамілія наша — Вусовіч, і завуць так... Вось толькі малады не па гадах. Дык яны ж усе Вусовічы маладжавыя...

— І дагэтуль дзядзька Захар маўчаў? Не можа быць такога!

— А чаму не можа быць? Можа. Усё можа... Мы ж у бежанцах былі, пасля вайны не адразу вярнуліся на Гомельшчыну. Пашукаў — не знайшоў нас, паехаў блукаць сабе...

Цётка Анеля ражком хусткі выцірае вочы. Жонка спачувальна абдымае яе за плечы, узрушана раіць:

— Абавязкова вам трэба з'ездзіць у той горад. Заўтра збірайцеся і едзьце. Можа, грошы трэба? Мы дамо... Едзьце!

Але ж цётка Анеля задуменна ківае галавой і раптоўна кажа:

— Не паеду я, дачушка...

— Як?! Чаму?

— Чаго мне туды ехаць? А можа, гэта і не мой Захар? Навошта ж мне яго двойчы хаваць. А калі і Захар? Дык у яго, пэўна, там новая сям'я. І тое жыццё, што было паміж намі,— не вернеш. Сыноў я, дзякуй богу, і сама пагадавала. Што ім цяперака бацька? Самі бацькі...

Маўчу, уражаны мудрасцю слоў старой, маўчу і таму, што зусім не ведаю, як суцешыць цётку Анелю. І яна доўга нічога не кажа мне. Падпёршы галаву рукой, нібы ўзіраецца ў зялёнае месячнае неба, шукае там нешта паміж жаўтлявых воблачкаў.

*1974*

# ГЕНКА, ГЕНКА...

Вы думаеце, я адразу пазнаў яго, калі ён пераступіў парог маёй кватэры?

Па-першае, гэта быў ужо не той Самойлішын Генка, якога я ведаў,— маленькі, рыжы, у вайсковай пілотцы па самыя вушы, у доўгім салдацкім фрэнчы, што ледзь трымаўся на худых хлапчуковых плячах. Па-другое, столькі часу прайшло з тых пасляваенных гадоў, калі мы з маці пераехалі з Міхалёўкі ў горад...

І ўсё ж гэта быў ён, Генка. Генка з Міхалёўкі. Толькі цяпер — высокі, стройны мужчына з незнаёмым густым басам.

— ...пастарэла, пастарэла мая Самойліха, не пазнаць цёткі. Сівая ўся, недабачыць. Плакала, калі я ад'язджаў. Шкада яе вельмі. А што зробіш? З сабой не возьмеш — далекавата. Вось памог ёй перакрыць дах, падлогу падрамантаваў — прагнілі дошкі... Дзядзьку Кузьму папрасіў перакласці печку. Узімку цёпла старой будзе. У яе ж, ведаеш, якія хворыя ногі...

Так гаварыў Генка, калі ўжо мы павячэралі. Калі крышку выпілі за сустрэчу. І позірк у яго быў гэткі добры, журботны...

Сядзелі ля адчыненага акна. Сонца зайшло. Моўчкі пазіралі, як паволі патухае, меркне неба — шырокая чырвона-жоўтая паласа над гарадскім паркам. Дагарае і вабіць, як тое вогнішча надвячоркам. Гаманіць не хацелася. Сцішаныя, задуменныя, мы доўга сядзелі, пакуль я не прапанаваў пайсці адпачываць.

— А то яшчэ заспім... Спознішся на свой цягнік.

— Нічога, на брэсцкі паспею. Ды згодзен, давай класціся.

Жонкі дома не было: паехала на некалькі дзён да маці. Я гаспадарыў сам. Уключыў таршэр, паслаў госцю на канапе, прысунуў да яе крэсла-ложак — каб быць з Генкам побач. Перакінуліся яшчэ некалькімі словамі, пажартавалі наконт майго вымушанага «халасцяцкага» жыцця і пачалі чытаць газеты. Я не заўважыў, як стомлены Генка заснуў. Абажур таршэра цадзіў мяккае зеленаватае святло, і я добра бачыў твар сябра, яго самога. Ён ляжаў на баку. Смешна скурчыўся, падклаў абедзве рукі пад шчаку — зусім як дзіцё.

А я ніяк не мог заснуць... Успаміны перапоўнілі мяне, перанеслі на колькі год назад. Адклаўшы газету, я пазіраў на Генкаў зеленаваты твар, і нешта трывожнае, жаласлівае варушылася ў грудзях.

Нібы на экране, вельмі блізка і выразна ўбачыў я перад сабой хлапчукоў у салдацкіх пілотках, сваіх аднагодкаў, і сярод іх Генку — у тым доўгім, да пят, нямецкім фрэнчы... Маленькі, бледнатвары (мы ўсе былі старэйшыя за яго на тры-чатыры гады), ён самотна стаіць на поплаве ля Хведаравай копанкі, жмурыць на сонцы блакітныя вачаняты і з зайздрасцю назірае за намі — як мы гуляем у «партызан» і «немцаў». Потым баязліва падыходзіць да нашага завадзілы Адама і просіць прыняць яго ў гульню. Але Адам не прымае. Не хоча. Не любіць ён вадзіцца з пацанамі. Толькі Генкавы слёзы прымушаюць яго злітавацца.

— Ну, ладна, за немчуру сыдзеш. Чуеце, хлопцы? Ён жа сапраўдны фрыц у нас!

Мы пагардліва і ў той жа час крыху сарамліва смяёмся: у нас свой фрыц! Гэта ж Генку Наўроцкая Ганна немаведама ад каго нарадзіла... Гэта ўсе ведаюць у Міхалёўцы. Усе... Нават мы, малыя. І кожны з нас з задавальненнем, з нейкай д'ябальскай зласлівасцю крычыць Генку:

— Эй, немчура!

А блакітныя Генкавы вочы толькі жмурацца. Ён усміхаецца нам неяк вінавата і здзіўлена. Ён не разумее ўсяго ўтоенага сэнсу гэтага слова, ён многа чаго не разумее. І маці сваю ён не памятае: тады ж памерла. Ён ведае, што ў яго нікога няма. Нікога, апроч спагадлівай цёткі Самойліхі, якая гадуе хлапчука.

У Генку можна кідаць «гранату», страляць з-за куста з «аўтамата»: тыр-р-р... Ён для нас — немец. Фрыц!

— Эй, немчура, чаму не падаеш? Падай! Мы цябе ранілі,— крычаць хлопцы з алешніку.

І Генка — падае... Пакорліва, хутка, не зважаючы, куды ён падае, адчуваючы за сабой усё тую ж незразумелую яму віну, баючыся толькі аднаго: каб не прагналі хлопцы з поплава.

Генка не супраціўляецца, калі мы завязваем яму вочы і вядзём партызанскай сцяжынкай «на расстрэл». І — «расстрэльваем» доўгімі кійкамі-вінтоўкамі. Усміхаючыся, Генка зноў паслухмяна чмякаецца ў дарож-

ны пыл, плюхаецца між кустоў. Нарэшце ён так выпэцкваецца, што яго цяжка пазнаць. І тады на выган выходзіць цётка Самойліха. Яна не крычыць на Генку, не б'е яго, не лае нас. Яна толькі забірае нашага «немца» дамоў і дакорліва, ціха кажа:

— Эх, вы... Пашкадавалі б, ён жа без бацькі, без маці... Бессаромнікі!

На нейкі момант нам робіцца ніякавата. Але толькі на нейкі момант. Самойліха знікае ў сваёй абгарэлай чорнай хаце, і мы зноў заядла гуляем у «партызан» і «немцаў».

Нярэдка здаралася, што Генка таксама вяртаўся да нас — уцякаў ад цёткі дагульваць «фрыца»...

Не, я не мог ужо супакоіцца ад думак, заснуць... Толькі Генку не перашкаджаў, здавалася, ні раптоўны скрыгат тармазоў, ні людская гамонка пад самым акном на тралейбусным прыпынку. На грудзях у яго ўсё яшчэ ляжала разгорнутая газета з рознымі весткамі з-за мяжы — добрымі і трывожнымі... І я не мог чамусьці адарваць позірку ад гэтай газеты, ад твару Генкі, хоць твар у яго быў як твар, звычайны. Вузкі, прадаўгаваты, з прамым тонкім носам і вострым падбародкам. Светлыя валасы ўскудлаціліся, апалі на лоб, закрылі і без таго непрыкметныя бялявыя бровы. Ён дыхаў спакойна, Генка... Можа, сніў сваю самотную Самойліху — таму і твар у яго быў спакойны, лагодны. Я пазіраў на яго і цяпер пэўна ведаў, што сон ужо не прыйдзе ка мне да самай раніцы.

*1971*

## ЖЫВАЯ КАПЕЙКА

Усяго на хвілінку затрымліваецца электрычка — толькі сысці пасажырам — і вось ужо зноў імчыць наперад, пакідаючы нас на паўстанку...

— Дык вам у Рэчкі? Тады — разам... Дарога недалёчка: пасядзім тамака, пакукуем, мо якая спадарожная і падкіне да вёскі.

Зеленаватыя вочы цыбатага хлопца весела іскрацца, паблажліва, нават ганарыста пазіраюць на мяне. Ссутуліўшыся, ён трымае ў кожнай руцэ па чамадану, усміхаецца пухлымі губамі. З-пад зашмальцаванага бушлата бялее светлы клінок нацельніка. Цяжка адразу здагадацца, колькі хлопцу гадоў: на круглым, пажаночы мяккім белым твары час не пакінуў ніякіх прыкметных адзнак, ні адной зморшчынкі. Такі твар і ў пяцьдзесят застаецца маладжавым.

— Трымайцеся за мной... Не бойцеся: я тут, бы кулік у балоце, усё ведаю! У гэтай глухамані нарадзіўся, выхаваўся, спасціг, як той казаў, сэнс жыцця... Праўда, у родных мясцінах даўнавата не гуляў, але, спадзяюся, землякі прызнаюць Ваську Кісяля... А вось і яна, рэчкаўская дарога!

Каменная шасейка глянцавіта блішчыць наперадзе паміж кустоў лазы. Шчодрае майскае сонца аж сляпіць вочы. Цёпла. Карціць хутчэй скінуць пінжак ды паляжаць на зялёнай траўцы. Так і раблю. Васька Кісель з асалодай чмякаецца побач на абочыне. Адразу дастае з кішэні пачак цыгарэт, доўгі жоўты мундштук, закурвае. Дымок папяросы ляніва блытаецца ў раскошнай рыжай чупрыне — яна ў яго зухавата навісае над самымі вачамі. Але і цяпер ён не маўчыць: звонкі галасок яго нахабна лезе ў вушы... Здаецца, хлопец з той пароды людзей, для якіх галоўнае — расказаць пра сябе.

— Пашвэндаўся я па свеце не адзін гадок... Бацюхны-матухны, дзе толькі не быў Васька Кісель! Ды і тое скажу: чаго ў вёсцы марнець! У зямлі корпацца? Які толк? Рыба шукае, дзе глыбей, чалавек — дзе лепш... Так? Вось і я змікіціў: няма чаго мне ў калгасе ацірацца. З маёй спецыяльнасцю трактарыста ўсюды прымуць, асабліва ў прасторных краях сібірскіх... Агітнуў

свайго сябрука Кандрата: давай разам паедзем! Жывую капеечку закалымім... Не захацеў, дурань. Тады я адзін... эмігрыраваў. Чакай, кажу яму, вось прыкачу на сваіх колах — слінкі ад зайздрасці глытаць будзеш. А ў нас з Кандратам яшчэ ў школе мара была: купіць сабе па «Запарожцу»...

— Ну і як, зарабіў на колы?

Маё бесцырымоннае пытанне, мабыць, не дужа падабаецца хлопцу. Ён надта ўжо старанна і доўга чысціць саломінкай муштук, прадувае яго, круціць у руках. Нарэшце, уздыхнуўшы, адказвае ўхіліста:

— Зарабіць там можна... Я і па Енісеі паплаваў, і на лесанарыхтоўках палазіў. Усюды жывая капейка... Вось толькі ўтрымаць яе, праклятую, цяжкавата: чарку ж бясплатна не даюць... Але тое-сёе вязу. Такіх пару касцюмчыкаў адхапіў — закачаешся! Адзін — шарсцяны, другі, гэты... з моднага матэрыялу... плен... крым...

— Крымплен? — падказваю я.

— Во, во, ён самы... Ну, скажы: хіба такі купіш у нашых Рэчках? А транзістар японскі — усе радыёстанцыі свету слухае. Цудам у аднаго штурмана набыў...

Кісель яшчэ нешта гаворыць, узрушана, з захапленнем называе яшчэ нейкія рэчы, якія — ён ганарліва стукае па баку аблупленага чорнага чамадана — у Рэчках і не сніліся нікому, але мне ўжо сумна яго слухаць. Прыгрэўшыся на сонейку, я падрэмваю ціхенька ды з надзеяй пазіраю на дарогу: раптам выскачыць з-за павароту якая-небудзь машына... Добра было б хутчэй трапіць у гэтыя Рэчкі, зрабіць свае службовыя справы ды паспець назад, на чарговую электрычку. Кісялю таксама надакучыла ляжаць. Ён устае, старанна атрасаецца і нечакана ўзрадавана крычыць:

— Едзе! Чыёсь шчасце да нас коціць... Галасую!

Пранізліва рыпяць тармазы: блакітны «Масквіч» застывае побач. З машыны высоўваецца малады мужчына:

— Куды?

— У Рэчкі! У Рэчкі, каб цябе чэрці... Кандрат! Няўжо не пазнаеш? Мяне не пазнаеш, Ваську Кісяля?! Мы ж з табой...

У машыне Кісель ніяк не можа супакоіцца, круціцца, мітусліва трасе руку сябра, ляпае яго па плячы,

тарахціць, узрушана распытвае аб сваіх родных... У люстэрка над ветравым шклом я лаўлю позірк вадзіцеля: ён усміхаецца.

— Дарэмна ты са мной тады не паехаў, Кандрат... Як хочаш думай, а дарэмна. У нас там капейка жывая... Прыбарахліўся б... А тут што, скажы? Якія радасці, які заробак? Не ўсміхайся, не ўсміхайся, хвастун, сам бачу — цяперака ў цябе работка чыстая, старшыню возіш...

— Не важу я старшыню...

— А каго... возіш? Можа, міністра? Га-га-га! — весела рагоча Кісель.— Машына ж чыя, чыя машына ў цябе?

— Мая...

— Ой, жартаўнік! Кінь...

— Ды не жартую я... На тым тыдні з магазіна прыгнаў. Так што мая, брат, законная. У нас цяпер у Рэчках, ведаеш, машын легкавых колькі? Антона Беляка з трактарнай брыгады помніш? «Жыгулі» мае. Твой сваяк Юзік на «Масквіча» разжыўся. Нават стары Рыбнікаў, гэты, кульгавы, на «Запарожцы» раз'язджае... Ну а я што, лысы? Таксама купіў... Ды і па службе мне, брыгадзіру трактарнай, зручна — сеў і паехаў, куды трэба.

— Ты... брыгадзір?

— Дзякуй богу, другі год.

Мой спадарожнік слухае з разяўленым ротам, зялёныя недаверлівыя вочы як не выкаціліся з арбіт, і ў іх — нямое здзіўленне. Ён ёрзае на сядзенні, нешта, мабыць, хоча яшчэ спытаць, удакладніць, але ўжо не адважваецца і толькі хмурыцца, крывіць тоўстыя губы. Яго разгублены, пазбаўлены самаўпэўненасці твар чамусьці мне не здаецца такім маладжавым, як раней. Гэтаму Кісялю, бадай што, усе трыццаць, калі не болей. Ва ўсялякім выпадку, цяпер ён выглядае куды старэй свайго сябра... А той, адкінуўшыся на спінку сядзення, круціць баранку, вядзе машыну — пазайздросціш. Нясецца наш «Масквічок» наперад упэўнена і роўна.

Васька Кісель маўчыць.

*1977*

## ГАНАРЛІВЕЦ

Кабінет народнага суддзі невялікі, нават можа паказацца цеснаватым: каля самага акна — шчыльненька, упрытык — два пісьмовыя сталы, два рады зялёных крэслаў прыляпіліся да сцен, ды шафа з вешалкай грувасціцца, загароджваюць вузкі праход ад дзвярэй. Але Кацярына Іванаўна, мабыць, прывыкла за многія гады працы да свайго кабінета і ўсіх гэтых неабходных рэчаў настолькі, што не заўважае цеснаты, пачувае сябе тут, як дома. Ва ўсялякім выпадку, так мне здаецца. Прыходжу я ў суд звычайна на якую гадзіну раней, каб пазнаёміцца да пасяджэння са справамі, і магу, напрыклад, застаць Кацярыну Іванаўну каля яе кактусаў... Самыя розныя — дымчатыя, цёмна-зялёныя, у белую крапінку — калючкі ўнушальна выстраіліся на падаконніку ў гаршчочках, бляшанках і зусім не гарманіруюць з мяккім, лагодным тварам гаспадыні. Магу яшчэ ўбачыць, як гэтая рухавая жанчына стаіць перад люстэркам і паспешліва прыводзіць у парадак прычоску...

— А-а, памочнік! — заўважыць, ніколькі не бянтэжачыся.— Вы ўжо тут? Цудоўна. А ваш таварыш яшчэ не прыйшоў...

Слова ў слова паўтарае яна мне гэтую фразу і зараз, прычыняючы дзверцы шафы з люстэркам: «А ваш таварыш яшчэ не прыйшоў...» І гучыць яно так, нібы хто вінаваты, што такі ж, як і я, народны засядацель Сямёнаў позніцца ў суд. Ён, можа, і зусім не прыйдзе: нядаўна яго брыгада электрыкаў пачала выконваць тэрміновую работу.

Наогул, крыху дзікаваты Сямёнаў, неразгаворлівы. Яго вузкі твар заўсёды мае як бы задзірліва-незалежны выгляд, хоць ганарлівасць не дужа стасуецца да шчуплай постаці. І нагадвае Сямёнаў хутчэй падлетка, чым дарослага,— таго школьніка, што і ціхенька сядзіць на ўроках, і нібыта слухае ўсё, але думае зусім аб іншым. Сямёнаў мала задае пытанняў, іншы раз не робіць нават спроб прыйсці на дапамогу суддзі ў час разбору чарговай справы. Адно задумліва зіркае спадылба, рассеяна водзіць носам, як тая птушка дзюбай у розныя бакі... Мусіць, гэтая абыякавасць і тры-

вожыць Кацярыну Іванаўну, гэтым і тлумачацца яе насцярожаныя адносіны да Сямёнава: за вочы яна часам называе яго ганарліўцам.

Пакуль няма сакратаркі, я ўладкоўваюся за яе сталом і гартаю папку са шлюбаразводнай справай. Справа нескладаная, усё ў ёй фактычна даволі ясна: двое не могуць жыць разам. Двое, мабыць, яшчэ нядаўна кахалі адзін аднаго, а цяпер — ненавідзяць. Так і напісана. «Мы ненавідзім адзін аднаго...» І гэтая нечаканая нянавісць, пэўна, часовая і беспадстаўная, засланяе ад іх і шчаслівыя гады сумеснага жыцця, і радасць нараджэння сына, і многае іншае. Хто вінаваты? Можа, свякруха, з якой не ладзіць нявестка, можа, тыя некалькі выпівак мужа «з гора», якія з гневам апісвае ў сваёй заяве ў суд Зоя Самчук... Паспрабуй разбярыся ў людскім. Тут і ў сваім не заўсёды разумееш, што да чаго... Але на тое і суд, на тое, урэшце, і мы, народныя засядацелі, каб разабрацца, улічыць усе «за» і «супраць». Праўда, калі гаварыць шчыра, то ў сваіх здольнасцях я вельмі сумняваюся, хоць і намагаюся на пасяджэннях нешта высветліць. Тады я лаўлю на вуснах Кацярыны Іванаўны ўсмешку, сэнс якой няцяжка зразумець: не багі гаршкі лепяць! Ды паблажлівая ўсмешка чамусьці больш бянтэжыць мяне, чым надае смеласці.

Неўзабаве і сакратарка, невысокае, танклявае дзяўчо ў шчыльнай карычневай суконцы, уваходзіць у кабінет і стаіць, здзіўлена міргае блакітнымі вачамі, разгублена азірае пакой:

— Падумайце, зноў няма... Ну, што з ім рабіць, з гэтым Сямёнавым, з гэтым... ганарліўцам?!

Сакратарка смешна моршчыць носік і заклапочана ўсміхаецца: пэўна, замест Сямёнава давядзецца выклікаць другога засядацеля. І яна ўжо бярэцца за тэлефонную трубку, каб пазваніць, але ў гэты момант дзверы шырока расчыняюцца, і на парозе паўстае постаць Сямёнава: плашч расхрыстаны, канец белага шаліка закінуты на плячо...

— Добрай раніцы.

Буркнуўшы гэтыя словы, Сямёнаў таропка распранаецца. Але, зірнуўшы на гадзіннік, супакойваецца, напэўна, лічыць, што не дужа і спазніўся. Моўчкі займае традыцыйнае месца побач з суддзёй.

— Нарэшце ўсе ў зборы,— звяртаецца Кацярына Іванаўна да сакратаркі.— А як там Самчукі, з'явіліся? Калі з'явіліся — заві... Будзем пачынаць.

Уваходзяць Самчукі, і разам з імі тыя, хто прыйшоў слухаць суд. Самчукі сунуцца, нібы зусім незнаёмыя паміж сабой, чужыя людзі. Абое невысокія, шыракатварыя, надта падобныя, яны робяць усё, каб толькі не сустрэцца позіркамі, апусціўшы галовы, унепрыкметку, насцярожана сочаць за рухамі адзін аднаго. І паніклыя іх галовы, і панурыя твары, і гэтыя халодныя позіркі — усё, усё сведчыць аб пакутлівых перажываннях, аб тым, чаго каштавала ім прыйсці сюды, у суд. Але цяпер іх лёс ужо вырашаны, цяпер яны прагнуць аднаго — суда...

І ўсё ж маладая жанчына ніяк не можа пазбавіцца збянтэжанасці, калі блытана спрабуе апраўдаць сваё рашэнне, гэтая ж няўпэўненасць і на твары Самчука, у яго жаданні хоць куды-небудзь схаваць, сунуць рукі — з шырокімі шурпатымі далонямі. Не, не, відаць, яшчэ не ўсё страчана ў Самчукоў... Збівае з толку толькі тая зацятасць, упартасць, з якой патрабуюць яны неадкладна скасаваць шлюб.

Надакучліва доўга ідзе непрыемная размова... Я здзіўляюся, з якім цярпеннем, настойлівасцю Кацярына Іванаўна вядзе яе. Прывычка? Мабыць, нешта большае, чым прывычка, чым прафесія... Жаданне памагчы. Жаданне, якое ідзе ад самага сэрца... Але калі ўжо здаецца, што вось-вось Самчукі зразумеюць сваю памылку і прымірацца, раптам усплывае на паверхню зноў якая-небудзь дробязь, крыўда, і, стуліўшы вусны, яны зноў маўчаць. Бачу, і Кацярына Іванаўна ўжо не хавае сваёй прыкрасці, тонкія чорныя бровы заклапочана сыходзяцца над пераноссем:

— Будуць яшчэ пытанні да Самчукоў? Не? Ну, што ж, маладыя людзі... Што ж... Шкада, крыўдна за вас, зусім вы не ведаеце жыцця... Давядзецца, мусіць, задаволіць вашу просьбу. Але перакanана: будзеце калі-небудзь шкадаваць.

— Будуць! Яшчэ як...

Хто гэта, адкуль гэты нечаканы ўсхваляваны голас? Мы адначасова паварочваемся да Сямёнава, здзіўлена пазіраем на яго: загаварыў, ганарлівец? А ён, не звяртаючы на нас ніякай увагі, гарачымі вачамі ўтаропіў-

шыся ў Самчука, паволі, нібы падшукваючы патрэбныя словы, працягвае:

— Думаеце, усё так проста... развёўся і... кропка? Думаеце, як у сшытку — выкрасліў і напісаў другое? Так думаеце? Тады яшчэ параю: вырвіце з грудзей і тое жывое, што трапечацца там... Вырвіце! Інакш не лёгка будзе вам вытрымаць боль...

На хвіліну Сямёнаў замаўкае, пільна пазіраючы ў акно — нібы сочыць, як нізка грувасцяцца, плывуць над самымі будынкамі цяжкія восеньскія воблакі, як халодны парывісты вецер бязлітасна шкуматае ў двары самотнае дрэва, і яго надламаная верхавіна сіратліва гойдаецца пад самым акном. Калі Сямёнаў зноў пераводзіць позірк на Самчука, мне здаецца, што ў вачах яго блішчаць слязінкі.

І ўжо зусім іншым тонам, без гневу, ціха, як самому сабе, ён гаворыць:

— А сын... Хіба можна забыць сына?! Таго самага чалавека, аб якім столькі марыў? Хіба ж не балюча было, калі ён хварэў? Хіба не сам прыціскаў, як самае дарагое, да сваіх грудзей яго кволае цельца? А цяпер уяві: няма ў цябе ні жонкі, ні сына... Жывеш адзін... Зусім адзін... Кожны дзень...

Ціхі голас Сямёнава гучыць пранікнёна, амаль шэптам. І нешта неверагоднае робіцца з Самчуком: ён ужо не пазірае падазрона на нас, не вымучвае недаверлівую ўсмешку, не спрабуе грубавата запярэчыць, як дагэтуль: увесь прагна падаецца да Сямёнава, упіваецца ў яго вачамі, і толькі сутаргава ходзяць жаўлакі на няголеным твары. Відаць, ён чакае ад Сямёнава яшчэ нейкіх слоў. Ды Сямёнаў раптам замаўкае, пачынае збянтэжана азірацца па баках, нібы дазволіў сабе лішняе.

Цяпер ужо наша ўвага прыкавана толькі да яго — што з ім, што гэта ён так расхваляваўся? Але Сямёнаў, згорбіўшыся, маўчыць. Толькі прыкметна дрыжыць рука, якой ён выцірае ўспацелы лоб. І, напэўна, каб неяк падтрымаць Сямёнава і вывесці размову з гэтай нялёгкай паўзы, Кацярына Іванаўна паспешліва падхоплівае:

— Вось бачыце — падумаць вам трэба... Вельмі сур'ёзна падумаць, Самчукі! Тыдзень, другі... Ну, а потым... прыходзьце: канчаткова пагаворым. Згодны?

На гэты раз ніхто не пярэчыць...

Калі Самчукі пакідаюць кабінет, яшчэ доўга ў пакоі стаіць напружаная цішыня. Няма чамусьці таго ажыўлення, якое звычайна пануе сярод нас пасля паспяхова ўладкаванага сямейнага канфлікту. Неспакой і на стомленым твары Кацярыны Іванаўны. Яна звыкла хадзіць па пакоі, аб нечым заклапочана разважае, потым спыняецца насупраць Сямёнава. Па ўсім відаць — хоча нешта спытаць. А Сямёнаў нібы не заўважае яе пільнага позірку... Моўчкі ляпае сябе па кішэні, неяк дужа марудліва дастае пачак папярос, запалкі. І толькі тады ўсхвалявана ўзнімае галаву:

— Быў і я, Кацярына Іванаўна, сямейным... Быў некалі...

І тут жа таропка выходзіць за дзверы.

*1976*

# АДЦВІТАЮЦЬ ЛІПЫ

У сквeрыку адцвітаюць ліпы... Так буйна, так напорыста яны, здаецца, яшчэ ніколі не цвілі. Акно шырока расчынена, і лёгкі ветрык, блытаючыся ў залацістых грывах старых дрэў, прыносіць у пакой гаркава-мядовы пах прывялых кветак, прэлай травы.

— Не магу больш працаваць! — не па гадах жвава ўсхопліваецца з-за стала мой напарнік Іван Данілавіч і, нібы злуючыся, фацэтна ўзнімае ўгору рукі.— Чорт ведае што! Як у маладосці — аж галава кружыцца ад гэтага водару...

Дробненькімі крокамі ён падбягае да акна, цяжка навальваецца на падаконнік усім сваім грузным целам. Над шырокімі плячамі смешна тырчыць вялізным ружовым яйкам голеная галава. Адкінутая назад, яна на нейкі момант замірае, якраз як у насцярожанай чарапахі... І калі праз хвіліну Іван Данілавіч вяртаецца да стала, я заўважаю на яго падзёўбаным воспінкамі твары заклапочаную ўсмешку.

— Зноў гэтая жанчына сядзіць у скверы,— паціскае ён плячамі.— У альтанцы, пад ліпамі.

Бадай што, можна і прамаўчаць, не адказваць на яго бясхітраснае паведамленне — Іван Данілавіч не пакрыўдзіцца, усё ці амаль усё ён ужо ведае пра «гэтую жанчыну» ад мяне ж: і што некалі мы з Зояй працавалі ў адным палескім саўгасе, і быў я па вушы закаханы ў яе; і што выйшла яна замуж за нейкага настаўніка і вось прыехала пагасціць на школьныя канікулы ў горад; нават пра тое, што Зоя жыве з мужам кепска і хоча разысціся... Ну, а што кожны дзень бавіць час з малым у скверыку — нічога дзіўнага, побач жыве ў сваёй цёткі!

Але пад уважлівым позіркам Івана Данілавіча я адчуваю раптам няёмкасць і, каб схаваць збянтэжанасць, насмешліва пытаюся:

— Можа, Данілавіч, вы думаеце, што яна... мяне чакае? Дарэмна! Учора намякнула, што ёсць у яе ў горадзе адзін чалавек, на яго спадзяецца... Каханне ў іх...

Далікатны Іван Данілавіч робіць выгляд, нібы не чуе маіх апошніх слоў, усю сваю ўвагу засяроджвае на старым ручным гадзінніку — у такім пацёртым

корпусе, што ўжо і марку завода вызначыць немагчыма. Ён з наўмыснай заклапочанасцю прыціскае яго да вуха, слухае, трасе на ўсякі выпадак і, пераканаўшыся, нарэшце, што гадзіннік ідзе, задаволена цмокае тоўстымі губамі, аб'яўляе жартаўлівым шэптам:

— Абед!

Зараз ён, ціхенька насвістваючы свае любімыя «Амурскія хвалі», пакорпаецца ў чорным партфелі, звыкла выцягне адтуль блішчасты мяшэчак з living рознымі прысмакамі, каб падсілкавацца на месцы. Ну, а я, як звычайна, пашыбую ў сталоўку, праз скверык, напрасткі, скарачаючы шлях — якраз ля той самай альтанкі пад ліпамі...

І вось, прычыніўшы за сабой дзверы, паспешліва выбіраюся на вуліцу. Гарачыня стаіць нясцерпная. Плыве, мігціць паветра над шэрым асфальтам. Нагрэты, ён нават пад дрэвамі мяккі, як воск. Прагінаецца, прыхоплівае туфлі. Ногі вязнуць, пакідаючы адбіткі абцасаў. Збочыўшы, іду да альтанкі.

— Прывітанне, Зоя...

Зоя павольна ўзнімае на мяне вочы — цёмна-жоўтыя, вільготныя, як два глянцавітыя жалуды. Пазірае без здзіўлення, нібы так і павінна быць: яна — чакаць, я — прыходзіць. Нібы і не праляцелі гэтыя апошнія гады і нічога не змянілася... Праўда, што датычыць мяне, то яно, найверагодней, так і ёсць: тая ж надакучыўшая халасцяцкая вольніца, амаль тая ж праца. Ну, а Зоіны навіны — вядомыя. Вунь бегае хлапчанё... Ды і сама перамянілася: некалі задужа жвавая, непаседлівая, яна прыкметна пасаліднела, паспакайнела, у вачах і кроплі не засталося ад колішняй гарэзлівасці...

Кіўнуўшы мне галавой, назірае, як я, таўстун, нязграбна праціскаюся паміж круглым дашчаным столікам і гэткай жа круглай лаўкай, машчуся побач. Пасля нязначных фраз — замаўкаем. Ды аб чым, уласна, гаварыць? Яшчэ пры першых сустрэчах аб усім перагаворана: і аб агульных знаёмых, і аб пераменах у старым раённым гарадку. Цяпер я раблю выгляд, што вельмі зацікаўлены, як яна вяжа, як спрытна рухаюцца ў яе тонкіх пальцах бліскучыя сталёвыя пруткі... Калі раптам да маёй свядомасці даходзіць, што Зоя вяжа цёплыя панчошкі, недарэчнасць гэтага занятку ў трыццаціградусную спякоту ледзь не абурае мяне.

Але я тут жа з'едліва супакойваю сябе: ці не гэтак жа недарэчна марную і я ў альтанцы свой абедзенны перапынак?

І ўсё ж з наўмыснай бадзёрасцю выціскаю з сябе:

— Хваліся: як твае справы рухаюцца?

— А — ніяк...

— Што... перадумала?! Не падаеш на развод? А як жа... твой... Той знаёмы?

Зоя неяк дзіўна-ўзрушліва ўтаропілася ў мяне, нібы чакае, што я запярэчу. І я сапраўды пярэчу, з нечаканай гарачнасцю пачынаю дакараць яе ў боязі цяжкасцей, пераконваю ў тым, што ніколі не трэба адступаць ад прынятых рашэнняў, бо гэта таксама баязлівасць. Устрывожаны, я ўжо не думаю, што нясу несусветную лухту, паўтараю прапісныя ісціны. Прысаромлена замаўкаю толькі тады, калі заўважаю на яе вейках слязінкі.

— Ну, вось... і пагаварылі, і высветлілі ўсё,— амаль шэпча яна, паспешліва хаваючы недавязаную дзіцячую панчошку. Падхопліваецца з месца і дрыготкім голасам кліча: — Сынок! Пойдзем...

Маленькі хлапчук у сінім касцюмчыку паслухмяна бяжыць да маці. Густая зялёная алея неўзабаве праглынае дзве знаёмыя постаці.

Крыху пазней, азадачаны, вяртаюся і я ў наш змрочны пакойчык на першым паверсе. Іван Данілавіч, схіліўшы галаву, упёршыся шырокім падбародкам у грудзі, старанна выводзіць на паперы лічбы... Я шумна саджуся насупраць, ляпаю шуфлядкамі, але ён не адрываецца ад папер, не звяртае ўвагі. На ўсёй яго вуглаватай постаці — адзнака выпрацаванай гадамі строгай дзелавітасці. Нават мой наўмысны кашаль не дзейнічае... Калі я ўжо губляю надзею на размову, насуплены Іван Данілавіч з дрэнна прыхаваным дакорам, з нейкім шкадаваннем пытаецца:

— Што, пайшла? Адпусціў?

— Пайшла...

Але далей гэтага так і не клеіцца ў нас гаворка...

Назаўтра, якраз у абедзенны час, Іван Данілавіч — негаваркі, пануры, з такім выглядам, нібы паміж намі адбылася сварка,— сунецца да акна, звыкла расчыняе яго. Я напружана сачу за нетаропкімі рухамі Івана Данілавіча і з нейкім няўцямным хваляваннем чакаю,

што вось-вось ён развядзе рукамі, лагодна, з лёгкім здзіўленнем, як і ўчора, скажа: «Зноў гэтая жанчына...» Але ён маўчыць. Маўчыць, нават павярнуўшыся да мяне.

Унурыўшыся, маўчу і я...

Тады Іван Данілавіч асцярожна кладзе мне руку на плячо і паволі, прыпыняючыся, з цяжкасцю вымаўляе:

— Паслухай... Гэтая жанчына... Ніякага мужа ў яе няма... Я ведаю — гаварыў з ёй... І з хлопчыкам... Эх ты...

Саладкавы, душны пах жоўтых кветак напаўняе пакой. І няма куды дзецца ад гэтага паху, і цяжка дыхаць, і ніяк не ўзняць галавы пад позіркам Івана Данілавіча...

*1977*

# КЛОПАТ

Раніца. Яшчэ не горача, не спякотна, нават павявае свежым ветрыкам. Але зыркія залатыя промні досыць шчодра падаюць на зямлю і мякка асвятляюць плошчу з трактарам на пастаменце, будынкі, прахадную. Ля прахадной — стоўпатварэнне. Ідуць людзі і ідуць. У чыстым, добрым выходзяць з завода — нібы і не працавалі за станкамі... Бясшумна круціцца на восі крыжавіна-веснічкі, толькі пройдзе чалавек, а следам — другі ўжо. Побач праз такія ж веснічкі на завод праходзяць: ну, чыста на свята якое народ валіць. Дзед Андрэй стаіць, здзіўляецца ўсяму, што бачыць, усхвалявана чмыхае і ўсё па звычцы наровіць абвіслы свой вус прыхапіць губамі... І ўсё непакоіцца: не прапусціць бы, не правароніць яму ўнука Івана. Спецыяльна прыехаў, за колькі гадоў у горад вырваўся. Заклаў назад рукі, перамтупае з нагі на нагу, нікому не замінае асабліва, нікому не кідаецца ў вочы — сівы, сухенькі, што грыбок той пад сваім карычневым капелюшом... Такім зашмальцаваным, што ўжо, здаецца, нібы ніколі і не здымаў яго з галавы дзед Андрэй, гэты сынаў падарунак. Зморшчаны даўгаваты тварык напружаны, востры падбародак вытыркнуўся наперад, і насцярожаныя вочкі пад рэдзенькімі светлымі бровамі падслепавата шмыгаюць па постацях, шукаюць унука. Мо вунь той асілак у пінжаку? Якраз падобны на Івана: і высакаваты, і шыракаплечы такі, і кулакі — па пуду... Ды не, абмінае, не затрымліваецца каля яго. А калі нейкі хлопец дружалюбна ўсміхаецца дзеду Андрэю, ён аж ззяе, радасна трасе галавой, ківае, бы на самай справе знаёмца сустрэў. Толькі ж не ўнук гэта, не Іван...

Раптам дзед Андрэй уздрыгвае і сярдзіта азіраецца назад, на плошчу,— адтуль у які ўжо раз чуюцца настойлівыя сігналы: піпікае аўтамашына... «Ах ты, чортава качарыжка! — не стрымліваецца, сярдзіта лаецца ён.— Не можа і мінуты пачакаць, такі начальнік мне, ну і едзь сабе, каціся сваёй дарожкай. Распіпікаўся! Вось мо дапіпікаешся...»

Гэта ён так Касціка Сіўца лае, таго, што прывёз яго да ўнука і чакае на калгаснай машыне ля сквера. З-за яго і ўвесь сыр-бор у дзеда Андрэя. Растрэсла за

дарогу, усё цела баліць-ные, ды і ногі гэтыя ў кірзачах наліліся свінцом, не трымаюць.

— Гэй, дзед, ты што ж тут стаіш, як казанская сірата? — чуе ён чыйсьці жартаўлівы голас над сабой.— Можа, падсабіць нам прыехаў?

Узнімае галаву — малады мужчына побач.

— Ды я, дзіцятка, унука чакаю...

— Якога ўнука, дзе працуе, у якім цэху?

— Іванькам, Іванам завуць яго... А дзе працуе, забі, не ведаю. Нічога я тут не ведаю...

Мужчына са шкадаваннем і спагадаю пазірае на бездапаможнага дзядка, разважае, як памагчы яму. Потым, нешта скеміўшы, усміхаецца і вядзе старога да шчытоў са здымкамі.

— А ну, зірні, дзядуля, сюды: тут твой унук? Гэты, гэты? Выбірай — усе лепшыя трактаразаводцы...

Дзед Андрэй пільна, строга ўзіраецца ў твары маладых і пажылых рабочых, ды зусім нечакана разгублена вохкае, аж прысядае ад хвалявання.

— Ён... Іванька... Ах, чортава качарыжка... Іванька на палтрэці!

— Іван Бельчык?! Ну і гісторыя... Дык мы ж з ім, дзядуля, з першага дня разам на зборцы...

Дзед Андрэй асцярожна водзіць па здымку шурпатымі счарнелымі пальцамі, нібы ўсё яшчэ не верыць вачам, потым задаволена, ласкава смяецца і ўжо непрыкметна выпроствае сутулаватыя плечы, разгладжвае вусы і кідае на хлопца насмешліва-задзірлівы, ганарлівы позірк: «Ну што, пажартаваў? А мы ж, Бельчыкі, вунь якія!»

Але хлопец заклапочана просіць старога:

— Скоранька, дзядуля, скоранька, на прахадную... Зараз твой унук з'явіцца.

І сапраўды, праз якіх дзесятак хвілін яны заўважаюць у людскім патоку бялявага Івана. Ён такі ж сутулаваты, як дзед, нетаропка крочыць, незалежна пазірае па баках.

— Іван! — заве хлопец.

— Іванька! — слаба варушыць вуснамі ўзрадаваны дзед Андрэй.

Але Іван ужо і сам спяшаецца да іх, і дзед Андрэй у той жа момант адчувае цёплыя дужыя рукі, якія абдымаюць яго, ціскаюць, тармосяць:

— Ды адкуль ты, дзеда, дарагі? Як з Месяца зваліўся... Можа, здарылася што? Захварэў, кажы?

— Не-е, нічога не здарылася... Рыплю во яшчэ патроху. Прыехаў паглядзець на цябе, на дзетак тваіх. Жыццё ж такое ў старога: сёння яшчэ тупаеш, а заўтра...

Вочы яго вільгатнеюць, хоць і ўсміхаецца бадзёра. А ўнук толькі здзіўляецца: як стары ў свае гады адважыўся на такое падарожжа ў сталіцу?

— На машыне, Косцік Сівец прывёз,— тлумачыць дзед Андрэй і чамусьці адразу хмурыцца.— Ён у нас цяпер за кладаўшчыка...

— А дзе ж ён?

— Там! — неахвотна паказвае ў бок сквера стары.— Тамачка...

— Трэба ж неяк аддзячыць за такі падарунак, вядзі, дзеда, вядзі да яго,— узрушана гаворыць Іван.

Але стары хапае ўнука за руку і просіць:

— Чакай, Іванька, не хадзі... Стой тут. Я — сам.

І столькі рашучасці ў яго маленькіх вочках, столькі трывогі ў голасе, што ўнук мусіць адступіць ад старога і нават не спрабуе настойваць на сваім.

— Чакай мяне, Іванька, я — бяжком...

І яму сапраўды здаецца, што ён — «бяжком», а не сунецца марудна праз плошчу, ледзьве цягне ногі.

Косцік Сівец бялее шоўкавай кашуляй каля машыны, курыць і панура назірае за дзедам Андрэем. Сустракае пытаннем:

— Ну, як, пагаварыў са сваім унукам, згодны ён?

Стары маўчыць. Цяжка дыхае. Толькі рукой махае: дай аддыхацца трохі...

— Потым адпачываць будзеш. Няма, даражэнькі, у мяне часу,— Косцік Сівец нецярпліва дастае з кішэні блакнот, вырывае з яго лісток.— Вось, трымай. Тут усе запчасткі запісаны. Хай Іван заўтра іх мне падрыхтуе. Заўтра і магарыч разап'ём. За мной — не прападзе...

Але дзед Андрэй нібыта і не заўважае паперчыны.

— Нічога не выйдзе, Косцік,— нарэшце гаворыць ён.— Дарэмна ўсё гэта. Я адразу казаў: начальства не дазволіць...

— Ну і неразумны ж ты, дзед! — абураецца Косцік.— Навошта начальства прыплёў? Ці ж не тлума-

чыў я табе: праз прахадную вынесці дэталі і — шыта-крыта... От, прывёз на сваю галаву... Усю справу сапсаваў... Сам бы дамовіўся...

Ужо ўскочыўшы ў кабіну, ён раптоўна высоўваецца з яе, недаверліва свідруе старога жоўтымі, як жалуды, вачыма і сярдзіта сіпіць:

— А можа, ты нічога не казаў унуку, га?

Не дачакаўшыся адказу, раз'юшана клацае дзверцамі — ажно шкло дрыжыць. Гурчыць матор. Машына як не зрываецца з месца... І толькі тады, калі яна знікае за скверам, дзед Андрэй з палёгкай уздыхае і, не хаваючы задаволенай, хітраватай усмешкі, вяртаецца да ўнука.

*1973*

## ТЭКЛЯ І ПЕЎНІК

Тэкля прынесла з магазіна пеўніка і паклала яго на стол.

— Пеўніка маладога купіла,— сказала яна дачцэ і зяцю.— Тушыць вам буду...

Абскублены сіні пеўнік з даўжэзнымі нагамі і пабляклым чырвоным грабеньчыкам ляжаў на баку і прыжмураным вокам пазіраў у столь — нібы разважаў, якое б паскудства зрабіць яму напаследак у гэтым доме.

Тэкля паглядзела на дачку, на зяця і спытала:

— Ну, як пеўнік?

— Пеўнік як пеўнік,— абыякава адказаў зяць.— Спартсмен.

— Хто? — не зразумела Тэкля.

— Фізкультурнік.

— Гэта чаму... хвізкультурнік? — пакрыўдзілася Тэкля.

— Худы.

— Худы?

Тэкля разгублена пакруціла пеўніка ў руках, панюхала, хацела нешта сказаць, але толькі махнула рукой.

Што праўда, то праўда: сала на пеўніку не было. Не паспеў адкарміцца.

Дачка з зяцем пайшлі на работу, а старая стаяла над абскубленым сінім цельцам і адчувала, як нешта перашкаджае ёй адразу ўзяцца за прывычныя справы.

— Бач, хвізкультурнік! — прыгадала яна крыўднае слаўцо і сярдзіта таўханула пеўніка кулаком.— У-у, пракляты, цяпер вазіся з табой.

Але пеўнік па-ранейшаму глядзеў на Тэклю спакойным прыжмураным вочкам і, здавалася, загадзя ведаў, што будзе далей: старая разбярэ яго, зварыць, а потым пабяжыць скардзіцца на свайго зяця суседзям.

Так яно ўсё і здарылася: неяк дачакаўшыся, пакуль мяса ў каструльцы «дайшло», Тэкля выключыла газавую пліту і выскачыла на вуліцу.

Першая, каго яна сустрэла, была Параска з бідо-

нам малака. Тая таксама нядаўна прыехала з вёскі і няньчыла ў дачкі дзяцей.

— Што ты такая невясёлая, суседачка? — дыпламатычна пацікавілася Параска.

— А з чаго мне весяліцца? Вунь чаргу якую выстаяла ў магазіне, пеўніка купіла, а яму — не падабаецца...

— Каму не падабаецца?

— Ды, яму, зяцю... Худы, кажа, хвізкультурнік...

— Так і сказаў... «хвізкультурнік»? — азадачана перапытала Параска.

— Так і фыркнуў.

— Ну, Тэклечка, не зайздрошчу табе...

— Што мне зайздросціць, што зайздросціць? — разгарачылася Тэкля.— Калі б ты бачыла: прынесла я етага пеўніка, значыцца, паклала на стол, а ён падышоў — калуп-калуп пальцам, зморшчыўся і нос адвярнуў.

— І нос адвярнуў?

— І размаўляць не стаў! Не ўгадзіла...

Тэкля ўсхліпнула.

Жанчыны стаялі пад цяністай старой ліпаю ля хаткі Цыбулькевіча, якую будаўнікі збіраліся ўжо зносіць. Канечне, Цыбулькевіч атрымае кватэру ў новым, чатырохпавярховым доме. Але ўсё роўна апошнімі днямі ў яго быў дрэнны настрой. Высунуўшы з акенца сваю чорную бараду, ён хрыпатым голасам сказаў Тэклі:

— Ну, што? Нажылася ўжо ў зяця ў горадзе? Пачакай, соладка не будзе...— І ні з таго ні з сяго дадаў: — Кожны зяць — любіць узяць... Вось як!

Доўгая барада з чырвонай бульбінай носа сярдзіта юркнула ў акенца, а Тэкля, не хаваючы ўжо горкіх слёз, нізка апусціўшы галаву, паплялася да свайго дома. На нейкі момант яна ўявіла, як зяць прыйдзе на абед, як зазірне ў каструльку, як пагардліва чмыхне і раскаціста зарагоча: «Ха-ха-ха. Вось гэта, матуля, хвізкультурнічка прыдбала!» І зяць ёй здаўся самым несправядлівым чалавекам на свеце, з якім не тое што жыць пад адным дахам, а нават бачыцца яна болей не зможа. Адчыняючы дзверы, Тэкля цвёрда рашыла скоранька сабраць свае рэчы ды паехаць да старэйшага сына.

Яна прывычна ўключыла святло ў цёмным калідорчыку, зняла і павесіла хустку, стомлена пераступіла парог кухні. Ад нечаканасці і здзіўлення Тэкля войкнула і, адчуваючы, як слабеюць ногі, разгублена апусцілася на табурэтку: за сталом сядзеў заяц і задаволена выціраў сурвэткай шырокі рот. Перад ім акуратнай горкай ляжала тое, што засталося ад маладога пеўніка,— белыя костачкі.

З'еў!

*1968*

## НА ВУЛІЦЫ

Яны ляжаць пад кустом акацыі, гэтыя персікі. Як паклаў ён іх, так і ляжаць: цёмна-жоўтыя, з чырвонымі, нібы абпаленымі бакамі. Праўда, сталі сохнуць — такая спякота! Нават у цяньку градусаў пад трыццаць.

А мы з Андрэевічам працуем. Ужо чацвёрты дзень. Мосцім дарогу. Дакладней, перасцілаем. Камень да каменя, побач, шчыльненька. Сухі пыл казыча ў носе, забіраецца ў рот. Моцна пахне расплаўленым асфальтам. Сонца смаліць бязлітасна. Але мы ў цень не ідзём. І перакураў не робім. Спяшаемся. Нельга надоўга затрымліваць рух аўтатранспарту. Абгарадзілі сябе стойкамі з чырвонымі сцяжкамі, і машыны абмінаюць нас кварталам. Толькі тым, з чырвоным крыжам, дазваляецца праязджаць па закрытай зоне: нічога не зробіш, справа важная, а радзільны дом — насупраць.

Прызнацца, мы ўсе гэтыя дні адчуваем сябе, як выпадковыя госці на чужым вяселлі.

Вельмі мне спадабаліся словы Андрэевіча:

— Я б гэтыя радзільныя дамы на гары дзе-небудзь будаваў, як храмы. Каб усе здалёк іх бачылі... Лічу: нараджэнне чалавека — самая святая справа. Галоўней яе няма на зямлі. Усё, што мы ні робім,— усё для яго, для гэтага чалавека. Ён, жэўжык, яшчэ на свет не з'явіўся, а мы з табой пацеем, дарогу яму брукуем... І не заўважыш, як вырасце, як патупае па нашай дарозе. Ці ж не так, Васіль?

Кожны дзень мы назіраем, як прыходзяць забіраць парадзіх. Цэлымі сем'ямі. Бацька з дзецьмі, сваякі — узбуджаныя, вясёлыя. Проста зайздросна глядзець на гэтых людзей. Вось і зараз... Нібы на парадзе, крочыць уперад ён, бацька, з маленькім на руках. Крочыць з такім смешным гонарам, што Андрэевіч не ўтрымліваецца і пачынае ціхенька смяяцца:

— Паглядзі, паглядзі, ідзе важна, як той гусак... Нават галавы не паверне! Ні даць ні ўзяць першанькі ў яго, адразу відно... А маці, маці...

Каменні такія гарачыя, нібы з вогнішча. Нават праз рукавіцы адчуваецца. Суха стукаюць нашы малаткі, б'юць буйное каменне. Шэры, мучны пыл садзіцца на

рукі, на твары. Хочацца піць. Каўтнеш глыток-другі вады з пляшкі — палегчае, але потым — зноў смага. І толькі ў дванаццаць, калі ўжо дыхаць цяжка гарачым паветрам, мы ўстаём, страсаем пясок з вопраткі і накіроўваемся абедаць. Пад густы цень высокіх акацый. Тут халадок, нават сыра: зранку прайшоў дожджык... На густым буялым мурагу гуляюць сонечныя зайчыкі. Смешна крэкчучы, Андрэевіч апускаецца пад дрэва і старанна пачынае выціраць хустачкай вялікую лысую галаву, а я тым часам дастаю з сука нашу кайстру, якую падвесіў яшчэ ранкам. Памідоры, краюха хлеба, каўбаса — усё гэта вывальваецца на кавалак паперы. Побач стаўлю дзве бутэлькі кефіру. Стары не любіць гаварыць у час яды. І я маўчу. Ем ды назіраю, як насупраць перагаворваюцца двое — жанчына ў сінім халаце з акна другога паверха і мужчына ля кветніка, крокаў за дзесяць ад нас: зайсці да парадзіхі не дазваляецца, а так пагутарыць — калі ласка...

— Зірні, Васька,— гаворыць у гэты момант Андрэевіч.— Вунь, здаецца, учарашні зноў пайшоў.

Сапраўды, гэта ён, што ўчора перадачу прыносіў. Дзівак нейкі! Каржакаваты, тоўсты, у цёмных акулярах пад капелюшом... Немалады. Твар — як халява ялавага бота — увесь у буйных складках... Ідзе, рукамі папяровы мяшэчак прыцiскае да грудзей. Спыніўся каля нас, паздароўкаўся. Потым пытаецца, калі прымаюць перадачу ў радзілцы. Думаў, пэўна, што мы таксама прыйшлі да каго-небудзь.

— Адкуль жа нам ведаць, мілы чалавек,— засмяяўся Андрэевіч.— Нашых тут няма... Я ў гэтую хаціну ўжо гадоў трыццаць не хаджу... Мы, бач, дарогу рамантуем, абедаць прыселі. А ты ідзі, ідзі ў прыёмную, там усё растлумачаць.

Але ён чамусьці не кранаўся з месца. Прысеў побач, зняў акуляры, закурыў. Завёў гаворку: які заробак у нас, ці многа работы. Толькі ж заўважылі мы з Андрэевічам, што ўсё гэта ён так сабе пытае, без асаблівай цікавасці. Нешта ў галаве яго іншае. Таму і вочы адводзіў убок — вялікія, лупатыя, нечым заклапочаныя.

— У вас хто? Дачка там ці... жонка? — спачувальна запытаў Андрэевіч.

Незнаёмы не спяшаўся з адказам. Ён устаў, атрос

са штаноў травінкі, узяў свой мяшэчак і натужна кашлянуў у кулак.

— Ды так, ёсць той-сёй,— прабасіў ён.

Відаць, пытанне Андрэевіча прыйшлося яму не па густу, таму што незнаёмец, ссунуўшы на доўгі, востры нос акуляры, пакрочыў ад нас да радзільнага дома.

Гэта было ўчора. А сёння ён зноў тут. З такім жа, як учора, папяровым мяшэчкам.

— Заўваж, цяпер будзе кожны дзень хадзіць сюды... Ведаю я! Мы, мужыкі, у такіх сітуацыях заўсёды мяккімі, як воск, робімся... Гэты гарбаносы з таго ж цеста...

Андрэевіч зноў смяецца. Люблю я глядзець на яго скуласты твар у такія хвіліны — смеху амаль не чуваць, толькі неяк незвычайна цёпла блішчаць у шчылінках прыжмураныя вочы і ўздрыгваюць шырокія плечы.

Склаўшы ўсё, што засталося ад абеду, у кайстру, вешаю яе на старое месца. І ў гэты момант заўважаю, як з ганка радзільнага дома збягае наш знаёмы. Так хутка, што ледзь не спатыкнуўся, нібы гоняцца за ім. Нешта, відаць, здарылася. Хоць бы бяды якой не было. Усё ж можа быць. Вунь Андрэевіч трывожна ўстаў, а гарбаносы — побач.

— Пачакай, чалавеча! — кліча Андрэевіч.— Ці здарылася што?

Той нерашуча спыняецца ля нас. Адчуваецца, што яму не да размовы, а ў руках — два мяшэчкі: сённяшні і, мабыць, учарашні.

— Ну,— наступае на яго Андрэевіч,— што?

— Ды ну іх, гэтых баб! — ледзь не крычыць незнаёмец.— Чорт... Звязаўся з адной, і сам не рады. Вось, бачыш, не прымае... Фокусы-мокусы мне строіць, капрызы... Я ж у чарзе за гэтымі персікамі стаяў, а яна, саплячка... Цьфу! Бярыце сабе іх, хлопцы, ешце...

Ён не кладзе мяшэчкі, ён іх кідае на мурог ля маіх ног, і некалькі чырванабокіх персікаў коцяцца на сцежку. Мы не паспяваем больш сказаць і слова, як чалавек знікае за кустамі.

— Та-ак,— задумліва гаворыць Андрэевіч.— Не прыняла, значыць.

І пазірае ўніз на мяшэчкі з персікамі. Я разумею яго позірк, як загад: падабраць. Нахіляюся і раптам

заўважаю, што ў адным мяшэчку тырчыць паперка. Маленькая, у клетачку, з блакнота. Запіска, ці што? Бяру. Так і ёсць, запіска! Ірыне Сінькевіч... Некалькі радкоў, паспешліва напісаных каравым почыркам: «Іра, прывітанне... Віншую цябе з дачкой. Перадаю табе персікі. Заўтра прынясу яшчэ. Еш, яны смачныя. А наконт астатняга — пакуль забудзь. Не маленькая ўжо, павінна разумець: жанаты я чалавек. А ты яшчэ маладая і прыгожая, знойдзеш сабе. Так што бывай. Калі што трэба — напішы. Куплю.

Твой прараб».

Моўчкі перадаю запіску Андрэевічу. Ён бярэ яе шурпатымі пальцамі, падносіць да твару і, прыжмурыўшы вочы, разбірае почырк. З цяжкасцю — дрэнна бачыць. Чытае паволі. Потым запіска знікае ў яго вялізным кулаку і, шэрая, скамячаная, падае на зямлю.

— Сволач,— глуха кажа Андрэевіч.

— Сволач,— паўтараю я ўслед.

І больш мы не размаўляем. І не пазіраем адзін на аднаго. Мы вяртаемся на дарогу і раз'юшана б'ём камянякі — шэрыя, буйныя. Мы расколваем іх, падганяем адзін да аднаго. І больш не размаўляем. Доўга. Андрэевіч маўчыць. Да самага канца работы. І мне нічога не застаецца, як разважаць аднаму. Я намагаюся ўявіць дзяўчыну, якая недзе там, на другім, трэцім ці чацвёртым паверсе радзільнага дома. Усю яе — постаць, твар, валасы... Але чамусьці бачу толькі адно — тужлівыя заплаканыя вочы ў сініх кругах. Яны амаль дзіцячыя, гэтыя вочы. Як у маёй сястры — школьніцы. І такія жаласныя, жаласныя і разгубленыя!

— Ну, хопіць на сёння,— стомлена кажа Андрэевіч.— Пайшлі.

І вось мы збіраем няхітры інструмент у брызентавы мяшок. Заходзім у двор радзільнага дома, каб забраць свае манаткі і кайстру.

— А персікі? — пытаюся я ў Андрэевіча.— Забраць?

— Ты што! Заладзіў — персікі, персікі! Цьфу на іх... І правільна тая зрабіла, што не ўзяла.

Андрэевіч паскарае крок, і я, азірнуўшыся яшчэ раз на раддом, спяшаюся за ім.

*1965*

# ДЗІВАК

Грукнуўшы дзвярамі, Міхаіл Міхайлавіч выскачыў з пад'езда і, сумятліва размахваючы рукамі, ледзь не бегма рушыў па вуліцы. Толькі праз колькі хвілін ён адчуў, як б'юць порсткія дажджынкі ў разгарачаны твар. Прыпыніўся, наставіў каўнер плашча...

Яно б, можа, і цяпер усё абышлося і не было б ніякай лаянкі з Верай з-за гэтых грошай, патрачаных на патрэбныя кнігі, калі б ён, Міхаіл Міхайлавіч, паддаўся, дакладней, змаўчаў. Схаваўся б у суседні пакой або, нарэшце, узяў бы сумку і пайшоў у магазін па хлеб. Так рабіць даводзілася не раз і не два. Такое дыпламатычнае адступленне давала яму бясспрэчную перавагу: ён не лаяўся, не псаваў нервы, не прыніжаў сваёй годнасці, памяркоўна захоўваў нармальныя сямейныя адносіны.

Але дыпламатыя дыпламатыяй, а характар характарам. Нават зусім мізэрнае самалюбства, якое мірна драмала на сподзе душы Міхаіла Міхайлавіча, не магло на гэты раз зміркыцца са знявагай. Кніжкі з маленства былі яго марай... Да таго ж ён нечакана для сябе зрабіў адкрыццё, якое надзвычай уразіла яго: чым больш ён быў падатлівы, уступаў, тым злаclівейшай рабілася жонка. Вера ўжо нават не выбірала выразаў, не саромелася гаварыць пад гарачую руку самыя крыўдныя, несправядлівыя, абразлівыя словы... Міхаілу Міхайлавічу заставалася толькі здзіўляцца: чаму самы блізкі чалавек, з якім пражыў столькі гадоў, якога па-ранейшаму любіш, гэтак псуе, атручвае жыццё?

Унурыўшы галаву ў плечы, каб дождж не трапляў за каўнер, Міхаіл Міхайлавіч крочыў і крочыў. Ужо і квартал, і другі, і трэці засталіся ззаду, а ён усё не мог знайсці адказ на сваё пакутлівае пытанне. Яно, канечне, калі браць па вялікім рахунку, то ён, мабыць, і не дасягнуў у сваім жыцці нейкіх асаблівых вяршынь... Можа, не вельмі імкнуўся. А можа — не хацеў. Хоць і выдатна закончыў інстытут, мог пайсці ў аспірантуру. Прапаноўвалі — адмовіўся. Але вялікай бяды ён у гэтым не бачыў: не ўсім жа насіць прафесарскую бараду! Трэба і дзяцей вучыць. Затое цяпер — лепшы мовавед у школе. Хіба гэтага мала? Сама дырэктрыса Зі-

наіда Сяргееўна з ім раіцца... Ды ўжо калі гаварыць да канца шчыра, то і мужчына ён з сябе відны: не зломак які, рослы, метр восемдзесят... Не раз лавіў зайздросныя позіркі сваіх невысокіх лысаватых калег, калі ў настаўніцкай перад люстэркам прычэсваў густую залацістую чупрыну. Нягледзячы на ўсе старанні Міхаіла Міхайлавіча, валасы гэтак жа непакорна кучараваліся над ілбом. А калі да ўсяго гэтага дадаць яшчэ і прыгожы нос з ледзь прыкметнай гарбінкай, ды заўсёдную мяккую ўсмешку на прадаўгаватым твары, ды жвавыя, поўныя дабрыні блакітныя вочы, то можна ацаніць назіральнасць выхаванцаў Міхаіла Міхайлавіча, якія па школьнай жартаўлівай завядзёнцы далі і яму мянушку — «званковы кароль». Менавіта маючы на ўвазе гэтую яго добразычлівасць, настаўнікі ў спрэчках з ім нярэдка, ў рэшце рэшт, усміхаліся і казалі: «Не, на вас, дарагі Міхаіл Міхайлавіч, нельга сердаваць...»

Толькі Вера зусім інačай прымала памяркоўны характар мужа: «Хіба ты мужчына? Ты — не мужчына! Нават голасу не можаш павысіць на ўласнага сына. Разводзіш сваю бязглуздую педагогіку...» І Міхаіл Міхайлавіч неяк непрыкметна для сябе губляў не толькі самастойнасць у вырашэнні сямейных спраў, але і веру ў бясспрэчнасць сваіх вартасцей. Яму нават самому здавалася часам, што дрэнны, шэры ён чалавек, хоць, па праўдзе кажучы, так і не мог дакапацца, у чым яго грахі і заганы.

«Пэўна, цяпер людзі ад мяне кідаюцца прэч, як ад вар'ята,— раптам горка ўсміхнуўся Міхаіл Міхайлавіч.— Бягу па вуліцы, нібы за мною сабакі гоняцца!» Збянтэжаны, спыніўся. І адразу адчуў, што ўзрушанасць памалу знікае, што і крыўды амаль не засталося ў яго незласлівым сэрцы. Можна было б і дадому вяртацца — столькі вучнёўскіх сшыткаў яшчэ правяраць! Але на імгненне ўявіў Веру, яе помсліва прыжмураныя вочы, насмешліва-пыхлівую ўсмешку — і жаданне вяртацца дадому прапала...

Нетаропка азіраючыся па баках, Міхаіл Міхайлавіч нарэшце заўважыў, што стаіць насупраць кінатэатра. У вечаровым змроку неонавыя агні рэкламы кідалі мяккае святло на густую лістоту дрэў, затравянелыя клумбы, усеяны мокрым лісцем асфальт. І ўся гэтая

зеляніна здавалася нейкай ненатуральнай — нібы дэкарацыі на сцэне. З цёмнага неба ўсё сыпаў дробны халодны дождж. Міхаіл Міхайлавіч аж сцяўся, адчуўшы ўсёй спінаю брыдкую зябкасць. І гэтак захацелася схавацца ад гэтай восеньскай золкай халадэчы, гэтак закарцела знайсці ўтульны цёплы куточак! «А што калі ў кіно схадзіць? Які там фільм — усё роўна...» Галоўнае прысесці, згубіцца сярод зусім незнаёмых людзей і адчуць сябе такім жа бесклапотным і незалежным, нават на экран не глядзець, калі фільм не дужа цікавы... Сядзець, і — кропка. Адагнаць ад сябе прэч усе турботныя думкі: аб школе, аб сварлівай жонцы, аб усім недарэчным, бязглуздым сямейным жыцці.

Гэты намер настолькі авалодаў ім, што ён ужо гатовы быў, як студэнт, стаяць у чарзе па білеты пад дажджом хоць цэлую гадзіну. Але чаргі каля касы, на шчасце, не было. Толькі самотная жанчына ў блакітным плашчы заклапочана поркалася з парасонам — ён чамусьці ніяк не складваўся. Міхаіл Міхайлавіч, слізгануўшы вачамі па яе маленькай постаці, хуценька дастаў грошы, сунуў у акенца касы, і яму падалі... два білеты.

— Але ж я прашу адзін! — незадаволена сказаў ён.

Дзяўчына ў акенцы здзіўлена ўсміхнулася — з такім выглядам, нібы помніла, што ён заўсёды з'яўляўся тут удваіх з жонкай. Здавалася: яна нават вось-вось спытаецца іранічна: «А дзе ж ваша жонка?» Але дзяўчына толькі звыкла папярэдзіла:

— Хуценька ідзіце — позніцеся...

І Міхаіл Міхайлавіч паспяшаўся ў пусты вестыбюль.

Яго адразу ж прапусцілі ў глядзельную залу. Паказвалі кіначасопіс. У зале было цёмна. Блакітны прамень з кінабудкі трымцеў пад самай столлю, мякка падаў на экран. Прызвычаіўшыся ў цемры, Міхаіл Міхайлавіч павалі рушыў да свайго месца. Добра, рад быў побач ды і месца — другое ад краю. І ад таго, што, нарэшце, апынуўся ў цёплым памяшканні, што ўсеўся і нават суседа не было справа, ён з палёгкай уздыхнуў, з задавальненнем выпрастаў ногі. Неўзабаве часопіс скончыўся, і на нейкі момант зноў запалілася святло. Міхаіл Міхайлавіч хутчэй адчуў, чым убачыў: за спінай нехта стаіць. Павярнуў галаву і адразу пазнаў тую

самую жанчыну ў блакітным плашчы, якую напаткаў ля касы. Можа, яе месца нехта заняў, а можа, ёй захацелася сесці бліжэй да экрана, і яна шукала бліжэйшы рад. Але вольных месц не было. Міхаіл Міхайлавіч перахапіў разгублены позірк жанчыны і нечакана шэптам прапанаваў:

— Вось тут вольнае... Сядайце, калі ласка...

Патухла святло, і жанчына, уладкоўваючыся побач, з лёгкім шамаценнем зняла плашч з балонні. Ад яе ішоў тонкі водар духоў. Міхаіл Міхайлавіч не любіў, калі жонка, збіраючыся ў госці, надта доўга «чапурылася» каля люстэрка, а потым вылівала на сябе цэлы флакон нейкай «Эсмеральды»... Але гэты тонкі водар быў прыемны, знаёмы, падабаўся і нават хваляваў Міхаіла Міхайлавіча. Да канца сеанса ён усё спрабаваў згадаць, чым пахнуць духі. Не, Міхаіл Міхайлавіч увесь гэты час глядзеў фільм, гэтак жа, як суседка, смяяўся, калі на экране ўзнікалі смешныя сітуацыі. Але водар духоў таямніча нагадваў: побач сядзіць незнаёмая жанчына... І таксама смяецца — ціхенька, з нейкай асаблівай шчырасцю, з ласкавымі, цёплымі ноткамі ў голасе. Калі б ён не бачыў раней яе твару — стомленага, з вялікімі журботнымі вачамі і частымі зморшчынамі каля прыгожых вуснаў, мог бы падумаць: гэты звонкі лагодны смех належыць вясёламу, бесклапотнаму дзеўчаняці. Смех яе заварожваў Міхаіла Міхайлавіча. Ён адчуваў, як цяплее ў грудзях, як паступова знікае пакутлівае напружанне і разам з тым расце дзіўная цікавасць да жанчыны і прыемна трывожыць яго. Звычайна сарамяжлівы з людзьмі, стрыманы, ён цяпер нават сам імкнуўся злавіць у сінім паўзмроку позірк суседкі, калі тая смяялася і паварочвала да яго свой твар — проста, адкрыта, як да даўняга знаёмага. І тады водар духоў быў яшчэ мацнейшым.

Перад самым канцом фільма ён прыгадаў: амаль гэтак пахла на лузе маладое сена, калі яго ад непагадзі клалі ў копы... Было яно яшчэ не зусім сухое, прывялае, але чыстае, без пылу, пацярухі, з засохлымі кветкамі — хоць збірай з іх букет! Яму нават закарцела сказаць аб гэтым суседцы, але ён стрымаў сябе: каму патрэбны яго ўспаміны пра дзяцінства, тым больш незнаёмаму чалавеку! І ўсё ж, калі фільм скончыўся і ў

зале мякка запалілася святло, Міхаіл Міхайлавіч устаў са свайго месца з вострым шкадаваннем, дакараючы сябе, што так і не загаварыў з суседкай. Стаяў і тужліва пазіраў, як яна таропка апранае плашч.

У вузкім праходзе была сапраўдная таўкатня. Іх прыціснула адно да аднаго неверагодна блізка, і Міхаіл Міхайлавіч, пакуль не выйшлі з кінатэатра, усё намагаўся неяк абараніць жанчыну ад штурханіны, разводзіў перад ёй у бакі рукі і ўсё прасіў прабачэння: маўляў, ён тут зусім не вінаваты. Потым, калі выйшлі на двор і праз вуліцу разам з усімі накіраваліся да аўтобуснага прыпынку, ён набраўся смеласці і з усмешкай сказаў:

— Бачыце, як дрэнна хадзіць у кіно без мужа... Заштурхаюць! Не хадзіце адна!

— Дзякуй за параду,— засмяялася жанчына.— Але ж вы таксама адзін...

— Я?

Нейкі салёны камяк адразу засеў у горле Міхаіла Міхайлавіча і не даваў гаварыць. Але ён выціснуў з сябе:

— Я таксама... адзін.

І гэта прагучала з такой хваравітасцю і тугой, у словах было столькі непрыхаванай горычы, што жанчына раптам прыпынілася і, асцярожна ўзяўшы Міхаіла Міхайлавіча пад руку, спагадліва спыталася:

— У вас... нешта здарылася?

Сэнс пытання не адразу дайшоў да свядомасці Міхаіла Міхайлавіча, а калі ён нарэшце зразумеў, аб чым у яго пытаюцца, то зусім разгубіўся. Напэўна, трэба было б адмаўчацца і не расказваць выпадковаму чалавеку, што здарылася, што ўвогуле здараецца амаль кожны дзень у яго сям'і. Але жаданне хоць з кім-небудзь падзяліцца сваімі сумненнямі было такое неадольнае, што ён тут жа — горача, блытана, хвалюючыся, як падлетак,— пачаў гаварыць. Гаварыў і сам здзіўляўся сваёй шчырасці, незвычайнай гаварлівасці. Толькі вось што было дзіўна: чым больш ён намагаўся растлумачыць свае нелады з Верай, тым больш абвінавачваў сябе ў нейкіх недахопах — ён і не вельмі гаспадарлівы ды ашчадны, і не надта чулы, і субяседнік нецікавы, і ўвогуле мала ўвагі аддае сям'і. Усё часу не

хапае. Усё праца: штодзень вучні, бацькі... Ён жа яшчэ і класны кіраўнік! І нядрэнны, кажуць. Трэба трымаць марку. Не лічыцца ні з часам, ні са стомай. Адным словам, і нервы ў яго кепскія, і характар нікуды не варты...

У рэшце рэшт, засмучана махнуўшы рукой, не ведаючы, чым папракнуць сябе яшчэ, а ў чым апраўдаць, замоўк. Маўчала і жанчына. Побач з прарэзлівым скрыгатам тармазоў спыняліся аўтобусы. Садзіліся пасажыры.

Неўзабаве на прыпынку, акрамя іх, нікога ўжо не было.

— Вы — дзівак, вялікі дзівак! — нарэшце ціха прамовіла жанчына.— Вы нават самі не ўяўляеце, які вы...

Прыўзняўшы галаву, яна неяк пільна пазірала знізу на Міхаіла Міхайлавіча і ўсміхалася куточкамі вуснаў. І ўсмешка гэтая была такая ласкавая, спагадлівая, што ён нават не падумаў з прывычнай сарамлівасцю адвесці свой позірк ад твару субяседніцы.

— Скажыце, толькі шчыра: вы вельмі кахаеце сваю жонку?

— А як жа! — здзіўлена перасмыкнуў плячамі Міхаіл Міхайлавіч.— Як жа... У тым і справа!

— Тады паслухайце маленькую старую параду: любіце яе крышачку менш...

Калі б хто-небудзь іншы раней сказаў гэта Міхаілу Міхайлавічу, ён проста абурыўся б. Мог бы нават дзёрзка заўважыць, што гэта яго асабістая справа. Але цяпер у Міхаіла Міхайлавіча чамусьці не знайшлося ні слоў, ні ахвоты пярэчыць. Ён разгублена раз-пораз соваў рукі ў кішэні плашча, нібы нешта шукаў там, і маўчаў, уражаны, схіліўшы галаву, чакаючы яшчэ нейкіх важных для сябе адкрыццяў.

Якраз у гэты момант з-за павароту бліснуў фарамі чарговы аўтобус. Жанчына ўздыхнула:

— Ну, паеду...

І, павярнуўшыся, каб ісці, яна раптам прыпынілася, яшчэ раз па-сяброўску ўсміхнулася Міхаілу Міхайлавічу і з найгранай бадзёрасцю дадала:

— Паеду да свайго золатца... Ляжыць дома п'яненькі... Ад яго і ў кіно збегла! Зайздрошчу вашай жонцы — мне б такога мужа, як вы!

Зусім збянтэжаны, Міхаіл Міхайлавіч як на нейкае дзіва пазіраў на маленькую постаць жанчыны. Бачыў, як яна жвава ўскочыла ў перапоўнены аўтобус, як зачыніліся за ёй дзверцы. І раптам ён сам, не разважаючы, кінуўся следам, памкнуўся за аўтобусам, нібы і ў яго была пільная патрэба ехаць. Ды — позна: аўтобус ірвануў з месца, пырснуў з-пад колаў вадой...

Халодныя струменьчыкі дажджу паволі сцякалі па твары Міхаіла Міхайлавіча, і ён, як у дзяцінстве, лавіў іх губамі і нават не спрабаваў схавацца. Стаяў, да чагосьці прыслухоўваючыся ў самім сабе — усхвалявана, засяроджана...

*1979*

# ГАРМАТА

У мяне ёсць пляменнік — вяснушкаваты, агністарыжы Сашык. Калі я часам прыязджаю ў горад, сястра з ахвотаю сплаўляе яго мне.

— Забяры ты хоць да абеду гэтага ваяку з дому — спакою ад яго няма... Усё дагары нагамі пераварочвае! Хутчэй бы ўжо ў школу яго адправіць...

І я разумею сястру: хлопчык сапраўды непаседа... Такія ж у яго і сябры — увесь дзень носяцца па лесвіцы, па двары і гуляюць у вайну.

— Калі будзе час,— ужо наўздагон крычыць мне сястра,— зазірні з гэтым папуасам у цырульню!

«Папуас» хітра хмурыць на мяне блакітныя вочы і паблажліва ўсміхаецца: маўляў, што зробіш, яшчэ не гэта даводзіцца чуць...

Між іншым, са мной ён заўсёды ахвотна ідзе ў горад, нават дазваляе весці за руку... Асабліва наша дружба ўмацавалася, калі я падарыў яму серабрысты кітайскі ліхтарык ды яшчэ паабяцаў купіць маленькую гарматку, што вельмі ўжо спадабалася Сашыку ў дзіцячым магазіне... І цяпер, важна ідучы побач, ён усё гаворыць і гаворыць пра гэтую гармату, пра тое, як зробіць засаду і будзе страляць з яе ў Мішку, у Лёніка, у Пецьку — «бах, ба-бах, бах, бах!».

Прахожыя азіраюцца на майго вельмі гаваркога спадарожніка і ўсміхаюцца. Але Сашык не звяртае на іх ніякай увагі... І ўжо каля самай цырульні раптам дыпламатычна гаворыць:

— Слухай, давай лепш пойдзем у магазін цяпер, а то разбяруць усе гарматы...

Але мне ўдаецца ўгаварыць пляменніка спачатку падстрыгчыся — непадстрыжанага, маўляў, у магазін не пусцяць... Сумна ўздыхнуўшы, Сашык нехаця заходзіць са мной у цырульню.

Цырульня пустуе. Толькі побач з дзіцячым крэслам голяць нейкага кліента.

— Сядай, хлопчык! — весела гаворыць пажылы цырульнік з сівою чупрынаю.— Сядай, зараз мы цябе пад макацёр...

Сашык уладкоўваецца ў мяккім крэсле і з прыемнасцю гойдаецца.

— Але я вас папрашу крышачку пачакаць, калі не вельмі спяшаецеся,— ужо да мяне ціха звяртаецца цырульнік.— Адну хвілінку. Вось памагу практыкантцы пагаліць кліента, бо ў яго шрамы.

Толькі цяпер я прыглядаюся да мужчыны. У люстэрка мне выразна відаць яго страшэнна знявечаны твар: ён увесь у тугіх ружовых рубцах, у маленькіх ямках і латах, нібы нехта вельмі злы спецыяльна рашыў папсаваць твар гэтага дужага шыракаплечага чалавека...

— На вайне? — намыльваючы кліенту шчокі, хмура пытаецца цырульнік.

— Там,— спакойна ківае галавой мужчына.

Больш цырульнік ні аб чым не пытаецца. Яго позірк адразу пасуравеў, ён прыкаваны толькі да твару кліента. І, як заварожаныя, глядзяць на гэты твар спалоханыя вочы Сашыка і вялікія жаласлівыя вочы дзяўчыны-практыканткі... А брытва кароткімі, але асцярожнымі рыўкамі выбрывае шчаціністыя латкі, абыходзіць бугрыстыя стужкі.

Вось ад шчаціння і пены ачышчаецца адна шчака, другая. Вось пасвятлеў падбародак, вось ужо відзён шрам на губе... Вось ужо цырульнік змахвае сурвэткай рэшткі пены і шыпіць пульверызатарам.

Кліент устае, дзякуе. Яго шэрыя вочы мякка ўсміхаюцца, а губы... Дзіўна, але замест лагоднай усмешкі на ненатуральна скрыўленых губах — грымаса болю, нясцерпнага чалавечага болю... Болю, які даўно прайшоў, але вось так навек захаваўся грымасай на парваных губах.

Разлічыўшыся з касірам, мужчына, накульгваючы, выходзіць. Цырульнік вяртаецца да Сашыка. Хутка, спрактыкавана стрыжэ. Але чамусьці няма ўжо ў ім ранейшай ажыўленасці — позірк стомлены, сур'ёзны.

— Вось і ўсё, хлопча,— гаворыць ён.— Можаш ісці...

Калі мы зноў выходзім на сонечную вуліцу, Сашык доўга абмацвае сваю стрыжаную галаву і маўчыць. Я не ведаю, чаму ён маўчыць, пра што разважае. Я бяру яго за руку і па нашаму маўкліваму ўгавору вяду ў дзіцячы магазін.

— Слухай, а чаму ў яго твар у рубцах? — нечакана пытаецца Сашык і прыпыняецца на дарозе.

Вось ён пра што... Ён думае пра таго кліента са знявечаным тварам. Пра кліента, са страшнай усмешкай.

— Ён быў паранены,— коратка тлумачу.

— Як?

— Ды так вось... На вайне. Разарваўся снарад, асколкі — у твар і...

— А чаму ён разарваўся, той снарад?

— Ну, як чаму? Таму што выстралілі.

— З чаго?

Як жа яму ўсё растлумачыць, гэтаму рыжыку?

— Вось я табе зараз куплю гарматку, Сашык... Ты будзеш з яе страляць... З такой жа, толькі вялікай, страляюць і на вайне. Адных — параняць, другіх — забіваюць...

— З гарматы забіваюць? Назусім? — здзіўляецца Сашык.

— Назусім.

— І забіты чалавек тады... не бачыць і не чуе?

— Не бачыць і не чуе.

— Вось так?

Сашык прыжмурвае вочы і закрывае пальцамі вушы. Але ж левае вока яго ледзь-ледзь прыадкрыта — танюсенькая бліскучая палоска ў залацістых вейках дапытліва пазірае на мяне.

— Не, Сашык, не так. Горш. Забіты нічога ўжо не бачыць — ні блакітнага неба, ні гэтых прыгожых дамоў, ні зялёных дрэў...

Задумаўшыся, я ўспамінаю старонку са свайго дзяцінства. Я ўспамінаю прыдняпроўскі бераг, вясновы дзень, сябе, дзеда і вакол на зямлі — трупы салдат... Іх было многа. Яны ляжалі ўсюды і ўжо не чулі паху адталай вясновай зямлі, якая чарнела на пагорках з-пад шэрага халоднага снегу. Яны ляжалі, уткнуўшыся ў зямлю, але не чулі гэтага цудоўнага непаўторнага паху. Яны ляжалі і не бачылі, як мы іх клалі на калёсы, як звозілі. Іх было многа, вельмі многа...

Напэўна, я ўсё гэта ўспамінаю ўслых... Напэўна. Бо калі я ўзнімаю галаву і кідаю позірк на Сашыка, мне цяжка пазнаць у ім звычайнага гарэзлівага хлапчука: ён бледны, у вачах стаіць жах. Ён цягне мяне за руку назад.

— Пайшлі дамоў! Пайшлі...

— А як жа... магазін? Мы ж яшчэ цацку з табой не купілі,— здзіўляюся я.

— Не трэба мне гэтай гарматы,— панура гаворыць Сашык.— Хадзем.

І я слухаюся хлапчука. Я іду з ім дамоў. Па дарозе ён маўчыць. Я ведаю, чаму ён маўчыць...

Але ад ленінградскага марожанага, якое я купляю на рагу вуліцы ў ветлівай жанчыны, не адмаўляецца і потым са шкадаваннем аблізвае пухлыя ружовыя губы.

— Можа, яшчэ купіць? — пытаюся я.

— Купі! І ведаеш што...

На момант у дзіцячых вачах з'яўляюцца вясёлыя гарэзлівыя іскрынкі:

— Купі мне марожанага на ўсе тыя грошы, што каштуе гармата!

— Добра, Сашык!

І вось мой маленькі родзіч зноў шчасліва смяецца: на яго вуснах, барадзе блішчаць халаднаватыя кроплі марожанага. Марожанага, якое я купляю яму на тыя грошы, што каштуе толькі адна дзіцячая маленькая гармата.

*1961*

# ГУМАРЭСКІ

## ТЭЛЕВІЗІЙНАЯ ПРЭМ'ЕРА

Гаўрыла Гаўрылавіч Падабабкін не спаў ужо тры ночы. Мала сказаць — не спаў. Гаўрылу Гаўрылавіча літаральна калаціла ад незвычайнай узрушанасці, ад радаснай трывогі і светлых надзей. Падумаць толькі! Ён будзе выступаць па тэлебачанню... І ўсё гэта, уявіце, здарылася так нечакана, так проста. Пазванілі да яго ў домакіраўніцтва, папрасілі — згадзіўся. Без ваганняў, адразу. Аж у скокі карцела пусціцца. Ды цяпер вось — хвалюецца, нервы падводзяць: апошняя рэпетыцыя. Дома. Доўгі нос Гаўрылы Гаўрылавіча выцягнуўся, апусціўся да самых губ, твар схуднеў, а звычайная сінява на сухіх шчоках змянілася бледнасцю.

А на Гаўрылу Гаўрылавіча як не маліліся жонка, дзве незамужнія дачкі і старая цётка Магдаліна. У гэты незвычайны дзень у хаце гаварылі толькі шэптам, каб не перашкаджаць гаспадару, не гнявіць яго, а цётка Магдаліна, прыгатаваўшы духмяную яечню, упрошвала:

— Гаўрылка, з'еш яечанькі...

Гаўрыла Гаўрылавіч не чуў голасу цёткі. Ён чуў голас дыктаршы: «А зараз, дарагія таварышы, перад вамі выступіць паважаны домакіраўнік Гаўрыла Гаўрылавіч Падабабкін...»

Канечне, ён, як вучыў яго знаёмы акцёр Сінайскі, кіўне галавой, падзякуе дыктарам, стрымана, у меру прыветліва ўсміхнецца тэлегледачам і нетаропка, з пачуццём уласнай годнасці, пачне прамову аб сваёй сціплай, але патрэбнай людзям працы.

Ах, жыццё, жыццё! Якіх толькі штуковін яно не вытварае з чалавекам! Ну, хіба ж ён, Гаўрыла Гаўры-

лавіч, думаў, што на самым схіле год яго, нарэшце, заўважаць і нават запросяць на тэлебачанне? У той самы момант, калі ўжо і не марыш аб славе, пахаваўшы лепшыя надзеі на самай глыбінцы стомленай няўтольнай душы, калі толькі і просіш бога аб адной літасці — пазбавіць ад ворагаў-крытыкаў... Ды не! Цяпер ён пакажа таму-сяму кукіш з маслам, пакажа! Хай пішуць скаргі, хай джаляць сваімі камарынымі ўкусамі, а Падабабкіна будзе ўся вобласць глядзець!

— Не, проста так са сцэны не сыду! — ганарліва прамовіў услых Гаўрыла Гаўрылавіч.

Акцёр Сінайскі, які непрыкметна зайшоў у пакой і назіраў за сваім падапечным, не вытрымаў, падскочыў да яго радасна:

— Малайчына, Гаўрыла Гаўрылавіч! Правільна! Прыкладна тое ж сказаў я, калі аднойчы забыў словы сваёй ролі...

І хоць Сінайскі ўжо неаднойчы гаварыў пра гэты выпадак Падабабкіну, ён і на гэты раз, гарэзліва бліскаючы вачамі, прыцмокваючы языком, пачаў пераказваць старую гісторыю.

— Ці то спалохаўся я, ці крышку лішняга выпіў перад спектаклем, але хоць кол на галаве чашы,— аніяк не магу ўспомніць, што трэба гаварыць дзяўчыне, якая не кахае мяне. І вось тады я кінуў пагардлівы позірк у залу і, помню, прадэкламаваў: «Ха, ха! Я сцэну пакідаю!» Што рабілася з публікай — вы не ўяўляеце... Авацыі, гром авацый! Гледачы ўсе ў захапленні... Вось, дарагі, як трэба смела арыентавацца ў нечаканай абстаноўцы.

Гаўрыла Гаўрылавіч пакутліва ўсміхнуўся акцёру і тупа ўтаропіўся ў люстра.

Сінайскі крытычна хмыкнуў, над нечым разважаючы, прывычна часануў грабянцом палыселую галаву і рашуча прамовіў:

— Вам, Гаўрылавіч, лепш за ўсё падыдзе важная поза. Паболей у твары пачуцця гонару! Ну, зірніце, зірніце на мяне, быццам Кутузаў на бяздарнага генерала... А я тым часам...

У дрыготкіх, але спрытных руках Сінайскага мільгануў графінчык каньяку, які трымаўся ў хаце для важных персон. Гэтая бесцырымоннасць сапсавала настрой Гаўрылу Гаўрылавічу, і ён, бачачы, як напаўня-

еццa кілішак бурштынавай вадкасцю, адарыў акцёра знішчальным позіркам.

— Цудоўна! Так і выступаўце,— аўтарытэтна сказаў Сінайскі.— Ды спяшайцеся ж на тэлестудыю! — Ён зірнуў на гадзіннік, потым на каньяк.— На прэм'еру спазняцца нельга... А мы ўжо тут, усёй сямейкай, будзем на вас глядзець і радавацца!

Гаўрыла Гаўрылавіч заспяшаўся...

На тэлестудыю трапіў у тэрмін. У вестыбюлі ён пастаяў ля люстра, прычасаў кароткія сівыя валасы, палюбаваўся сваім старамодным святочным касцюмам і нават пажартаваў з бабулькай-вахцёрам... Усё ішло занадта добра. Неўзабаве малады чалавек, які назваўся рэжысёрам, ветліва адвёў Гаўрылу Гаўрылавіча ў студыю і пасадзіў яго не разам з усімі ўдзельнікамі перадачы, а за асобны чорны столік, побач з дыктаршай Зінай. Гэта вельмі спадабалася Гаўрылу Гаўрылавічу: паважаюць!

— Пачынаем, таварышы! — праз якую хвіліну пачуўся строгі голас аднекуль зверху.

Гаўрыла Гаўрылавіч зірнуў туды, угору, і прыплюшчыў вочы: цэлае мора святла, яркага, гарачага, залівала студыю... Тады ён, як і раілі, утаропіўся на чырвоны агеньчык апарата і застыў у чаканні...

А тым часам у кватэры Падабабкіна ля тэлевізара ўрачыста сабралася ўся сям'я. Пакуль не было перадачы, усе слухалі розныя смешныя гісторыі, якія расказваў весялун Сінайскі.

— Сціхніце! Пачалося ўжо,— раптам шыкнула цётка Магдаліна.

Спачатку на экране прыветліва ўсміхнуўся твар дыктаршы Зіны, пасля паплылі постаці спалоханых удзельнікаў перадачы, якія збялелымі пальцамі, нібы за саломінкі, трымаліся за паперкі з тэкстам, і, нарэшце, паказаўся сам Гаўрыла Гаўрылавіч: надзьмуты, чапурысты.

— Мая работа,— патэтычна ўсклікнуў Сінайскі.— Ні даць ні ўзяць — фельдмаршал...

Сапраўды, уражанне было такое, што Гаўрыла Гаўрылавіч нікольк не хвалюецца, а паблажліва пазірае на дыктара. Праўда, ён час ад часу, пакуль доўга і нудна гаварылася аб будаўніцтве горада, выціраў хустачкай узмакрэлы лоб.

— Падкруціце гук! Мацней! Не магу ўседзець,— хваляваўся Сінайскі.— Дайце кілішак каньяку!

Усе яшчэ бліжэй падсунуліся да тэлевізара. У пакоі зрабілася ціха-ціха. І раптам дыктарша Зіна, пазіраючы на Гаўрылу Гаўрылавіча, запела сваім меладычным галаском:

— Ну, а цяпер домакіраўнік Падабабкін адкажа жыхарам шматпавярховага дома па вуліцы Лясной усяго на адно пытанне...

Галава Гаўрылы Гаўрылавіча з гатоўнасцю баўтанулася ўперад і важна адкінулася назад.

— Скажыце: калі, нарэшце, пачнеце вы рамонт кватэр?

На ўвесь экран расплыўся твар Гаўрылы Гаўрылавіча. Ён яшчэ спрабаваў усміхацца — разгублена, кіславата. Але недзе там, у студыі, пачуўся стрыманы недазволены смяшок. І тут жа, бездапаможна хапаючы паветра, як тая рыбіна, выкінутая на бераг, Гаўрыла Гаўрылавіч раптам прыўзняўся і раз'юшана гаркнуў:

— Я... сцэну пакідаю!

У кватэры Падабабкіных убачылі, як у той жа момант імгненна знік з экрана твар Гаўрылы Гаўрылавіча. І як ні ўзіраліся яго засмучоныя родныя і блізкія, больш ім ужо нічога не ўдалося ўбачыць, акрамя жвавай дыктаршы... Нехта з родзічаў Падабабкіна рэзка вырваў штэпсель з разеткі, экран тэлевізара хутка пачаў цямнець.

І толькі акцёр Сінайскі быў у настроі. Ён нахабна тармашыў старую Магдаліну і з захапленнем рагатаў:

— Вы чулі, чулі, як ён сказануў: «Я сцэну пакідаю!» Далібог, мяне пераплюнуў...

Валасатая рука Сінайскага асцярожна пачала намацваць на стале каньяк, але другая рука, тонкая і доўгая, апярэдзіла: учэпістыя пальцы схапілі графін і пацягнулі да сябе.

— І так усё выжлукціў, пустабрэх пракляты,— прастагнала цётка Магдаліна, сярдзіта ўсхліпваючы.— Артыс-ты...

У цэнтры цёмна-шэрага экрана весела бліснула вясёлая зорачка і патухла.

*1974*

# Я — МАЎЧУ

Крочым берагам ракі да прыстані. Туман парадзеў, сонейка ўжо ўзнялося, радуе, прыгожа блішчыць у росах. І на душы ў нас радасна ды хораша, вясёлыя мы, гаваркія. Што значыць удача! А тут, аказваецца, і вёска пад носам — блукалі-палявалі побач. Я напяваю сабе нешта ўрачыстае, а нястомны Іван Лукіч бяжыць, коціцца паперадзе, усё не можа спыніцца, усё расчулена сіпіць, узрушана лапоча сваім прастуджаным голасам:

— Эх і нацюкалі мы з табой качак... Ты толькі зірні, зірні, якая прыгажосць! Галоўкі зялёныя, шыйкі беленькія... Адна ў адну. Вось яна, удача паляўнічая! Ды што я табе казаў, га? Успомні, галава і два вухі... Кажу, з пустымі рукамі не вернемся. А ты — не паляўнічыя мы, у руках стрэльбы не трымалі... Глупства ўсё гэта! Іншы аматар вунь толькі на рацэ і пасвіцца, але так за ўсё жыццё і не скеміць, дзе качкі водзяцца. Чаму, спытаеш? Ды няма прыроднага таленту! Ну, хто здагадаўся б, што дзічына гэтая пад самым носам у вяскоўцаў плавае? Хто? А мне дастаткова было вокам на азерца кінуць і — ёсць!

Іван Лукіч пераможна плюскае вачамі, яго чырвоны круглы твар так і ззяе ва ўсмешцы.

— Са мной, галава і два вухі, не прападзеш! Толькі мацней трымайся за мяне, свайго начальніка... Другі б на такой адказнай пасадзе за месяц спёкся б, а я? Як-ніяк дзесяць гадкоў кірую. Сакрэт? Ды не ж... Пад носам, пад носам, галава і два вухі, умею бачыць...

Недзе на рацэ прыглушана гудзе цеплаход. Гэта яшчэ больш узрушвае, настройвае Івана Лукіча на вясёлы лад. Ён, як той хлапчук, робіць нейкія неверагодныя скокі, падкідвае ўгору нізку настрэленых качак і жартаўліва крычыць:

— Жонка-а-а, мы ту-ут! Хутчэй, хутчэй вязі нам, міленькая, бутэлечку пагрэцца...

Цеплаход басавіта адгукаецца яму: чу-ую!

— Бачыш, як усё добранька? І жонка едзе ўжо... Дамовіўся! Мы ёй — качак, яна нам — гарэлачкі. Гэй, а ты што там? Нагу муляе? Ну, ну... пераабуйся, а я пабягу, жонку сустрэну.

Я пераабуваюся і з лёгкай зайздрасцю разважаю над шчаслівым лёсам свайго начальніка. Яго рухавая постаць ужо знікла за кустамі лазняку. Я ўяўляю, як ён паказвае нашы трафеі, як выхваляецца перад жонкай і задаволена рагоча.

Але раптам да мяне даносяцца два галасы: вісклівы жаночы і нейкі сварлівы Івана Лукіча... Крычаць, спрачаюцца. Ну, вось табе, прыехала жоначка... Адразу пазнаеш!

Я толькі здзіўляюся, калі Іван Лукіч паспешліва вяртаецца да мяне і сярдзіта сіпіць:

— У цябе ёсць... грошы?

— Ёсць.

— Давай іх усе сюды!

Нічога не разумеючы, падаю грошы, пераабуваюся і спяшаюся да прыстані. Бачу, як ад Івана Лукіча шыбуе да вёскі нейкая жанчына, а ён стаіць, чамусьці пералічвае нашых качак, прыдзірліва мацае іх, нават нюхае і вельмі злосна дакарае некага:

— Хіба ж гэта птушка, га? Хіба яна каштуе па тры рублі кожная? Ды за гэтыя б грошы на рынку... Цьфу, дыхляціна! Глядзець брыдка. Калі ўжо трымаеш, гаспадынька, качак, дык кармі іх дома, а не распускай па ўсім лузе...

Тым часам кіруецца да нас зноў жанчына. На гэты раз — ужо жонка Івана Лукіча. Ён кідае спалоханы позірк у яе бок, моршчыцца, як ад кіслага, і змоўніцкі прыціскае палец да вуснаў: маўчы...

Я — маўчу.

*1971*

## ЗЕМЛЕТРАСЕННЕ

*Раказ відавочцы*

Мы сядзелі ў невялікім скверы. У зялёнай утульнай альтанцы.

Спачатку звінелі шклянкі і бутэлькі... Помню, доўга звінелі, пакуль адна з іх не перакулілася і з яе не

пацяклі апошнія кроплі... З таго, відаць, моманту і пачалося ўсё! Як мне падалося, нешта моцна грымнула, стол, за якім мы сядзелі, завагаўся, нахіліўся, і абодва мае прыяцелі, бездапаможна хапаючыся рукамі за паветра, з'ехалі з лавак на зямлю... Але я — утрымаўся, бо інстынктыўна абхапіў дрэва рукамі. Вось тады і адчуў, як ходарам захадзіла пада мной зямля, як завіхурыла ў вачах. Вакол рабілася нешта страшэннае, неверагоднае. Я зірнуў на тое месца, дзе яшчэ гадзіну назад віселі электрычныя ліхтары, але ў густым змроку бушавала толькі адно полымя. Яно гарэла так ярка і злавесна, а чырвоныя твары маіх прыяцеляў пазіралі ў неба з такой пакутлівасцю, што жахлівая здагадка заварушылася ўва мне: я раптам прыгадаў карціну «Апошні дзень Пампеі»... З дзікім лямантам кінуўся са сквера на вуліцу: «Ратуйце-е-е!» І усё шалёна панеслася за мной і насустрач мне: будынкі, людзі, машыны. Імгненнае маланкавае святло і моцны ўдар былі апошнім, што я адчуў.

...Апрытомнеў у бальніцы. Нада мной стаяў доктар. Нягледзячы на востры боль ва ўсім целе, я сабраў сілы і ціхім шэптам спытаў:

— Усё... ужо скончылася?

— Бадай...

— А што ж гэта было?

— Моцная ступень ап'янення...

— І больш... нічога? — не паверыў я.

— Не, чаму ж... Вы ледзьве не загінулі пад машынай.

*1973*

## ВЯСНОЙ

Яшчэ не носяцца ў паветры ашалелыя хрушчы, не пікіруюць зухавата на прыгожыя кветкі бэзу, ад якога звычайна і ў старых галовы кружацца... Але вечар па-веснавому цёплы. З прыемнасцю прайшоўся б з жонкай, пашпацыраваў бы, калі б...

Чорт пабяры, не магу я болей чуць гэтага брыдка-

га пісклявага голасу жончынай сваячкі Марылі! Далдоніць і далдоніць. Мянташыць і мянташыць. Нават таблеткі ад галаўнога болю не памагаюць мне, глытай ці не глытай! Трэцюю гадзіну без перапынку перамывае костачкі сваім суседзям. Ды яшчэ кожны раз крычыць мне з кухні:

— Мікалай Сямёнавіч, ці чулі вы што-небудзь такое?

— Якое... такое?

— Такое, якое...

А каб цябе, родненькая, з тваімі навінамі! Балаболка няшчасная... Відаць, жонка на кухні ўвесь посуд перамыла, а гэтая — усё балбоча. Яшчэ ж званіць па тэлефоне будзе розным сяброўкам...

— Мікалай Сямёнавіч! Вы чулі? Суседачка ў мяне новая... Ага, нядаўна пераехала. Удава — маладая, прыгожая такая...

Ну, вось, цяпер пайшла распісваць: колькі ў суседкі мэблі ды якая, якія сукенкі ды колькі.

— Апранецца, прыбярэцца — лялька! На такіх мужчыны ляцяць, як тыя матылькі на святло... Ой, не пашанцавала жанчынкам з нашага пад'езда, ха-ха-ха! Каго-небудзь абавязкова падчэпіць...

— А раптам твайго Трафіма, Марыля? — не вытрымала і кпіць жонка.— Пакідаеш заўсёды аднаго. Глядзі, дзеўка! Недарма гавораць: сівізна ў бараду — чорт у рабрыну.

— Ха-ха-ха! — зноў весела рагоча Марыля.— Майго дзеда... падчэпіць? Ды яму, дзівачка, акрамя тэлевізара, нічагусенькі не трэба... Хочаш, зараз нават пазваню мужу — раскажу, як ты тут яго бэсціш? Пасмяецца! Ці не, чакай, дзынкну лепш гэтай удавіцы, яе пацешу, гаротніцу...

У прыадчыненыя дзверы я бачу, як таўставатая Марыля сунецца калідорам да тэлефона, здымае трубку, набірае нумар — пачынае манерна «алёкаць»:

— Алё, алё... Няўжо мая суседачка спіць ужо? Алё-ё! Хто, хто гэта? Трафім?! Што ты... робіш там?!

— ...

— Тэлевізар глядзіш?! Свайго нямашака, га? Вось як... Вось як...

Ну і фокус, ну і нумар! Ачумелая Марыля маўчыць, усхвалявана, гнеўна дыхае ў тэлефонную трубку. У мо-

мант знікае ўся яе напышлівасць, гарэзлівасць, твар пакутліва моршчыцца, чырванее: вось-вось заплача. Мінае хвіліна, другая, і пякучая рэўнасць ахоплівае жанчыну. Ужо дрыготкім, нейкім чужым, трагічным голасам яна паўтарае:

— Ён там... у яе... Там ён...

Якія толькі грэшныя карціны не малюе яе ўяўленне!

Жонка спачувальна абдымае сваячку, разгублена супакойвае: «Ну, і што, калі зайшоў, ну і што?» А я... Я, здаецца, здагадваюся, у чым справа. Як следчы, строга пытаюся:

— Марыля, куды ты хацела пазваніць спачатку?

— Дамоў...

У той жа момант Марыля робіць вялікія вочы, атарапела пазірае на мяне, а потым, нешта скеміўшы, пачынае нервова смяяцца і ўжо не гаворыць, а радасна крычыць у тэлефонную трубку:

— Трафімка, я зараз жа... еду дамоў!

Едзь, едзь, галубка... Нарэшце!

*1974*

## МУЗЫЧНАЯ ГІСТОРЫЯ

Праз які ўжо месяц пасля ўрачыстага наваселля я кожны раз нервова дрыжаў, калі вяртаўся дамоў і націскаў кнопку званка сваёй кватэры...

Адчыняла змрочная жонка. Ні на што не спадзеючыся, я ўсё ж хваравіта пытаў:

— Ну, як? Пачалі ўжо?

— Пачалі...

Ды і сам я выразна чуў, як з усіх бакоў нясліся гукі: ад суседа справа — бравурныя акорды піяніна; ад суседа злева — пяшчотны голас флейты; над самай галавой — мядзведзем раўла сярдзітая труба адстаўніка Івана Хведаравіча: ур-ур-р... А ўнізе, што рабілася ўнізе! Нават цяжка ўявіць чалавеку, які не паспытаў усяго гэтага некалі... Уключаны на ўсю магутнасць магнітафон роў і падвываў пініпаўскім ваўком.

Я набіваў у вушы добрыя камякі ваты, клаўся на канапу, ды ўсё роўна круціўся, нібы на мяне напаў цэлы пчаліны рой. Вынаходлівая жонка адкручвала на кухні ўсе краны, робячы спробу хоць трохі заглушыць брыдкія, настойлівыя гукі... Урэшце перамагала ўсё-такі музыка: не вытрымаўшы яе націску, мы здавалі свае баявыя пазіцыі. Я бег да таварыша, жонка ратавалася ў сяброўкі... Толькі позняй ноччу, калі горад ужо моцна спаў, даволі стомленыя, змучаныя, мы вярталіся дамоў.

Раніцою, перад працай, з суровай рашучасцю «пагутарыць канчаткова» я выходзіў у двор і чакаў сваіх музычных суседзяў. Я ўвесь дрыжаў ад святога гневу. Але што за агідны характар! Ледзьве я толькі бачыў іх задаволеныя, напышлівыя твары, адразу губляў усю ўпэўненасць і нешта мармытаў, накшталт:

— А вы ўчора ігралі, Іван Хведаравіч...

— Ну, іграў... Што, прыгожа?

— Прыгожа, прыгожа,— крывіўся я.— Ды вось толькі даўгенька...

Але Іван Хведаравіч разумеў мяне зусім не так, як трэба: ён блізарука жмурыў на мяне свае старэчыя выцвілыя вочы і паблажліва заўважаў:

— Ну, вядома... Музыка патрабуе поўнай аддачы. Калі хочаце — нават самаахвярнасці!

У яго былі доўгія рукі з кашчавымі музычнымі пальцамі, і адзін з іх імкліва стартаваў уверх і застываў ля вуха — роўна на столькі, каб павучальна паўтараць:

— Самаахвярнасці!

Ах, які разумнік, які мне кампазітар знайшоўся... Я злаваў і амаль з нянавісцю свідраваў сваім позіркам яго згорбленую спіну пад зялёным сукном фрэнча, а потым, санлівы, разбіты, цягнуўся на тралейбусны прыпынак.

Цяпер амаль неадступна — і ў дарозе, і на працы — мяне мучыла адна і тая ж думка: дзе выйсце?

Аднойчы, надвячоркам, калі мае суседзі наладжвалі свой чарговы канцэрт, я блукаў па вуліцах і выпадкова забрыў у магазін музычных інструментаў. Чаго тут толькі не было — ад велізарнага барабана да элегантнай маленькай скрыпачкі... Як Дон Кіхот, гатовы ўступіць у бойку з млынам, тупа і зласліва пазіраў я

на гэтых сваіх ворагаў. Страшэнная помста спела ў маім сэрцы, гарэла ў вачах. І калі спалоханы прадавец наблізіўся і спытаў, што мне трэба, я велічна і рашуча паказаў у кут:

— Упакуйце вунь тое... самае вялікае.

У гэты дзень мы з жонкай мо ўпершыню нікуды не пайшлі і заснулі спакойна: пакупка поўнасцю апраўдала сябе.

Эфект быў ашаламляльны... Ледзьве за нашай сценкай танклява заверашчала флейта і хрыплява, натужна забурчала труба, ледзьве піяніна зайграла ўрачысты марш тарэадора, я выскачыў на сярэдзіну пакоя і... з усяе моцы ўдарыў у вялізны барабан! Здавалася, маладыя вясновы гром пракаціўся ў вышыні... А я лупіў і лупіў шалёна ў барабан, аж пакуль у пот не кінула. Калі спыніўся — не паверыў вушам: навакол было ціха-ціха, нібы ў тым ранішнім лесе. Ні гуку, ні акорду...

Потым неяк няўпэўнена і бездапаможна піскнула флейта — я зноў грымнуў барабанам. Потым незадаволена забурчала-азвалася труба — і я адказаў дробным папераджальным пошчакам... Потым усё сціхла, угаманілася, і Іван Хведаравіч...

Не, з Іванам Хведаравічам мы ўжо назаўтра сустрэліся на тралейбусным прыпынку. Цікавая, між іншым, сустрэча была.

— Вы нешта доўга ўчора рэпеціравалі, калега,— панура сказаў ён мне з выразным жаданнем прадоўжыць гутарку.

— Ну, што вы,— сціпла запярэчыў я.— Я ж толькі пачынаю... А музыка, як вы добра ведаеце, патрабуе самаахвярнасці.

І якраз як калісь ён, я шматзначна тыркнуў у блакітнае паветра сваім кароткім, немузычным, пальцам і з асалодай паўтарыў:

— Самаахвярнасці, калега!

*1972*

# КУРТАЧКА

Не ведаю, як у вас, а ў мяне на Новы год абавязкова што-небудзь ды здарыцца... Якая-небудзь каверза так і падсцерагае! Адзін раз, памятаю, усю саракаградусную навагоднюю ноч у лесе правёў — па елку паехаў, ды машына сапсавалася; другі раз, гэта яшчэ калі халасцяком быў, таварыш-урач запрасіў да сябе адсвяткаваць, а сам, як на тое ліха, па тэрміноваму выкліку да хворага паехаў... І давялося мне, маладому-нежанатаму, навагодні тост узнімаць у кампаніі яго старэнькай бабулі. Крыўдна, смешна, недарэчна, але нікому не паскардзішся, ніхто не вінаваты — выпадак!

А то ж і горш было... Ледзь да разводу аднойчы справа не дайшла. Толькі-толькі я ажаніўся тады. Яшчэ дзянькі мядком пахлі... Як кажуць — жыві ды не тужы, цешся сваім сямейным шчасцем! Ні сварак ніякіх, ні папрокаў. Калі і быў клопат, то як лепей Новы год сустрэць у новай кватэры. Склікаў я да сябе сяброў, жоначка мая Тоня ўсяго наварыла і насмажыла, адно — здалося мне, што шампанскага на стол малавата. Ну, я і рашыў у магазін адскочыць: не стану ж я перад гасцямі чырванець!

Калі выходзіў з дому, яшчэ светла было, а назад вяртаўся — ужо снег пасінеў у марозных прыцемках. І вось, стомлены і злы, стаю на прыпынку, з нецярпеннем чакаю чарговы тралейбус. Адзін праходзіць, другі — біткам набітыя. Не прабіцца! Падышоў трэці. Ну, думаю, у гэты ўжо ўпіхнуся як-небудзь. І сеў бы, калі б раптам не ўбачыў... Каго б вы думалі? Сваю жонку... Уласнай персонай. Выйшла з тралейбуса і шпацыруе сабе спакойненька ў сваёй зялёнай куртачцы, у белай вязанай шапачцы! У мяне і зло адразу ад сэрца адлягло: гэта ж гасцей яна кінула і адправілася мяне шукаць, шалапута. Трывожыцца, родная. Эх, шчасце якое жонку такую мець! Ну, думаю, не буду клікаць яе, пажартую трошкі, прайдуся за ёй крадком, а потым — снежку кіну... Вось напалохаецца!

Ледзь стрымліваючы смех, нагнуўся я, каб зляпіць тую снежку, зляпіў, а калі разагнуўся — вачам не паверыў: Антаніна стаяла пад ліхтаром і... цалавалася з нейкім цыбатым хлопцам.

Зялёныя куртачкі замяльцешылі перада мной, закружыліся плямамі перад вачыма. І нічога я не разумею, разгубіўся. Толькі ў галаве нейкія малаточкі стукаюць і званочкі звіняць — вось табе і сямейнае шчасце! І калі паспела тыя шуры-муры завесці... Снежка ў маіх гарачых далонях растала, і вада, нібы слёзы, закапала ўніз. Істуканам пазіраў я ім услед, бачыў, як заходзяць таропка яны ў студэнцкі інтэрнат. І раптам кроў, як у зняважанага Атэлы, забурліла ў маіх жылах. Я пакляўся, што не рушу з месца,— хоць усю ноч прастаю тут, пакуль не дачакаюся жонкі, пакуль не выкажу ёй у твар усё, што пра яе цяпер думаю.

Ля дзвярэй вісеў тэлефон-аўтамат. З інтэрната выскоквалі франтаватыя дзяўчаты і хлопцы і ўсё некуды званілі, кагосьці віншавалі, смяяліся і — знікалі. Толькі я, як вартавы, рыпеў пад вокнамі снегам, праклінаючы той дзень, калі так легкадумна жаніўся, калі паверыў гэтай ветранай Тоньцы. Падумаць толькі, якая прытвора! Я яе лаяў, але ад гэтага лягчэй не рабілася. Чамусьці ўспомнілася, як выстаяў чаргу, каб купіць Антаніне зялёную куртку, як абрадавалася яна пакупцы, якім гарачым пацалункам узнагародзіла мяне...

Сэрца ныла ад крыўды, цела трэслася ад холаду, а я — чакаў! Не памятаю, праз які час падышоў да аўтамата пазваніць — госці ж невінаватыя? Хай там без нас піруюць... Закалелай рукой набраў нумар. Адказаў жаночы голас, вельмі падобны на жончын.

— Пазавіце каго з мужчын,— патрабаваў я.

— Чакайце, зараз...

І вось ўжо ў трубцы весела крычыць мой сябар Сямён:

— Што з табой, адкуль звоніш? Дзе бадзяешся? Ведаеш, колькі да Новага года засталося?

Але я нецярпліва перабіваю яго:

— Скажы лепш, што за жанчына зараз са мной размаўляла?

— Жонка твая,— здзіўлена адказвае Сямён і пачынае зычна рагатаць.— Жонку... не пазнаў... Ха-ха...

Праз паўгадзіны я ўжо сядзеў за навагоднім сталом і моўчкі пазіраў шчаслівымі вачамі на маю Антаніну. Але аб гэтай гісторыі з чортавай куртачкай я ёй так і не расказаў — засмяяла б!

*1963*

# БЫВАЙ, КАМПАНІЯ!

*Амаль дэтэктыў*

Пытаецеся, як я ад кампаніі адбіўся? О, гэта цэлая гісторыя. Слухайце, калі час ёсць. Стаім мы аднойчы пасля рабочай змены каля фабрычнай прахадной: я, Сямён Макарчык і Яшка Беленькі. Цямнее, дождж ык асенні імжыць, холадна... Хутчэй бы ўжо куды ў цёпленькае прытуліцца ды... пагрэцца шклянкай-другой. Стаім сабе, разважаем, куды пайсці. Ужо і кішэні павытрасалі, нашкраблі сёе-тое... І раптам пад самы нос чорная «Волга» падкатвае — новенькая, аж зззяе, коламі тымі шыпіць, як якая змяя: ш-ш-ш... Высоўваецца з яе кудлатая галава на тонкай шыйцы і пытаецца пісклявым галаском:

— Хто тут Цімох Цімохавіч Сіняносаў? Здаецца, вы? Тады прашу ў машыну.

Адкуль, хто такая — ліха яе ведае. Адно — жанчынка маладая, прыгожая. Дзверцы адчыніла, чакае. Патрабавальна так гаворыць. Разважаць няма калі. Я здуру і сеў. Толькі потым, у дарозе, падумаў: адкуль ведае маё прозвішча гэтая незнаёмая чараўніца?.. І як найшло тут на мяне — жах! Аж дрыжаць пачаў... Што вы думаеце, жартачкі? А раптам падаслалі яе жулікі, адвязе куды-небудзь за горад, а там распрануць, абрабуюць і... кокнуць. Быў Сіняносаў — няма Сіняносава. Ды, разважыўшы, ледзьве сам не рассмяяўся: якая карысць ім з бруднай спяцоўкі ды сарака капеек медзякамі? Э, не, нешта іншае ў яе галаве... Можа, мяркую, у выцвярэзнік вязе? Дык пакуль жа не возяць нашага брата ў такіх шыкоўных машынах ды яшчэ такія прыгажуні. Карацей, не ведаю нават, што і думаць. Галава з учарашняга трашчыць, на душы трывожна... А тут яшчэ прыкмячаю: вязе яна мяне не па цэнтральнай вуліцы, а ўсё цёмнымі завулкамі, нібыта баіцца, каб нас не заўважылі. І раптам як варам мяне абдало. А што, калі гэта нейкая замежная дыпламатка, шпіёнка?! Дзякуй богу, начытаўся я літаратуры, ведаю, як яны вярбуюць... Падашлюць вось такую красуню — сёе-тое, шалды-балды, і вокам не міргнеш, як трапіш у яе рукі! Але кукіш з маслам, трасцу ты мяне завярбуеш, фрэйлін!..

Падкідвае яна да самага дому, гэтак ветлівенька жадае мне спакойнай ночы і, як дух святы, знікае.

Не паспяваю я ўзняцца ў ліфце на свой сёмы паверх — жонка сустракае на лесвічнай пляцоўцы. Ніколі чамусьці раней не сустракала... Ну, думаю, заўвалі жыла ў акно, як тая фрэйлін мяне высаджвала, будзе на абаранкі!

— Сёння ты, Цімоша, пабіў усе рэкорды,— кажа нечакана лагодным голасам і неяк загадкава ўсміхаецца.

— Якія яшчэ рэкорды? Ледзьве да нормы дацягнуў...

— Ды не аб працы я, дзівак! Я пра іншае. Ніколі ты так рана не вяртаўся дахаты.

Ці не выпытвае яна?

— А-а, вось ты пра што,— кажу, хітранька хаваючы вочы,— проста мне пашанцавала... Падвезлі... Знаёмы адзін... трапіўся.

Але самі разумееце: ад жонкі нічога не схаваеш... Ужо ноччу выклаў ёй усё як ёсць. І пра свае падазрэнні. Вось пайду, кажу, заўтра і заяўлю куды трэба. Ды жонка не раіць: «Ты не спяшайся, Цімоша. Прыгледзься спачатку лепш да сваёй дабрадзейкі». Гаворыць так, нібы не разумее ўсёй небяспекі...

Ну, а назаўтра паўтараецца ўсё спачатку. Як па пісаным. Толькі сабраўся я ў фабрычнае кафэ зазірнуць з хлопцамі, а чорная «Волга» тут як тут.

— Цімох Цімохавіч, прашу!

Што, думаеце, не сеў у машыну? Збаяўся? Не! Улез. Хоць, праўду кажучы, змагаліся ва мне гэтыя два пачуцці: страх і прагная цікавасць... У рэшце рэшт, можа, вялікую дзяржаўную справу зраблю — дапамагу выявіць і абясшкодзіць цэлае асінае гняздо! Потым яшчэ пісаць пра мяне будуць...

Мроіцца мне так рознае, і зноў я не заўважаю, як ля самага нашага дома тармозіць прыгажуня.

— І чаго вы такі маўклівы, дзядзечка? Мо на рабоце што не так? Дарэчы, што вы там робіце, на прадпрыемстве... Якую прадукцыю выпускаеце?

Дык вось навошта я табе спатрэбіўся! Ужо выведваеш пра прадукцыю, потым нечым яшчэ пацікавішся... Дудкі... Хоць мы і выпускаем дзіцячыя крэселкі, але ты, вядзьмарка, нічога ад мяне не пачуеш!

Зрабіў выгляд, што не чуў яе пытання, падзякаваў за паслугу і — дай бог ногі! Забыўся і пра ліфт, і пра колікі ў сэрцы. Хуценька ўзбег на свой сёмы: не да жартачкаў, раптам, хаваючы сляды, яшчэ пальне ў спіну з гэтага... бязгучнага пісталета!

А жонка, замест спачування, кпіць з парога:

— Як там твой шпіён, не закахаўся яшчэ?

— Ты што, жартуеш?! Сораму няма! — злуюся на жонку.— Можа, твайму мужу з жыццём давядзецца развітацца...

Ноч не сплю, пакутую. І другую, і трэцюю. Ці да сну тут? А яна ж, па-ранейшаму прыязджае роўненька пасля змены, забірае і вязе дамоў. Сябры таксама дзівяцца. Нічагусенькі не ведаюць. Хіба ім скажаш праўду? Яны ўжо нават падазрона пачалі паглядваць на мяне, цурацца мяне сталі.

Я ж пакутую — не дай божа нікому... Ноччу кашмары даймаюць. Нервы разышліся — ніякага паратунку... Сорамна казаць, але ўсё мне здаецца, што стаіць нехта за спіной і пільнуе, сочыць за мной.

Не памятаю, на які там дзень ужо везла яна мяне з работы ды зноў пра прадукцыю, пра гэтыя праклятыя крэселцы загаварыла: падгледзела-такі, калі вывозілі з фабрыкі! Не вытрымаў я, як зараву з усяе моцы:

— Спыніце машыну!

Не даў апамятацца вядзьмарцы, выкуліўся на тратуар і прыпусціў па вуліцы... У галаве — адна думка: хутчэй ускочыць у сваю кватэру, зачыніцца ды пазваніць у міліцыю.

Узмакрэлы ўвесь, як у той лазні, сяк-так дабег, дабраўся да сваёй дамоўкі, адчыняю дзверы — валасы на галаве дыбам: стаіць, стаіць... яна! Ужо на кватэру прабралася... Яшчэ абдымаецца, прытворніца, з жонкай, рагочуць... А я як не крычу жонцы: «Што робіш, з кім абдымаешся?!» Кінуўся было да тэлефона, ды жонка за руку ўчапілася:

— Супакойся, дурны, супакойся! Не хвалюйся! Гэта ж сваячка мая — тая, з Сібіры... Вунь якая дзеўка вырасла! Прыехала ды жыве ў маёй сястры. Ідзі ж хоць падзякуй яе за дарожныя паслугі!

Я, вядома, мусіў дзякаваць за машыну. Жонка дзякавала за мяне — сваячка ж адвучыла ад кампаніі...

*1974*

# ПЕРАЖЫТАЕ

*Псіхалагічны эцюд*
*(Амаль па Чэхаву)*

Была раніца. Пахмяліўшыся пасля ўчарашняга, жуючы на хаду нейкі кіслы піражок з ліверам, я даволі бадзёра ўвайшоў у вестыбюль сваёй установы... Было ўжо за дзевяць гадзін. Ля дзвярэй адразу ж заўважыў Пятра Кузьміча. Ён стаяў, склаўшы на грудзях рукі, і Мефістофелем пазіраў у мой бок. Змрочны позірк яго мяне не здзівіў, але чамусьці ўстрывожыў. Прывітаўшыся, я хуценька павесіў свой дажджавік і хацеў моўчкі прашмыгнуць у кабінет.

— Хочаш, я цябе загублю? — пачуў я каля свайго вуха голас і дыханне Пятра Кузьміча.

— Якім чынам?

— А вось вазьму і загублю. Дык... хочаш?

— Няма часу жартаваць, Пётр Кузьміч. Паглядзіце лепш на гадзіннік: рабочы дзень пачаўся... Усмешкі больш чым недарэчныя. Даруйце, але я лічу... Гэта прафанацыя, непавага, так сказаць... з вашага боку.

— Хочаш, я цябе загублю?

— Якім чынам? — зноў спытаў я.

— А такім... Як мяне калісьці загубілі. Хе-хе-хе... Вельмі проста. Дыхні! А-а, во-во! Нясе, як з бочкі. Вазьму зараз ды і пазваню куды трэба або — дырэктару...

Я пабялеў. Сапраўды, жыццё маё было ў руках гэтага чалавека з шызым носам. Я зірнуў з нейкай баязлівасцю і павагай на яго зласлівыя вочы...

Як мала трэба для таго, каб скавырнуць чалавека!

Наступіла маўчанне... Ён з усведамленнем сваёй сілы, велічны, горды, з атрутай на вуснах, я з усведамленнем свайго бяссілля, няшчасны, гатовы загінуць — абодва маўчалі... Ён упіўся ў мой бледны твар сваімі буркуламі, я пазбягаў яго позірку...

— Я пажартаваў,— сказаў ён нарэшце.— Не бойся.

— О, дзякуй вам! — сказаў я і, поўны павагі, паціснуў яму руку.

— Пажартаваў... А ўсё ж магу... Калі не дасі... на апахмелку... Хе-хе-хе!

*1972*

## НЕ КЛЮНУЛА

Калі мы, навасёлы, даведаліся, што падключэнне тэлефонаў у новым жылым квартале пачнецца не з нашага дома, то вельмі засмуціліся. Доўга чакаць тэлефона давядзецца. Але тут здарылася непрадбачанае. Неяк раніцай зазірнуў да нас тэхнік з тэлефоннай станцыі — невысокі, шчуплы хлапчына ў блакітнай кашулі, з чамаданчыкам. Ён папрасіў у нашага суседа табурэтку, вынес яе на лесвічную пляцоўку і пачаў поркацца ў нейкай маленькай скрыначцы над дзвярамі кватэры Сямідзедава. А мы стаялі на пляцоўцы і хорам упрошвалі майстра паставіць нам тэлефоны.

— Нічога, таварышы, не будзе,— спакойна ўсміхаючыся, адказваў майстар.— Пачакайце крыху, і да вас чарга дойдзе... Пачакайце!

А каму гэта хочацца чакаць немаведама колькі дзён? Нікому! Надакучыла і ўгаворваць незгаворлівага майстра. Мы пачалі ўжо злавацца. Але раптам нехта асцярожна крануў мяне за плячо і таямніча, па-змоўніцку прашаптаў:

— Хутчэй ідзіце да Сямідзедава...

Нібы вецер змёў маіх суседзяў з лесвічнай пляцоўкі. Я апошні пралез у прыадчыненыя дзверы кватэры Сямідзедава і пачуў:

— ...Не ўстаіць! Ведаю я іх, малакасосаў... Возьме і сёння ж паставіць усім нам тэлефоны ды яшчэ і дзякаваць будзе! Не мы яму, а ён нам. Дык хто яшчэ не даваў грошы?

Я скеміў, чаго ад мяне чакаюць, і паклаў свой рубель на стол. Сямідзедаў згроб грошы, урачыста падаў іх Нінцы Засолкінай, што жыве на нашай пляцоўцы.

— Трымай! І ўручы далікатна тэхніку. Клюне! Нідзе не дзенецца.

Ціхенька рыпнулі дзверы. Засолкіна выйшла на лесвічную пляцоўку, а мы прыліплі да замочнай шчыліны, наглядаем.

— Ну, як там?

— Усміхаюцца...

— Што яшчэ?

— Размаўляюць...

— Што яшчэ?

— Тэхнік збіраецца ісці...

— Зараз яна павінна сунуць яму грошы...

— Ой, грошы ўпалі!

— Куды?!

— Яму пад ногі...

— Цудоўна! Усё ідзе па плану. Возьме грошыкі і зразумее што да чаго. Падняў?

— Падняў...

— Паклаў у кішэню?

— Ды не яшчэ... Суе іх Нінцы.

— Ламаецца. Нічога, возьме. Я ў гэтых справах сабаку з'еў. Знаем мы іх! Яшчэ Нінку вечарам у рэстаран зводзіць.

— Узяў, узяў! Паклаў у кішэню...

— Вось гэтак лепш... Ну, што я вам гаварыў, дарагія мае суседзі? — радаваўся Сямідзедаў.— Грошы і жанчыны — выпрабаваны сродак. Любы спакусіцца... Так што будзем хутка званіць па тэлефоне...

— Дастаў запісную кніжку. Піша нешта.

— Ды напэўна распіску на атрыманне грошай... Дзівак! І так верым. Хай тэлефоны хутчэй ставіць...

— Нінка ідзе!

Увайшла Нінка. Яна пагардліва зірнула на Сямідзедава і павяла ўсіх на лесвічную пляцоўку. На дзвярах кватэры Сямідзедава вісела паперка: «Хто згубіў дзесяць рублёў, звяртацца да Мікалая Званочкава ў гарадскую тэлефонную сетку...»

*1965*

## ЯК МЯНЕ ВЫХОЎВАЛІ...

Учора, калі я вярнуўся са школы, нам пазванілі... Відаць, мая настаўніца, бо бацька, пагаварыўшы, нервова кінуў тэлефонную трубку, насупіўся і сурова сказаў:

— Ну, Мішачка, беражыся... Хопіць мне ўжо гэтых званкоў... Дастукаўся, хлопец... Вось прыйдзе выхадны, пабачыш, што я зраблю з табой!

І так зірнуў на мяне, што аж дрыжыкі прабралі.

А выхадны — заўтра... Усяго праз адну ноч. Сапса-

ваўся настрой у мяне, нічагусенькі не хочацца рабіць. Я нават не стаў рыхтаваць урокаў, не павячэраў як след і як мага раней лёг спаць — пакуль бацька не вярнуўся з працы. Ляжаў, доўга не спаў і, вядома, усё разважаў, што ж мяне чакае заўтра. Бацька можа прычапіцца за што-небудзь і добра адлупцаваць. Аднойчы было такое... Але гэта не самае страшнае — раз-два сцебане папругай, а потым і грошай яшчэ на марожанае дасць. Горш, калі не пусціць на вуліцу. Яшчэ горш, калі засадзіць за ўрокі і будзе стаяць ля мяне пільным вартавым, пакуль не вывучу верша, не парашаю задачак і не перапішу чысценька пісьмовае...

Ну, а самае горшае што?

Так я і не дадумаўся, што за страшная кара мяне чакае, так і заснуў.

Прачнуўся я ад таго, што нехта размаўляў ля ложка. Крышачку расплюшчыў вочы і ўбачыў маму і тату.

Бацька сярдзіта гаварыў:

— Трэба будзіць Мішку, хай устае ды што-небудзь робіць. Годзе лайдачыць.

Мама пярэчыла:

— Не чапай. Сон для дзіцяці — галоўнае. Зірні, ён і так у нас схуднеў, бледненькі стаў. Не дай божа, захварэе!

Я ледзь не рассмяяўся — і зусім я не бледны... Ну і выдумала! Проста яна бацьку расчуліць хоча.

І вось ужо вінавата зарыпелі маснічыны, бацька ціхенька выйшаў з пакоя следам за мамай, а я зноў заснуў — хоць пасплю, пакуль мяне яшчэ не сталі выхоўваць...

Дасыпалася соладка. Спаў, пакуль сонца ў акно прыпякаць не стала. Не паспеў апрануцца, а бацька — тут як тут. І зусім не грозны — вясёлы такі, жартаўлівы, у новым касцюме. Во дзіва! Сунуў мне ў рукі грошы і просіць у магазін па гарэлку збегаць.

— Скоранька! Адной нагой тут, другой — там. Госці чакаюць.

Дык вунь яно што! Ну, пранясло, здаецца... Люблю, калі ў нас бываюць госці. Ніхто на цябе ўвагі не звяртае: усе занятыя, рабі што хочаш. Ну, а за гарэлкай для гасцей я мігам злётаю, гэта не над задачкамі карпець!

Ужо калі вяртаўся з магазіна, сустрэў каля самага нашага дома Жэньку-ціхоню. Я яго даўно збіраўся злавіць ды добранька ўсыпаць, а тут ён сам на вочы лезе... Завязалася ў нас бойка. Жэнька хоць і мацнейшы, але непаваротлівы, як мядзведзь. Ён мяне раз штурхне, а я яго — два... Можа б, так і разышліся мы ўнічыю, ды бацька з акна крычаць стаў:

— Не паддавайся, Мішка! Не пасаром сям'і нашай... Дай яму!

Я злаўчыўся і накаўтаваў Жэньку-ціхоню. А калі я прыйшоў дамоў, дык бацька трыумфальна ўзняў маю руку і звярнуўся да гасцей:

— Вось ён, пераможца! За яго і вып'ем першую чарку...

Потым, калі на стале засталіся адны пустыя бутэлькі і зніклі госці, бацька сказаў:

— Ну, Мішачка, а зараз буду... цябе... вых-хоўваць... Трымайся!

А сам — зусім ужо на нагах не трымаецца, зрабіў да мяне крок і як той сноп паваліўся на рукі маці. Яна яго — на канапу. А мне так весела, так весела зрабілася, што захацелася яшчэ раз аддубасіць Жэньку-ціхоню... І я пабег на вуліцу.

*1970*

## ГОСЦІ

Мінала свята. Шумнае, клопатнае. Столькі гасцей давялося частаваць нам з жонкай... І вось пасля ўсяго — адпачывалі. Адчуваючы прыемную стомленасць, вялі лянівую размову аб вартасцях і заганах гасцей.

Соладка пазяхнуўшы, жонка раптам спытала:

— Слухай, а чаму ты Бамбіцкага не запрасіў? Ён жа таксама твой кіраўнік... Нядобра неяк. Падумай.

Я падумаў і пагадзіўся: нядобра. Сапраўды, можна было б запрасіць разам з усімі. Але як запрашаць, калі не ведаеш блізка чалавека? Зусім нядаўна Бамбіцкі працуе ў нашай установе.

Жонка ўважліва выслухала мае пярэчанні і паблажліва ўсміхнулася:

— Нічога, за чаркай пазнаёмішся...

— Дык ён жа не п'е, кажуць... І ўвогуле, чалавек сухі і неразгаворлівы: слова з яго не выціснеш,— спрабаваў супраціўляцца я.— Маўчун стопрацэнтны... Не ўяўляю, як мы будзем яго прымаць.

— А ты менш уяўляй, ідзі да тэлефона і звані...

У незадаволеным голасе жонкі я ўлавіў знаёмыя сталёвыя ноткі і хуценька набраў нумар тэлефона Бамбіцкага. Адказаў ён сам.

— Прыязджайце да нас у госці! — выпаліў я.

Тэлефонная трубка доўга маўчала. Відаць, у Бамбіцкага было нешта накшталт шокавага стану... Потым я пачуў глухія галасы: Бамбіцкія раіліся каля тэлефона. Стрымліваючы дыханне, моцна прыціснуў трубку да вуха.

— Божухна, што яму адказаць? — разгублена гаварыў Бамбіцкі.— Запрашае да сябе ў госці. Хто?

— Адкуль я ведаю хто? Дундзік... Працуе адзін у нас... такі маленькі, касавокі...

— Дарэмна ты гэтак — ён жа твой супрацоўнік.

— У мяне іх больш сотні, супрацоўнікаў! Калі кожны пачне запрашаць у госці...

— Не дужа задзірай нос, мужанёк! Лепш разваж сур'ёзна... Адмовішся ад запрашэння — пакрыўдзіш, плёткі пойдуць: Бамбіцкі не паважае падначаленых, грэбуе калектывам... Сапсуюць біяграфію...

Бамбіцкі цяжка ўздыхнуў у трубку і голасам прысуджанага да катаргі сказаў мне:

— Сустракайце, едзем.

І Бамбіцкія не падвялі: прыехалі. Было дужа весела...

*1978*

## БАЦЬКАВА НАЗІРАЛЬНАСЦЬ

Я сяджу за нашым круглым сталом і ўпарта расфарбоўваю дом...

Дом гэты намаляваў я сам. Нават комін зверху зрабіў. Праўда, у нас ніякага коміна няма, але мне здаец-

ца, што так значна прыгажэй. А якім жа колерам сцены будынка пафарбаваць? Паспрабаваў чорным — дрэнна, быццам дзірка на паперы. Жоўтым? Не, не тое. А калі... І я ўзрадавана выхопліваю з карабка сіні аловак. Ой, як цудоўна, ярка! У мяне нават дух займае. Але тут я ўздрыгваю, таму што чую над сабой сярдзітаы голас таты:

— Хіба так малююць? Дом — і сіні. Смехата! Ты бачыў наш дом?

Я моўчкі, пакрыўджана гляджу на тату, на яго вечна суровы твар, насупленыя калматыя бровы. А тата яшчэ больш нездаволена працягвае:

— Ну, чаго маўчыш? Ды не бывае, даражэнькі, сініх дамоў, не бывае! Разумееш? Ні на ёту ў цябе, брат, назіральнасці няма... Разумееш, на-зі-раль-нас-ці!

У таты робіцца такі раззлаваны твар, што я спалохана яшчэ ніжэй схіляюся над сшыткам. Мне зусім незразумела, што такое «ёта», а слова «назіральнасць» так апрыкла і надакучыла, што кожны раз, калі тата вымаўляе яго над маім вухам, мне здаецца, што бачу страшную бараду дворніка Панаса...

А татаў траскучы голас ужо чувадь каля маці, якая прыбірае са стала:

— Не разумею, Муся, што ў нас за такое дзіця расце: ні на ёту назіральнасці! Падумай, у другім класе...

Тата смешна складвае на сваім вялікім жываце валасатыя рукі і чакае, пакуль мама падумае. А мама не хоча доўга думаць і тут жа хутка гаворыць тату, што я яшчэ маленькі, падрасту, і тады і назіральным стану. Толькі тата заўважае, што гэтая справа не такая лёгкая.

— Вось я ўспамінаю,— ужо спакойна кажа ён,— сябе ў дзяцінстве ўспамінаю, і наогул... Які быў назіральны! Бывала, дзед шые боты — і я побач, паглядаю на яго спрытныя рукі... Але вось прыкмячаю, што неяк неспакойна пачынае дзед пазіраць па баках, ёрзаць на чурбаку. Эге, думаю, зараз пашле да дзядзькі па табаку... Дудкі! І ўжо за дзвярыма чую: дзед гукае мяне, а я — памінай як звалі! Вунь яно як!

Тата весела смяецца, прыціскаючы лодачкай рукі да грудзей, і трэ далоньку аб далоньку: гэта ён заўсёды так, калі задаволены... Смяецца і маці, але кажа тату, каб ён перастаў, а то на працу спозніцца. Толькі я

ведаю, што тата цяпер будзе доўга расказваць маці. І ён працягвае:

— Ды і цяпер, ужо дарослы, шосты дзесятак, а як дапамагае мне гэтая самая назіральнасць! Колькі было ў нас розных дырэктараў — усіх, Мусенька, звычкі ведаў. Ды што ведаў? Вывучаў іх проста! Гэта рэч ой якая патрэбная чалавеку! І, канешне, складаная, такая складаная!..

Маці з павагай глядзіць на тату, потым падыходзіць да яго і цалуе лысую галаву з трыма доўгімі, як жылкі ад вуды, валасінкамі. Цалуе і ласкава, нібы мне, шэпча: «Раз-зум-нік ты мой...» А тата яшчэ больш важна гаворыць:

— Вось, да прыкладу, Аляксей Пятровіч... Як я яго вывучыў! Проста сам здзіўляюся... Выходзіць ён, бывала, з кабінета і проста да мяне. Але, прыкмець, нічагусенькі не кажа! Садзіцца тут жа за стол і — маўчыць. А я яго, саколіка, бачу навылет... Якіх, кажу, вам, Аляксей Пятровіч, даць і колькі? Дай, адказвае, з прафсаюзных рублёў трыццаць, а то галава нешта трашчыць... Разумееш? Чаму ж не даць, хе-хе, хвораму чалавеку? І яму выгадна, і я не ў крыўдзе, а наадварот.

Тата так тоненька і залівіста рагоча, што мне здаецца, быццам Генькаў брат на цымбалах грае. А маці ў гэты час яму заматвае вакол каўняра белы шалік — на вуліцы ж мароз! Потым тата бярэ пад паху пузаты, з двума бліскучымі замкамі карычневы партфель і ідзе на працу.

Каля дзвярэй ён нечакана спыняецца і таропка, быццам глытаючы гарачае, кажа маці:

— Цяпер жа гэты новы, Іван Сямёнавіч... Вывучу і яго, пачакай толькі! Назіральнасці ў мяне хопіць, хоць і трымаецца ён пеўнем.

Мы застаёмся з маці ўдваіх. Я саджуся за задачкі і думаю. Але чамусьці і цяпер у галаву ўсё лезе ненавіснае слова «назіральнасць». І я, замест таго каб рашаць задачкі, задумваюся: што ж гэта на самай справе? Я ўспамінаю, як тата запрасіў да нас гэтага самага Аляксея Пятровіча і які быў з ім «назіральны». Аляксей Пятровіч глядзеў на бутэльку — і тата адразу ж наліваў яму ў шклянку, потым дзядзька кідаў позірк на талерку з агуркамі, і тата даставаў яму самы вялікі агурок... Можа, гэта і ёсць назіральнасць? Ды толькі...

ну яе! А то і не паспею ўсе задачы рашыць, а Генька — зробіць!

...Снег рыпіць пад нагамі, нібы кот Мішка мурлыкае, і мароз шчыпле балюча за нос. А нам з Генькам хоць бы што, весела! Сёння абодвум па матэматыцы Ганна Васільеўна пяцёркі паставіла... Ну, Генька і па пісьму часта атрымлівае пяцёркі, а я — не. Ды нічога, зараз я яго здзіўлю так, што ён пазайздросціць.

Каля нашага дома спыняемся.

— А ты ведаеш што? — нечакана кажу я яму.— У мяне тата — самы назіральны! Ага, з'еў?

Генька не чакаў ад мяне такога... Ён і не чуў, мабыць, ніколі слова «назіральнасць». Але яму ўсё роўна крыўдна, што не яго, а мой тата самы назіральны.

— А мой... мой... дэпутат! — нарэшце адказвае ён.

— Гэта што! Вось мой тата — самы назіральны! — ужо на ўсю вуліцу крычу я.

Але раптам мяне нехта моцна хапае за руку, і я чую злосны-злосны татаў голас:

— Марш дамоў, дурань!

Маці, як заўсёды, з усмешкай адчыняе нам дзверы. Толькі тата і не глядзіць на яе. Ён шпарка, быццам за ім гоняцца, праходзіць да акна і спыняецца. Пальцы яго дробна-дробна выбіваюць па шкле, і яно жаласна звініць. Маці і я адразу здагадваемся: у таты непрыемнасці...

Тата маўчыць. Але маці падыходзіць да яго і строга кладзе на татава плячо руку. І тата тлумачыць:

— Звальняюць... з працы...

— Хто, за што? — ужо зусім спалохана пытае маці.

— Ды ну іх! Растрату прыпісалі, падхалімаж нейкі... І ўсё — гэты новы... дырэктар.

Голас у таты глухі, як з бочкі, што стаіць на двары ў нас. Ён адкрывае рот, хоча сказаць нешта яшчэ, але махае рукой і чмякаецца на канапу. А маці... Што гэта з ёю? Кончык носа робіцца ў яе белы-белы.

— Ну вось... Я гэтага чакала, чакала! — гучна кажа яна.— І як у цябе назіральнасці не хапіла, не разумею! Куды глядзеў?

А я цікую з-за дзвярэй спальні і ціхенька, задаволена смяюся. Вось здорава! І ў таты назіральнасці не хапіла... А ён — мяне папракаў.

*1959*

# ЗАРАБІЎ

У пансіянат «Гуцулка» я трапіў вясной. Не буду казаць многа пра хараство прыроды: наўкола горы і лясы, маёвыя зеляніна і блакіт неба... Карацей кажучы, цудоўненька. Папіў той гаючай вадзіцы, што з зямлі б'е, і шпацыруй сабе горнымі сцяжынкамі ды лужкамі, дыхай на поўныя грудзі свежым паветрам, набірайся здароўечка.

Вось толькі ў адным мне не пашанцавала. Змясцілі ў палаце з блазнюком нейкім. Гаваркі — спакою ад яго няма, усё меле і меле, адно ў яго на языку — жанчыны... Ты, кажа, бацька, дарэмна час губляеш у пансіянаце, ты, кажа, не такі стары ды яшчэ і ўдовы, мог бы сабе тут маладзіцу па сэрцу падшукаць, а не марнець вечарамі ў палаце. Цьфу! Проста брыдка яго слухаць... Але ж куды схаваешся? Слухаю. Кожны дзень слухаю. Зірні на мяне, кажа, дарма, што не прыгажун, дарма, што нізкарослы, а поспех маю: пазаўчора Раечку-растаўчанку ў дарогу праводзіў, а сёння пайду на вакзал новую сустракаць...

— А яна... што, знаёмая твая? — пытаюся так, каб толькі не маўчаць.

— Дзівак чалавек! Не знаёмая, дык пазнаёмлюся... Дзейнічаць трэба, бацька! Як той казаў, бітэ-дрытэ, дазвольце вашы рэчы, памагу данесці і гэтак далей... Ха-ха-ха!

Стаіць гэты патлаты Васька перада мной, расставіў ногі, нібы гойдае яго на палубе, і з такой зняважлівай перавагай, з такім нахабным захапленнем сваёй персонай пазірае на мяне, што аж крыўдна. Урэшце, якая розніца паміж намі? Што ён, разумнейшы за мяне? Не. Што я, зломак які, горш апрануты? Таксама не! Спецыяльна перад ад'ездам дачка з зяцем гарнітур мне модны падарылі... Хіба вось толькі адна розніца — у яго чупрына, а я — лысы. Дык і тое, капялюшыкам прыкрываю...

— Ну, не злуй, не злуй, бацька. Я дабра табе жадаю. Каб ты не сумаваў, каб у настроі быў. Гэта ж здароўю памагае... І вось гэта... таксама не шкодзіць! Давай, па маленькай...

І дастае пляшку каньяку. Ну, дзе тут вытрымаеш той санаторны рэжым? Выпілі. І сапраўды, сум як ру-

кой зняло. І не п'яны, а хораша, нават весела. Нават Ваську цалаваць хочацца — неблагі ж хлопец, калі разабрацца. Праўда, з ганарком, але...

— Ну, а цяпер, бацька,— зірнуўшы на гадзіннік, кажа ён мне,— паспяшаемся на вакзал... Чарговая партыя ў пансіянаты прыбывае, разумееш? І жанчынкі...

І зноў пазірае на мяне іранічна, блазнюк. Падміргвае здзекліва. Не вытрымаў я нахабства гэтага і кажу:

— Чакай, Васька, я табе дакажу, на што старыя здатныя.

На вакзал дык на вакзал!

Паспелі якраз к цягніку. Пасажыраў не так каб вельмі, але сышло трохі. Бачу, кінуўся мой Васька да адной маладой чарнявай, нешта старанна тлумачыць ёй, рагоча, рукой паказвае на гару. Але тая нерашуча азіраецца па баках, не дазваляе яму чамаданы браць. І ён ужо, небарака, змрочна косіць вокам на іншых. Э-э, чым чорт не жартуе... Паспрабую я. Счакаўшы, падыходжу да іх, галантна ківаю галавой і адразу гэткім малайцаватым голасам, як калісь у маладосці:

— Вы мне вельмі даспадобы, паненачка... Гатовы несці вашы рэчы аж на самую высокую гару!

— Што ж, калі ласка,— звініць срэбным званочкам яе чароўны галасок.— Якраз на гару мне і трэба...

Бедны Васька свідруе мяне сваім знішчальным позіркам, а я ледзь не скачу ад радасці: ну, што, з'еў, даражэнькі? Ёсць яшчэ і ў мяне порах...

Па тым адрасе, які называе мне маладзіца, даводзіцца ісці доўга. І ўсё — угору, угору... Ужо ўся спіна мокрая, ужо рукі дрыжаць, як у неўрастэніка якога, і ногі падгінаюцца, але... іду! Іду і нібыта той чорт нашэптвае мне, як павяду яе сёння, маю спадарожніцу, у кіно, як пакажу навакольныя мясціны, як... Цягнуся, сапучы, аж вочы на лоб лезуць, ды не спыняюся ні на хвіліну, таму што бачу побач яе прыгожы чарнавокі твар, яе пяшчотную, шматабяцаючую ўсмешку. Вось толькі пара і пазнаёміцца, спытаць, як завуць...

— Валюха! — чую раптам за спіной мужчынскі шчаслівы голас.— Як нечакана ты прыехала...

Пот засцілае мне вочы, і я, стары пень, ужо амаль не бачу, як яны абдымаюцца. У руцэ ў мяне тырчыць нейкая рублёўка... Зарабіў!

*1975*

# ДЫПЛАМАТЫ

Мы заклапочана раіліся: што рабіць з нашым загадчыкам гаража Міхалёвым? І ўчора прыходзіла жонка і скардзілася на яго ў мясцком: зусім адбіўся ад рук... П'е, скандаліць.

— Трэба прымаць кардынальныя меры,— рашуча сказаў член нашага мясцкома сухарлявы Іван Друй.— Сёння ж зноў на працу не з'явіўся...

— Трэба прымаць меры,— адразу падтрымаў я і нават шчыра абурыўся:— Як толькі можа гэты Міхалёў глытаць атруту штодня? Я ўжо вунь месяц у рот не бяру яе... Гідка!

— Ну, тады табе, праведніку, і карты ў рукі. Ідзі пагавары з ім па душах...

Але тут у размову энергічна ўмяшаўся ружовашчокі бухгалтар Ягадкін. Ён кашлянуў у маленькі кулачок, шморгнуў носам і аўтарытэтна заявіў:

— Дрэнна вы Міхалёва ведаеце... «На сухую» нічога ў вас не атрымаецца. Рабілі ўжо неаднойчы захады: цэлую дэлегацыю жанчын да яго пасылалі... Але ён дэлегацыю не прыняў... Кажа, без чаркі ніякай размовы весці не будзе, бо калі і дзе важныя справы без бутэлькі вырашаліся? Дык вось я так думаю, таварышы даражэнькія, схітрыць трэба, прымяніць дыпламатыю... Трошкі выпіць з ім, стварыць атмасферу сардэчнасці, а потым... адкрыта і канчаткова пагаварыць: ці так, ці гэтак!

Іван Друй спачатку вагаўся наконт стварэння «атмасферы сардэчнасці», але паступова здаўся і нават прыняў актыўны ўдзел у складчыне на каньяк: не з пустымі ж рукамі ісці да Міхалёва. Само сабой вырашылася і пытанне, каму даручыць гэтую адказную місію: безумоўна, бухгалтару! Ён справіцца, такі дыпламат...

— Ну, таварышы, дзякуй за давер, я пайшоў... Данясенні ад мяне будзеце атрымліваць па тэлефоне кожную гадзіну,— сказаў Ягадкін на развітанне.

І сапраўды — праз пэўны час зазваніў тэлефон, і мы пачулі бадзёры голас нашага парламенцёра:

— Дакладваю: усё ў парадку. Міхалёў дома. Згадзіўся весці перагаворы. Смажым яечню. Рыхтуем закусь.

Апошнія словы былі сказаны надзвычай вясёлым тонам. Але нам зрабілася чамусьці сумна. Не згаворваючыся, мы адначасова зірнулі на гадзіннік: да канца рабочага дня было яшчэ так многа часу...

Роўна праз гадзіну (якая дакладнасць!) зноў пазваніў вясёлы Ягадкін. На гэты раз ён паведамляў, што за сталом ужо складваецца тая самая атмасфера сардэчнасці, якая неабходна для поспеху справы, і што ён... «Вып'ем!» — раптам пачуўся ў трубцы нецярплівы бас. Бас быў знаёмы, Міхалёўскі. І звон быў знаёмы — чарак...

Іван Друй неяк дужа сярдзіта адштурхнуў тэлефон, аблізаў засмяглыя губы і пачаў сутаргава каўтаць ваду з графіна.

Чарговага данясення ад Ягадкіна давялося чакаць пакутліва доўга. І калі нарэшце зазваніў тэлефон, мы абодва кінуліся да яго.

— Чаго маўчаў, Ягадкін? Як абстаноўка? — нервова пытаў Іван Друй.— Дакладвай!

— Астаноўка нармальная, закусь выдатная. Жонка яшчэ не прыйшла... Але мне цяжка, дужа цяжка тут аднаму. Прашу падмогу!

Не марудзячы ні хвіліны, мы выклікалі машыну і паехалі на кватэру да Міхалёва: памагчы сваім таварышам...

*1975*

## СЮРПРЫЗ

Амаль увесь месяц я жыву, як у нейкім цудоўным сне... Прыемныя турботы не даюць спакою: гойсаю па магазінах, розныя жончыны даручэнні выконваю, дамаўляюся наконт мэблі, запрашаю гасцей. А тут яшчэ сябры безупынна на працу звоняць, віншуюць — хоць той тэлефон у нашай юрыдычнай канторы адключай.

— Пятро, на дрот!

Ну вось, зноў завуць. Бяру тэлефонную трубку і чую знаёмы бас Міколы:

— Прывітанне, юрыспрудэнцыя! Даруй, толькі з

камандзіроўкі... За мяжой быў... Станкі нашы вазіў... Спяшаюся павіншаваць з наваселлем. Як кажуць палякі, жыві сто лят!

— Дзякуй, Мікола... Дзякуй, сябра...

— Дзе ж пасялілі, Пятро?

— О, мне нават і не снілася такая кватэра! У новым мікрараёне... Дом — над самым возерам, як на дачы. Карацей, запрашаю на наваселле... Вуліца Зялёная...

— Няўжо?!

— ...дом 45...

— Гэта... дваццаціпавярховы?

— Ён самы... А ты адкуль ведаеш?

— Ды ведаю... Няўжо ж... Здзівіў, стары... вось пашанцавала...

— Ага, пашанцавала мне, браток. Настрой такі — хоць танцуй! Ніколі, здаецца, не спяваў, а цяпер іду на працу і пад нос сабе мурлыкаю маршы... Ну, а як у цябе, чарга кватэрная прасунулася?

— Прасунулася... Добранька прасунулася.

І — смяецца, заліваецца Мікола. Вось гэткі ён заўсёды рагатун. Пра сур'ёзнае гаворыць, а на твары — усмешка. Жартаўнік... Слухаю яго вясёлы голас і аж самому карціць пажартаваць.

— Ідэя, Мікола! — кажу яму.— Ёсць ідэя... Пад носам у мяне дагэтуль трохпакаёўка пустуе... Дзівак нейкі не засяляе. Давай займай кватэру... Будзем разам на возера хадзіць...

Мікола з хвіліну маўчыць, нібы разважае над маёй прапановай, а потым радасна крычыць у трубку:

— Выдатна, юрыспрудэнцыя! Прапанова прымаецца... Сёння ж пераязджаю. Якраз гарнітур румынскі прыдбаў. Надвячоркам перавязу, і — кропка. Толькі будзь дома — паможаш пераехаць...

— Гэта для нас не праблема! — ахвотна падтрымліваю жарт.— Ёсць грузавы ліфт... Шампанскае толькі не забудзь прыхапіць!

— Ну, тады чакай.

Вярнуўшыся з працы, расказваю жонцы пра нашу вясёлую размову з Міколам, смяёмся. Яно б і сапраўды няблага было мець суседам сябра дзяцінства: калісь хаты нашых бацькоў у вёсцы побач стаялі... А цяпер вунь які дамок, пад самыя воблакі!

— Чакай, нехта звоніць,— раптам кажа жонка.— Пайду адчыню.

Адчыніла — Мікола на парозе! Стаіць, мядзведзь двухметровы, лыбіцца.

— Ну, агітатар, абяцаў памагчы — памагай! Мэбля на вуліцы пад дожджыкам мокне...

І падміргвае па-змоўніцку. Мяне — як з цэбра халоднай вадой. Вушам сваім не веру: што ён вярзе? Але зірнуў у акно — сапраўды мэбля каля пад'езда...

— Ты што ж гэта задумаў, Мікола? — ледзь стрымліваю абурэнне.— Як не сорамна — дарослы чалавек. Жарт у сур'ёзнае ператвараеш? Я ж пажартаваў...

— Не трэба было так жартаваць,— гэтак спакойнелька адказвае.— Другі раз не будзеш... Гайда ўніз!..

Я яшчэ спрабую ўгаварыць яго:

— Калі хочаш — пажыві ў мяне, толькі не рабі глупства, не самаўпраўнічай! І мэблю тваю знойдзем дзе паставіць. Пацяснімся... А ён і слухаць не хоча.

— Надакучыла мне,— кажа,— у старой кватэрцы туліцца... Хачу жыць раскошна — як ты.

І мусіў я памагаць яму.

Перацягалі на лесвічную пляцоўку ўсё, што прывёз. А далей — ён сам з грузчыкамі... Толькі ж усё роўна я сабе ад хвалявання ды трывогі месца не знаходжу: гэта ж трэба мне, юрысту, стаць саўдзельнікам беззаконнасці! І хто мяне за язык цягнуў... з тым жартам. Во пажартаваў дык пажартаваў! Быць скандалу...

А Міколу — хоць бы што: сядзіць у мяккім крэсле, хітранька пазірае на мяне і аж кісне ад смеху.

— Ну, як, правучылі мы твайго суседа? Задаволены? Вось цяпер хай пакруціцца, разява. Дзякуй за ідэю, юрыспрудэнцыя... Але хопіць цябе за нос вадзіць: зірні! — і суе мне нейкую паперчыну ў рукі. Бяру, чытаю і вачамі лыпаю.

— Дык чаго ж ты мне адразу яе не паказаў?!

— А хацеў, каб з сюрпрызам...

Ну, што з ім рабіць, гарэзай? Злавацца? Дык не той жа момант. І ад сэрца адлягло ўжо.

— Схавай ты гэты ордэр на кватэру,— кажу наўмысна сярдзітым тонам.— Разыграў старога дурня... Радуйся! Але сюрпрыз твой усё роўна прыемны... Дзе шампанскае? Налівай!

*1976*

# АПОШНІ ДЗЕНЬ

Усе, каму даводзілася сустракацца і размаўляць з Яўменам Яўменавічам тым днём, не пазнавалі яго. З выгляду гэта быў той жа дырэктар нашай навуковай установы: прысадзісты, самавіты, з вялізным грушападобным носам на шырокім твары і маленькай, як не ў жменю, рыжай бародкай, якая ганарліва тырчала над салідным жыватом і выклікала павагу... І той жа сіні касцюм пяцьдзесят шостага памеру быў на ім, і звыклы нам чырвоны гальштук. Ён крочыў па калідоры, як заўсёды, спаважна, заклаўшы рукі за спіну.

Але прыбіральшчыца цётка Проня першая заўважыла незвычайную дэталь: дырэктар на працу ў такі ранні час ніколі не прыходзіў. Далей, як яна пазней расказвала, вочы Яўмена Яўменавіча былі сумныя-сумныя, нібы ён ужо развітваўся з жыццём... І, што самае незразумелае, спыніўся каля яе, паздароўкаўся за руку (гэта [redacted] ёй, сам!) і нават спытаў, у якім навуковым аддзеле яна працуе... Ну, безумоўна, цётка Проня спачатку здзівілася, потым збянтэжылася, нешта хацела сказаць, ды так нічога і не сказала. Толькі паспяшалася за ім у кабінет, каб прыбраць, але дырэктар замкнуў дзверы.

Другі аўтарытэтны сведка, дзевятнаццацігадовая сакратарка Люся,— пра гэта яна таксама ўспомніла пазней — некалькі разоў спрабавала прабрацца ў кабінет шэфа, але безвынікова: голасам хворага ён прасіў пакінуць яго ў спакоі... Калі ж, нарэшце, з'явіўся ў прыёмнай, твар у яго быў бледны і пакутлівы. І Люся тут жа западозрыла благое.

Але самае дзіўнае было наперадзе: дырэктар заходзіў у кабінеты... Заходзіў і ласкава вітаўся з кожным (а мы дагэтуль былі пераканаsuccessful, што ён ганарлівы!). Гутарыў з супрацоўнікамі, распытваў, над якімі навуковымі праблемамі яны працуюць. Праўда, хваліцца асабліва не было чым — многія з нас і праблемы тыя забылі. Было няёмка... Ды выручыў усіх малодшы навуковы супрацоўнік Жаўтляк, твар якога падаўся дырэктару надта знаёмы. Разгаварыліся. Прыгадалі. Аказалася, што яны пазнаёміліся дзесяць год назад: якраз Жаўтляк паказваў маладому дырэктару, дзе знаходзіцца яго кабінет. Так і не давялося ім больш размаў-

ляць... Жорсткі, няўмольны час! Яўмен Яўменавіч цяжка ўздыхнуў. І тады зноў усё звярнулі ўвагу на пакутлівыя дырэктарскія вочы: у іх быў невыказны сум...

Вестка аб дзіўных паводзінах дырэктара разнеслася ва ўстанове з хуткасцю маланкі. Супрацоўнікі з вялікім стажам працы ў адзін голас сцвярджалі: за ўсе гады такім ласкавым, таварыскім ён ніколі не быў. Нешта адбывалася з ім неверагоднае. Сакратарка не знаходзіла сабе месца, асабліва пасля таго, як Яўмен Яўменавіч нечакана прачытаў ёй журботныя ясенінскія вершы.

Трывога і разгубленасць ахапілі калектыў. Ужо канчаўся рабочы дзень, але Яўмен Яўменавіч (чаго таксама ніколі не было) заставаўся ў сваім кабінеце. Усхваляваныя, мы стоўпіліся каля прыёмнай. Усе былі перакананы: без «хуткай дапамогі» не абысціся. І калі дзверы ў калідор раптам расчыніліся, перад намі з'явілася ўзрушаная Люся, сумненні канчаткова зніклі: з дырэктарам — дрэнна! Нашы позіркі патрабавальна ўпіліся ў Люсін скрыўлены твар. Яна — маўчала. Нехта прапанаваў выклікаць «хуткую дапамогу»... І тады, сабраўшы апошнія сілы, Люся ціха сказала:

— Не трэба ніякай ужо дапамогі... Няма ў нас дырэктара... Няма...

Мы акамянелі: вось яно, збылося страшнае прадчуванне! Ашаломленыя жанчыны войкнулі:

— Што... з ім?

— Звольнілі...

Усе з палёгкай уздыхнулі: дзякуй богу, ніякай трагедыі не адбылося.

*1976*

## ДОБРАЕ СЛОВА

Не ведаю, як вам, а мне не вельмі часта перападае ад жонкі добрых слоў. Усё нешта не так раблю, усё не па ёй: то я доўга затрымліваюся на працы, то, наадварот, мазолю ёй вочы... Прычэпіцца за нішто, справакуе сварку, а потым, задаволеная, бегае па хаце, радуецца — насаліла мужу! Вось які брыдкі характар. Дзе

ўжо тут пра ласкавае слова марыць... Але сёння я переступіў парог уласнай кватэры і не паверыў сваім вушам: жонка нахвальвала мяне суседцы:

— Не-е, я пра свайго кепскага нічога не скажу... Мне, суседачка, не тое што іншым — пашанцавала ў жыцці. Мой і рахманы, і разумны, і гаспадарлівы, і да гарэліцы не дужа ахвочы. Так, на свята ці пасля лазні мо і возьме колькі, а каб нажлукціцца — аніколі!

Ушчыкнуў сябе за вуха: можа, я не ў сваю кватэру трапіў? Не, здаецца, у сваю. У калідоры цёмна, хоць вока выкалі, яшчэ з зімы збіраюся святло наладзіць, ды ўсё не збяруся. І шафа, за якой схаваўся, таксама мая — даўно жонка просіць перасунуць ад дзвярэй, перашкаджае. Ды і галасок сваёй віскклі ніколі не пераблытаю: толькі мая артыстка можа так шчыра вохкаць і сакатаць, смяяцца і абурацца...

— Пражылі дваццаць гадочкаў з ім душа ў душу... Каб ён на мяне калі голас павысіў — аніколі! Адно паміж намі — згода і ласка. Мо калі і пабурчым, дык і то потым мілуемся, як пасля вянца. Золата, а не чалавек! Ты прабач ужо, суседачка, зараз ён вернецца з працы, трэба ж свайму роднанькаму на стол накрыць.

Калі суседка, зайздросна ўздыхнуўшы, знікла за дзвярамі, я, усхваляваны, расчулены, выйшаў са сваёй схованкі і кінуўся з абдымкамі да жонкі:

— Любая!

— Ты... што, ты што?! Адстань, адстань з пацалункамі сваімі, смала... Так і думала: зноў набраўся!

— Гэта ж чэшскае... Піва...

— Чэшскае? Ды не дуры ты мне галавы! Ведаю, якое чэшскае... Ну, пачакай, лопне маё цярпенне, выбяруся я да твайго начальства і ўсё, усё чысценька раскажу пра твае выбрыкі. Будзе табе і чэшскае, і нямецкае, і французскае! Усё разам! Бач ты, ніяк не можа спыніцца, скура на ім гарыць... Во пакараў мяне лёс дык пакараў, звязала жыццё з п'яніцам!

— Навошта лаешся? Ты ж толечкі так хораша пра мяне суседцы казала...

— А божа мой! Ха-ха... Развесіў вушы, ёлупень стары... Гэта ж я спецыяльна казала, каб нос суседка не дужа задзірала, каб зайздросціла!

...Цяжка зразумець жанчыну.

*1976*

# ПАЎЛІК

*З дзённіка школьніцы*

1

Нарэшце і ў маёй сястры ёсць жаніх! Нядаўна пазнаёмілася з ім на танцавальнай пляцоўцы, калі выязджала ў камандзіроўку. Праўда, ён трохі лысаваты, але затое выдатны музыкант-арфіст, як гаворыць сястра,— чалавек мастацтва... Учора прыехаў у наш горад на гастролі. Мы ўсе вельмі рады...

2

Раніцою тата з мамай і бабуля доўга раіліся і рашылі адвесці жаніху мой пакойчык — навошта яму туляцца па гасцініцах? Колькі было вясёлага шуму! Я не пайшла нават у школу: дапамагала абстаўляць пакой, хадзіла ў магазін купляць статуэткі вялікіх кампазітараў... А потым тата прыемна здзівіў усіх нас: прывёз піяніна... Хай стаіць у пакоі жаніха, раптам яму захочацца сыграць нейкую уверцюру!

3

Паўлік (так яго заве сястра) пераехаў да нас. У яго круглы твар і сімпатычныя чорныя вусікі. Спадабаўся бабулі. Яна кажа, што ён нагадвае ёй Лермантава. Смешная бабулька! Маці ж толькі шчасліва ўсміхаецца ды ціхенька, нібы ў хаце ўсе спяць, ходзіць каля дзвярэй Паўлікавага пакоя. Але Паўлік штосьці больш маўчыць, на піяніна зусім не іграе. І добра: я хоць свае ўрокі раблю спакойна.

4

У маёй сястры сёння самы шчаслівы дзень... Паўлік зрабіў ёй прапанову. Як сказала бабуля, ён хутка будзе нашым зяцем. Што робіцца з маімі бацькамі! Яны не знаходзяць сабе месца, бегаюць па магазінах, купляюць розныя рэчы для маладых, рыхтуюцца да вяселля. Тата нават падбірае гасцей. Гэта для яго, як ён кажа,

цяжкая задачка, бо сястра патрабуе, каб на вяселлі абавязкова былі якія-небудзь мастакі і кампазітары — Паўліку патрэбна сваё асяроддзе... У беднага ж таты такіх знаёмых няма. Праўда, наш сусед паабяцаў прывесці на вяселле свайго пляменніка — ён на балалайцы іграе...

5

Маці і тата сёння вельмі заклапочаныя, усё шэпчуцца на кухні... Але я падслухала. Аказваецца, у нашага Паўліка фінансавыя непрыемнасці на працы. Ён павінен тэрмінова паехаць і ўладзіць справы. Для гэтага патрэбны грошы, і не маленькія... Паўлік просіць пазычыць. «Каму ж пазычыць, як не яму,— кажа маці.— Дзякуй богу, тое-сёе ёсць на кніжцы. Выручым, не чужы...»

6

Сястра ходзіць вельмі засмучоная — каторы ўжо дзень ад Паўліка няма вестак, ніякіх абяцаных тэлеграм. Што з ім, дзе ён? Хацелі выклікаць яго на перагаворны пункт, але сястра забылася запісаць Паўлікаў адрас. Нават прозвішча добра не запомніла. Маці, тата і бабуля дужа злуюцца, папракаюць сястру: «Разява...» А яна, бедная, маўчыць. Я спачуваю ёй...

7

Бабулі сняцца дрэнныя сны. Мінула два тыдні, як мы ўжо не бачылі Паўліка. Праўда, сёння зноў убачылі — на фотаздымку. Прынёс гэты фотаздымак да нас участковы міліцыянер. Пацікавіўся, ці ведаем мы Паўліка. Я адразу пазнала: ён... Тыя ж чорныя вусікі, тыя ж лупатыя вочы. Але ўсе мы дужа напалохаліся: відаць, здарылася нешта з Паўлікам. Бабуля нават запрычытала: «Ці жывы ён, родненькі?» Ды ўчастковы супакоіў: жывы. А потым паведаміў такое, што сястра страціла прытомнасць: аказваецца, наш жаніх не арфіст, а аферыст...

## 8

Учора позна вечарам — каб, мабыць, не бачылі суседзі — сярдзіты бацька адвёз у камісійны магазін піяніна.

*1976*

# РАЗАБРАЛІСЯ

Перад сталом народнага суддзі стаяць двое. Ён і яна. Зайцавы. Ён — бялявы, з шырокім лагодным тварам, на якім утульна ўладкаваліся блакітныя даверлівыя вочы, пляскаты нос і мяккія бязвольныя губы, пераступае з нагі на нагу, спалохана пазірае то на суддзю, то на жонку... Яна, невысокая, тоўстая, з румянцам на шчоках, з раскошнымі чорнымі валасамі, упарта ўтаропілася ў столь і крыўдліва чмыхае маленькім носікам.

— Значыць, настойваеце на разводзе, грамадзянка Зайцава? — спачувальна пытаецца суддзя густым басам.— Дарэмна, вы яшчэ абое такія маладыя... Падумайце. Можа, возьмеце назад сваю заяву?

— Ні за што! Ніколі!

— Але чаму?

— Я ўжо пісала ў заяве: ва ўсім вінаваты ён... Вы не глядзіце, што з выгляду ён такі рахманы, ціхоня... Прыкідваецца! Дзякуй богу, ведаю яго, здрадніка. Хопіць з мяне... І дня з ім больш не хачу жыць!

— Растлумачце яшчэ раз толкам — чаму? Вы яго раўнуеце?

— Лічыце як хочаце... Толькі я дакладна ведаю: ён мяне не кахае! Ды што доўга казаць? Як ідзём па вуліцы, так і страляе сваімі бессаромнымі вачамі на гэтых, у кароткіх спадніцах... Што, што ўсміхаешся? Хіба не праўда? А калі прыехала з вёскі мая сястра, хіба не ты з ёй гуляў у шашкі? Прыходжу з працы, а яны расселіся, як паны, у крэслах, рагочуць сабе, адзін з аднаго вачэй не зводзяць... І так заўсёды: завітае суседка ці знаёмая якая — салаўём заліваецца.

Ён адчайна махае рукой, мыліць губамі, хоча, відаць, нешта сказаць, але толькі чырванее і яшчэ ніжэй апускае галаву.

— А пачнеш яго дакараць — слухаць не хоча! Яшчэ лаецца. Ты, кажа, піліш мяне, грымучая змяя! Бачыце, як абзывае? Грымучая... Ды я яго нутро наскрозь бачу. Чакай, кажу, галубок, я цябе носам суну ў тваю здраду... І што вы думаеце? Сунула!

— У вас ёсць якія-небудзь факты мужавай нявернасці?

— Ёсць! Думала не гаварыць, але... слухайце. Палаяліся мы з ім на тым тыдні... Ён сабраўся і — шусь да свайго дзядзькі на Падлесную... Дзень жыве там, другі. На трэці я не вытрымала, пашкадавала яго: пайду, думаю, ды скажу, каб дадому вяртаўся. І пайшла, дурная. Век сабе не дарую гэтага. Падыходжу, значыць, к дому, а ён... Стаіць ля пад'езда з нейкай патлатай, нешта смешнае ёй расказвае і гагоча, як гусак... Крыўдна мне зрабілася, ой, як крыўдна! Адплаціў за маю дабрыню. Выцерла слёзы, каб ніхто не бачыў... І рашыла: біць не буду, пальцам іх не крану, хай гагочуць сабе, а толькі на развод падам! Хопіць з мяне...

— Грамадзянін Зайцаў, было тое, што расказала ваша жонка? Стаялі вы каля пад'езда з нейкай жанчынай, блізкай вам?

— Стаяў... толькі не з жанчынай.

— Вы чуеце? Ха-ха... Ён і вам маніць, як мне. Ён не з жанчынай стаяў... Што, мне вочы павылазілі? Я, калі хочаш, нават партрэцік апішу яе... Даўгавалосая — раз, рыжая — два, жоўтая дублёнка — тры... Што, мала?

— Мала.

— Тады яшчэ скажу: гэтая фінціклюшка была ў модных чырвоных штанах... Былі чырвоныя штаны ці не? Адказвай!

— Былі...

— Ну, вось, нарэшце, прызнаўся,— зласліва смяецца яна.

— Ну, што вы цяпер скажаце, Зайцаў?

— Штаны чырвоныя былі, не спрачаюся, але.. стаяў я не з жанчынай. У мяне і сведка ёсць. Пецька Цыбуля... Разам працуем на камбінаце. Ён тут, у калідоры. Паклікаць?

— Паклічце.

— Пецька, заходзь!

У адчыненыя дзверы нерашуча сунецца піжоністы хлопец. Аднаго позірку на яго дастатакова, каб усё зразумець... Суддзя з палёгкай уздыхае і ўжо не хавае вясёлай усмешкі. Жанчына — здзіўлена маўчыць, пазіраючы на гаспадара даўгіх рыжых валасоў, жоўтай дублёнкі і чырвоных штаноў...

*1975*

# МАЛЕНЬКІ

Мне здаецца, я зусім-зусім маленькі... Можа, і двух гадкоў яшчэ няма. Нават хадзіць як след не ўмею — тэпаю, трымаючыся за сцяну. А то і паўзком-рачком рухаюся... Вось паўзу, паўзу, пакуль не трапляецца на шляху перашкода — плот... Плачу ад роспачы, але хіба маленькі ды кволы можа пералезці цераз высокую агароджу? Хутчэй адчуваю, чым бачу: нейкая цюцька падбегла і спачувальна ліжа мне твар... Дзякуй, шчырае дзякуй табе, верны друг чалавека!

А міма ідуць дзядзькі і цёткі, пазіраюць і смяюцца. І я, выціраючы слёзы, таксама смяюся. Рагачу, аж заліваюся, бестурботна, як усе дзеці, нават жывоцік баліць ад смеху. І мне пад плотам зусім ужо добра, прыемненька гэтак: цянёк, зацішна, навакол траўка высокая, мурашачкі ды казюлькі па ёй розныя поўзаюць... А над галавой нейкае дрэва гойдаецца, шуміць, сумна так шуміць, закалыхвае: галоўка мая кружыцца, кружыцца, вочкі самі зліпаюцца, спаць хочуць.

Але хіба дзядзькі могуць пакінуць маленькага аднаго без нагляду? Яны такія клапатлівыя, гэтыя дзядзькі... Лёгенька, як пушынку, бяруць мяне пад пашкі і вядуць, бездапаможнага. «Не чапайце мяне,— хачу сказаць ім.— Не чапайце... Хлопчыку трэба бай-бай...»

Хачу так сказаць, але нічога не атрымліваецца, акрамя мармытання: цяжка маленькаму гаварыць... Урэшце, мяне ніхто і слухаць не жадае, цягнуць у машыну.

Вось толькі калі мяне пачынаюць мыць пад душам, я крышку капрызнічаю. Але дзядзькі-нянькі не звяртаюць аніякай увагі на мае капрызы, хуценька захінаюць у чыстую прасціну і кладуць у ложак. Ужо засынаючы, чую буркатлівы, але задаволены голас:

— Ну, уціхаміръіўся, хлопчык... Здаецца, гэты патлаты нядаўна трапляў да нас у выцвярэзнік.

*1976*

# ВЫПАДАК З АЎТАЎЛАСНІКАМ

Каля універмага, як на парадзе, выстраіліся машыны. Сінія і жоўтыя, зялёныя і блакітныя, яны зіхотка стракацяць на сонцы, слепяць вочы. Адна сярод іх, новенькая, едка-чырвонага колеру, здаецца мне знаёмай: ці не Антон гэта Белашэй, стары прыяцель? Падыходжу, заглядваю ў машыну — ён!

— Здароў, Антоне!

З акенца паволі высоўваецца кучаравая галава, абыякава ківае мне.

— Што гэта ты тут робіш, шчаслівчык?

Антон не спяшаецца з адказам, нязграбна выбіраецца з машыны — высокі, худы, сутулы. З хвіліну ён пільна пазірае на мяне, потым цяжка ўздыхае і раптам шчыра прызнаецца:

— Пакутнік я... Не ведаю, што і рабіць. Уліп.

— Што-небудзь здарылася? — здзіўляюся я.

— Здарылася...

— Чакай, можа, з машынай непрыемнасці? Матор не цягне?

— Цягне, каб яго ліха... Цягне! Выцягвае... Але калі б ты ведаў, які я няшчасны!

На твары ў Антона напісана такая горыч, што цяжка не паверыць яго словам: губы дрыжаць, вялікія, навыкаце, вочы — поўныя невыказнага смутку. Нечакана ён хапае мяне за руку, у якой я трымаю таршэр, і пытаецца:

— Падарунак купіў? У госці да сябра ідзеш, на імяніны, улазіны? А я... Я забыў, дзе жывуць мае сяб-

ры... Свету белага не бачу... Вось і зараз: ты — у госці, а я — загараю тут, парУся ў гэтай душагубцы. Цешчу з жонкай чакаю! О, які я пакутнік...

Антон не дагаворвае, гнеўныя вочы яго прыкаваны да машыны. Здаецца, ён не вытрымае і кінецца на яе з кулакамі.

— Табе не падабаюцца твае «Жыгулі»? — спрабую здагадацца я.

— Не падабаюцца?! — як не стогне ў роспачы Антон.— Ды я іх... ненавіджу! Ненавіджу! Зірні на мяне — хіба я чалавек? Я — раб, з якім робяць усё, што хочуць... Ты вучыў гісторыю, ведаеш. Раба можна пазбавіць адпачынку, можна ў любую мінуту перадаць у часовае карыстанне суседу, які пагоніць цябе з тваёй машынай чорт ведае куды: у суседа вяселле і яму патрэбна свежая рыбка! А то яшчэ цешчы прыспічыць аб'ехаць далёкіх родзічаў: ёй, бачыш, прысніўся дрэнны сон...

Ад гневу Антон задыхаецца, зрывае з сябе гальштук. Трохі супакоіўшыся, ён дастае з кішэні пінжака нейкую паперчыну. Разгортвае яе і хуценька працягвае мне:

— На, чытай, калі не верыш... Чытай! Тут усё жонкай распісана, на цэлы тыдзень. Ніякіх выхадных! Сёння з чатырох раніцы на нагах! Ужо звазіў жончыных добрых знаёмых у лес па грыбы, даставіў цешчу на базар. Цяпер вось марнуюся цэлых тры гадзіны тут, сляплю чорту вочы... Без сняданку, без абеду. І гэта, думаеш, усё? Яшчэ мушу транспартаваць шваграў тэлевізар у рамонтную майстэрню, а едучы адтуль, забраць з пральні бялізну... Ноччу ж, калі ты будзеш цешыцца прыемнымі снамі, я папруся на вакзал: трэба сустрэць і адвезці ў вёску жончыну цётку Адэлю... Ну, што, мала?! Тады паслухай яшчэ...

Мне шкада Антона. Я ляпаю яго па плячы, падбадзёрваю, нешта спачувальна кажу. Але ён ужо не звяртае ніякай увагі на мае словы, таропка расказвае далей:

— Ты не можаш уявіць, як пакутую я за гэтым праклятым рулём... Што з таго, што я цярпліва нясу свой крыж? Дзякуюць? Трасцы! Замест удзячнасці ў дарозе на мяне шыпяць з усіх бакоў: то я вельмі марудна еду, то надта хутка, то не тую скорасць пера-

ключаю, то не там тармажу... Усе вучаць! І бабкі, і ўнучкі... Жах! Не ведаю, як мае нервы дагэтуль вытрымліваюць, як яшчэ не зрабіў аварыю. На маім талоне вунь праколы, бачыш? І правільна: парушаю правілы! Вось і цяпер я паставіў машыну не ў тым месцы. Дзе загадала цешча, там і паставіў...

— Грамадзянін! Ваша вадзіцельскае пасведчанне!

За спіной Антона вырастае постаць міліцыянера. Як не шанцуе сябру! Ён палахліва ўздрыгвае і дрыготкай рукой падае інспектару сваё пасведчанне. «Душэўная» размова паміж імі працягваецца нядоўга: Антонава пасведчанне тут жа знікае ў міліцэйскай сумцы. Нічога не зробіш, давядзецца Антону пагуляць без машыны...

— Мацуйся,— спрабую я суцешыць яго.

Але дзіўна: на маіх вачах засмучоны Антонаў твар святлее... Нечакана ён хапае мяне ў свае абдымкі, жартаўліва ціскае і гаворыць:

— Браток, не перажывай за мяне, не трэба! Хай дарагая жоначка і шаноўная цешча цяпер перажываюць: ад'ездзіліся! Баста! Вось заганю машыну ў гараж і пачну адпачываць... Разумееш? Ад-па-чы-ваць!

*1976*

## ЛЯ ТЭЛЕВІЗАРА

У нядзелю, як заўсёды, я заходжу да свайго швагра. Звычайна мы з ім гутарым, глядзім тэлевізар. Але сёння ў мяне ёсць сур'ёзная справа — хачу, каб швагер параіў, якую мне спецыяльнасць пасля дзесяцігодкі выбраць...

— Спецыяльнасць выбраць хочаш? Правільна, хлопец. Час на свой хлеб пераходзіць... Але пачакай, яшчэ пагутарым на гэтую тэму... Сядай вунь у крэсла ды паглядзім лепш тэлевізар,— разважліва прапануе ён.— Можа, што цікавае ўбачым...

І я прысаджваюся побач са шваграм ля тэлевізара. Глядзім нейкі кіначасопіс. Швагер, у расшпіленай шаўковай кашулі, сядзіць, ганарліва прыўзняўшы галаву, і лянiва сочыць за блакітным экранам. Паказваюць спаборніцтвы хакеістаў.

— Ну і здарова! — не вытрымаў я.— Вось здарава... Хацеў бы я так на каньках бегаць... Ух, аж дух займае!

Шваграў твар паварочваецца да мяне:

— Гэта ты... сур'ёзна?

— Вядома!

— А я табе так скажу: хакей мне карэнным чынам не падабаецца.

— Чаму? — здзіўляюся я.

— А таму, што ён небяспечны... Вось будзеш так бегаць па лёдзе, каўзанешся, упадзеш і скруціш шыю...

Швагер з выглядам бывалага чалавека моршчыць лоб, чухае за вухам.

— Такі выпадак, памятаю, на маіх вачах быў... Ты сустракаў сталяра Гарошку? Ведаеш? Ну, дык вось у яго шыя скрыўлена не так сабе... Пасля таго, як упаў у галалёдзіцу!

— Дык ён жа і на каньках ні разу не стаяў! — не здаюся я.— Хіба можна параўноўваць?

— Не, ты, хлопец, мяне не пераканаеш — небяспечны гэты спорт, хакей! Грошы давай — не стану ім займацца.

Пакуль мы спрачаемся, спартыўны рэпартаж канчаецца, і на экране з'яўляюцца новыя кадры: расказваюць пра вадалазаў...

— Ці-ка-ва,— заўважае швагер, бліжэй падсоўваючы крэсла да тэлевізара.— Глядзі, ідзе па марскім дне і хоць бы яму што! Ай-яй-яй...

— Чаго ж тут баяцца? — пярэчу я.— Скафандр надзейна засцерагае яго ад вады, паветра падаецца зверху... Ды што казаць! Вы толькі глядзіце, як прыгожа навокал... Марскія расліны, рыбы... Я многа б даў, каб пабываць сярод гэтых марскіх страшыдлаў!

— Ты што... сур'ёзна?

Спалоханыя шваграва вочы пазіраюць на мяне так, нібы я ўжо апынуўся ў зубах акулы.

— І ты б палез на марское дно? — не верыць ён.— Да гэтых вось... акул? Дзіця, горкае дзіця! Ці табе жыць надакучыла? Уяві, як гэта небяспечна... Спыніцца падача паветра і — хана! Лічы, усё... Я недзе чуў, так бывае.

— Ну, што вы! Нават калі і здарыцца бяда — сябры выручаць.

— Ага. Чакай... Пакуль яны будуць выручаць, цябе акулы зжаруць... Не, хлопец, ты як хочаш, а я ні за што не палез бы ў гэтае пекла — няма дурных!

Ён дастае з кішэні штаноў насавік і ўсхвалявана абцірае сваю галаву-таўкач.

А на экране — новы бліскучы рэактыўны самалёт... Хвіліна-другая, і — паветраны карабель узнімаецца ў неба. Як страла, ён праносіцца над аэрадромам...

— Якая хуткасць, якая хуткасць! — захапляюся я.— Што хочаце, а вось пайду служыць у армію — абавязкова папрашуся ў лётную школу...

— Ты што... сур'ёзна? Апамятайся! Ці ты не чуў, як небяспечна лётаць?

Я адмоўна ківаю галавою.

— Не чуў? А ты пачытай у газетах, колькі авіяцыйных катастроф бывае! Пачытай... Вунь нейкай індыйскай авіякампаніі самалёт ляцеў... Ляцеў ды і бухнуўся ў мора! Гінуць гэтыя лётчыкі, як мухі. Самыя няшчасныя людзі на зямлі! Дарма, што грошы вялікія зарабляюць...

Я лаўлю асуджальны швграў позірк — схаваныя далёка-далёка вочкі журботна глядзяць на мяне.

— Прападзеш ты, хлопец, эх, прападзеш! Вельмі гарачы... Шукаеш на сваю галаву... Шкада мне цябе: усё-такі родзіч! Ну, паслухай, навошта табе лезці з матухны-зямлі ў тую ваду ці на неба? Беражы жыццё...

І швагер доўга расказвае мне, як ён умудрыўся пражыць цэлых пяцьдзесят гадоў і ні разу не рызыкаваў сваім жыццём: ніколі не лятаў самалётам, не ездзіў на матацыкле, не залазіў летам у ваду вышэй калена...

— Лепш на пясочку паляжаць! Як кажуць, хлопец, беражонага бог беражэ...

Нейкі момант ён сядзіць, утаропіўшыся ў падлогу, і здаецца, яго ружовыя шчокі зусім наплываюць на вочы, хаваюць іх ад мяне.

— Прабач, задумаўся,— нарэшце гаворыць швагер.— Усё жыццё з табою тут успомніў... Дарэчы, наконт спецыяльнасці.. Ідзі да нас у гандаль! Не пашкадуеш. А рамантыку — выкінь з галавы. Чуеш? Ды зачыні фортку... Прадзьме! Вясновы ветрык, ён, ведаеш, вельмі небяспечны.

*1961*

# ЯК ТРЭБА ВІТАЦЦА

Калі мой дзядзька Пятро Іванавіч, былы наменклатурны работнік, выйшаў на пенсію, ён наладзіў званы вечар, на які запрасіў і мяне.

Пасля цырыманіяльнай урачыстай вячэры мы з Пятром Іванавічам зайшлі ў кабінет для сур'ёзнай, як дзядзька сказаў, гутаркі. Мяккае старамоднае крэсла нібы праглынула майго невялічкага родзіча, так што на паверхні побач тырчала толькі два шары: круглы жывот і галава-цыбуліна... Пятро Іванавіч дабрадушна пазіраў на мяне са свайго ёмкага гнязда і ўсміхаўся. Але ж не падумайце, што гэтая ўсмешка была простай: вось я, нарэшце, і на пенсіі! Нічога падобнага. Яна мне гаварыла зусім пра іншае: я, слава богу, прайшоў службовую лесвіцу, а табе, маладзы чалавек, тупаць ды тупаць! А як — ты ведаеш? Не-е, не ведаеш... Дык вось, пляменнік, паслухай старога.

І Пятро Іванавіч гаворыць — ціха, ледзь не шэптам, а вочы, схаваныя ў жоўтыя маршчыністыя мяшэчкі, ззяюць сапраўднай дзяржаўнай мудрасцю.

— Ты зразумей, хлапец... Жыццё пражыць — не поле перайсці. А выбіцца ў людзі — яшчэ цяжэй. І самае галоўнае, бадай, тут умець трымаць сябе з начальствам. Так што ты да мяне, пенсіянера, заходзь часцей, я цябе такому навучу — ні ў якой кніжцы не вычытаеш... Ну, вось хоць бы такое. Як ты вітаешся са сваім дырэктарам?

— Ну як? Вельмі проста. Прывітаюся і крочу далей...

— На самай справе? Так вось абыякава кінеш «прывецік», і ўсё?

— А як яшчэ?

— Эх, галава і два вухі!

Пятро Іванавіч так шчыра і добразычліва смяецца, што я пачынаю рагатаць разам з ім. Але раптам твар яго прымае сур'ёзны засяроджаны выгляд.

— Ну, хопіць... Смех смехам, але ты многае губляеш, хлапец... Па-першае, зарубі на носе, што начальніку трэба аказваць ва ўсім пашану, разумееш? І нават у тым, як вітаешся... Бачыш, ідзе твой дырэктар — за

дзесяць крокаў, як кажуць вайскоўцы, еш яго вачамі... Я хоць і не служыў у арміі, але скажу табе — здорава ў іх гэтая справа наладжана. Як радавыя сустракаюць генерала, бачыў? У струнку ды гэтым самым страявым крокам... Чак-чак! Чак-чак! Люба-дарага...

Дзядзька раптам не па гадах жвава скаціўся з крэсла, важна надзьмуў шчокі і, задраўшы галаву, бордзенька пракавыляў сваімі касалапенькімі ножкамі міма мяне...

— Ну што, як? Прыгожа? Я хоць і не служыў у арміі, а тое-сёе разумею... І вось калі ты так будзеш сустракаць начальства, то, запэўняю, нават самая чэрствая душа зверне на цябе ўвагу. А што значыць увага начальства? Ого! Гэта — усё!.. Павер мне.

Пятро Іванавіч прыжмурыўся, кашлянуў і загаварыў далей — павольна і выразна, як тая школьная настаўніца на дыктоўцы:

— Калі ты думаеш заваяваць сэрца свайго дырэктара, абавязкова паназірай, як ён вітаецца: затрымлівае тваю руку ці не, любіць моцны поціск ці адразу вырывае руку. Улічы ягоны характар, схільнасці. І, барані божа, калі дырэктару не падабаецца здароўкацца за руку, а ты будзеш нахабна тыцкаць сваю лапу ды яшчэ трэсці, усю кар'еру сабе сапсуеш... У такім выпадку лепш за ўсё сціплы ківок галавой і два-тры словы. Ну хоць бы такія: «Маё шанаванне!», «Добрага здароўечка!» Пры гэтым не прамінi крышачку ўзрадавана ўсміхнуцца, нібы ты ўсе апошнія дні толькі і марыў аб гэтай сустрэчы. Чакай, ледзь не забыў... Калі вітаешся за руку — не паказвай сваёй мускульнай перавагі. Рабі поціск сардэчны, але... без гэтага... А ну, давай паздароўкайся са мной! Для практыкі...

Пятро Іванавіч асцярожна падаў мне сваю маленькую валасатую руку, я схапіў яе і, адчуваючы лёгкае галавакружэнне ад выпітага, рашыў укласці ў поціск усе сваяцкія пачуцці... Відаць, атрымалася нядрэнна.

— Уу-у-у! — заенчыў дзядзька.— Кінь, чуеш, кінь, жывадзёр, руку! Ох...

З мінуту Пятро Іванавіч тупа пазіраў на мяне, потым са злосцю плюнуў і абурана сказаў:

— Баюся, нічога з цябе, дуралея, не выйдзе... Хто так здароўкаецца? Ды пасля такога любы начальнік і на парог кабінета цябе не пусціць...

І, без асаблівай ахвоты ўжо, дзядзька тлумачыць мне далей, як трэба развітвацца, улічваючы канкрэтныя ўмовы і настрой начальніка. Добры настрой — дай сябе заўважыць, падыдзі, падай руку і нават пажадай яму шчаслівага шляху і прыемнага сямейнага адпачынку... Можна нават анекдоцік расказаць вясёленькі! Калі ж настрой у таго дрэнны — не трапляйся на вочы, мухай-камарыкам прашмыгні міма...

— Іншая справа, калі развітваешся з падначаленым. Тут ты, хлапец, павінен быць заўсёды на вышыні. Гэта няцяжка. Дай адчуць яму ўсім выглядам сваю службовую перавагу. Ён табе: «Да пабачэння, Пятро Іванавіч!»,— а ты не спяшайся, не спяшайся з адказам. Паглядзі на яго доўгім, пільным позіркам — наскрозь, маўляў, бачу — і абыякава кінь: «Усяго!» А то наогул не кажы нічога... Нібы і не чуў. Дай адчуць, з кім ён размаўляе. Вось як!

Дзядзька засмяяўся, змоўніцкі падміргнуў мне і, пазяхаючы, сказаў:

— Хочаш, паўторым пройдзены матэрыял: будзем развітвацца... Дапусцім, ты — мой начальнік.

Пятро Іванавіч хуценька падышоў да мяне. Але цяпер гэта быў ён і не ён. Я не пазнаваў свайго роднага дзядзьку ў згорбленым, нясмелым чалавеку з ліслівай усмешкай...

— Да пабачэння! — прамовіў ён ціхім, салодкім голасам.

Я моўчкі, абыякава зірнуў на дзядзьку і, нічога не гаворачы, накіраваўся да дзвярэй.

— Малайчына! Выдатна атрымалася,— пачуў я за плячамі.— Толькі не спяшайся, паглядзі на мяне з большай пагардай...

Прызнацца, я гэта зрабіў з вялікай ахвотай.

*1959*

## ГОСЦЬ

У цемнаватую пярэднюю з суседняга пакоя даносіліся шумлівая гамонка, вясёлы рогат, звон посуду, чарак... Там урачыста праводзілі стары год. А я — не

праводзіў... Я стаяў і, адчуваючы пякучы голад і зайздрасць, цярпліва чакаў, калі выйдзе да мяне Пятро Кузьміч, мой новы загадчык.

Нарэшце шкляныя дзверы шырока расчыніліся, з іх вывалілася знаёмая прысадзістая постаць.

— Дык гэта зноў ты, Рыбкін? — здзіўлена прамармытаў Пятро Кузьміч, з поўным ротам, жуючы.— Ну і настырная ж ты душа... Не дабяру розуму, што з табой рабіць: не магу я да цябе ехаць... У мяне свае госці.

— Дык вы ж абяцалі...

— Ну, абяцаў...

— Мы так рыхтаваліся,— канючыў я.— Парасё засмажылі! Нікога, акрамя вас... Сваёй сямейкай чакаем...

— Чакаеце? Хм, сапраўды атрымліваецца неяк не таго, нядобра. І нікога не запрашалі? І закускі многа?

— А як жа, цэльнае парасё! У натуральным выглядзе,— далдоніў я.— Цяпер вось прападзе.

Пятро Кузьміч задуменна абхапіў шырокай пяцярнёй свой падбародак і раптам аж узрадаваўся:

— Бліскучая ідэя! Пачакай, брат...

Ярка асветлены пакой на нейкі момант праглынуў Пятра Кузьміча, але тут жа ён зноў паказаўся ў пярэдняй з хлопцам — дылда пад столь!

— Знаёмся, Рыбкін: мой любімы Вася, студэнт... Жывая вага — 120 кілаграмаў! Як табе падабаецца? А весялун які! Вось забірай яго і рабі з ім што хочаш. Ён — гэта я, лічы... Як кажуць, паўнамоцны прадстаўнік.

Вася імгненна згроб мяне ў свае магутныя абдымкі, лёгенька, як пакаёвага сабачку, паціскаў і нецярпліва па-сяброўску кінуў:

— Ну, паехалі, ці што, бацька?

Што ж паробіш, на бязрыб'і і рак рыба...

Таксі дамчала нас хутка. «120 кілаграмаў» усю дарогу хіхікаў і заводзіў модныя песенькі. А я, адчуваючы пэўную незадаволенасць, пазіраў у акенца, заклапочана разважаў: як сустрэне мяне жонка з гэтым... сынком. Такая ўжо натура: хоць скрозь зямлю праваліся, а падавай ёй за святочны стол самога Пятра Кузьміча!

Ды, як кажуць, была маланка, а гром не грымнуў: ледзьве жонка даведалася, што «сам» накіраваў да нас Васю, як твар яе адразу палагоднеў:

— Раз прыслаў свайго сынка — значыць паважае... Бяжы ж да госця, садзі яго за стол, а я прычоску падкудлачу.

Падбадзёраны, выбег я з кухні да госця і... уразіўся: Вася сам ужо добра ўладкаваўся за сталом і княскім уладарным жэстам запрашаў усіх «дапіць»... Усе — гэта дзве мае састарэлыя цёткі, Алена і Параска. Яны спалохана вохкалі, кракталі, адмаўляліся, а «120 кілаграмаў» — насядаў.

— Пенсіянеры! Не губляйце марку! — заклікаў Вася лозунгамі.— На вас пазірае ўся наша слаўная моладзь!

І дарэмна позіркі збянтэжаных бабулек шукалі ратунку на маім твары: ён загадваў ім — піце...

І цёткі выпілі. За стары год. Потым — яшчэ раз за стары. І непрыкметна — за Новы... А Васеў зычны голас камандаваў і не даваў спакою...

— Э, не... Так справа не пойдзе, піце ўсё, а то... раскажу Пятру Кузьмічу. Раў... раў... не-н-не... на моладзь! Музыку!

— Які малайчына,— у захапленні шаптала мне на вуха жонка.— Ці не нагадвае ён табе аднаго гусара з кіно? Колькі зграбнасці, прыгажосці...

Але яна не паспела дагаварыць, бо «гусар» раптам падбег, схапіў яе за руку і імкліва пацягнуў на сярэдзіну пакоя.

— Усе, усе скачам! — аб'явіў ён.— Музыку!

Драўлянай рукой уключыў я наўздагад прыёмнік: бурны джаз запаланіў пакой... Маленькая, шчуплая жонка ніякавата і няўмела тупала, таўклася ля Васі. Затое гэтага мучыцеля цяжка было пазнаць: нешта неверагоднае, першабытна-дзікае з'явілася ў яго хуткіх рухах. Ён бязлітасна, як пёрка, круціў вакол сябе маю жонку, падкідваў, як мяч, яе ўгору, апускаў уніз... Я нават заплюшчыў вочы: яшчэ хвіліна, і нешта здарыцца непапраўнае!

Мне б ратаваць бедную спадарожніцу жыцця, а я толькі бездапаможна стагнаў... Эх, быў бы гэты «120 кілаграмаў» ды не родным дзіцем Пятра Кузьміча! Тады б пагаварыў з піжонам... Цяпер жа я толькі ліхаманкава думаў, колькі яшчэ працягнецца гэтае вар'яцтва. Але ж, самі разумееце, на карту было пастаўлена ўсё.

Толькі недзе пад раніцу, калі, згубіўшы прытомнасць у чарговым твісце, жонка ляжала на канапе, а абедзвюх цётак забрала «хуткая дапамога», я нарэшце адвёз дамоў «і 120 кілаграмаў»... Праўда, па дарозе па яго загаду яшчэ двойчы я вылазіў з машыны і на марозіку скакаў «яблычка». Потым пеў пра козліка, якога з'елі злыя студэнты... Карацей, такога гвалту над сваёй асобай і ворагу не пажадаў бы. Адно мяне суцяшала: не марна, залічыцца...

Сяк-так транспартаваў я «120 кілаграмаў» на трэці паверх. Стаміўся, змакрэў увесь, як той чорт у казцы, але да самых дзвярэй Пятра Кузьміча даставіў малайца. Аж радасна на сэрцы. Асцярожненька пазваніў. Нясмела пастукаў. Паскробся... Доўга там не адчынялі. Затым за дзвярыма пачуўся санлівы і незадаволены голас Пятра Кузьміча — аж дрыжыкі па спіне:

— Гэта ты зноў, Рыбкін?!

— Я... і ваш сынок.

— Які яшчэ сынок?!

— Ды Васютку прывёз... «120 кілаграмаў»,— залапатаў я, хіхікаючы.— Вясёленькі ён, перахапіў трошкі.

— Сам ты перахапіў, Рыбкін! — гнеўна зашыпеў Пятро Кузьміч.— Усё на свеце пераблытаў... Вядзі хлопца ў дзверы насупраць... Гэта суседаў сын!

*1972*

## КАЛЯ ЦЫРКА

Якраз напярэдадні Новага года ў мяне адбылася надзвычай радасная падзея: у газетных кіёсках з'явілася мая першая гумарыстычная кніжка. Натуральна, я адразу ж абышоў бліжэйшыя вуліцы і, здзіўляючы кіяскёраў незвычайнай шчодрасцю, закупіў усе зборнікі.

— Пачакайце! — звычайна несліся наўздагон мне ўсхваляваныя галасы кіяскёраў.— Тут яшчэ ёсць пра шаленства сабак... Купіце — усяго пяцьдзесят экзempляраў!

Яны, пэўна, прымалі мяне за нейкага вясковага біб-

ліятэкара. Дзівакі! Каб толькі ведалі, з кім размаўляюць... Але не будзеш жа кожнаму тлумачыць, што ты — аўтар і ў цябе шмат сваякоў і знаёмых, якія з нецярпеннем чакаюць тваіх аўтографаў...

Недалёка ад цырка, праўда, заставаўся яшчэ адзін кіёск, вітрыны якога па-ранейшаму былі абкладзены кніжачкамі з маім імем: ён быў зачынены з прычыны хваробы кіяскёра. Але асалода штодня купляць свае творы была такой вялікай, што ў першы ж выхадны я зноў завітаў у гэты кіёск з маленькай дачушкай.

Выдаўся цудоўны зімовы дзянёк. На прыхопленую першымі маразамі зямлю церушыў сняжок. Мне пашанцавала: на гэты раз акенца кіёска было адчынена.

— Добры дзень, шаноўная! — радасна сказаў я жанчыне-кіяскёру ў акенца і важна пацікавіўся: — Як у вас ідзе гандаль — не расхапалі яшчэ кніжак Сёмкіна? Ёсць трохі? Тады запакуйце ўсе — бяру!

І тут я раптам заўважыў побач маладога мужчыну ў фацэтна насунутай на самыя акуляры цёплай шапцы, у модным жоўтым кажушку. Ён стаяў, прыхіліўшыся плячом да кіёска, і... гартаў маю кніжачку. Сэрца ў мяне радасна ёкнула: вось яна, першая сустрэча з чытачом. Карцела адразу назваць сябе і спытаць, як падабаецца гумар. Але чытач нечакана сам скіраваў позірк у мой бок і весела ўсміхнуўся:

— Якая яна ў вас... смешная!

Я так расхваляваўся, што ледзь не кінуўся ў тую ж хвіліну да гэтага нечаканага добразычліўца, каб удзячна абняць яго і ўзнагародзіць пісьменніцкім аўтографам. Але ўзяў сябе ў рукі, стрымаўся: хай чалавек пасмяецца ўволю, а потым ужо... адкрыюся.

— Ха-ха-ха... Як-кі таленавіты... экземпляр. Не хочаш, дык засмяешся,— кіснуў мужчына.— Пацеха-а...

Калі ён, нарэшце, зняў акуляры, каб выцерці вясёлыя слёзы, я паспеў зазірнуць у кніжку і прачытаць назву гумарэскі: «Хітрая жонка». Уласна кажучы, ніякая яна не хітрая, гэта муж дурань — схаваў у туфель прэміяльныя, а яна і там... вынюхала.

— Замарыла... да слёз... таўстуха!

У адказ я толькі цяжка ўздыхнуў: магла б мая кніжачка ў два разы таўсцейшая быць, каб не прыдзірлівы рэдактар. Але ўсё роўна зборнік гумару атрымаўся неблагі — вунь як пацешыў чытача!

І, нібы адгадваючы мае думкі, мужчына шчыра прызнаўся:

— Ведаеце, вось так нарагочашся часам, і настрой — на цэлы працоўны дзень.

Не маючы больш сіл стрымлівацца, я дрыготкім голасам спытаў мужчыну:

— Скажыце мне шчыра, што вас так насмяшыла? Я... нейкім чынам... маю права гэта ведаць!

— Ды вы, бацька, зірніце самі — хіба не пацеха? — чамусьці паказаў ён у мой бок.

Нічога не разумеючы, я прасачыў за рухам яго рукі і аслупянеў: мая канапатая дачушка, маё адзінае дзіцянё вытварала ў мяне пад бокам немаведама што: смешна крывіла тварык, падміргвала, паказвала язык...

— Артыстка! Во, так бы і гэтым, гумарыстам, смяшыць! — сказаў мужчына і даволі абыякава вярнуў назад маю кніжку.

Відаць, баючыся, што гэтак жа зраблю і я, кіяскёрка хуценька загарнула ўсе зборнікі і паспешна сунула мне ў рукі...

*1978*

## ШЭРЫ КАПЯЛЮШ

Не паспеў я зайсці ў магазін, як убачыў свайго таварыша па службе Антона Камяка... Ён стаяў каля аддзела галаўных убораў, уважліва разглядаючы рознакаляровыя капелюшы. Іх было тут з добры дзесятак — ад высокіх цёмна-зялёных, з белымі шаўковымі шнурочкамі, да светла-кафейных з шырокімі карычневымі стужкамі...

— Прывітанне, Антон! Ты што, капялюш купляеш?

— Прывітанне, прывітанне,— не звяртаючы на мяне асаблівай увагі, мармытаў ён.— Купляю... Свята хутка.

І тут жа пры мне ён папрасіў у прадаўца капялюш для прымеркі.

Капялюш быў яўна не той. Вялікі, нейкага непры-

емнага шэрага колеру, ён, нібы парасон, накрываў маленькую галаву Антона Камяка. Здавалася нават, што капялюш трымаецца толькі на Антонавых шырокіх вушах.

Камяк зірнуў у люстра і незадаволена хмыкнуў — вялікаваты капялюш дрэнна ішоў да вузкага твару пакупніка і яго светлага паліто.

Антон зняў капялюш, павярнуўся да мяне і папрасіў:

— Памажы!

— Калі ласка!

Я адразу ахвотна «ўключыўся ў работу»... Нам падавалі капелюшы розных размераў, розных колераў. Былі добрыя, былі дрэнныя. Але дзіўная рэч — чым больш капелюшоў прымерваў Антон, тым больш рабіўся патрабавальным.

— Хіба гэта капялюш? — ужо ледзь не крычаў ён.— Ды яго ж замест парасона насіць можна... А яшчэ імпартны!

Праходзіла хвіліна, і ён прыдзірліва круціў у руках другі:

— Ну глядзіце, таварыш прадавец, глядзіце, на што гэты капялюш падобны? Кацялок, звычайны салдацкі кацялок... што мне, есці з яго? Пакажыце яшчэ!

Было зразумела: сёння ён не купіць капелюша... Чаго добрага, яшчэ да скандалу дойдзе! Некалькі пакупнікоў у чарзе кідалі на нас вельмі ўжо выразныя позіркі. І тут у мяне раптам узнікла ідэя...

Якраз у гэты момант Антон трымаў у руках той самы шэры капялюш, з якога ён пачаў прымерку. Калі ён збіраўся ўжо зноў вярнуць капялюш прадаўцу, я рашуча ўзяў яго за руку:

— Пачакай, не хвалюйся, прымерай яшчэ разок... Нешта ў гэтым ёсць...

Антон абыякава зноў надзеў шэры капялюш і задзірліва паглядзеў на мяне: палюбуйся, маўляў, я налюбаваўся, хопіць!

— Чакай, чакай... Капялюш мне падабаецца.

— Што? Табе падабаецца гэты... брак?

— Безумоўна. І калі ты не верыш майму густу, павер густу іншых. Такі капялюш купіў начальнік нашага рыбтрэста Салькін...

Антон недаверліва зірнуў на мяне, затым павярнуў-

ся да люстра і доўга ўглядаўся. Ганарліва ўскінуў галаву, павёў плячыма. Не ведаю, што на гэты раз убачыў ён там, але на яго вузкім даўганосым твары мільганула раптам слабая ўсмешка.

— Наогул, нішто сабе... Ведаеш, у ім сапраўды нешта ёсць, у гэтым капелюшы,— задумёна прамовіў Антон і тут жа, нібы між іншым, спытаў: — А ты... даўно бачыў Солькіна?

— Добра не памятаю... Учора ці заўчора.

— І ён быў, кажаш, у такім капелюшы?

— Ну, вось, ты яшчэ не верыш... Я нават камплімент яму сказаў, што такі капялюш цяпер знайсці цяжка!

Я нешта гаварыў яшчэ, але Антон ужо мяне не слухаў. Яго твар пасвятлеў, тонкія вусны нечакана разышліся ў радаснай усмешцы. Ён яшчэ раз зірнуў у люстра, важна кашлянуў і раптам весела крыкнуў прадаўцу:

— Цудоўны капялюш! Вось бачыце, нездарма мы столькі выбіралі... Упакуйце! Гэта якраз тое, што я шукаў!

*1958*

## АДПАЧЫЛІ

Шурачка, глядзі, хто да нас прыйшоў! Сцяпан... Якая дакладнасць! Дамовіліся ў сем раніцы — і ён тут як тут. Ты даруй, мы са сваёй Аляксандрай Пятроўнай заспалі нешта... У нядзелю так соладка спіцца, о-ох! Яшчэ нават не снедалі. Чакай, а што ты стаіш на парозе? Скідай, скідай свой рукзак, пастаў у кут вуды, і хутчэй сюды, пакуль свінінка на патэльні гарачая. Паспеем яшчэ на ўлонне прыроды... А цешча ў мяне малайчына, бачыш, якіх бліноў напякла? Такіх ты, мусіць, яшчэ нідзе не еў... Матуля, а матуля, дзе вы? Нясіце нам графінчык! Ты... не п'еш, хлопец? Шурачка, няўжо гэта я некалі быў такім маладым-зялёным? Ха-ха!.. Дзівак чалавек. Мы ж з табой не так часта сустракаемся... Ну, не дуры, давай чокнемся... Не,

Сцяпан, так справа не пойдзе! Не паважаеш мяне, дык хоць паважай Шурачку і цешчу... За нашых савецкіх жанчын! А-а, тое ж і яно! За іх сорамна не выпіць. Закусвай... Каньячок — што трэба, вытрыманы. Ведаеш, мы ўчора ўвесь вечар прагаварылі з жонкай, як правядзём гэты выхадны на рацэ... Там і лес ёсць, кажаш? Выдатна! Паверыш, я ўжо і не памятаю, калі, у якім годзе на ўлонні прыроды адпачываў... Усё не выберу часу, усё ў гэтых чатырох сценах сядзіш. Але... хопіць. З сённяшняга дня кожную нядзелю — за горад. Спакусіў ты мяне сваімі расказамі... Шурачка, уяўляеш, якая прыгажосць там? Уяўляеш, як прыемна ля агню ў лесе, на стромкім беразе нашага Сажа? З ракі цябе ветрыкам халодненькім абвявае, з лесу — пах хвоі, а пад носам юшка з яршоў водар пускае... Цудоўна! Не, за гэта варта выпіць... Сцяпан, не будзь бабай! Выпі, каму кажу... Лепш кляваць будзе. Не хочаш, як хочаш. Не ўмею ўгаворваць. Не п'еш — тады не крыўдуй, мы з Шурачкай... Фу-у, і хто толькі каньяк гэты п'е? Дык ты кажаш, што камары там не вельмі непакояць? Не хлусіш, Сцяпан? Ну, глядзі... Я іх, паганцаў, во як не цярплю. Пікіруюць над самым вухам — з-зы, з-зы! А потым пачнуць джыгаць — ніякага ратунку! І агонь твой, Сцяпан, не дапаможа... Ну, давай яшчэ па маленькай. Пайшло! Адчуваеш, Шурачка, усё цела наліваецца прыемным цяплом... Добры каньячок! Далібог, і дома можна выдатна правесці час. Што, трэба ісці ўжо? На цеплаход спознімся? Нічога, другім рэйсам паплывём... А дзе гэта наша матуля? Ма-ту-ля, дзе вы? Яшчэ нам графінчык... Вось так. Дзякуй. Зараз мы яго, міленькага. Выхадны, Сцёпа, для таго і даецца працоўнаму, каб па-людску адпачыць... Сцёпушка, ты куды? Пачакай, давай спяём... Не хочаш? Ну, ідзі, ідзі. І я... пайду... спаць.

*1961*

# ПАРТФЕЛЬ

На лесвічнай пляцоўцы другога паверха было людна... Чалавек дзесяць стаяла каля акна, ціха размаўлялі і пазіралі ўніз. Там, пад самым акном, на гары складскіх скрынак ляжаў вялікі чорны партфель. Прыгледзеўшыся, можна было заўважыць на ім нават дзве блісκучыя спражкі. Такія партфелі носяць часцей усяго важныя начальнікі або вучоныя...

— Як я яго заўважыў? Ды вось ішоў з магазіна дамоў, спыніўся...— ужо ў які раз расказваў зацікаўленым стары цырульнік Сінічкін.— Спыніўся, паставіў сумку на падаконнік і раптам бачу — чарнее нешта на скрынцы... Пазіраю і вачам не веру — партфель! Скураны, на двух замках. Як убачыў яго, адразу падумаў: справа тут нячыстая. Проста так дарагая рэч валяцца не будзе, некага абрабавалі, забілі, а партфель, каб замесці сляды, закінулі на тару...

Усе спалохана ахнулі, а Сінічкін прыклаў руку да сэрца і нервова пачаў выціраць хустачкай спацелы лоб.

— Ахвяра недзе павінна быць паблізу,— аўтарытэтна прамовіў ён.— Можа, нават у нас у падвале...

Гэтая здагадка была такой нечаканай і жудаснай, што той-сёй баязліва адышоў ад акна, а хатняя гаспадыня Круталобава пасунулася па лесвіцы бліжэй да сваёй кватэры.

— Хочаце верце, хочаце не, але такі выпадак, прыпамінаю, быў яшчэ ў 1915 годзе,— ужо шэптам сказаў Сінічкін, і вочы яго ліхаманкава заблішчалі.— Тады ў нас бандыты абрабавалі купца Барадавецкага, а самога завезлі на могілкі, прывязалі да крыжа і...

— Вой, не трэба, не кажыце далей! — не вытрымала Круталобава і пераскочыла яшчэ на тры прыступкі ўверх.— Страхоцце якое...

Сінічкін незадаволена замоўк і высунуўся ў акно. Але яго тут жа некалькі рук спалохана пацягнулі назад.

А партфель ляжаў на тым жа самым месцы, чорны, з бліскучымі спражкамі, такі, які носяць звычайна важныя начальнікі і вучоныя. У гэтым таямнічым страшэнным партфелі маглі быць новенькія сторублёўкі, што не паспелі захапіць з сабой бандыты, або даку-

менты пацярпеўшага... Вось чаму пасля гарачых спрэчак большасцю галасоў было вырашана пайсці і ўзяць партфель. Гэтым самым жыхары дома дапамогуць следчым органам выкрыць злачынства, а можа, нават выратаваць чалавека, вядома, калі ён яшчэ жывы... Толькі хто ж пойдзе па партфель?

— Хто, таварышы?

Але ўсе маўчалі. Ахвотнікаў не было. Тады Сінічкін абвёў жыхароў пад'езда строгім позіркам і сурова спытаў:

— Таварышы, ёсць сярод вас члены прафсаюза?

Члены прафсаюза знайшліся, толькі ж ахвотнікаў пайсці па партфель зноў не было.

— Што ж, тады застаецца ісці мне,— няўпэўнена прамовіў ён.— Я старэйшы за ўсіх тут, пажыў на белым свеце... Адно прашу, таварышы, калі што здарыцца, не пакіньце маю Алену Маркаўну!

Але на старога ўсе замахалі рукамі: што ён з глузду з'ехаў, хіба так можна рызыкаваць жыццём? А калі там бандыты тыя яшчэ сядзяць? Не, трэба пашукаць дружынніка Ваню, ён хлопец малады, смелы, знаходлівы... У яго — вопыт!

Сінічкін — не пярэчыў.

Нехта ўжо кінуўся шукаць дружынніка Ваню з сёмай кватэры, як раптам пачуўся дзікі крык Круталобавай. У тую ж хвіліну ўсе ўбачылі, як ля партфеля з-за скрынкі паказалася нечая рука... Яна пашнырыла, намацала партфель і хутка пацягнула яго ўніз. Жыхары — аслупянелі. Ніхто не варухнуўся, у вачах кожнага — жах: бандыты побач!

І невядома, колькі б цягнулася гэтае жудаснае маўчанне, калі б не грымнулі дзверы пад'езда, а затым не паказалася стрыжаная галава пяцікласніка Воўкі, унука Сінічкіна... Ён нёс партфель. Вялікі, чорны, з бліскучымі спражкамі. Сінічкін кінуўся да ўнука і нечакана на вачах усіх моцна крутануў яго за вуха:

— Ты, нягоднік, навошта бярэш без дазволу чужыя рэчы? Вось я табе...

Потым павярнуўся да суседзяў і вінавата сказаў:

— Даруйце, таварышы, гэты стары чорны партфель — мой...

*1961*

8 Зак. 1913

## НЕ БЕЗ ТАГО...

Я страціў сон. Я стаў зласлівы, як самы звычайны неўрастэнік... Сорамна прызнацца, нават падумаў аб самагубстве: ці варта жыць, калі кожны дзень жывеш пад страхам, што нешта ў цябе на працы не так, што нешта ты недарабіў... Лепш ужо налажыць на сябе рукі, і з усімі пакутамі будзе скончана! І гэта раз і station назаўсёды.

Здаралася, я нават уяўляў, як работнікі нашага статыстычнага ўпраўлення ў тужлівым маўчанні ідуць за маёй трунай. Жалобна гучыць пахавальная музыка. Калегі шэптам перагаворваюцца і адзначаюць мае заслугі: прапрацаваў без адзінай вымовы, быў добрым сем'янінам і таварышам... Шкадуюць, што я так рана памёр і гнеўна паказваюць пальцамі на аднаго чалавека ў чорным.

— Гэта ён вінаваты! З-за Глоткіна памёр наш мілы Аляксандр Барысавіч...

У такія хвіліны, калі маё ўяўленне жыва малявала гэтую карціну, боль і пякучая нянавісць да Глоткіна ахоплівалі мяне. Я праклінаў той дзень і гадзіну, калі ўпершыню пакрытыкаваў Глоткіна на вытворчай нарадзе за нейкія грахі...

О, калі б я толькі ведаў, што за гэтую крытыку Глоткін не дасць мне спакою цэлы год! Калі б я ведаў, які помслівы ён чалавек,— і валаска не крануў бы на яго лысай галаве. З таго часу ніводнага сходу не праходзіць, каб Глоткін не крытыкаваў мяне, а я Глоткіна... А што застаецца рабіць? Трэба неяк абараняцца. Хаця, калі быць шчырым, амаль усё, што гаворыць пра мой аддзел Глоткін — чыстая праўда. І працуюць мае статыстыкі не вельмі. І зводкі падаём несвоечасова, і п'янкі калектыўныя бываюць...

Усё гэта праўда. Але ж нельга так! Я — не каменны і не магу маўчаць, калі закранаюць мой аўтарытэт! Хай я нават самы дрэнны працаўнік...

З Глоткіным мы даўно ўжо не размаўляем. Сустрэнемся ў гардэробнай — ківок галавы, і ўсё. У буфет я іду толькі тады, калі няма там Глоткіна. Адным словам, паміж намі разарваны ўсякія дыпламатычныя адносіны. Бяда толькі ў тым, што цярплю больш за ўсё я — мой статыстычны аддзел бюджэту працуе горш,

чым аддзел Глоткіна... На кожную вытворчую нараду я іду з такім пачуццём, як французскі кароль на эшафот: баюся! Глоткіна баюся, крытыкі яго баюся...

Сёння — панядзелак. І зноў у нас вытворчая нарада. Дзевяць гадзін. Заходжу ў кабінет начальніка. Адчуваю, як ад хвалявання перасыхае ў роце. Зараз выступіць наш начальнік. Пачнуцца спрэчкі. Возьме слова і Глоткін... Вунь ён сядзіць у кутку каля тэлевізара і толькі выгляд робіць, што разглядае свае кашчавыя сінія рукі, а на самой справе мяркуе, як дакапаць мяне.

Я кручуся, трывожна азіраюся па баках. І ў гэты самы момант начальнік пытае:

— Ну, хто пачне спрэчкі? Можа, ты, Аляксандр Барысавіч?

Устаю. Злы, як тыгр: пачакай, Глоткін, зараз ты атрымаеш сваю порцыю крытыкі... Не чакай літасці! Я...

Я гляджу на Глоткіна, і раптам незвычайнае пачуццё жалю ахоплівае мяне: Глоткін, той самы Глоткін, які яшчэ хвіліну назад кідаў на мяне пагардлівыя позіркі, сядзіць, нізка апусціўшы галаву, і бездапаможна выцірае хусцінкаю лоб, вочы. Няўжо ён плача? О, божухна...

— Таварышы! Мне хацелася б сказаць аб рабоце аддзела, які ўзначальвае Глоткін.

Ну, канечне, яны ўсе, мае калегі, чакаюць, што я расчыхвошчу Глоткіна як мае быць. Прывыклі!

— Таварышы, я, гэта самае, хачу сказаць, што сёлета аддзел Глоткіна працуе значна лепш, чым у мінулым...

Не, вы не ўяўляеце, што было далей! Я, я хваліў Глоткіна за старанную працу...

У кабінеце — цішыня. Муха праляціць — чутно. І вось не паспеў я сесці — ускочыў Глоткін і трубіць сваім аглушальным басам на ўвесь кабінет, які я здольны працаўнік, які прынцыповы і чулы, што калі б былі ўсе такія, як я, то наша ўпраўленне стала б самым перадавым...

Пасля нарады мы з Глоткіным на вачах усяго калектыву моцна абняліся і расцалаваліся.

Затым я запрасіў Глоткіна да сябе на імяніны дачкі...

8*

З таго дня сон зноў вярнуўся да мяне. Зніклі кашмары і думкі пра самагубства. На душы — спакойна, на службе — таксама. Я больш не крытыкую Глоткіна за недахопы ў рабоце, Глоткін — не крытыкуе мяне. Хіба толькі іншы раз пахвалім адзін аднаго... Не без таго!

*1966*

# ШЧАСЦЕ

Да гэтага першага ў сваім жыцці інтэрв'ю я рыхтаваўся асабліва старанна. Смешна ўспомніць, колькі перачытаў розных гутарак са знакамітымі вучонымі і пісьменнікамі, перадавікамі вытворчасці і зарубежнымі гасцямі! Тыя пытанні карэспандэнтаў, якія здаваліся мне асабліва глыбакадумнымі і дасціпнымі, я дакладна перапісваў у свой блакноцік. Хутка ў ім амаль не заставалася ўжо месца на адказы. Затое я быў упэўнены, што па слова ў кішэню не палезу. Толькі вось у каго браць інтэрв'ю — гэта для мяне, практыканта абласной газеты, было яшчэ не зусім ясна. Праўда, ноччу мне некалькі разоў снілася, што я вяду гутарку з нейкай славутай французскай кінаартысткай. Раніцою я не мог добра ўспомніць, аб чым мы размаўлялі, але сябе помніў цудоўна: гэткага элегантнага, бойкага і знаходлівага...

Але ўсё гэта, на жаль, было толькі ў сне! У тым жа раёне, дзе прапанавалі мне правесці добрую гутарку з добрым чалавекам, не было, безумоўна, знакамітых кінаартыстак. І я, рамантык, які марыў аб журналісцкай славе з першых крокаў, дужа непакоіўся. Нават мой новы сябар — літработнік газеты Саша Круглікаў, заўважыў мае турботы і, як сапраўдны сябар, прыйшоў мне на дапамогу.

— А ведаеш што? — задумліва сказаў ён, калі мы ў рэдакцыйным буфеце дапівалі па трэцяй пляшцы кефіру.— Ёсць у мяне адзін цікавы стары на прыкмеце. І якраз — у тым самым раёне, куды ты едзеш. Кавалік Дзяніс Дзянісавіч... Ён не пісьменнік, не артыст, але асоба відная... Філосаф! Збіраўся як-небудзь сам напі-

цаць, ну, ды злічымся славаю: перадаю табе! Запісвай адрасок: сяло Смыкі...

Так я і паехаў у гэтыя Смыкі. Па дарозе ў Смыкі ў думках перабраў усю нашу размову з мудрым старым, усе абавязковыя і магчымыя пытанні. І было сярод іх адно, якое здавалася мне самым галоўным: «Скажыце, шаноўны Дзяніс Дзянісавіч, у чым вы бачыце сваё шчасце?» І ўжо ўяўляў, як Дзяніс Дзянісавіч зграбе ў жменю бараду (а тое, што ў яго абавязкова пышная барада Льва Талстога, я ніколі не сумняваўся), нахмурыць высокі лоб і, пыхкаючы чорнай прасмаленай люлькай, пачне нетаропкі, грунтоўны расказ аб сваім жыцці. А я буду слухаць ды занатоўваць.

І вось, прыехаўшы ў Смыкі, я гарэў жаданнем хутчэй сустрэцца са сваім субяседнікам. Недалёка ад прыпынку, на ганку універмага, размаўлялі дзве жанчыны. Памкнуўся да іх:

— Падкажыце, дзе жыве тут Дзяніс Кавалік?

— Кавалік? Пенсіянер? На тым краі... Мінеце школу, пройдзеце да Дома культуры, а затым на ўзгорку каля саменькай бальніцы ўбачыце з белай цэглы дом пад ліпамі... Там і жыве наш старажыл.

— А... колькі яму? — не стрымаў я цікавасці.

— Ды не маладзёнак ужо! — весела бліснула з-пад хусткі чорнымі вачамі адна з жанчын.— Восем дзесяткаў, пэўна, адтэпаў, калі не болей.

Ну, вось... У такога дзядка толькі і браць інтэрв'ю: ужо, мабыць, і не бачыць, і не чуе... Падкузьміў сябрук Круглікаў, лепш не трэба!

Я панура паплёўся асфальтаванай дарожкай уздоўж палісаднікаў.

Неўзабаве ўжо стукаўся ў брамку.

— Каго шукаеце? — зусім нечакана пачуўся ў мяне за спіной бадзёры голас.

Павярнуўся і адразу здагадаўся — перада мной гаспадар. Пажылы, але без барады. Прадаўгаваты твар сухі, маршчыністы, але вочы — жывыя, крышку насмешлівыя. Ды і ўвесь ён, хударлявы, невысокі, даволі энергічна трымаў галаву і зусім не нагадваў таго хваравітага чалавека, якім я яго ўяўляў. Нават апрануты быў неяк франтавата: новы шэры касцюмчык з чырвоным гальштукам, зялёны капялюш...

— То каго шукаеце, малады чалавек? — зноў спы-

таў ён.— Калі гаспадара — то вось я... На пасяджэнні праўлення затрымаўся: не даюць спакою старому Кавалiку!.. Накшталт генеральнага саветніка я ў іх...

«Ого, цікавы чалавек!» — павесялеў я і, радуючыся ўдачы, тут жа растлумачыў, з якой мэтай завітаў: браць інтэрв'ю. Прыселі на лавачцы пад ліпай.

— Дык што ты хочаш у мяне ўзяць, хлопча? — нібыта не разумеў ён мяне.

— Інтэрв'ю! Пытацца вось у вас буду...

— А-а... Бяры, бяры... Пытайся. Толькі скажы, пра што, напрыклад?

Я хуценька пакорпаўся ў сваіх занатоўках, знайшоў самае важнае пытанне і ўрачыста прачытаў:

— Шаноўны Дзяніс Дзянісавіч, у чым вы бачыце сваё шчасце?

Доўга пазіраў на мяне стары задумлівым позіркам. Потым губы яго кранула хітраватая ўсмешка, ён прыжмурыўся, уздыхнуў і... агарошыў:

— Вось што, хлопча... Я тут мушу да суседа зайсці па тэрміновай справе... То давай дамовімся: ты трошкі пагуляеш, з людзьмі пазнаёмішся, а вернешся — і са мной пабалакаеш.

Хоць і збянтэжыў стары мяне сваёй прапановай, але мусіў з сялом знаёміцца. І хутка захапіўся не на жарты. Дзе толькі не пабываў, каго толькі не пабачыў: і калгаснага агранома сустрэў, і заслужаную настаўніцу адшукаў у школе, і ўрача-вучонага ў бальніцы выявіў, і з тутэйшым мастаком пагутарыў... Нават на самадзейнага кампазітара пашэнціла: Домам культуры кіруе. Адным словам, калі спахапіўся, быў ужо надвячорак. Паспяшаўся да Дзяніса Дзянісавіча. Падыходжу да дома, а Кавалік на лаўцы чакае мяне — нібы і не пакідаў гэтага месца.

— Ну, як справы? Нешта затрымаўся ты, хлопча, дужа... Ці не дзяўчына якая тут вінаватая?

Лёгенька пагладжвае тоўстым пальцам калматае сівое брыво і ўсміхаецца з той самай забаўнай хітрынкай, якую я яшчэ заўважыў напачатку.

— Дык з кім ты ўсё ж сустрэўся? Расказвай...

Пачаў я лічыць старому ўсіх сваіх новых знаёмых. Толькі прозвішча назаву, а ён: «Чакай, хлопча, гэта мой зяць!.. Я табе пра яго яшчэ не такое паведамлю». І хваліць зяця-агранома за яго спрыт: гэта ж яго ста-

раннем новую ўраджайную пшанічку ў калгасе завялі... Не паспеў яму пра сустрэчу з заслужанай настаўніцай расказаць, а ён зноў: «Чакай, хлопча... Тая настаўніца мая старэйшая дачка. Сярод яе вучняў і касманаўт ёсць!» І з такім гонарам, так горача аб сваёй вялікай радні расказвае, што аж памаладзеў з выгляду стары.

— Усе вучоныя, хлопча, усе ў людзі выйшлі! І ў вёсцы, і ў горадзе працуюць. Ад таго, пэўна, і трымаюся яшчэ на нагах, што хочацца даўжэй на іх шчасце паглядзець... Ну, а цяпер, калі ахвоту маеш, можаш і пытанні свае задаваць... Аб чым гэта ты пытаў? У чым маё шчасце?

Ціхая вераснёўская ноч ахутала зямлю, і на вулічных слупах ужо засвяціліся ліхтары, а ў аксамітавым небе — зоркі, калі я сабраўся на свой аўтобус. Цёпла развітаўся са старым. Але не паспеў зрабіць і некалькі крокаў, як пачуў голас Дзяніса Дзянісавіча:

— Чакай, хлопча... Праклятая памяць! Не сказаў табе я шчэ пра аднаго ўнука. Ён жа таксама ў газеце як ты, робіць. Калі ўбачыш, прывітанне ад дзеда перадай... Сашку Круглікаву, чуеш?

*1977*

## ЯК РЫХТУЮЦЦА ЎРОКІ

Класны кіраўнік пазніўся, і ў класе стаяў неверагодны шум. Гаманілі, рагаталі, перабівалі адзін аднаго, расказваючы, як хто рыхтуе ўрокі...

— Люблю рыхтаваць англійскую мову,— жыццярадасна звінеў тонкі галасок.— У мяне некалі па ёй пяцёркі былі...

— Ха, англійская! З англійскай мовай і я не пакутую,— азваўся нехта з задніх партаў.— Сусед у нас паліглот. З дыпламатаў, кажуць. Яму з нямецкай ці англійскай перакласці — раз-два. Папрашу практыкаванне зрабіць — ніколі не адмовіць. Толькі тады ўжо ў знак удзячнасці мушу з ім у шахматы гуляць...

— А я... сачыненні добра пішу! Асабліва на воль-

ную тэму... Адно маё сачыненне пра рыбалку на школьным конкурсе першае месца заняло!

Той, хто выхваляўся, пераможна зірнуў на свайго суседа ў акулярах і збянтэжана прызнаўся:

— Вось толькі мастак з мяне дрэнны — не магу маляваць, хоць забі! З кім бы наладзіць узаемавыгадны абмен? Я пішу сачыненне — мне малююць...

— Згода! Па руках... Я цябе гэтымі малюнкамі закідаю! Бачыў школьную газету — мая работа.

— Ну, тады дамовіліся...

— Грамадзяне, пашкадуйце і мяне! Вазьміце і нада мной хто-небудзь шэфства: заелі праклятыя задачкі... Толькі дамоў прыйду, не паспею нават падсілкавацца як трэба, не тое што адпачыць, а мяне ўжо саджаюць за матэматыку. Калі яшчэ так месяц працягнецца — наўрад ці вы мяне больш убачыце ў гэтым класе! Не верыце? Зірніце, як я змарнеў, схуднеў, на пудзіла падобны стаў...

Грымнуў вясёлы смех: шчуплая постаць пакутніка матэматыкі выклікала шчырае шкадаванне.

У гэты момант раптам пачуўся трывожны голас:

— Ціха, класны ідзе...

Рыпнулі дзверы, увайшоў з журналам сівы настаўнік, павітаўся:

— Добры дзень, шаноўныя бацькі!

Пачаўся бацькоўскі сход.

*1977*

## ВОЎКА

Мне падабаюцца бацькі Воўкі — Цімох Цімохавіч і Эльвіра Сямёнаўна. Яны так падобны адзін да другога, абое такія маленькія, тоўсценькія і дабрадушна-круглатварыя, нібы родныя брат і сястра. І Воўка гэткі ж чорнагаловы таўстунок. Толькі вельмі капрызны. Пястун. Адзіны нашчадак.

Мы жывём у адным доме, кватэры нашы побач, і я іншы раз чую, як за сцяной ён «выбівае» чарговую пакупку...

— Супакойся, радасць, купім... Усё купім! Ты ж у нас адзін, золатка...

А «золатка» раве:

— І магнітафон ха-чу-у...

Ды вось ужо працяглы час я не бачу і не чую Воўкі: паехаў у піянерскі лагер. Аб гэтым я даведваюся асабіста ад Эльвіры Сямёнаўны. Заплаканая, яна неяк заходзіць да мяне са сваім мужам.

— Зірніце, што наш гаротнічак з лагера піша,— усхваляваным голасам гаворыць яна і паказвае паштоўку, на якой крывымі літарамі накрамзолена: «Мама і тата! Забярыце мяне з лагера. Мне тут не дазваляюць доўга спаць і не даюць шакаладных цукерак...»

Эльвіра Сямёнаўна выцірае хустачкай вочы, і яе рука ў залатых пярсцёнках сярдзіта нацэльваецца на Цімоха Цімохавіча:

— Гэта ўсё ён, ён! Яму адзінае дзіцятка перашкаджала... дысертацыю пісаць! Спецыяльна і накіраваў яго ў лагер... у лес... камароў карміць...

Мінае яшчэ колькі дзён. І вось надвячоркам да мяне звоняць суседзі. Адчыняю дзверы і не пазнаю іх — такія абое няшчасныя, прыгнечаныя і разгубленыя...

— Парайце, што рабіць,— кідаюцца яны да мяне.— Грозіць у пісьме Воўка, калі мы яго не забяром, ён напіша на нас скаргу... Вы чуеце, скаргу на ўласных бацькоў! Парайце што-небудзь...

Я даю параду — не звяртаць увагі на Воўкавы штучкі. Нічога з ім не зробіцца. Прывыкне. Так-сяк супакоіў. Пайшлі.

Але што вы думаеце? Праз які тыдзень зноў суседзі прыбягаюць — бяда, не піша Воўка! Спрабавалі званіць у лагер — не дазваніцца. Нешта здарылася!

— Міленькі вы наш, даражэнькі, звяртаемся да вас з вялікай просьбай... Хочаце — на калені стану... У вас — машына. Вязіце нас да яго, вязіце да нашага сыночка,— моліць Эльвіра Сямёнаўна.

Гляджу — сапраўды, вось-вось укленчыць... Давядзецца ехаць.

Прыгнаў машыну, пасадзіў няшчасных бацькоў і — у дарогу.

У лагер прыязджаем апоўдні. Ставім машыну на пляцоўку і шыбуем сцяжынкай у сасновы лес. У лесе

ціха-ціха. Гарачыня. Пад дрэвамі — нікога, адны блакітныя домікі туляцца.

— Ну, вось бачыце? — ледзь варушыць вуснамі Эльвіра Сямёнаўна.— Дзяцей няма... Прадчувала: усе пайшлі шукаць майго Воўку... З ім — няшчасце...

Якраз у гэты момант да нас падбягае дзяўчынка-дзяжурная ў белай панамцы.

— Дзе дзеці? — пытаюся.

— На рэчцы,— сумна ўздыхае дзяўчынка.

Спалоханая Эльвіра Сямёнаўна хапае нас за рукі і моўчкі, апантана цягне некуды праз густы зялёны хмызняк.

І — недарэмна. Аказваецца, за сцяной арэшніку — рака. Вунь як зіхаціць, вунь як унізе, у вадзе, таўкуцца дзеці. Чуюцца іх гарэзлівыя крыкі, смех.

— Здаецца, ён — там,— раптам разгублена гаворыць Цімох Цімохавіч.— Здаецца, я яго бачу...

І вось, не згаворваючыся, Цімох Цімохавіч і Эльвіра Сямёнаўна, смешна куляючыся, імкліва скатваюцца па пясчаным схіле ўніз.

— Воўка! Во-ві-ік! — завуць яны.

Загарэлы чорнагаловы таўстунок бяжыць ад ракі ім насустрач — цэленькі, здаровенькі, вясёленькі...

— Ур-ра! — радасна крычыць ён.

— Ура-а...— спрабуе адгукнуцца задыханая Эльвіра Сямёнаўна і не можа — не стае ўжо сіл...

Цікавыя людзі, гэтыя бацькі!

*1977*

## КАШОЛКА

Быў шэры вясновы дзень. Пагрозліва грымела неба, дажджыла. Інжынер Рыгор Рыгоравіч Смактунец, чалавек пенсійнага ўзросту, тоўсты і хваравіты, санліва брыў з трэстаўскай сталовай у свой кабінет. Абед яму вельмі спадабаўся: ружовы халаднічок, густа прыпраўлены смятанай, добра падсмажаная качка... Не тое што ў камандзіроўцы, з якой ён толькі што вярнуўся. Ад сытнага абеду ўсё цела налі-

лося прыемнай стомай — так і цягнула падрамаць за рабочым сталом свае звычайныя паўгадзінкі. Але Рыгор Рыгоравіч адчуваў, што сёння гэты фокус яму не ўдасца: вельмі ўжо растрывожыў перадабедзенны званок земляка Хамутоўскага... Прычапіўся як смала: «Дазвольце зазірнуць да вас, аддзячыць... Я абавязаны!» Ён абавязаны... Яшчэ б не абавязаны! За добрыя словы ніхто нічога не робіць. Чаго толькі каштавала Рыгору Рыгоравічу «прабіць» кватэру пляменніцы Хамутоўскага... Але, як кажуць, беражонага бог беражэ. Прасіў на працу падарунак не несці... Строга ўжо вельмі стала ў трэсце. Прыкмецяць — бяды не абярэшся. Вунь гэты мясцкомавец Дрозд так і стрыжэ вачамі. Малады, малако на губах не абсохла, а ўсюды свой нос тыцкае, усё не па ім!

Адчуваючы, як канчаткова псуецца настрой, Рыгор Рыгоравіч сярдзіта тыцнуў ключом у дзверы кабінета, але яны нечакана самі лёгенька адчыніліся з ціхім таямнічым рыпам. Пракляты склероз! Зноў забыў за сабой дзверы замкнуць... Так хутка і галаву згубіш. Ён з прыкрасцю, неахвотна падсунуў крэсла да стала, мякка сеў, прывычна выцягнуў ногі і... аслупянеў: перад ім, у кутку, на старым чорным сейфе бялела вялікая круглая кашолка. З яе, як ствалы дрэнна замаскіраванай батарэі, здрадніцкі тырчалі сярод кветак бліскучыя рыльцы бутэлек шампанскага...

Цэлы рой трывожных думак ліхаманкава пранёсся ў галаве Рыгора Рыгоравіча: хто занёс кашолку ў кабінет?! Безумоўна, Хамутоўскі... Сумненняў ніякіх, яго, нягодніка, падаруначак. Во падсунуў дык падсунуў свінню... Вось і рабі пасля гэтага людзям дабро: падвядуць пад манастыр — раз плюнуць... Зараз хто-небудзь зойдзе, убачыць і раззвоніць на ўсю ўстанову. Тады выкручвайся, даказвай, што ты не вярблюд...

Ледзь не плачучы ад прыкрасці і страху, Рыгор Рыгоравіч схапіў кашолку і папёр яе на калідор. Ён яшчэ не ведаў, куды цягне — у цёмны куток гардэробнай ці пад лесвіцу. Адзіным яго жаданнем было неадкладна пазбавіцца кашолкі, схаваць пракляты «падарунак». Аднак кашолка была цяжкаватай, і Рыгор Рыгоравіч мусіў прыпыніцца. У тую ж хвіліну пачуліся гулкія крокі: з другога канца калідора дыбала знаёмая цыбатая постаць. Яна пагрозліва сунулася насустрач, расла,

як навальнічная хмара. Мясцкомавец Дрозд! Спалоханы Рыгор Рыгоравіч хацеў кінуць злашчасную кашолку і ратавацца ўцёкамі. Ды толькі ўцякаць было позна: Дрозд ішоў хутка, ён быў амаль побач, і шкельцы яго акуляраў блішчалі бязлітасна-строга. Уцягнуўшы галаву ў плечы, засланіўшы кашолку шырокім целам, Рыгор Рыгоравіч паспрабаваў сунуцца назад, у свой кабінет: раптам не заўважыць. Але малады басавіты голас ужо разносіўся па ўсім калідоры:

— Вы ўжо несяцё? Ну і добра! А я толькі хацеў сам забраць... Давайце ў актавую залу... Увесь калектыў сабраўся. Там гэты гасцінчык і абнародуем!

Паркет паплыў пад нагамі Рыгора Рыгоравіча: засыпаўся... З апошніх сіл ён ухапіў кашолку і панёс следам за Драздом. Ніколі ў жыцці ні адна рэч не здавалася яму такой цяжкай, як гэта праклятая кашолка. Ён страшэнна ўспацеў, задыхаўся. Каля дзвярэй актавай залы спыніўся і трусліва, блытана, яшчэ спадзеючыся на нейкі цуд, пачаў плаксіва тлумачыць наконт кашолкі Хамутоўскага... Але заклапочаны хлопец толькі здзіўлена ўсміхнуўся, пагардліва махнуў рукой — маўляў, потым разбяромся — і ўпіхнуў разгубленага Рыгора Рыгоравіча ў дзверы.

У маленькай зале было цесна. Не прабіцца. Дрозд узяў з рук Рыгора Рыгоравіча кашолку, высока падняў над галавой (спецыяльна, каб усе бачылі!) і панёс на сцэну, у прэзідыум.

Буйныя кроплі поту засцілалі вочы Рыгора Рыгоравіча. Ужо не маючы сіл ні глядзець, ні слухаць, ён апусціў галаву і лавіў са сцэны толькі асобныя фразы, з жахам чакаючы, калі назавуць яго прозвішча. А за вокнамі ліў дождж, бліскалі маланкі, ракатаў гром. Усё, усё было супраць яго, Рыгора Рыгоравіча! Потым на сцэну чамусьці падняўся сівы інжынер Каласкоў. І адтуль, як адгалосак грому, прагучаў бас мясцкомаўца Дразда:

— Гэтую скромную сувенірную кашолку мы падрыхтавалі ўсім калектывам і ўручаем нашаму шаноўнаму юбіляру ў дзень яго пяцідзесяцігоддзя...

Ачмурэлы Рыгор Рыгоравіч не верыў сваім вушам... Толькі цяпер ён нарэшце ўспомніў пра юбілей Каласкова, пра тое, што яшчэ з зарплаты разам з усімі даваў грошы на падарунак.

— Дык аб якім гэта Хамутоўскім вы мне расказвалі, Рыгор Рыгоравіч? — пачуў ён раптам зноў побач знаёмы бас.

Спалохана ўзняў галаву: над ім узвышалася мефістофельская постаць Дразда. Той — рагатаў. Шчыра, нястрымна, аж трэсліся шырокія плечы. І гэтак жа весела, шырока грымеў на вуліцы вясновы гром...

*1976*

# ВОЛЬНЫ КАЗАК

У аўтобусе нехта наўмысна штурхануў мяне ў плячо, і я павярнуў галаву ў той бок, адкуль густа несла спіртным. Няголены твар незнаёмага мужчыны кампанейскі ўсміхнуўся мне.

— Адкуль едзеш? — як стары сябра, спытаў ён.

— З работы,— адказаў я.

— А я... з нар... нар... суда-а... Разводзіўся!

Пасля такой вычарпальнай інфармацыі можна было б і не працягваць размову. Але мой аўтобусны сусед не збіраўся маўчаць. Тым больш што новыя пасажыры шчыльненька прыціснулі нас адзін да аднаго — хоць у самае вуха шаптаць можна.

— Я цяпер вольны казак... Чуеш? Хачу — ажанюся, хачу — развядуся... Так і на судзе заявіў: не ўмешвайцеся ў мае сямейныя справы! Магу ж я мець асабістае жыццё, а? Як кожны працоўны? Магу... А ім не падабаецца маё асабістае жыццё! Яны ад мяне кахання да жонкі патрабуюць... Каб я, як гэты... Анегій Яўгенін... перад жанчынай поўзаў. Не дачакаецеся! Не тыя часы, кажу... Не тыя, даражэнькія... Ведаем і мы гісторыю з літаратурай... Ад самых фараонаў... Мая жонка, што хачу, тое і кажу ёй. І накрычу, і зняважу, і... Ніхто не лезь мне пад руку! Можа, я яе, гэткую Клеапатру, жыццю-розуму вучу? Маю на гэта права ці не? Маю! Зарплату не да суседкі, а дамоў нашу... За такія грошыкі — ого-о можна! Хоць у тую Гвінею шуруй бананы лопаць! А я — жоначцы... Затое ўжо калі кампанію дамоў прывёў — закусь на стол царскую! І не шык-

ні, і не пікні... Прымай, каб не сорамна... Вось я які! Толькі ж у гэтым судзе, думаеш, разумеюць душу простага чалавека? Вунь сёння... Адна такая сядзіць, засядацельніца, нос свой моршчыць і ўсё мне кідае: «Паважайце, паважайце жанчыну...» Ах, ах, ах! Ды калі б я яе не паважаў, я б ёй сваё прозвішча не даў! Была б яна якой-небудзь Зязюлькінай, а не Калупаевай. Але цяпер усё, баста! Будзе даражэнькая Зязюлькінай кукаваць... «Паважайце, паважайце...» Усіх не напаважаешся! Слухай, ты... жанаты? Кідай! Вольным будзеш... Вось як я зараз: куды хачу, туды іду... Магу нават да цябе пайсці, хочаш? Заначую...

Ён з надзеяй схапіў мяне за руку, але я памкнуўся да выхада.

— Ты куды? Што шары круціш? Не падабаюся, можа? Ну і не трэба, пашкадуеш... Валяй, валяй у жончын манастыр! Я — вольны казак... Пераначую... дзенебудзь...

*1975*

## ТАЙНА

Сёння ў маім доме незвычайны дзень. Можна сказаць, гістарычны. Аб гэтым я намякнуў жонцы яшчэ надвячоркам:

— Заўтра цябе чакае нештачка дужа прыемнае...

Заінтрыгаваная жонка ўсю ноч не спала, варочалася, і яе ўздыхі перашкаджалі мне спаць, але, мабыць, упершыню я стрываў, не ўсчаў сваркі — каб не прагаварыцца, не выдаць сваёй тайны.

А з'явілася гэтая тайна гадоў мо з пяць назад. Тады, памятаю, таксама быў Міжнародны жаночы дзень. Адзначыў яго так, што сябры мусілі прывезці мяне на машыне. Але лепш бы яны гэтага не рабілі, лепш пакінулі б мяне пад адкрытым зоркавым небам: які грандыёзны скандал жонка ўчыніла! Бр-р-р... Закідала дакорамі, бы гэтымі... слезатачывымі гранатамі. А ўсё ад таго, што забыў ёй купіць падарунак. Не аказаў ад-

паведнай увагі. Памятаю, яна плача і я ледзь не плачу. Ад жалю.

— Я табе заўтра ж куплю падарунак,— слёзна абяцаю жонцы.— Хочаш — панчошкі, хочаш — духі...

А жонка — ні ў якую! Чамусьці нервуецца, крычыць, народную мудрасць прыгадвае: маўляў, дарагая лыжка к абеду... Ну яе, гэтую мудрасць, бокам яна мне вылазіць. Ніякай паблажкі мужу, ніякага спачування. А можа, я гэты... як яго? Склероцік. Таму і забываю пра падарункі, што хворы. Карацей, была ў мяне ночка бяссонная. Разважаў, шукаў выйсце з крытычнага становішча. І знайшоў, цудоўнае выйсце прыдумаў! Галава трашчыць з учарашняга, а я — песні пяю... Цяпер — кропка, цяпер па святах мяне ўжо не будзе мучыць сумленне, калі з пустымі рукамі да жонкі прыйду, без падарункаў. Усе гэтыя сувеніры я куплю і ўручу жоначцы адразу за некалькі гадоў... Хай цешыцца! Гэтак жа і мне спакайней — не трэба кожнае свята па магазінах швэндаць, у чэргах штурхацца, і ёй выгода: атрымае не адзін там малюсенькі флакон духоў, а... Між іншым, сама ўбачыць. Убачыць і зразумее, пераканаецца нарэшце, які я шчодры і ўважлівы. Больш не пасмее дакараць.

Так я сабе тады рашыў, але жонцы, безумоўна, нічога не сказаў. І ўсе пяць гадочкаў — ні гу-гу, ні словам не прагаварыўся, бярог сваю тайну.

І вось сёння, уяўляеце, рассакрэціўся! Сёння ў маім доме незвычайны дзень. Можна сказаць, гістарычны. Паклікаў суседак, жонку, дзяцей, выходжу страявым крокам на сярэдзіну пакоя, у руках — мяшэчак з падарункамі... Усе, вядома, сочаць за мной, чакаюць, хвалююцца: чым агарошу? А я гэтак знешне спакойна, нават абыякава вытрасаю на стол падарункі з мяшэчка і кажу:

— Дарагая, тут — усё... за ўсе пяць гадоў... Віншую! Бяры і ведай, які я ёсць чалавек! За мной — ніколі не прападзе.

А на стале — флакончыкі духоў, набор розных шчотак, люстэрка кішэннае... На кожнае свята што-небудзь! За ўсе пяць гадоў! Я — не скнара.

Бачу, жонка ад нечаканасці слова вымавіць не можа. Пачырванела, слёзы выцірае, каб не заўважылі: побач суседкі стаяць.

— А вашы як... наконт падарункаў? — пытаюся ў суседак.— Дараць? Калі не — не дакарайце іх. Можа, і яны ашчасліваць вас калі-небудзь... як я!

Суседкі сумна ўздыхаюць. Зайздросцяць маёй жонцы!

*1976*

## НЕШТА ВАЖНАЕ

Я ішоў па тэрміноваму выкліку галоўнага інжынера трэста на нараду.

— Пачакай хвілінку! — пачуў за плячыма голас.— Хачу табе нешта важнае сказаць...

Азірнуўся — таварыш па службе наганяе, Іван Галаўня.

— Ледзь дагнаў... Фу ты! Здароў!

— Добры дзень, Іван. Чаго хочаш? Кажы хутчэй — спяшаюся ў адно месца.

— Нічога, нічога... Паспееш. Я зараз табе, як ёсць, усё скажу... Закурыць маеш? А-а, цыгарэтамі забаўляешся... А я, даражэнькі, на самасад думаю перайсці — больш моцны!

— Слухай, не затрымлівай, кажы аб справе...

— Справа, браток, важная! Калі б не важная — не спыняў бы. І вось як усё гэта сталася... Паслухай. Іду я, значыць, па вуліцы...

— Карацей, Іван. Няма часу.

— Зараз, зараз. Пацярпі крыху і пра ўсё даведаешся. Пытанне ж, можна сказаць, у першую чаргу цябе і датычыцца.

Іван Галаўня хітра прыжмурыўся, зацягнуўся цыгарэтай і, не звяртаючы ўвагі на маю нецярплівасць, гаварыў паволі:

— Дык вось... Іду я гэта вуліцай, сонейка так прыемна свеціць, ветрык цёплы твар лашчыць — іду, як раптам бачу... каго б ты думаў?

— Ты чалавек ці звер, Іван? Я ж спазнюся: пяць хвілін засталося!

— Ай, які гарачы! Ну, дык слухай. Сустрэў я, зна-

чыць, галоўнага інжынера трэста Пятра Пятровіча. Падышоў ён да мяне, прывітаўся... Бачу, нешта хоча сказаць...

— Што ж ён сказаў?

— А-а, зацікавіўся! Пачакай, зараз аб усім даведаешся. Дай яшчэ закурыць!

Але я зірнуў на гадзіннік і... пусціўся бегчы па вуліцы.

— Куды ж ты? Пачакай, дай дагаварыць...

Я пачуў за спіною тупат Іванавых ног і цяжкае сапенне.

— Пачакай... Пятро Пятровіч перадаваў, каб ты на нараду не спазніўся, бо нехта з міністэрства прыехаў! І яшчэ казаў...

— Балбатун! — азірнуўшыся, крыкнуў я Івану і пагразіў яму кулаком.

Пасля гэтага Іван адстаў...

*1966*

## СКАРГА

«...Дарагая жоначка Марыя! Ты яшчэ пытаеш у пісьме, як справы з маёй скаргай. Вельмі ўдзячны табе, што нават у доме адпачынку не забываеш аб гэтым.

Са скаргай усё ў парадку. Пішу, галоўным чынам, начамі. Ведаеш, ніхто не перашкаджае: ні суседзі, ні дзеці, ціха... Калі памятаеш, у тым першым чарнавіку я лаяў Гайдучэнку за яго амаральныя паводзіны — за двааджэнства... Цяпер я пайшоў далей. Выкладаю ў скарзе яго недахопы па адміністрацыйнай лініі. Як дырэктара. Не сумнявайся, расчыхвошчу як мае быць!

Тут жа закрану і асабістае пытанне. Праўда, не ў гэтым галоўнае. Не дзеля сябе стараюся, а проста хачу выкараніць недахопы ў нашай установе. Ты ж мяне ведаеш...»

«...Дарагая Марыя! Вось ужо не чакаў, што ты так хутка адкажаш на маё пісьмо. І мне вельмі прыемна адчуваць нават здалёку тваю маральную падтрымку. Ты правільна кажаш — цягнуць са скаргай нельга,

9 Зак. 1913

трэба яе тэрмінова пасылаць. Так думаюць і мае сябры Цішкін і Чарнушэвіч. Яны мне самі нештачка вельмі каштоўнае паведамілі пра дырэктара... Такое, што ой-ёй-ёй! Дапішу сёння ж. Наш пяцікласнік на мяне ўжо крыўдзіцца — трэці ж сшытак ягоны заканчваю. І, ведаеш, чым больш пішу, тым большы гнеў адчуваю! Я зараз як тыгр. Не цярплю і грама несправядлівасці. Убачу, што акурак кінуў нехта на падлогу — хапаю за руку і тут жа прымушаю падняць. Вунь які я стаў!»

«...Дарагая Марыя! Гэтае маё пісьмо можа цябе засмуціць: скаргу я ўсё ж яшчэ не адаслаў... Ды не бяды! Самае непрыемнае, што аб скарзе ведаюць ужо ўсе супрацоўнікі нашай установы. Напэўна, ведае і сам дырэктар Гайдучэнка... Сёння ў час нашай звычайнай нарады ён нешта вельмі доўга пазіраў на мяне. Аж мурашкі забегалі па спіне... Разумееш, якая сітуацыя? Але не думай, што я спалохаюся і выкіну скаргу... Не для таго пісаў! Ты мяне, слава богу, ведаеш...»

«...Дарагая! Няма слоў, каб перадаць, як я ўзрушан! Не, не, страшэннага нічога не адбылося... Хутчэй наадварот. Уяві, толькі прыйшоў на працу — дырэктар выклікае... Значыць, пранюхаў пра скаргу. Думаеш, спалохаўся я? Не! Што будзе, то і будзе. Адкрываю дзверы, заходжу, а ён мне з парога:

— Абмяркоўвалі вашу кандыдатуру. Улічваючы, што чалавек вы здольны, рашылі павысіць... Будзеце старшым у аддзеле.

Вось і ўсё, дарагая... Прыязджай хутчэй дамоў. Чакаю. Ды не напамінай мне болей пра гэтую скаргу... Я яе не выкінуў. Яна ляжыць у надзейным месцы: у шафе, там, дзе дзве ранейшыя на наша домакіраўніцтва...»

*1966*

## ВІТАМІНЫ

Як убачылі мы з жонкай суседа па новай кватэры, дык адразу і рашылі: птушка не нашага палёту... Персона, самае меншае — кампазітар. У каго яшчэ могуць быць такія доўгія чорна-сінія валасы і такія худыя доў-

гія пальцы? А нос, нос! Гэткі ж доўгі і крывы, як у таго лысага, што нашу Соньку музыцы вучыў...

— Цяпер ніякага спакою нам не будзе,— сказала мне жонка.— Цяпер ад гэтых сімфоній барабанныя перапонкі палопаюцца... Давядзецца кватэру мяняць.

Але, дзякуй богу, усё абышлося: сусед надзвычай спакойным аказаўся. Асабіста я ўжо сумнявацца наконт яго пачаў: можа, ён зусім і не персона?

Не ведаю, колькі б мучыла мяне гэтае пытанне, каб у адзін цудоўны вечар ён сам, сусед, не зазірнуў да нас пазычыць цыбуліну. Мы яму выбралі самую вялікую. Ён падзякаваў і проста так, шчыра прызнаўся:

— Ведаеце, люблю суп з цыбуляй: вітаміны! А нам, творчым людзям, вітаміны дужа патрэбны. Без іх — прападзеш. Без іх кнігі не складзеш...

Пасля гэтага візіту нам з жонкай усё стала зразумела: побач жыве пісьменнік. Ён піша кнігу. Можа, таўшчэзны раман. Уяўляеце, як пашанцавала?! Іншы толькі марыць, каб убачыць сапраўднага пісьменніка, а тут амаль кожны дзень да нас забягае па цыбулю. Па загаду жонкі я цэлы мех гэтага дабра купіў: хай есць на здароўе, хай працуе... Ён яшчэ неяк заікнуўся, што вяндліну любіць. Дык мы і вяндлінкі яму... хе-хе... і чарку па-суседску... Для такога чалавека нічога не шкода: можа, здагадаецца і нас з жонкай уставіць у свой раман. Кожны вечар да сябе запрашаем, частуем: навошта яму куды хадзіць, назіраць, хопіць і нашай кватэры — во яно, жыццё, пад носам, хапай толькі!

Мы нават, калі гаварыць шчыра, з жонкай часова лаяцца перасталі: нельга! А раптам заўважыць пісьменнік! Так, ціхенька, пашыпім адзін на аднаго, а каб гвалт на ўвесь дом — ні-ні... Дамовіліся — ніякіх сварак, спрэчак, п'янак, потым ужо, як напіша кнігу, сваё наверстаем...

Учора зноў запрасілі да сябе на кумпячок. Нельга ж такому чалавеку толькі на адных вітамінах жыць. Усеўся ён за стол, пыхкае цыгарэтай, задаволена круціць галавой і гэтак паважна гаворыць нам:

— Ну, дарагія, віншуйце... Нарэшце кніжка мая выходзіць з друку. Цяжкі наш хлеб, але затое колькі радасці адчуваеш пасля працы! Заўтра вам першым уручу кнігу...

Жонка, безумоўна, аж млее ад шчасця, не вытрымала, пытаецца:

— Ну, а нас... нас вы хоць уставілі ў тую кнігу?

— А як жа... Гэта мой абавязак!

— Што... і прозвішча ёсць?

— Усё як трэба: і прозвішча, і ініцыялы...

Тут ужо не толькі жонка — і я ад радасці на сёмым небе, ледзь не скачам: праславіліся! Ну, чаго яшчэ нам не хапала ў жыцці! І кватэрка, і машына, і дача ёсць... Цяпер вось, пад старасць, у кніжку трапілі!

Як толькі сусед знік, кінуўся я да тэлефона і ўсім сваім знаёмым расказаў пра навіну. Не вераць, чамусьці сумняваюцца. Мусіў таго-сяго нават запрасіць дамоў на бутэльку: самі пабачаць, як пісьменнік будзе ўручаць нам свой раман! Не ўсім жа ў жыцці так шанцуе...

Раніцою я пайшоў на працу, на сваю гандлёвую базу, вечарам вярнуўся з цэлай батарэяй бутэлек. Банкет дык банкет! Для такой урачыстасці ніякіх сродкаў не шкада. Згрузіў на кухні ўсё гэтыя каньякі і шампанскія, клічу гаспадыню. А яна — не ідзе. Клічу — маўчыць. Тады я ў спальню. Там! Ляжыць на ложку і румзае.

— Чаго румзаеш, дурніца? — пытаюся.— Зараз госці ж прыйдуць, наш пісьменнік. Кніжачку абмыем, пра сябе ў ёй пачытаем...

Маўчыць, не абзываецца. Раптам бачу — на падлозе нейкая кніжка валяецца. Падняў: тэлефонны даведнік. Новенькі. Яшчэ фарбай пахне.

— Навошта купіла даведнік? — злуюся.— Абы грошы выкінуць?

— Адчапіся! — крычыць.— Ніякага я даведніка не купляла. Гэта... сусед табе прынёс сваю кнігу...

Ну, бачылі вы такое? Во падвёў, во закруціў мазгі... Ён жа наша прозвішча не ў раман, у даведнік уставіў... А столькі цыбулі на яго, бессаромнага, паравялі! Ві-та-мі-ны, каб цябе...

*1977*

# ПАКУТЫ «ЭПІКА»

Ціхан Крупняк прытаіўся ў густым лазняку і, баючыся нават варухнуцца, адчуваючы толькі трывожнае біццё ўжо немаладога сэрца, слухаў: усяго ў якіх трох кроках ад яго, на стромістым беразе ракі, сядзела вакол вогнішча трое мужчын. Узрушана гутарылі. Ціхан Крупняк да таго выразна бачыў гнеўныя твары, злавесна асветленыя ў начной цемры чырванню полымя, што ў яго ўжо не заставалася ніякага сумнення: старыя знаёмыя...

П е р ш ы *(з суровай рашучасцю, раз'юшана кідаючы ў агонь смалякі).* Калі б я зараз сустрэў гэтага Крупняка — без ваганняў адправіў бы на той свет! Ён мне ўсё жыццё сапсаваў... Ну, добра, хай я рос без бацькоў, хай гуляў у карты з хлопцамі і кінуў школу... Чаго не бывае ў маладосці! Дай жа мне самому разабрацца ў сваім жыцці, не рабі з мяне злачынцу... Дык не, па яго ж волі трапляю ў турму. Не паспяваю выйсці, сям'ёй абзавесціся, чалавекам сябе адчуць, зноў уцягвае ў афёру. І так — бясконца. Нарэшце, нават нацкоўвае мяне на цешчу.

Д р у г і *(спачувальна і скрушліва).* І ўсё ж твой жыццёвы шлях, браток, куды лягчэй майго... У цябе ўсё прасцей: злачынства — турма... А паспрабуй пажыць у маёй скуры донжуана! Паспрабуй пяць разоў ажаніцца і пяць разоў развесціся! Чаго хіхікаеш? Думаеш, мне так ужо і прыемна, такая ўжо і асалода? Ты зірні, на каго я стаў падобны: форменны шымпанзе, твар, як печаны яблык, на галаве ні валасіны, рукі трасуцца... І ўсё па міласці гэтага бессардэчнага Ціхана Крупняка. Падсоўвае і падсоўвае мне маладзіц — яму абавязкова трэба, каб мяне цягалі ды разбіралі на таварыскіх судах. Страшэнны эгаіст! Прызнаюся табе шчыра: і ў мяне рука не задрыжыць, калі сустрэнуся з ім... У гэтага ж чалавека ніякага сумлення. Цяпер вось у бальніцы я — вядома, пенсіянер! Дык ён і там не пакідае: семнаццацігадовая сястрыца ў палаце з'явілася... І такую падабраў, свіння, вачэй ад яе не адвядзеш: чарнавокая, танклявая, бы чарацінка, косы тугія... Адным словам, Нефярціці! (Падазраю, сам ён па вушы ў яе закаханы.) Ну, а я... што я? Ужо заляцаўся па старэчы, кхы, кхы... Адчуваю — уліп. Ажэніцы!

Т р э ц і (п'яна рагоча). Ха-ха-ха...

Д р у г і *(пакрыўджана і плаксіва)*. Чаго рагочаш, п'яная морда? Тут трагедыя... Насілле... Куды мне, гніламу пню, жаніцца, а? Пасля гэтай жаніцьбы адна дарога — у вар'яцкі дом... І ён такі мяне ўпячэ туды.

Т р э ц і. Нічога, стары... Мне яшчэ цяжэй: які год з выцвярэзніка не вылажу! Не паспею на работу выйсці, тое-сёе зарабіць, а ён мяне, гэты Крупняк, у рэстаран ужо валачэ-штурхае або сябрукоў падсылае з бутэлькай... Вось я і гатовы! І што цікава, сам сабе брыдкі, не кажучы пра людзей, а яму — падабаюся! Ніяк не адвяжацца... Ужо нейкую багатую цётку мне адшукаў: памерла і спадчыну пакінула пляменніку... Эх, атрымаю грошыкі і зусім сап'юся! Хай радуецца, калі яму, людаеду, усё мала.

П е р ш ы *(насцярожана)*. Цішэй! Нехта ў кустах шамаціць... Падслухоўвае, гад! Чакайце, зараз я яго правучу... Усё роўна турма!

...Ціхан Крупняк жахліва ўціскае твар у нешта мяккае і мычыць, енчыць бездапаможна... Усё, капцы! Ад гэтага бандзюгі літасці не будзе...

— Ратуйце,— дзіка крычыць ён, не вытрымаўшы.

— Сціхні, вар'ят! Чаго ты гарланіш?

І — моцны штуршок у бок... Ад болю Крупняк расплюшчвае вочы і сам сабе не верыць: жонка!

— Нагаблюе гэтых эпічных раманаў, навыдумляе немаведама якіх герояў,— ледзь не плача яна,— а потым усю ноч трызніць, спаць не дае...

*1973*

## ПАЦЕЙКА — ГЭТА Я...

*Споведзь крытыка*

Сумныя ўспаміны пра мінулае заўсёды прымушаюць задумацца... Варушацца думкі-хмурынкі ў галаве, ды раптам сонечныя зайчыкі замігцяць, і радасна гэтак сэрцу стане. Вунь якіх вышынь дасягнуў, вунь як прыгожа сігануў... у літаратуру! Вы ж, напэўна, «Нарысы

крытычнай думкі» І. А. Пацейкі чыталі? Не? Ну, усё роўна, Пацейка — гэта я. А пачынаў жа...

З вершаў, з вершаў пачынаў, даражэнькія вы мае. Божачка, колькі бяссонных начэй, колькі пакут яны мне каштавалі!

У лукоморья дуб зеленый,
Златая цепь на дубе том...

Не, гэта, здаецца, не мае... Ды ўсё роўна, хай сабе. І ў мяне, магчыма, такія былі. І я нейкія санеты друкаваў — пакуль Мышэвіч не пачаў на іх рэцэнзіі кляпаць... Ах, як ён мяне чыхвосціў! Ах, вяпрук куслівы, як жа грыз... Не паспею я нізачку вершыкаў змясціць — ён тут як тут: Пацейка здольнасцей не выяўляе! Каб цябе... з тваімі здольнасцямі. Крывёю маё юнацкае сэрца аблівалася, ніякага паратунку не было... І прасіўся ў яго, і ў рэстараны вадзіў-частаваў... Не дапамагло. Абраза за абразай, таўчэ і таўчэ.

Аднойчы давёў-такі... Хочаце верце, хочаце не, а рашыў я самагубствам скончыць. Як цяпер памятаю, сеў за пісьмовы стол, паклаў перад сабой стосік з'едлівых Мышэвічавых рэцэнзій, а слёзы — кап-кап на паперу... Кап-кап... Бяры, злыдзень, жыццё маладога паэта, забірай, еш, пракляты Дантэс!

І тут раптам як бы нейкая маланка пранеслася ў маёй беднай галаве, нейкі страшэнны гнеў апёк маё пакутлівае сэрца... Аж заенчыў ад злосці: «Не, на гэты раз не выйдзе ў цябе, Мышэвіч-Дантэс! Не той час...» Схапіў ручку і за адну кароткую маёвую ноч напісаў рэцэнзію на рэцэнзіі гэтага самага... Мышэвіча-Дантэса. О, які атрымаўся артыкул! З'едлівы, востры, напорысты... Такіх я, здаецца, болей і не пісаў у жыцці. Занёс у газету — з рук вырвалі, надрукавалі. Нябачаны трыумф! І што ж вы думаеце? З таго жахлівага часу мой крытык як у рот вады набраў... Ні радочка пра мяне... пра мае вершы...

У лукоморья дуб зеленый,
Златая цепь на дубе...

Чакайце, чакайце, ці маё гэта? Чужога мне не трэба... Вось «Нарысы крытычнай думкі» І. А. Пацейкі чыталі? Не? Ну ўсё роўна... Пацейка — гэта я!

*1973*

# НЕ ЛЕЗЬ У БУТЭЛЬКУ...

Пісаць рэцэнзіі — не жартачкі. Семярым паабзацаў — аднаму напішы. Бо крытык у літаратуры, як на полі бою: каб выйграць, яму і стратэгію і тактыку ведаць трэба, вёрткім быць. Ёсць і ў мяне свае залатыя правілы.

Перш чым крытыкаваць, добранька падумай — каго ты збіраешся крытыкаваць. А то ж што атрымліваецца часам? Іншы маладзёнак ледзьве праклюнуўся, а ўжо, глядзіш, на ўвесь белы свет кукарэкае. Яму і тая кніжка не па душы, і тая не да спадобы, і Пятро Пятровіч нікчэмны празаік, і Іван Іванавіч да Пушкіна не дарос. А гэты ж Пятро Пятровіч, можа, рэдактар таўстога часопіса, а той Іван Іванавіч — яшчэ вышэй! А ён іх, нібы кацянят у малако, тыцкае, павучае. Ну, і... абрэжуць крыльцы малойчыку — не закукарэкае болей.

Дык вось мая парада найпершая: не чапай літаратурныя аўтарытэты. І, хоць свярбяць рукі, цярпі! Цярпенне, цярпенне і яшчэ раз цярпенне! Беражы свой талент, не лезь у бутэльку. Тваё табе застанецца. Выйдзе, скажам, Пятро Пятровіч на пенсію, а Іван Іванавіч спячэцца на пасадзе (з кім не здараецца!), тады і крытыкуй сабе ад пуза! Дзесяць, дваццаць адмоўных рэцэнзій пішы пра іх творы... Ніякіх непрыемнасцей!

Цяпер, значыць, як лепш крытыкаваць? І наогул, можа, давайце мы не будзем ужываць гэта незразумелае грэчаскае слова «крытыка»? Зрэшты, што ў нас, сваіх гучных слоў не хапае? Ёсць, ёсць слоўцы — і мяккенькія, і салодзенькія, бы тыя варэнічкі, самі на язык просяцца...

Вось бы і артыкулы ўсе такія — ні дзёрзкага, крыўднага слова, ні дакору! Дык я і мяркую сабе — усё ж гэты грэчаскі тэрмін «крытыка» трэба скасаваць. Раз і назаўсёды. Замяніць сваім. Будзем казаць, напрыклад, не «аддзел крытыкі», а «аддзел сяброўскага слова»... Цудоўна, га? Можна прыдумаць, канечне, штонебудзь яшчэ больш мяккае і пяшчотнае, але справа гэта ўжо маладзейшых — галовы ў іх, дзякуй богу, свежыя, разумныя.

Не буду хаваць ад вас, ёсць цяперака пэўная думка — прынцыпова выяўляць недахопы ў мастацкіх

творах, як кажуць, аналізаваць... (Цьфу, зноў грэчаскае слова!) Але навошта? Да чаго мы дакоцімся? Я яго кнігу расчыхвошчу, ён — маю, той — яшчэ чыю-небудзь. Гвалт, скандал! Так мы ўсе перасварымся, нервы перапсуём. А людзі ж і ў гадах сярод нас ёсць, да ціхенькага прызвычаіліся... Не, калі прыспічыла ўжо другому сказаць жорсткае слова пра маю новую кніжку, калі ласка, заходзь да мяне на кватэру, маралізуй. На такі выпадак і каньячок знойдзецца. Сядзем, пагутарым, спяём нават і — разыдземся добрымі сябрамі. Толькі не пішы ты на мяне абразы якой у часопіс... Заўсёды памятай мудрасць старажытных: сказанае — знікне, напісанае — застанецца...

Вось што я мяркую пра крытыку, браточкі мае. Не салодкі гэта хлеб, вядома. Але калі ля яе, крытыкі-матухны, з розумам — не падвядзе, а яшчэ нават — пракорміць!

*1974*

## ІНТЭРВ'Ю

У яе хутка юбілей. І ў яе вось-вось выйдзе ў выдавецтве двухтомнік выбранага, у якім шырока прадстаўлены амаль усе жанры сучаснай літаратуры — ад дзіцячых вершаў і апавяданняў да лірыка-эпічнай паэмы.

— Як вам пашэнціла ахапіць усё гэта?!

Прыжмураныя, яшчэ даволі прыгожыя вочы пазіраюць на мяне, наіўнага, паблажліва і зычліва.

— Змагла,— адказвае яна загадкава.— Талент...

Ціхія восеньскія дажджынкі журботна шамацяць за акном. Але яна звяртаецца да мяне досыць бадзёра:

— Ці даводзілася вам сустракацца з дзіцячым пісьменнікам Мурлыковічам? Не? Ну, вядома, стары ўжо даўно гойсае па Парнасе. А між тым мне было ўсяго васемнаццаць, калі я, нявопытнае дзяўчо, напаткала яго... Прыехала пракансультавацца. Смешна: вершы пра першае каханне прывезла! Ну, пагаварылі, тое ды сёе, а ён мне вазьмі ды і скажы: «Пішыце дзіцячыя

вершы, дзяўчынка. Каханне для жанчыны не ў вершах, а ў жыцці цудоўнае...» І як вочы мне адкрыў! Сяброўскую руку працягнуў... А што мне яшчэ трэба было, маладой паэтэсе? Пачалася ў нас творчая дружба. Дарэчы, вы чыталі маю першую кніжку «Гулі-гулі»? Потым выйшла «Курачка і пеўнік»... Як усё гэта хутка мінула!

На яе твары — цэлая бура пачуццяў, выкліканых успамінамі аб паэтычным юнацтве. Але, цяжка ўздыхнуўшы, яна задумліва працягвае далей:

— Неўзабаве нешта надламалася ў маёй душы... Нешта перагарэла і шукала выйсця. І я знайшла яго! Дзякуй небу — яно паслала мне нашага шаноўнага байкапісца Івана Іванавіча... Гэта ж ён, чулы, сардэчны, узяў мяне за руку і вывеў на цярністы шлях сатырыка. Гэта ён рэдагаваў мой першы сатырычны верш «Рагочуць без прычыны жанатыя мужчыны...». Памятаеце саркастычны рэфрэн:

Хі-хі, ха-ха,
Кожны з вас не без граха!

Яна неяк з'едліва смяецца і недвухсэнсоўна грозіць пальчыкам, нібы гэтыя радкі адрасуюцца менавіта мне.

— Але... Усё праходзіць, малады чалавек. Рана ці позна. Яшчэ цяпер я адчуваю на сабе моцны ўплыў Адама Салоўкі з яго задумлівай філасофскай лірыкай. Толькі прашу вас, не верце аніякім там плёткам. Нічога ў нас з ім сур'ёзнага не было... Ён проста па-сяброўску падтрымаў мяне ў адказную хвіліну майго жыцця. Так падтрымаў, як некалі Пушкін Гогаля, і падказаў мне ідэю маёй эпічнай паэмы «Не ўсё яшчэ страчана...».

— І вы, нарэшце, знайшлі сябе ў гэтым жанры?

Пільным, доўгім позіркам яна глядзіць на мяне:

— Вы так лічыце? А я не зусім упэўнена... Нядаўна блізка пазнаёмілася з адным чалавекам. Вы аб ім, безумоўна, чулі: кінадраматург Дудкін! Раіць мне пісаць сцэнарыі. Абяцае сяброўскую дапамогу. Адчуваю — згаджуся! Такія ўжо, мусіць, у нас, слабых жанчын, характары...

Кінуўшы заклапочаны позірк на гадзіннік, яна спалохана войкае:

— Ой, даруйце... Спяшаюся. Дзелавая сустрэча з Дудкіным... Дарэчы, вы, здаецца, крытык? Захапляюся вашымі артыкуламі. І сама, грэшная, нешта пачынаю рабіць у гэтым жанры. Можа... як-небудзь сустрэнемся, пагаворым?

*1973*

## ДЗЁННІК

Я пачаў весці дзённік... Адразу ж, як уладкаваўся працаваць у гідрапраектную арганізацыю. Пасля шэрага няўдач у іншых установах, дзе праз паўгода, а то і раней, мне чамусьці з ветлівай усмешачкай раілі падаваць заяву: «Па ўласнаму жаданню»...

— Слухай, а чаму б табе не паспрабаваць свой літаратурны талент? — неяк пасля другой шклянкі «Яблычнага» глыбакадумна прапанаваў мне былы школьны таварыш Жорка Жыгалаў.— Памятаю, ты нават вершыкі пісаў...

— Пісаў, а як жа... Іскра таленту ў мяне была. Усе казалі. Дзякуй богу, мог рыфмаваць словы... Аднойчы такую оду сачыніў пра нашага старога географа, ледзьве са школы не вытурылі... Аж цяпер смешна.

— А ты не смейся, а заводзь дзённічак на працы,— загадкава бліскаючы акулярамі, сказаў Жорка Жыгалаў.— І пішы ў ім так...

Так ці не так, а праз які месяц на маім рабочым стале ляжаў пухленькі сшытачак з прыгожым надпісам: «Працоўны дзённік інжынера Наседкіна».

Не шкадуючы эпітэтаў, з першага ж дня пачаў падрабязна занатоўваць свае думкі: «З'явіўся на працу без спазнення. Пазнаёміўся з калегамі. Добрыя людзі, чулыя. Але самае вялікае ўражанне робіць дырэктар. Які цудоўны чалавек, які разумнік Пракоп Пракопавіч! Шкада, што дагэтуль не сустракаліся на маім шляху такія абаяльныя людзі...» І наступная старонка была ў такім жа класічным стылі: «Па-ранейшаму працую... Заходзіў у аддзел Пракоп Пракопавіч. Нібы вясновы вецер завітаў у наш змрочны кабінет. Адзін знеш-

ні выгляд гэтага чалавека натхняе працаваць яшчэ лепш. Стройны, энергічны, падцягнуты. І гэта нягледзячы на свае амаль шэсцьдзесят год! Вось у каго вучыцца нам, маладым...» На адной з апошніх старонак, калі маё захапленне дырэктарам дасягнула апагея, я няўпэўненым почыркам напісаў: «Адчуваю, што не дастойны працаваць побач з такім чалавекам, як Пракоп Пракопавіч... Прыйдзецца падаваць заяву. А як бы хацелася ўсё жыццё бачыць перад сабой яго добрыя, разумныя вочы, чуць сардэчны мяккі голас...»

У той дзень я «незнарок» забыў свой дзённік на працы.

Назаўтра раніцою ледзьве паспеў павесіць плашч і павітацца з калегамі, як мяне тэрмінова паклікалі да дырэктара. Я нерашуча адчыніў дзверы кабінета і, убачыўшы ў руках Пракопа Пракопавіча дзённік, вінавата апусціў вочы...

— Што ж гэта ты, дарагі мой? — спачувальна, пяшчотна і заклапочана, як урач хворага, спытаў ён мяне.— Што ж гэта ты... Збіраешся пакінуць нас?

Я слаба ўсміхнуўся. Нібы не разумеючы, здзіўлена паглядзеў на дырэктара. Але ён пагразіў мне пальцам:

— Не хавай, не хавай, усё ведаю! Тут прыбіральшчыца знайшла дзённічак твой... Прызнаюся: саграшыў, чытаў...

У Пракопа Пракопавіча раптам запяршыла ў горле, ён збянтэжана адкашляўся і строга, але ж ласкава паўтарыў:

— Чытаў... Праўда, пра мяне ты там... дарэмна... Кхы, кхы... Але пішаш здорава! За сэрца бярэ... Не, талентамі мы пакуль што не раскідваемся. Так што нікуды я цябе, дарагі мой, не адпушчу.

...Учора я зноў сустрэў Жорку Жыгалава. Добранька з ім выпілі. За маю новую пасаду памочніка дырэктара, за мой, як сказаў Жорка, шчаслівы шлях у вялікую літаратуру.

*1974*

# ЖОНКА ПАЭТА

Не, яна не такая, як усе... Дастаткова больш уважліва прыгледзецца да яе, зазірнуць у яе глыбокія, бясконца журботныя вочы на бледным інтэлектуальным твары, каб зразумець гэта. А яшчэ ўсмешка... Колькі іроніі хаваецца ў куточках мяккіх вуснаў, калі яна з маркотным выглядам гаворыць пра якога-небудзь мужавага сабрата па пяру:

— Таленавіты? Адкуль вы ўзялі?.. Смешна нават слухаць. У мяне вунь у класе (яна — настаўніца) Мішка Матрунчык ёсць, дык і той лепш рыфмуе. Лепш... Не спрачайцеся!

Бадай што, у школе ніхто не чытае столькі літаратурных выданняў, колькі яна. І не чытае так хутка, як яна.

— Божа літасцівы, зноў гэты Гарнацкі са сваёй паэмай вылез... Бяздарнасць! А гэта, гэта што: «Вершы пра каханне»? Ха-ха-ха! Вой, трымайце мяне, памру... Ды ён жа, галубок, яшчэ і кахання сапраўднага не бачыў... А туды ж, піша, дзіцятка горкае!

Аднак, калі вяртаецца з працы муж, яна, збіраючы на стол, не-не ды і скажа, нібы незнарок:

— Паэму Гарнацкага чытала... Вялізная!

А праз некалькі хвілін — зноў:

— І гэты... Як яго... Цудоўныя вершы пра каханне напісаў! Во, мусіць, хто кахае! Не тое што іншыя...

Муж нервова круціцца на табурэтцы, маўчыць, панура пазірае ў міску. Толькі жонка не збіраецца канчаць сваю далікатную гаворку.

— Ведаеш, а Шышкін расце! Яго трынаццатая кніжка — цуд, пальчыкі абліжаш... І калі толькі паспявае? Кніга за кнігай. Малайчына! А ты... Еш, еш... Каўтай каўбасу...

Ды муж чамусьці не хоча есці. І не каўтае смачную каўбасу. Ён устае і з той жа панурасцю ідзе ў свой кабінет. Доўга курыць. Потым цяжка ўздыхае, садзіцца за машынку. Потым зноў курыць. І зноў шамаціць паперай. Не спіць ноч. І не адну...

Мінае некалькі дзён. І вось у кватэры паэта — нібыта вялікае свята. І жонка і дзеці ўслых чытаюць яго новыя вершы, надрукаваныя ў газеце.

— Ай, колькі многа напісаў татка! — у захаплен-

ні пляскае рукамі самая маленькая дачка, першакласніца.— Я б ніколі столькі не напісала...

— Наш татка — талент! — пяшчотна смяецца жонка, і твар у яе ў гэты момант лагодны, як ніколі.— Ён нам, дзеткі, яшчэ многа-многа напіша... Праўда, татка? Дарэчы, колькі табе заплоцяць за гэтыя вершы?

...Вечарам, у той жа дзень, муж і жонка доўга не спяць. Размаўляюць. Аб паэзіі. Канечне, аб сапраўднай, такой, за якую лаўрэатаў прысвойваюць. Праўда, не ўсе вартыя гэтага звання, але ўсё ж такі ёсць паэты, якія...

— Слухай, а табе маглі б прысвоіць званне лаўрэата... Нобелеўскай прэміі? — нечакана гарачым шэптам пытаецца жонка.— Ну, як Буніну?

Ашаломлены паэт дыпламатычна маўчыць. Хай лепш гадзіннік цікае... Але жаночая фантазія, бы мора — і берагоў тых не відно.

— Уяўляеш, любы: мы — у Швецыі... Палац... Кароль... Урачыстасць... І табе гавораць: «Сямён Сямёнавіч Супонька, будзьце ласкавы сысці ў залу і прыняць з рук яго вялікасці літаратурную Нобелеўскую прэмію, прысуджаную Шведскай акадэміяй». І сам кароль цісне тваю руку...

Усхваляваная жонка ціхенька смяецца. Паэт — спіць і не чуе, як яна, таксама засынаючы, мядовым голасам просіць яго:

— Ты толькі пішы, Супонька... Пішы, чуеш? Прэмія... Кароль... І я — у шыкоўнай сукенцы... Піш-шы...

*1974*

## САМАЯ ДАРАГАЯ

Маленькая зашмальцаваная кніжачка ляжала на газетным століку сярод кніжных паліц і насмешліва пазірала на тоўстыя рознакаляровыя тамы мастацкай літаратуры.

— Гэй вы, мастацкія! Як жывецца? — пісклявым галаскам пагардліва пыталася яна.— Усё стаіце?

— Усё стаім,— неахвотна адгукваліся кнігі на паліцах.

— І ўсё глытаеце пыл? — весела смяялася кніжачка.— Ну-ну, глытайце сабе на здароўе. Шкада мне вас. Салідныя вы, а што вы каштуеце! Затое зірніце на мяне: якая маленькая, якая тоненькая, а гаспадар са мной ніколі не расстаецца, каля самага сэрца трымае, усюды з сабой носіць... Дарагая яму я! Самая дарагая сярод вас...

Мудрыя кнігі маўчалі. Гэтую фанабэрыстую балбатушку яны ведалі даўно.

— Я вось зараз пайду з гаспадаром у адно месца,— урачыста заявіла кніжачка і ў той жа момант хуценька знікла ў вялікай кішэні.

Праз гадзіну яна вярнулася дахаты. Але што гэта? Здзіўленыя кнігі не пазнавалі яе: растрапаная, зусім шэрая, нібы з яе выціснулі апошнія сокі, кніжачка ляжала на ранейшым месцы. Падышла гаспадыня, узяла яе ў рукі, сумна пагартала старонкі з перакрэсленымі лічбамі — капейкі! — і абыякава кінула кніжачку ў куток са смеццем.

...Бедная ашчадная кніжка!

*1972*

## ЗАДАЧКА

Бяда з гэтай матэматыкай... Сын-першакласнік сядзіць пахмурны, гатовы вось-вось расплакацца. І бацька нервуецца, злы, ледзьве стрымлівае сябе, сярдзіта тыцкае тоўстым чырвоным пальцам у задачнік:

— Колькі будзе? Кажы, бесталач!

Сын шморгае носам і маўчыць.

— Ну, што ж,— устае бацька,— не можаш з кніжкі рашыць, паспрабуем тады ўзяць з жыцця... Ты ведаеш нашага суседа, дзядзьку Васіля?

— Ведаю.

— І ведаеш, што ён пісьменнік? І што гадоў дзесяць назад напісаў раман «На ўсё жыццё»?

— Мама на гэты раман фікус ставіць,— ажыўляецца першакласнік.— Ён такі таўсценны, вялізны...

Бацька паблажліва ўсміхаецца і ўжо зусім спакойным тонам гаворыць:

— Дык вось, рашым, сынок, такую задачку... Пасля гэтай кніжкі, гады праз тры, дзядзька Васіль падарыў нам яшчэ адну...

— Ведаю! Я яшчэ з яе лісты павыдзіраў, калі зусім маленькі быў.

— Ты слухай, не перабівай... Потым мы зноў атрымалі ад нашага суседа вось гэтую кнігу, што пад тэлевізарам. Пытанне: колькі ж дзядзька Васіль напісаў кніжак?

Першакласнік напружана моршчыць лоб — думае. Але раптам з палёгкай уздыхае і задаволена смяецца:

— Хы, я ўжо рашыў! Задачка лёгенькая...

— Ну, колькі ж?

— Дзядзька Вася напісаў... усяго адну кніжку!

— Ды ты што? — абураецца бацька.— Як так?

— А ўсе ж яго кнігі аднолькавыя — «На ўсё жыццё»...

Бацька здзіўлена пазірае на сына, потым на сцяну, за якой жыве пісьменнік, дакорліва ківае галавой і вінавата гаворыць:

— Бадай што, не той прыклад, сын. Сапраўды, ён адну напісаў кнігу. Перавыдаецца, лаўкач!

Што ні кажыце, а бяда з гэтай матэматыкай...

*1972*

## АПЕТЫТ

Лявон Тычка, немалады, з намёкам на лысіну пісьменнік, узнімаўся па лесвіцы ў сваю новую кватэру. Калі б у гэты момант ён мог паглядзець на сябе збоку і, скажам, захацеў бы апісаць сябе, то абавязкова напісаў бы так:

«Цяжка дыхаючы, пажылы хударлявы мужчына ўзбіраўся на чацвёрты паверх. Яго скуласты доўгі твар быў змрочны, у блакітных вачах застыла крыўда. Ён быў нечым вельмі засмучаны...»

Але Лявон Тычка не мог бачыць сябе збоку.

Яшчэ не зачыніўшы за сабой дзверы, ён сярдзіта кінуў жонцы:

— Давай абедаць!

Накрылі стол. I хутка гаспадар ужо зрабіў першы застольны жэст: лыжка, як коўш экскаватара, урэзалася ў талерку тлустага баршчу, затым асцярожна наблізілася да твару. I ў тую ж хвіліну пачуўся голас:

— Што гэта такое? Я працаваў, есці хачу, а мне тут чорт ведае што суюць...

Жонка стаяла побач і сумна пазірала на мужа: традыцыйныя абедзенныя непрыемнасці! Адмаўляецца есці, значыць, зноў недзе крытыкнулі.

А Лявон Тычка не сунімаўся.

— Маўчыш? Не-е, адчуваю, што і сёння пісаць не змагу! Праходзяць залатыя гады, а я...

— Пачакай, не кіпяціся. Я забылася ліст табе аддаць. Прыходзіў нейкі сівы дзядок і прасіў, каб ва ўласныя рукі табе перадала.

Усё з той жа сумнаватай усмешкай жонка паклала перад мужам сіні канверт.

Лявон Тычка нешта сярдзіта мармытнуў, але пісьмо ўзяў, зірнуў на адрас і разарваў канверт.

«Шаноўны, дарагі таварыш пісьменнік!» — прачытаў ён, і твар яго палагоднеў. Ліст затрымцеў у руках.

— Марылька, хадзі сюды! Хадзі хутчэй, родненькая... Мяне ж чытаюць! Чытаюць нават старыя... Якое цудоўнае пісьмо! Гэтаму дзядулю падабаецца мой калгасны раман. Я ўяўляю, як ён чытаў яго пры лучыне, ледзь разбіраючы радкі... А потым пісаў мне гэтыя простыя словы: «Не звяртайце ўвагі на крытыкаў... Яны і Пушкіна крытыкавалі, зайздроснікі... А вы — таленавіты. Толькі беражыце сваё здароўе. Яно вам патрэбна. Ваш чытач». Чула? Ну, што скажуць мае крытыкі, га?

Лявон Тычка нервова хадзіў па пакоі і рагатаў.

— Вось каму я павінен верыць,— ужо спакойна прагаварыў ён, седзячы за сталом і апетытна сёрбаючы боршч,— а не гэтым... літаратурным балбатунам.

Жонка падала на стол катлеты, зірнула, як ахвотна ўмінае іх гаспадар, і ціхенька выйшла ў суседні пакой. Там рабіў урокі пляменнік Віця.

— Ну, як? — устаючы з-за стала, хутка спытаў ён.— Дапамагло?

— Ой, Віцёк, ужо катлеты есць. Воўчы апетыт!

— Вось і цудоўна! — узрадаваўся Віця.— А я тут яшчэ адно пісьмо пішу. Назаўтра...

*1971*

## САТЫРЫКІ

— Дык вось, паўтараю яшчэ раз: заўтра каб сатырычная газета... як яна ў нас называецца?

— «Аса»!

— Каб гэта «Аса» вісела ў мяне раніцай на фабрычным дварэ. Зразумеў? Ды глядзі — пастарайся! Бо...

Старшыня фабрычнага камітэта Піліп Хітрук прыжмурыўся, нерашуча паглядзеў на загадчыка клуба Макара Белкіна: ці варта яму гаварыць? Затым махнуў рукой і даверліва паведаміў:

— Бо... заўтра да нас прыязджае прадстаўнік з міністэрства. Я чуў, што гэты таварыш вялікі аматар сатыры! Сам, кажуць, як той Гогаль, байкі розныя пасвае. І асабліва ён рады, калі на прадпрыемстве добрую сатырычную газету ўбачыць... Хлебам яго не кармі, а сатыру гэтую падавай! Зразумеў? Так што — давай, Макар... Не падвядзі!

І, даючы зразумець, што размова закончана, Піліп Хітрук важна схіліўся над нейкімі паперкамі.

Але Макар Белкін усё не выходзіў. Нарэшце ён натужна кашлянуў у кулак і няўпэўненым голасам ціха спытаў:

— А каго крытыкаваць, Піліпавіч?

— Як каго? — здзівіўся старшыня.— Абібокаў, п'яніц, парушальнікаў працоўнай дысцыпліны... Няўжо і гэта табе растлумачваць? Сам разумееш, не маленькі.

— Не, каго канкрэтна? Каб узгадніць...

— Ну... Дарэчы, у цябе ёсць на прыкмеце хто-небудзь?

— Як жа, ёсць!

Макар Белкін пакорпаўся ў кішэні пінжака і выцягнуў лісток.

— Вось... начальніка цэха Мышкоўскага можна крытыкнуць. Працуюць у яго там дрэнна, без аганьку. Якраз кандыдатура ў сатырычную газету! Згодны?

Хітрук узняў вочы і, прыплюшчыўшы іх, задумаўся. Здавалася, ён так і заснуў з узнятай галавой, на якой ззяла маленькая лысіна.

— Не, не падыдзе,— задумліва сказаў ён.— Пакуль Мышкоўскага чапаць не будзем: няёмка, сам ведаеш.

На вяселле ён нас запрасіў... Пятую дачку замуж выдае, такая радасць у чалавека, а мы яму раптам... пілюлю горкую падсунем. На ўсё жыццё пакрыўдзім! Не, Макар, лепш другога пашукаем.

— Ну, тады... тады майстра Кандыбу!

Макар нават паружавеў ад задавальнення.

— Згаджайцеся, Піліпавіч! Лепшай кандыдатуры і не прыдумаць: кожны дзень п'яны ў цэх прыходзіць, сорам! Рабочыя смяюцца. Мы ж яго так размалюем, што «Крокодил» пазайздросціць!

Хітрук насупіў бровы.

— Чакай. Кажаш, п'е? А я нешта не чуў...

— П'е, п'е! —горача пацвердзіў Макар.

— Гм, п'е... А хто не п'е? Вось ты... п'еш?

Хлопец збянтэжыўся.

— Зрэдку!

— Ну вось, бачыш! А Кандыба ў нас як-ніяк, а кіруючы работнік, на Дошцы гонару тры гады вісіць... Не-е, нельга аўтарытэт падрываць!

Хутка бедны рэдактар «Асы» выбіўся з сіл: усе яго кандыдатуры ў сатырычную газету былі адхілены па той ці іншай прычыне. Збіты з панталыку, ён замаўчаў, выціраючы потны лоб.

Але ратунак заўсёды прыходзіць нечакана. У гэты момант у дзверы пастукалі.

— Уваходзьце! — нездаволена крыкнуў Хітрук.— Заўсёды перашкаджаюць...

Дзверы рыпнулі, ледзь прыадчыніліся, і ў кабінет старшыні прасунулася ўскалмачаная рыжая барада дзеда Нічыпара, фабрычнага вартаўніка, потым і ўвесь ён — невысокі, у белым дубленым кажушку, са стрэльбай за плячамі.

— Добрага здароўечка, Піліпавіч,— ласкава прамовіў ён.— Справа тут адна ў мяне...

Але Хітрук не слухаў. Ён раптам прыўзняўся, выцягнуўшы шыю, утаропіў вочы ў вартаўніка. У тую ж хвіліну вочы весела бліснулі, ён выпрастаўся і таямніча падміргнуў Макару Белкіну. Затым звярнуўся да старога:

— Падыдзі, стары...

Стары падышоў да стала і пачціва спыніўся.

— Значыць, па справе да мяне? А я таксама пагутарыць хачу з табою,— неяк вельмі ўжо ласкава зага-

варыў Хітрук.— Прызнайся, бацька: ноччу табе гэтага... спаць хочацца на варце? Праўда, хочацца?

— Ёсць такі грэх, Піліпавіч. Ды і тое, які ж чалавек не хоча спаць ноччу? Жывёліна і тая спіць...

— Паспаць яно добра! —соладка пазяхнуўшы, з той жа сардэчнасцю гаварыў далей старшыня.— Стомішся за дзень, ляжаш на пярынку, заплюшчыш вочы і — гатоў! Хоць з гармат страляй, а ты сабе спіш і розныя там прыемныя сны бачыш...

Дзед Нічыпар раптам нахмурыў сівыя бровы і падазрона спытаў:

— А навошта вы гэта кажаце, Піліпавіч? Я, напрыклад, на варце сноў не дапускаю...

— Э-э! І хітры ж ты, дзед! — зарагатаў старшыня.— Ну, ды бог з табою. Справа вось у чым: пакрытыкаваць цябе вырашылі ў нашай сатырычнай газеце.

— За што?! Я ж прэмію нядаўна атрымаў!

— Ды ты не палохайся! Гэта не страшна: вось Макар цябе намалюе, нібы ты спіш на варце — і ўсё. Сатыра, бацька, ахвяр патрабуе... Во-во! А за гэта... так і быць, прэмію ў наступным квартале выдзелім. Ну як? Згодзен цяпер?

Вартаўнік хітра апусціў вочы, зняў шапку, пакруціў яе, раздумваючы для выгляду, і — згадзіўся.

— Бог з вамі, крытыкуйце, не прывыкаць. Баба мяне бадай што кожны дзень крытыкуе, і — нічога. Пяты дзесятак цярплю... Так што крытыкуйце, а я потым зайду...

І дзед Нічыпар, усміхаючыся ў пракураныя вусы, выйшаў...

Ледзь толькі за вартаўніком зачыніліся дзверы, Хітрук усміхнуўся і самазадаволена, з гонарам прамовіў:

— Эх ты, Белкін! Бачыў, як з людзьмі размаўляць трэба, зразумеў, каго крытыкаваць? Чым не сатыра? Старыя, яны заўсёды ў сатыры поспех маюць... Давай, Макарка, дзейнічай: размалюй гэтага дзеда як мае быць! Ды каб Гогалем пахла!

*1960*

## МОЙ ЗНАЁМЫ

Кожны раз, калі мы сустракаемся, ён заводзіць прыкладна такую размову:

— Ну, як жывеш? Не ажаніўся яшчэ? Малайчына, трымайся, брат. Аднаму, ведаеш, лягчэй пражыць... Ніякіх клопатаў, ніякіх сямейных расходаў... Грошай тых, мабыць, куры ўжо не клююць! Прызнайся: кладзеш на кніжачку, а? Па вачах бачу, што кладзеш... Табе можна... А вось мне як?

На хвіліну ён змаўкае і не міргаючы глядзіць на мяне вялікімі вачамі. Здаецца, ён вось-вось заплача, закрые твар рукамі, і яго плечы задрыжаць ад нястрымнага гора...

Цяжка ўздыхнуўшы, ён слабым голасам гаворыць:

— Ведаеш, ледзь канцы з канцамі зводжу... Днямі купіў пральную машыну... Але што гэта мне каштавала! З кожнай зарплаты адкладваў, з жонкай сабе ва ўсім адмаўлялі. Ды хіба не бачыш, у чым я хаджу?

Сапраўды, апрануты ён, як заўсёды, бедна: паношанае паліто ўжо выцерлася, выцвіла. У гэтым паліто я сустракаю яго ўжо не першы год.

— Вось бачыш! — пераможна ўжо гаворыць ён.— А жонка ў чым ходзіць, а дзеці? Сорамна мне, брат, стаяць нават побач з табою — ты вунь які франт! Па апошняй модзе... Эх, пайду... Бывай!

Праходзіць нейкі час, і выпадак зноў зводзіць нас. Цяпер — каля мэблевага магазіна.

— Ну што, як жывеш? — пачынае ён.— Не кажы, бачу — добра! Зайздрошчу табе, ой, зайздрошчу... Не ажаніўся яшчэ? І не трэба! Жывеш усё яшчэ на прыватнай? А я, ведаеш, атрымаў на гэтым тыдні новую кватэрку... Толькі што рабіць — розуму не дабяру: кватэру далі, а мэблю? Тое ж і яно... Вось заказаў гарнітур, прывезлі ў магазін, а грошай не хапае... Кручуся, як той уюн на патэльні. Многа б я даў, каб на тваім месцы апынуцца!.. Охо-хо... Прабач, пайду недзе грошай шукаць.

Праз некалькі месяцаў я зноў сустракаю яго каля блакітнага «Масквіча»: стаіць і гэтак далікатна ваткай шкло кабіны выцірае...

Што за навіна! Няўжо шафёрам ужо працуе? Хачу спытаць. Але ён не дае мне і рота адкрыць.

— А, гэта ты? Здароў, здароў, барадаты халасцяк! Даўненька мы з табой не бачыліся. Як жыццё? Усё ў парадку? Табе, брат, што: адзін! Жыві ды цешся. І зарплата ў цябе добрая, і пасада высокая... А я, дальбог, хутка звар'яцею ад клопатаў... Ледзь канцы з канцамі зводжу. Ты, мабыць, ужо здагадаўся — машыну купіў. Купіў! Але што гэта мне каштавала...

Тужліва махнуўшы рукою, ён моршчыцца, нібы ад зубнога болю. На паверхні кузава адлюстроўваецца яго фігура — маленькая, сплюшчаная, як тая карыкатура буржуя са старога падручніка гісторыі... Усміхаючыся, я гляджу на гэты смешны адбітак і чую той жа жаласлівы голас:

— Вось, кажуць, праз дваццаць год жыццё настане... Што ж, магчыма. Затое цяпер, брат, не соладка. Увесь у даўгах, як у павуціне, хаджу... Але ніхто на гэта ніякай увагі не звяртае. Дзе там! Нават ёсць такія, што зайздросцяць мне... Чэрствыя сталі людзі, слоў спачування ад іх не пачуеш.

Нейкі момант ён пакрыўджана глядзіць на мяне. Твар яго пахмурнее.

— Зрэшты, і ты, відаць, такі ж,— раптам сярдзіта гаворыць ён.— Я дзялюся з табой сваім горам, а ты — усміхаешся...

*1961*

## АРТЫСТ

Гучны рогат разносіўся па доме... Часам ён перабіваўся вясёлымі воклічамі:

— Ну, вы глядзіце, вы глядзіце, што вытварае гэты артыст... Жывая сатыра, на сцэну яго!..

— Ох, не кажыце: жы-во-от падарвеш ад смеху!

Два мужчыны — важны госць-начальнік з вобласці і гаспадар дома Іван Шызы — стаялі пасярод пакоя і са слязьмі на вачах назіралі за чатырохгадовым хлапчуком.

— Перастань, Толік, перастань, сынок... О-ох-хо-хо-хо!

А хлопчык, падахвочаны ўвагай дарослых, яшчэ старанней перадаваў паходку п'янага: ён паволі ступаў, раскінуўшы рукі, хістаўся на сваіх тоўстых кароткіх ножках, падаў...

— Ах, каб ты скіс! Па-аце-ха,— схапіўшыся за жывот, шчыра рагатаў Іван Шызы.— Жонка, ды ідзі ж ты сюды... Зірні на нашага артыста...

У пакой увайшла хударлявая жанчына з хмурым тварам. Яна неяк стрымана ўсміхнулася і кінула хуткі заклапочаны позірк на хлопчыка.

Але, захапіўшыся гульнёй, той нічога не заўважаў навокал. Цяпер ён смешна поўз на карачках, безнадзейна спрабуючы ўстаць, круціў галавой і прытворна стагнаў...

— Талент! Шчэпкін! — задыхаючыся ад смеху, гаварыў Іван Шызы госцю.— Ведаеце, у мяне нават думка такая: вось калі здарыцца лекцыю аб шкодзе алкаголю чытаць, дык я і яго пакажу... Здорава, а?

— Цудоўна, цудоўна,— выціраючы вясёлыя слёзы, ківаў галавою госць.— Таленавіта, чорт вазьмі... Але ж... недзе ён бачыў такога, прабачце, п'яніцу?

— Безумоўна бачыў,— падхапіў Іван Шызы.— Тут у нас лесарубаў панаехала... Страшэнныя п'яніцы! Нажлукціцца другі і вытварае немаведама што... А моладзь — пераймае. Дурное яно, ведаеце... Сынок! Ты дзядзьку такога бачыў?

Хлопчык з мінуту нерашуча пазіраў на дарослых.

— Бачыў,— тоненькім галаском прапеў ён.— Толькі гэта не дзядзька быў...

— А хто, сынок, хто? Выкрывай лайдака!

Усе трое схіліліся над хлопчыкам, з нецярплівасцю чакаючы, што той скажа. Іван Шызы, замілавана пазіраючы на сына, ласкава падганяў:

— Ну, што ж ты саромеешся... Кажы хутчэй — каго ты бачыў... п'яным?

— Цябе, татка!

*1969*

# МОЙ ДЗЯДЗЬКА

Мы прыселі на лаўцы ў скверы і закурылі. Было сонечна. Цёплы ветрык гарэзліва варушыў дрымотнае лісце дрэў. У такі час звычайна не хочацца ні гаварыць, ні слухаць... Але мой дзядзька, пыхкаючы папяросаю, вось ужо цэлую гадзіну, нібы той чмель, гудзеў над вухам: чытаў мне, учарашняму студэнту, лекцыю аб тым, як паводзіць сябе на рабоце.

— Паважай начальства, але будзь прынцыповы. Гэта галоўнае! Вось я, напрыклад, калі што якое, не гляджу, хто ён такі — хай нават сам міністр! Рэжу праўду-матку ў вочы — і ўсё тут!..

Выгляд у дзядзькі ваяўнічы, пляскаты маленькі нос задзірыста тырчэў на круглым, пухлым твары, вочкі блішчалі. Размахваючы рукамі, ён казаў далей:

— За тое, браце, таварышы па службе, відаць, і недалюбліваюць мяне... Што ж, іх справа. Але я пляваў, не паважаюць — і не трэба! Мне, пляменнічак, даражэй за ўсё праўда-матка... Вось!..

Напэўна, гэтая гарачая прамова яшчэ б не хутка скончылася. Але ціхае, цёплае надвор'е рабіла сваё. Дзядзька пазяхнуў, апошні раз ляніва махнуў рукою, нібы рассякаючы паветра, і змоўк.

З палёгкаю ўздыхнуў і я, пазіраючы, як дзядзька разгарнуў газету і схіліўся над нейкім артыкулам. Вусны яго важна заварушыліся, лоб наморшчыўся. Усё гаварыла аб тым, што ён «сканцэнтраваўся».

Але ў гэты самы момант нешта невялічкае раптам моцна стукнула аб лаўку і адскочыла ў траву... Дзядзька ўздрыгнуў, прыўзняўся і пачаў азірацца. Навокал нікога не было. Тады ён нагнуўся і падняў кругленькі, як галубінае яйка, каменьчык.

— Што за д'ябал! — вылаяўся ён.— Кідаецца нехта, ці што? Так і вока выбіць можна...

Сярдзіта апусціўшыся на лаўку, дзядзька зноў разгарнуў газету. І ў тую ж хвіліну зноў прасвістаў каменьчык, трапіў у газету, прадраў яе. Мы адначасова зірнулі на вялікі куст бэзу, які рос непадалёку, і ўбачылі за ім белагаловага хлапчука. Дзядзька прылажыў палец да тоўстых губ, і вочы яго помсліва заблішчалі.

— Чакай жа, я яго зараз, бандзюка, злаўлю,— за-

шаптаў ён,— я яму дам!.. Бацькі не вучаць, дык я навучу!..

Было смешна глядзець, як мой тоўсты дзядзька, нібы тая качка, перавальваючыся на кароткіх ножках, ціха падкрадваецца да куста. Адзін раз ён азірнуўся, і на яго твары можна было прачытаць сапраўдны паляўнічы азарт. Потым ён імкліва рвануўся ўперад і знік за кустом. Я ўявіў сабе, як дзядзька хапае хлапчука, бярэ яго за вуха і зларадна ўсміхаецца, а той крычыць, просіць літасці...

Аднак нічога гэтага не сталася. За кустом, праўда, пачуўся нейкі шум. Але тут жа да мяне даляцеў незвычайна ўсхваляваны і пачцівы голас дзядзькі:

— Сяргей Ільіч! Гэта... вы? Гуляеце?

Густы бас, не спяшаючыся, адказаў:

— Ды вось як бачыш... Дзянёк цудоўны! А ты ж каго тут, Свісцёлкін, ловіш? Можа, сына майго?

— Што вы, што вы, Сяргей Ільіч! — спалохана загаварыў дзядзька.— Я так... Я нічога... Мы з ім, можна сказаць, у жмуркі гуляем. Ён хаваецца, а я яго... хе-хе... шукаю. Спрытны такі!..

Бас задаволена засмяяўся.

— Падабаецца хлапчук?

— Гэта сынок ваш? Не дзіця, а золата! Адчуваецца, Сяргей Ільіч, ваша выхаванне... А разумны які! Не тое, што ў другіх. Я, значыць, сяджу, газету чытаю з пляменнічкам, а ён — каменьчыкам, каменьчыкам у нас. Кіне — і схаваецца. Дай божа кожнаму дзіця такое... Бач, як вочкі страляюць! Разумны-ы...

Бас кашлянуў і паблажліва сказаў:

— Ну, мы пойдзем. Адпачывай, Свісцёлкін.

— Бывайце здаровы, Сяргей Ільіч, бывайце здаровы!..

Нейкі час было ціха. Потым зашамацелі расхінутыя галінкі бэзу, і з-за куста выйшаў дзядзька. Ён павольна падышоў да лаўкі, падазрона зірнуў на мяне і ціхім голасам запытаў, паказваючы рукою на бэз:

— Ты... чуў нашу размову?

Я адмоўна кіўнуў галавою.

— Не чуў? Эх ты! А трэба было... Павучальная размова, пляменнічак...

Дзядзька сеў, важна крэкнуў і раптам спахмурнеў.

— Разумееш, гісторыя якая... Смаркач гэты, аказ-

ваецца, сынок нашага новага дырэктара,— гаварыў ён.— Я толькі з куста, браце, вылез, гляджу — стаіць перада мною сам Сяргей Ільіч! Другі б, напэўна, разгубіўся, як-ніяк начальства. Але я не такі, пляменнічак! Вылаяў яго, дырэктара, на чым свет стаіць... І што ты думаеш? Хоць бы слова мне сказаў, нібы вады ў рот набраў, толькі слухае. Як вам не сорамна, кажу, распусцілі сына свайго — ледзь вока мне не выбіў каменем! Расце, кажу, у вас форменны хуліган! Хоць я і кладаўшчык толькі, але праўда-матка мне даражэй!.. Вось як трэба! Вучыся, пляменнічак...

*1958*

## САКРЭТ

За сталом было шумна: госці ажыўлена перагаворваліся, жартавалі, смяяліся, казалі тосты ў гонар шасцігадовай Верачкі-імянінніцы. Усе былі задаволены, усім было весела. Іван Кузьміч Маслабоеў, бацька дзяўчынкі, урачыста ўстаў з-за стала, падняў руку. Госці сціхлі.

— Дык вось, дарагія госцейкі,— пачаў Іван Кузьміч.— Я п'яны? Так, п'яны. Але ад чаго я п'яны? Ад гарэлкі? Не-е, не і яшчэ раз не! Я п'яны ад усведамлення, што мая дачка на правільным шляху, я рады за яе лёс!

Госці дружна зааплядзіравалі, вітаючы прамову Івана Кузьміча. Толькі Верачка сядзела спакойна і неяк хітравата і таямніча паглядвала на бацьку. А той гаварыў:

— Дачка мая! Ты нарадзілася ў шчаслівы час. І выхоўваешся ты ў добрай сям'і. Твая маці і я, твой ужо сівы бацька, дзеля цябе гатовы на ўсё: вучыся, канчай інстытут... і выходзь замуж! З нас, з тваіх бацькоў, бяры прыклад. А мы, сама ведаеш, сардэчныя і... праўдзівыя людзі.

Голас Івана Кузьміча задрыжаў, на вачах паказаліся слёзы. Але ён тут жа выцер іх хусцінкай.

— Дваццаць пяць гадоў працоўнага стажу ў мяне!

Быў і на адказных пасадах... Быў і карыстаўся даверам. Начальства, значыцца, цаніла мяне. А цяпер? Цяпер я загадваю лазняй... Вось! Дык ці справядліва гэта, га? Але... не мне аб гэтым меркаваць, таварышы. Ёсць начальства! Яно, таварышы, ведае, што рабіць. І я, чэсны і старанны працаўнік, пакорліва схіляю галаву перад маім новым шэфам — Антонам Антонавічам, які сёння прысутнічае тут...

Іван Кузьміч пачціва схіліў сваю лысую галаву перад загадчыкам камунгаса.

Нехта здзіўлена пацiснуў плячыма, нехта ўхмыльнуўся... А вусаты інжынер камунгаса Лабода шапнуў суседу:

— Ох, і хітрая ж бестыя, гэты Маслабоеў! Чуў, куды ён гне? Улагоджвае начальства, факт! Ведаю я яго...

Зноў звінелі чаркі, госці пілі і спявалі. Іван Кузьміч Маслабоеў трыумфаваў — усё ішло як па масле: новы загадчык камунгаса некалькі разоў дружалюбна ўсміхнуўся яму, ветліва размаўляў з яго жонкай.

«Малады яшчэ, толькі з інстытута,— цікуючы спадылба на Антона Антонавіча, разважаў Маслабоеў.— Яго няцяжка прыручыць, пад свой, так сказаць, уплыў узяць. І тады... О, тады, нарэшце, Іван Кузьміч пакажа сябе, ён не будзе доўга цацкацца са сваімі «ворагамі»... Па-першае, ён даб'ецца звальнення з работы гэтага інжынера Лабоды, вельмі ён з сябе чэснага строіць. Затым...»

— А вось я ведаю сакрэцік, та-акі сакрэцік! А вы не ведаеце, ага!

Танклявы галасок маленькай Верачкі празвінеў за сталом так нечакана, што ўсе сціхлі і павярнуліся да яе. Дзяўчынка пераможна ўсміхалася і пляскала ў ладкі.

— Які ж ты такі сакрэт ведаеш? — смеючыся, спытаў у яе Антон Антонавіч.— Раскажы нам, калі ласка...

Верачка абвяла ўсіх урачыстым позіркам і зноў хітра пaглядзела на бацьку. Той раптам пабялеў, падняўся і дрыжачымі рукамі паправіў гальштук.

— Замаўчы, Верачка, чуеш? — прыкрыкнула на дзяўчынку маці і таксама неяк трывожна закруцілася на крэсле.— Што я кажу табе? Ідзі зараз жа спаць!

Але Верачка сядзела воддаль ад маці — побач з Ан-

тонам Антонавічам — і, не звяртаючы ніякай увагі на яе крык, радасна смяялася. Круглы тварык у Верачкі паружавеў ад задавальнення, вочы блішчалі. Падняўшы ўгару пальчык, яна гарэзліва глядзела на маці і гучна паўтарала:

— Я ведаю сакрэт, я ведаю сакрэт... Слухайце, слухайце! Ніякіх імянін сёння ня-ма-а... І я не імянінніца, вось!

— Як жа... няма? — здзіўлена перапытаў нехта з гасцей.— Як жа...

А дзяўчынка, разышоўшыся, хуценька, нібы баючыся, што яе пераб'юць, гаварыла:

— Мы — хітрыя! Мы заўсёды татавых начальнікаў на выдуманыя імяніны запрашаем! І вунь дзядзю новага запрасілі...

Госці акамянелі. Антон Антонавіч устаў з-за стала.

— Чаго ж вы прыціхлі? — насмешліва спытаў ён у гасцей.— Падайце Івану Кузьмічу шклянку вады...

І, адстаўляючы крэслы, пачаў праціскацца да дзвярэй.

*1973*

## НЕХРЫСЦЬ

У нас нарадзілася дзяўчынка... Харошанькая такая! Калі маму і дзяўчынку прывезлі з бальніцы, да нас цэлы дзень прыходзілі чужыя дзядзькі і цёткі з падарункамі, кветкамі. І ўсе яны віншавалі маму. А потым схіляліся над дзяўчынкай, смешна так выцягвалі губы і гаварылі якраз, як Воўка шапялявы з суседняга двара:

— Дзю-дзю-дзю... Казяўка ма-лю-пень-кая. Вылітая мама. У-у... ты!

А мама дзякавала ўсім і радасна ўсміхалася.

Прыходзіў тата з работы і таксама ўсміхаўся.

Толькі адна бабуля Марыля чамусьці ўвесь час хмурылася і цяжка ўздыхала. Яна ў нас заўсёды такая сярдзітая. І мяне не любіць. Як што — так і лае:

— А божанька, вось дзіця ўрадзілася! У школу

хутка пойдзе, а розуму — ні на капейку... Ісцінны бог, чарцянё!

А калі бабуля есці садзіцца, падымае галаву да столі і абавязкова каля свайго доўгага носа рукой памахае... Смешна так, нібы мух адганяе! Я адвярнуся да сцяны і рагачу. Але мама мне забараняе смяяцца.

— Бабулька ў бога верыць,— сярдзіта гаворыць яна,— і ты яе паважай!

— А навошта яна рукой каля носа махае? — пытаю я.

— Хрысціцца! І больш ты мне пытаннямі сваімі не дакучай,— ужо зусім сярдзіта кажа мама.

Падумаеш! І не буду распытваць... Я лепш з нашай маленькай Ірынкай пагуляю.

І я іду ў спальню да Ірынкі. Мама і бабуля гамоняць у сталовай. Спачатку я не звяртаю ўвагі на іх размову. Хай размаўляюць... Але потым чую, як мама кажа бабульцы:

— Цішэй, Мішка ў спальні.

Бач ты, не хочуць, каб я чуў! Напэўна, бабуля цукерак купіла і дамаўляюцца, куды б схаваць іх ад мяне. А я вось вазьму дый падслухаю...

Ціхутка-ціхутка падкраўся да іх, схаваўся за дзвярную шырму і — не дыхаю. А бабулька з мамай усё аб нечым шэптам спрачаюцца. Прыслухаўся. Бабулька гаворыць:

— Хочаш ты ці не хочаш, дачка, а Ірынку трэба пахрысціць. Вунь у цябе і так ужо адзін нехрысць расце! Спакою ад яго няма!.. Чарцянё, ісцінны бог!

Гэта ж яна пра мяне! Ад крыўды я ледзь не плачу. Але тут ёй мама адказвае:

— Ну, маці, пра Мішку вы дарэмна: хлапчук як хлапчук. Калі ўжо так хочаце пахрысціць Ірынку — хрысціце. Не магу вам пярэчыць. Толькі вось каб муж не даведаўся — ён жа партыйны. Ды і да суседзяў дайсці можа...

А бабулька — таксама шэптам — перабівае:

— Ніхто не даведаецца! Айцец Інакенцій паабяцаў у сябе дома пахрысціць. Хоць адно дзіця хрышчонае будзе. Так што зараз панясу Ірыначку. Толькі збяруся.

Я зноў ціхутка, на пальчыках, вярнуўся ў спальню і ад радасці не ведаю, што рабіць — танцаваць аж хо-

чацца: такую размову падслухаў! Пачакай жа, бабулька, я табе пакажу, якое я чарцянё!

І я выбягаю на вуліцу.

У першую чаргу заходжу да нашага суседа Ігната, далей — да Арловых, да Воўчынай маці... Усіх знаёмых аббегаў і з усімі перагаварыў!

Хутка я вяртаюся дахаты...

Бабулька Марыля ў гэты момант якраз выходзіць з двара. На руках у яе белы скрутак — маленькая Ірыначка. Бабуля неяк палахліва азіраецца па баках, а ўбачыўшы мяне, чамусьці вельмі ласкавым голасам гаворыць:

— Ідзі, Мішачка, у хату... Там мамка варэнічкаў табе дасць. Ідзі, коцік.

Хітрая! Не хоча, каб я ведаў, куды яна пойдзе.

— Не, я толькі на вуліцы пагуляю,— кажу бабульцы.

— Ну, гуляй сабе, гуляй,— згаджаецца бабуля. І шпарка адыходзіць ад хаты.

Непрыкметна я крадуся за ёю.

Але праз некалькі крокаў бабулю спыняе дзядзька Ігнат.

— Куды, Марыля Карпаўна, ісці сабралася? — зычна пытае ён.

— У... анбулаторыю я,— спалохана адказвае бабуля.— Унучачка захварэла.

А дзядзька Ігнат весела смяецца і раптам кажа:

— Ці не ў хаце айца Інакенція гэтая «анбулаторыя»? Угадаў, Марыля Карпаўна? Хрысціць нясеш дзяўчынку?

Стаіць бабуля, маўчыць, і вочы ў яе маленькімі шарыкамі бегаюць, нібы ў таго Воўкі, калі ў мяне ножык сцібрыў...

— Ды што ты, Ігнат! Пабойся бога...

Толькі дзядзька Ігнат, відаць, бога не баіцца, бо весела рагоча, і белыя зубы яго яшчэ ярчэй блішчаць на сонейку.

— Ох, і хітрая ж ты, Карпаўна, ох, хітрая! Няўжо не ведаеш, што сёння амбулаторыя не працуе — нядзеля.

— Не працуе?.. Во, а я і забылася... Ведама, старая. Дык я ўжо другім разам у анбулаторыю схаджу,— хутка гаворыць бабуля і паспешна паварочвае дахаты.

Дзядзька Ігнат кладзе мне на плячо сваю вялікую руку:

— Ну вось, а ты баяўся, што Ірынку пахрысцяць,— гаворыць дзядзька Ігнат.— Усё ў парадку... Бяжы дамоў і не хвалюйся!

Я даганяю бабулю ў двары. На ганку нас сустракае маці.

— Што гэта вы назад? — здзіўляецца яна.

— Што, што... Людзі пра ўсё ўжо ведаюць, вось што! — сярдзіта адказвае бабуля.

— Адкуль ведаюць, хто? — палохаецца маці.

— Ды я і сама ў розум не вазьму, адкуль. Не паспела два крокі ступіць, а Ігнат пытае ўжо: «Хрысціць нясеш?» А каб яму, чорту лысаму, нехрысцю... Мусіла вярнуцца. Ох, чуе маё сэрца, не дадуць святую справу зрабіць! І хто б гэта мог чутку пусціць? Здаецца, пры размове ў хаце нікога не было...

У гэтую мінуту бабуля чамусьці вельмі падазрона глядзіць на мяне.

На ўсякі выпадак я адступаю да дзвярэй.

*1959*

## ПАСПЯШАЎСЯ

Што хаваць, раней я працаваў дрэнна. Розныя загады ў мой адрас былі: і «папярэдзіць», і «паставіць на від», нават страгача неяк адхапіў. Толькі, ведаеце, прымірыўся з гэтымі пісьмовымі цыдулкамі — мяне скланяюць на ўсе лады, а я і вухам не вяду: лайце!

І вось нядаўна зноў загад з маім прозвішчам вывесілі. Але які! Між іншым, вось як усё было...

Прыехаў да нас у будаўнічую кантору новы начальнік. Зусім «зялёны», зірнеш на яго — гадкоў васемнаццаць, больш не дасі.

Падыходзіць да мяне калега Васіль Донька і кажа, нібы мае думкі чытае:

— Бачыў новенькага? Чыжык-пыжык... Хіба гэта кіраўнік сур'ёзнай установы? Той быў не начальнік, а гэты подаўна — дзіця горкае! Шукаць няньку трэба.

— А нам што,— кажу Доньку,— як працавалі, так і працаваць будзем...

Пагаварылі і разышліся.

Назаўтра прыходжу на работу, як заўсёды, з невялічкім спазненнем. Не паспеў я за стол сесці — новенькі тут як тут! На твар важнасць напусціў, бровы нахмурыў і адразу да мяне:

— Чаму спазніліся?

— Аўтобус спазніўся, а не я...

Васіль Донька за сваім сталом слухае і давіцца ад смеху.

— Дайце мне кватэру ля канторы — не буду пазніцца,— кажу я.— Кватэрку...

А ён брывом не вядзе.

— Вы стары работнік і павінны быць больш сур'ёзным. Раю вам падумаць над сваімі паводзінамі.

Сказаў і выйшаў

Бач ты, фрукт! Яшчэ малако на губах не абсохла, а ўжо павучае, куранё!

Пасмяяліся мы [redacted] Донькам і спакойна робім сваю бухгалтарскую справу.

Толькі прайшло некалькі дзён, а новенькі зноў у нас у кабінеце. Вяртае мне фінансавую справаздачу і загадвае:

— Перарабіце. Не чакаў ад вас такой нядбайнасці — нібы першы год працуеце...

Абразіў ён тады мяне сваімі словамі, за жывое крануў: гэта я, адзін са старэйшых у канторы, «першы год» працую! Ну і нагаварыў я яму — хай ведае нашых. А ён мне, зачыняючы за сабой дзверы, зноў кідае:

— У вашым узросце трэба прыстойнейшым быць.

У «маім» узросце! Узростам дакарае...

— Усё зразумела: пачаў прыдзірацца,— спачувальна сказаў мне Васіль Донька.— Дрэнная твая справа...

І сапраўды, пачалося для мяне не жыццё, а пакута: штодня новенькі ля майго стала тырчыць і ўсё заўвагі робіць: то яму парадак на стале не падабаецца, то я зводку ў час не даю.

Жонка дома не пазнае: «Што з табою? Худзееш з кожным днём, не спіш...»

А мне які сон? Ад непрыемных думак не вельмі заснеш. Ледзь світаць пачне, я ўжо бягу на работу. У такі ўзорны парадак справы прывёў, што сам здзіўляюся. Але новенькі ў спакоі не пакідае мяне.

— Лепш табе, пакуль не позна, самому заяву напі-

саць,— раіць Донька.— Маўляў, «па ўласнаму жаданню» прашу вызваліць ад займаемай пасады. Выжывае ён цябе! Калі чапіцца пачаў — лічы, справа вырашаная! Шукай, браце, працы...

Мінула месяцы з два, і цярплівасці маёй прыйшоў канец. Напытаў я работу, заяву аб звальненні напісаў. Не хочацца мне толькі перад святам звальняцца. Але ж нічога не зробіш!

— Бывайце, таварышы! — кажу я супрацоўнікам, а самому плакаць хочацца.— Бывайце. Не магу больш несправядлівасці цярпець. Працую я зараз у сто разоў лепш, але новенькі жыцця не дае... Самі бачыце. Бывайце!

Толькі сабраўся заяву несці — урываецца ў кабінет Донька.

— Ты што, яшчэ загада не бачыў? — усхвалявана крычыць ён мне.— Хадзем хутчэй, паглядзі!

Іду па калідоры ні жывы ні мёртвы: дачакаўся, пакуль зволіў...

Падыходжу да дошкі загадаў, і ўсё ў мяне расплываецца перад вачамі: «Аб'явіць...» Што?!

— До-онь-ка-а! — крычу раптам на ўвесь калідор, хоць той побач.— Ты бачыш? Бачыш? Мне падзяка аб'яўлена... Падзяка!

Вось які ён, новенькі, аказаўся!

...А тую заяву аб звальненні я да гэтага часу берагу — шчаслівая.

*1960*

## ГУЛЬНЯ Ў ДУРНЯ

Асцярожна прычыніўшы дзверы, я ціхенька, нібы злодзей які, крадуся па калідоры ў свой пакой... Іду і лаю сябе: «Ну навошта, навошта я пасяліўся тут, на гэтай кватэры? Ніводнага вечара вольнага не маю!»

У калідоры — цёмна. Знарок не ўключаю святло: можа, не заўважаць, прашмыгну як-небудзь.

Але дарэмна: у тую ж хвіліну адчыняюцца суседнія дзверы, і я чую прастуджаны галасок гаспадыні — Галіны Казіміраўны:

10 Зак. 1913

— Васечка, гэта вы?

— Я...

— Вось малайчына! Даўно чакаем. Заходзьце да нас, якраз гуляем у дурня! Чацвёртага не хапае...

Кленучы ўсё на свеце, я моўчкі плятуся за Галінай Казіміраўнай.

— А-а, Вася! — узрадавана крычыць яе муж Антон. І тут жа мякка, нібыта бацька, дакарае: — Што ж гэта ты запазніўся? Нядобра так! Мы ўжо тры дурні без цябе згулялі. Сядай, сядай хутчэй!

Збянтэжаны, я пачціва апускаюся на крэсла.

За сталом — уся сям'я Дунькіных: сам гаспадар, маленькі, кругленькі, з вялікай лысінай. Худая, як трэска, Галіна Казіміраўна і дачка Соня. У Соні, як заўсёды, дрэнны настрой. Бацька тасуе карты, а яна, здаецца, вось-вось пазяхне і скажа: «Спа-аць хачу!» Але Соня трымаецца, сядзіць за сталом, разамлелая, і зыркае на мяне.

— Ну, моладзь, зараз мы вам усыплем,— густым баском гаворыць Дунькін.— Ох, усыплем! Раздаю карты: раз-два-тры!.. Раз-два-тры... Козыр — пікі... Чый заход?

— Наш, Антоша, наш...

— Цудоўна, жоначка! Хадзі!

— Пачакай, якой жа? Дай падумаць... А, пайду з васьмёркі. Адбівайся, дачушка!

І Соня адбіваецца. Яна думае доўга, перабіраючы зашмальцаваныя карты, нешта мармыча сабе пад нос. Потым, насупіўшыся, прымае карту.

Прымаю і я ад Антона Лукіча... Ён задаволены, весела рагоча:

— Эх, моладзь, моладзь! Далі мы вам, га? Не-е, старых яшчэ голымі рукамі не возьмеш... Ці не так, жонка?

Але жонка не спяшаецца з адказам.

— Антоша, а яны ўсё роўна ў выйгрышы! — таямніча ўстаўляе яна.

— Як так?

— А так... Людзі кажуць: «Каму ў карты не шанцуе, таму гэтае самае...»

І гаспадыня з выразнай усмешкай глядзіць спачатку на Соню, потым на мяне.

— О-хо-хо! — на ўвесь пакой рагоча Дунькін.— І як

я забыўся... «Каму ў карты не шанцуе, таму ў каханні...» Нічога, нічога, малады чалавек, не губляйцеся. Нам з Галінай Казіміраўнай таксама не шанцавала, пакуль не пажаніліся.

Я адчуваю, як пот градам коціцца па твары.

— А жаніцца вам час, Васечка,— раптам сур'ёзна пачынае гаспадыня.— Час! Інстытут закончылі, першы інжынер на будоўлі, працуеце добра... Антоша, ты чуў, што я сказала? Жаніцца Васілю трэба... Вось... Ды і наша нешта ў дзеўках засядзелася! Праўда, Антоша?

— «Ка-му ў кар-ты не шан-цуе, таму ў ка-ханні...» — зграбаючы карты са стала, напявае Дунькін і пазірае сваімі масленымі вочкамі-гузікамі на мяне.

А я ўжо гатоў скрозь зямлю праваліцца. Вунь куды вецер дзьме! Недарэмна, значыць, таварышы насміхаюцца: «Дунькіна зяць!»

Як праз сон чую словы гаспадыні:

— Сонька наша інстытутаў не канчала, таму і не працуе нідзе. Ды хіба ж для сямейнага шчасця гэта трэба? Я вось усё жыццё не працую... Галоўнае, каб муж на добрай пасадзе быў. Праўда, Антоша?

Гадзіны праз дзве гульня, нарэшце, канчаецца. Я ўстаю і, хістаючыся, як п'яны, іду ў свой пакой. Мяне праводзіць гаспадар. У калідоры спыняемся перакурыць. І тут Дунькін бярэ мяне пад руку і ціха шэпча:

— А ведаеш што, Вася? Дальбог жа ты падабаешся мне, жаніся! Каму ў карты не шанцуе... Што, можа не праўда? Я ўсё бачу. Даўно бачу, як у міргалкі гэтыя гуляеце... Ну што ж, не пярэчу!

Ён хіхікае і гаворыць далей:

— Не буду брахаць, яна ў нас далікатная... Бялізны не мые, абедаў гэтых таксама не варыць. Пасля дзесяцігодкі хацеў яе прыстроіць дзе-небудзь, дык жонка не дазволіла. Але гэта не бяда! Прывыкнеш. Будзеце, калі што якое, у сталовую хадзіць! А што? Нават цікава. Хэ-хэ-хэ! Ну то як? Што-небудзь прыдумаем?

Калі, нарэшце, я трапляю ў свой пакой, мне здаецца, што я выскачыў з лазні...

«Не, таварыш Дунькін, не выйдзе! — рашуча гавару я сабе.— Хопіць гуляць у гэтага дурня — заўтра ж мяняю кватэру...»

І — мусіў змяніць...

*1959*

# У НАШЫМ ДВАРЭ

Нядзеля. Сядзім у двары нашага дома — Антон, Кузьма, Пятро і я. Гуляем у даміно. «Казёл», як кажуць, у самым разгары.

І тут...

— Анто-он! Ідзі дамоў! Чуеш, зараз жа кідай гэтую сваю гульню...

Мы ўскідваем галовы і бачым у расчыненым акне другога паверха Антонаву жонку. А каб ты... Не дасць закончыць «казла».

— Нічога не зробіш,— устаючы, цяжка ўздыхае Антон.— Трэба ісці...

І ён пакідае нас. А мы — о-о, мы ўжо не стрымліваем свайго гневу — кляймім нашага партнёра на чым свет стаіць!

— Ануча, а не мужчына,— сіпіць прастуджаным голасам Кузьма.

— Хіба гэта мужчына? Жонка круціць ім, як хоча. Ганьба! Не-е, я такога жыцця не вытрымаў бы...

— Так!..— згаджаецца Пятро.— Шкада Антона — слабахарактарны, а жонка гэтым і карыстаецца. Я-то сваю трымаю ў руках, трымаю...

— Толькі так з іхнім братам і можна.— Кузьма не дагаворвае: за спіной у яго, нібы з-пад зямлі, вырастае дзяўчынка.

— Татка, мама казала, каб ты ішоў дамоў. Бабуля прыехала.

Мы глядзім на Кузьму: няўжо і ён пойдзе?

Устае! Устае і вінавата разводзіць рукамі:

— Цешча прыехала.

З маўклівай варожасцю мы пазіраем, як ён таропка знікае ў пад'ездзе. Сабраць новую кампанію на «казла» цяпер цяжка.

Пятро пагардліва жмурыць свае маленькія вочы.

— Як гэта могуць людзі гаварыць адно, а рабіць другое... Гэты ж Кузьма нават перад цешчай дрыжыць! Бачыў? А што ўжо жонка?..

Я ківаю галавой, і мы абодва, наваліўшыся на стол, сумна пазіраем на чорныя касцяшкі.

— Добры дзень! — раптам чуецца над намі звонкі жаночы галасок.— Дык вось дзе ты хаваешся? А я шукаю... Хадзем, хадзем, даражэнькі. Мы яшчэ павінны

паспець да абеду ва універмаг. Кажуць, гарнітуры імпартныя прывезлі...

Жонка бярэ Пятра пад руку, і яны выходзяць з двара. Я моўчкі праводжу іх горкім позіркам. Успамінаю, што і мне таксама трэба спяшацца на абед: мая ж жонка вельмі не любіць, калі пазнюся.

*1962*

# ПРА ЖОНКУ

Я стаю недалёка ад іх і раблю выгляд, што чытаю газету. А яны размаўляюць. Дакладней, гаворыць Гарлюк, а слухаюць яго Антанюк і... я. Размова вельмі непрыемная для мяне. Напэўна, Гарлюк не бачыць мяне, што гаворыць такое пра маю жонку. Падумаць толькі, што за чалавек!

— ...Разумееш, затрымаўся муж на працы, прыходзіць дамоў стомлены, разбіты, марыць адпачыць, а яна з парога на яго: чаму позна прыходзіш, аб сям'і не думаеш, па гаспадарцы не дапамагаеш... І шпарыць, і шпарыць! Як тая пчала: жу-жу, жу-жу... Ну, што тут застаецца рабіць яму? Браць аворьку ды бегчы ў той магазін.

Гарлюк стаіць да мяне спіной. Я не бачу яго твару, але я добра бачу вясёлую усмешку Антанюка і ледзь стрымліваюся, каб не ўмяшацца.

Калі што і прымушае мяне стаяць на месцы, дык толькі жаданне пачуць усё да канца.

— Ну, у магазіне, скажам, сустрэўся таварыш. Запрасіў выпіць піўка. Выпілі. Слова-другое, да пабачэння і — з пакупкамі дамоў. А дома, думаеш, падзяка ад жонкі? Хваробу! Зноў галавамыйка... А ну, кажа, дыхні! Піў, шэльма? Дык вось як ты спяшаешся дамоў, алкаголік няшчасны! Так прама і чэша: «алкаголік»...

Газета дрыжыць у маіх руках. Яшчэ мінута — і я, далібог, не вытрымаю. Я так пагавару з гэтым Гарлюком, што будзе памятаць да новых венікаў. Бач, пляткар... Хай мы разам працуем, разам збіраемся за

святочным сталом, але хто табе дазволіў пускаць розныя чуткі пра маю жонку? Пра сваю гавары...

— А калі б ты ведаў, якія дэбаты наладжвае гэтая жоначка ноччу! Усё ёй мала: і пасада ў мужа маленькая, і кватэра не ў цэнтры горада, і знаёмстваў мала... Як пачне — дзявацца няма куды! Пракурор! Адно выратаванне — у камандзіроўку...

Халодны пот выступае ў мяне на лбе: усё, усё ведае! І адкуль толькі ў Гарлюка такія дакладныя звесткі?

— Ну, а раўнівая — хоць да жанчын наогул не падыходзь! Аднойчы такое выкінула...

Тут Гарлюк нахіляецца да Антанюка і нешта шэпча. Цьфу, толькі гэтага яшчэ не хапала! Няўжо расказвае пра тое, што жонка прыгразіла мне разводам? Ну, даражэнькі, гэтага я ўжо не сцярплю! Адчуваю, як кроў прылівае да твару. Гнеўна камячу газету і раблю крок да Гарлюка.

Але ў той жа момант Гарлюк сам паварочваецца да мяне і пытае:

— Ты, напэўна, чуў? Гэта ж я пра сваю жонку, пра Кацю... Бачу, спачуваеш? Канечне, табе можна пазайздросціць. У цябе жонка што трэба! Анёл...

Я нічога не кажу. Я толькі сумна ўсміхаюся і выціраю рукавом мокры лоб.

*1968*

## ПІСЬМО

Тата дачытаў пісьмо і паглядзеў на нас уважлівым позіркам.

— Вось так, мае дарагія,— сказаў ён.— Цётка Алена будуе дом і просіць дапамогі... Вы памятаеце, дзеці, цётку Алену?

Ну, канечне, мы яе памяталі!.. У мінулым годзе ўсё лета прагасцявалі ў цёткі. У яе такія смачныя ў садзе антонаўкі! За вёскай — прыгожы бярозавы гай, рака... Мы так загарэлі ў вёсцы, што былі, як тыя негры. А мама паправілася аж на цэлых сем кілаграмаў.

Калі прыехала дамоў, усім суседзям расхвальвала нашу цётку, яе гасціннасць, шчырасць.

Як жа, мы памяталі цётку Алену!

Тата нерашуча кашлянуў і, не гледзячы на маму, сказаў:

— Я думаю, дарагія мае, каму-каму, а цётцы Алене трэба памагчы!

— А я што... пярэчу? — здзівілася мама і нават крыху нібы раззлавалася.— Паможам... Яна ж твая сястра.

— Што тут гаварыць — трэба памагчы! — падтрымаў мой брат студэнт Сяргей.

Сястра Люся, прыхарошваючыся перад люстэркам, таксама «прагаласавала» за дапамогу.

— Бедная цётачка,— жаласліва ўздыхнула яна, і на вачах у яе паказаліся слёзы.— Ты ж такая добрая ў нас, такая добрая... Не, мы цябе ніколі не пакінем у бядзе ў цяжкую хвіліну!

Тата задаволена ўсміхаўся. Ён быў, відаць, вельмі шчаслівы.

— Дзякуй, дарагія,— сказаў ён.— Давайце ж адразу і напішам цётцы. А ну, нясіце сюды ручку!

Я пабег у суседні пакой і хуценька прынёс сшытак, сваю школьную ручку і чарнілку. Тата ўсеўся за стол і пад нашу дыктоўку стаў пісаць.

Пісьмо выходзіла вельмі доўгае і вельмі цікавае. Мы пісалі цётцы Алене пра ўсе свае навіны, пра тое, што мама марыць купіць тэлевізар, і пра тое, што брат Сяргей летам хоча набыць матаролер, а сястра Люся — пуцёўку ў Сочы.

— Пара закругляцца,— пазяхнуўшы, сказала мама.— Абед на пліце астыне!

І на пятай старонцы майго сшытка тата нарэшце пачаў закругляцца: «Так што, сястра, мы табе высылаем....»

— Колькі ж, дарагія мае, мы вышлем цётцы грошай? — макаючы пяро ў чарнілку, спытаў тата.

Тата прыкінуў, колькі грошай трэба цётцы, каб пабудаваць дом.

— Так многа? — здзівілася мама.

І тут Люся са слязьмі на вачах сказала, што адкладае сваю паездку ў Сочы да наступнага года. Праўда, дзяўчаты з іх установы паедуць на поўдзень. Але ж

у Люсі адно жаданне — памагчы цётцы. Толькі вось яна падвядзе сябровак — дамовіліся адпачываць разам...

Канечне, мы не маглі дапусціць, каб Люся падводзіла сябровак.

Затое брат Сяргей цвёрдым голасам заявіў аб сваім рашэнні не купляць матаролер. Хай усе яго зберажэнні ідуць у фонд дапамогі цётцы. Праўда, ён сумняваецца, ці выратуюць цётку гэтыя некалькі сот рублёў?

Мама выказалася апошняя. Яна нават не дапускае і думкі, каб пакінуць цётку без дапамогі. Але ж па яе заказу прывезлі ў магазін учора тэлевізар-камбайн. Самага апошняга выпуску. І калі цяпер не ўзяць яго, давядзецца зноў хадзіць глядзець перадачы да гэтых фанабэрлівых Камаровых.

— І наогул, пара абедаць! — раптам сярдзіта сказала яна тату.— Ніколі ты ў нас не пад'ясі своечасова... Не беражэш свайго здароўя. Ідзі, даражэнькі, ідзі — мый рукі!

Але тата не стаў мыць рукі — пайшоў на балкон і там нешта доўга курыў. Відаць, быў усхваляваны мамінай спагадлівасцю: яна такая чулая, так клапоціцца аб яго здароўі!

І калі пасля абеду тата зноў хацеў пісаць пісьмо, усе — і мама, і сястра, і брат — сталі дружна ўгаворваць яго адпачыць.

Адпачыўшы, тата чамусьці больш не прапаноўваў дапісваць пісьмо.

*1967*

## ПЕРАД ВЯСЕЛЛЕМ

Цёплай чэрвеньскай раніцай, калі ўжо цвіла ліпа і кружылася галава ад яе мядовага паху, мы з Зінай забеглі да Макарчыкаў — запрасіць іх на наша вяселле. Іван Мацвеевіч, чалавек пенсійнага ўзросту, хударлявы і высокі, і яго жонка Ганна Паўлаўна, такая нізенькая і тоўстая, нібы ўсё тое, што ўзняло Івана Мац-

веевіча на два метры над зямлёй, у яе размясцілася па гарызанталі,— сустрэлі нас весела.

— Ну, дай бог, у добры час,— радасна прапішчала тоненькім галаском Ганна Паўлаўна.— Жывіце...

— Жывіце — не тужыце! — лагодна пратрубіў Іван Мацвеевіч, падміргваючы нам.

Мы спяшаліся дамоў, але гасцінныя Макарчыкі нізашто не хацелі адпускаць нас проста так.

— Хоць чаю з намі, старымі, выпіце...

Селі за доўгі старамодны стол: мы з Іванам Мацвеевічам — на адным канцы стала, жанчыны — на другім. І пацякла традыцыйная размова пра сямейнае шчасце, пра тое, што гэта не проста так — пажаніліся і жывіце, а як каму пашанцуе. Адны нібы і кахаюцца, ды хутка разыходзяцца; а другія пра каханне і не думаюць, але ўсё жыццё жывуць у дружбе.

— Як мы, напрыклад...

Ганна Паўлаўна сербанула апошні глыток чаю, аблізала тоўстыя губы. Іван Мацвеевіч нічога не сказаў, толькі крэкнуў і моўчкі стаў наліваць, можа, пятую шклянку.

— Вы піце, піце, мужчынкі, а мы з Зіначкай прысядзем на канапу,— пазяхнуўшы, сказала Ганна Паўлаўна і ўзяла Зіну пад руку.— Хадзем сюды, у нас свая, жаночая гутарка.

Іван Мацвеевіч пакасіўся на жанчын:

— Бабы — яны заўсёды бабы. Май на ўвазе: з першага дня бяры жонку ў рукі...

Я хацеў запярэчыць яму, але пачуў шэпт Ганны Паўлаўны:

— Мілая, з першага дня трымай лейцы моцна... Будзеш трымаць — тваё шчасце, не будзеш — крыўдуй на сябе!

— Ну, пайшла палітграмату чытаць,— ужо зусім сярдзіта сказаў Іван Мацвеевіч.

А Ганна Паўлаўна, не звяртаючы на нас увагі, абняўшы Зіну за плечы, пела:

— Як маці кажу табе: забірай у яго ўсю зарплату, не пакідай ні капеечкі. Грошы, яны толькі ў жаночай руцэ ляжаць любяць!

— Ты чуў? — насмешліва хмыкнуў Іван Мацвеевіч.— На курыва і чарку ад жонкі трасцу атрымаеш: у яе ў расходнай кнізе такой графы няма.

на мір у доме лопнуць, як мыльны пухір! I я іду на маленькую хітрасць. Нібы між іншым, паведамляю:

— Ледзь дастаў. На ўвесь горад пяць такіх прывезлі! Калі б не адзін знаёмы...

— Пяць кофтачак на ўвесь горад? — перапытвае ўжо зацікаўлена цешча.— Усяго пяць?

Я ківаю галавой:

— Пяць, пяць...

— Ну, калі пяць... А прыемная, ніштo сабе,— мяняе тон цешча і заве дачку.— Ідзі зірні, што твой мужанёк мне падарыў.

Цяпер ужо чатыры рукі цiскаюць бедную рыжскую кофтачку, глядзяць яе на святло, выцягваюць і паляць нітку — не гарыць, чыстая, сапраўдная шэрсць! Я адчуваю, як расце мой аўтарытэт. Радасць так і прэ з мяне. Нарэшце!

Але мне хочацца замацаваць перамогу: куй жалеза, пакуль гарачае. I я з таямнічым выглядам кажу:

— А вы ведаеце, адкуль гэтая кофта? Яна — не наша, замежная... З Гвадэлупы...

— Адкуль, адкуль?!

— З Гва-дэ-лу-пы...

— Божухна,— замілавана стогне цешча,— ніколі ў жыцці не насіла кофты з Гвадэлупы! Дзякуй, зяцёк, ой, дзякуй. Пабягу суседзям пакажу.

Гадзіны праз дзве стомленая, але задаволеная цешча вяртаецца дамоў. Я чую з кухні яе шчаслівы голас:

— Ну, дачушка, здаецца, твой паразумнеў. Бачыш, ужо знаёмства завёў, ужо гвадэлупскую кофтачку дастаў! Скаранька на стол накрывай, а то ж выгаладаўся, бедненькі!

Упершыню так прыветліва, так клапатліва пазіраюць на мяне чорныя вочы цешчы.

Ноччу я доўга не магу заснуць. Прыдумваю новыя падарункі для цешчы. На цэлы месяц план складаю. Спачатку куплю ёй тапачкі «японскія», потым паркалёвую хустачку з «Рыо-дэ-Жанейра», потым якую-небудзь дробязь з «Гандураса»...

Шчасце не схаваеш. На рабоце адразу звяртаюць увагу на мой шчаслівы твар і рашаюць, што я выйграў па латарэйнаму білету. А мне і сапраўды добра!

І ўпершыню мне хочацца хутчэй убачыць радасную цешчу, хутчэй трапіць дамоў.

Лаўлю таксі, еду.

І вось нарэшце дома. Весела напяваючы дзіцячую песеньку «Хай заўжды будзе сонца...», я расчыняю дзверы і бачу ля акна заплаканую жонку. Ад яе знішчальнага позірку ногі мае прырастаюць да падлогі, а язык робіцца тоўстым і непаваротлівым.

— Ну, радуйся... Мама паехала ад нас!

Нешта зялёнае з касмічнай скорасцю ляціць і падае ля маіх ног.

— Забірай сваю гвадэлупскую кофтачку, піжон! Іх навалам у магазінах...

Я разгублена паднімаю кофтачку і не ведаю, плакаць мне ці смяяцца. Цешча паехала!

*1965*

## СЯБРЫ

Поезд імчыць у сталіцу. За акном купэ — дажджлівая ноч. Пра такую звычайна гавораць: хоць вока выкалі. Цемра непраглядная! Б-р-р! Нават жудасна пазіраць у гэтую чорную дзірку-акно. І тым больш прыемна ў купэ — цёпла, суха, утульна. Мяккае святло падае ўніз, добра асвятляе двух пасажыраў. З верхняй лаўкі бачу іх лысаватыя галовы, тоўстыя, у старэчых складках каркі, назіраю, як яны, пераапрануўшыся ў піжамы, па-сяброўску мацаюць адзін у аднаго паясніцы, бакі, крэкчуць і гавораць пра розныя свае хваробы. Нічога не зробіш, узрост!

Потым мае спадарожнікі заводзяць іншую гутарку і добрую гадзіну самазадаволена пералічваюць сваіх славутых знаёмых са сталіцы. Скажу шчыра,— мне ўжо надакучыла іх гутарка, час класціся спаць. Аднак я ветліва маўчу, праглядваю свежую газету.

— А гэтага, Васіля Паўлавіча Пепенку, ведаеш, Кузьміч? — гаворыць адзін з пасажыраў, той, у якога вялікі шышкаваты нос і сакавіты камандзірскі бас.— З Брагіншчыны ён. Толькі ўяві, як хутка пайшоў уго-

ру, а? Шанцуе чалавеку... Гэта табе не жартачкі — начальнік такога буйнога трэста! Яму, брат, сам чорт цяпер не ўказка!..

Кузьміч, хударлявы, разважлівы, скрабе чорныя валасатыя грудзі і дабрадушна згаджаецца:

— Угу, вял-лікі чалавек, не нам раўня... Але ж ты і не падазраеш, што я з гэтым Пепенкам жыў калісь у адным студэнцкім інтэрнаце, у адным пакоі... Далібог! Ложкі побач стаялі. Не верыш? Мы раніцою з ім фізкультуру рабілі: р-раз, два, р-раз, два...

Я адкладваю газету ўбок і ўжо з цікавасцю слухаю і пазіраю, як Кузьміч, нібы ветраная мельніца, махае сваімі доўгімі кашчавымі рукамі.

— Вось так: р-раз-два! Бачыў? Ха-ха!

— Ты... хочаш сказаць, што крышку ведаеш Васіля Паўлавіча?

— Ведаю? — абураецца Кузьміч.— Крышку? Ды я табе кажу, што фізкультуру разам рабілі! Ну і яшчэ тое-сёе... Да дзяўчат, напрыклад, таксама разам... Ён без мяне, бывала, ні кроку, Іванавіч.

Іванавіч са свістам шморгае сваім вялікім носам, паблажліва глядзіць на субяседніка, устае.

— І ўсё ж, Кузьміч, сваім сябрам ты яго не назавеш. Ну, які ён табе сябра? Вучыліся разам? Цю-цю, з кім мы не вучыліся... Бажуся, што ён цябе і не помніць ужо. А вось мяне — не забыў, сапраўдныя сябры не забываюцца. Я, праўда, нікому пра гэта не кажу звычайна, але калі на тое пайшло... Мы ж з Васілём Паўлавічам пачыналі працаваць у адным райцэнтры! Я ў яго бываў дома, як свой. Памятаю, сынок у Васіля Паўлавіча быў, старшанькі, такі смешны карапузік...

— Не, не, студэнцкая дружба — яна мацнейшая, яна на ўсё жыццё! — не здаецца Кузьміч.— Вось прыеду ў Мінск, набяруся смеласці ды завалюся да яго ў госці. Ну, скажу, абдымай, цалуй старога сябра, які табе прадказваў кар'еру!

Будзь ты няладна! Напэўна, сёння я так і не засну. Вось толькі скончу чытаць гэты фельетон, цярпенне маё лопне.

— Я так і казаў яму: Пепенка, ты кончыш міністрам!

І тут я нарэшце ўмешваюся ў размову:

— Прабачце, таварышы... Вы, здаецца, пра Пепен-

ку расказваеце? — не хаваючы раптоўнай радасці, пытаюся я.

— Пра Пепенку, пра Пепенку, шаноўны.

— Пра Васіля Паўлавіча?

— А вы яго таксама ведаеце?

— Ды вось у газеце пішуць...

— У газеце? Ого! Ды пра яго напішуць, ён такі... Давайце, давайце нам гэтую газету сюды.

Спадарожнікі ледзь не рвуць з маіх рук газету і прагна чытаюць. Робіцца ціха. Нават газета не шамаціць. Я з асалодай заплюшчваю вочы. Дзякуй богу, угаманіліся. І ўжо засынаючы, чую ўсхваляваныя галасы:

— Вой-ёй-ёй! Гэта ж так расчыхвосціць за безгаспадарчасць! Што робіцца, што робіцца... Вось табе і Васіль Паўлавіч... Вось табе і сябрук...

Пасажыры доўга яшчэ возяцца ўнізе, сярдзіта чмыхаюць, сапуць. Аднак больш не размаўляюць. Як у рот вады набралі! Я тым часам бачу свой першы дарожны сон.

*1972*

## ДАПАМОГ...

Ён зайшоў да мяне ў нядзелю з раніцы, падняў проста з ложка. Я зразумеў: справа ў Сашкі Белазуба тэрміновая і сур'ёзная, патрабуецца дапамога.

Я хутка апрануўся, і мы выйшлі на вуліцу — на вуліцы заўсёды прасцей размаўляць на сур'ёзную тэму.

— Ну, кажы... У чым справа?

Просьба Сашкі Белазуба была самая звычайная. Патрэбна адвезці дзяцей у піянерскі лагер.

З хвіліну я раздумваў, больш для выгляду і саліднасці, як кожны малады аўтаўладальнік, нешта нават сказаў пра слабыя рэсоры, пра тое, што ў мяне ёсць тэрміновая справа.

І калі твар майго друга стаў кіслым, я нарэшце згадзіўся адвезці дзяцей.

— Ну, дзякуй табе, дружа. Выручыў, ніколі не забуду. А то мая жонка... Ты ж яе ведаеш!

Прыемна рабіць добрае людзям, бачыць іх радасныя твары. Тады і сам вырастаеш у сваіх вачах.

Калі праходзілі паўз шашлычную, Сашка Белазуб спыніўся, пацягнуў паветра носам і прапанаваў:

— Хочаш, шашлычком пачастую! Ты — заслужыў. Зойдзем, га?

Печанае мяса так смачна пахла, што я не ўтрымаўся ад спакусы.

— Калі так хочаш,— зойдзем... Толькі гэтага... разумееш? Ні грама!

А шашлыкі сапраўды былі цудоўныя, са свежай бараніны. Сашка заказаў аж па тры порцыі.

— Хоць па сто грамчыкаў, а? — шэптам прамовіў ён, выцягваючы з кішэні паўлітэрку.— Павінен жа я аддзякаваць цябе. Такі закон! За паслугу.

— Ну, раз такі закон... Тады справа іншая, нічога не зробіш, законы трэба паважаць.

— Зак-коны... трэба... паважаць! — з цяжкасцю варочаючы языком, гаварыў мне Сашка Белазуб, калі мы ўжо крочылі да яго хаты па дзяцей.— А ты іх паважаеш... І ты — законны хлопец!

— О, я законны...

Я толькі не ведаў, як паеду. Мне раптам захацелася заплакаць і моцна абняць Сашку за яго такія добрыя словы. Але паспеў я толькі схапіць яго за руку і прытуліць да сцяны: з Сашкавага пад'езда выязджала таксі. На заднім сядзенні сядзелі дзеці, уперадзе — Сашкава жонка: не дачакалася... Ну і нецярплівыя гэтыя жанчыны!

*1965*

## УСМЕШКА

Ёсць людзі, у якіх па твары ўвесь час гуляе ўсмешка... Яны нібы нараджаюцца з гэтай сваёй усмешкай — крыху іранічнай, крыху задумёнай, але заўсёды вясёлай і шчырай.

Неяк я ехаў з камандзіроўкі на спадарожным малакавозе і сядзеў побач з маладым вясёлым шафёрам. Размаўляючы, шафёр нейкі момант глядзеў у мой бок, і мне здавалася, што смяецца ўвесь яго твар — і задзёрты нос, і прыжмураныя блакітныя вочы, і нават рыжаватыя бровы...

А па баках прабягалі сумныя восеньскія палі, машыну трэсла па няроўнай дарозе, няшчадна падкідала на выбоінах. Але ў хлапца быў такі вясёлы твар, нібы на двары ззяла веснавое сонца. Хлопец нават нешта напяваў сабе пад нос.

— Трасе? — раз-пораз пытаўся шафёр у мяне і тут жа суцяшаў,— нічога, хутка ўжо добрая дарога пойдзе...

Нечакана ён рэзка прытармазіў — на дарозе стаяла жанчына і махала рукою,— потым павярнуўся да мяне, загадкава падміргнуў і спыніў машыну.

— Ну што, цётка Фядора? Па якому праву спыняеце транспарт? — ні то жартам, ні то сур'ёзна крыкнуў ён з кабіны.

Невысокая жанчына з кошыкам у руках хуценька падбегла да нас.

— Падвязі да хаты, Грышачка! — загаварыла яна.— Зрабі ласку, даражэнькі...

Яна лісліва ўсміхалася.

— Ну, што ж, залазь... Толькі ці памесцімся ў кабіне ўтраіх?

— Памесцімся, памесцімся, Грышачка. Я ж не такая ўжо тоўстая!

«Не такая тоўстая» цётка Фядора ледзь улезла ў кабіну, паставіўшы мне на калені свой кошык.

Машына кранулася і зноў затрэслася па выбоінах.

— Ох, выручыў ты мяне, Грышка,— адразу загаварыла жанчына, задаволена паблісквоючы вачамі.— Гэта ж я з работы адскочыла, у горад, думаю... прадаць тое-сёе. Брыгадзір наш у праўленне пайшоў, а я... Пры ім жа і не падумай адлучыцца. Ні за што не пусціць. Вельмі ўжо за калгаснае бярэцца... А мне прама кажа: «Хадзі на работу, а то працадні зніму». А каб цябе не ведаю што... Ды я, можа, не жалезная, не магу цэлы дзень на полі гібець, памідоркі тыя калгасныя збіраць!

Цётка сярдзіта нахмурылася і кінула позірк на мяне.

— Дык я вам і раскажу: няма ў іх сумлення, няма-а! Вось хіба, Грышачка, гэты яшчэ малады — і жаласць у яго ёсць! Другі б ні за што не спыніў машыны, а ён... Такога сына, дай божухна, кожнаму бацьку мець! Золата!

Шафёр моўчкі ўсміхаўся.

— Вось толькі адно дрэнна...

— П'е гарэлку? — пажартаваў я.

— Хто, Грышка? Барані божа — і ў рот не бярэ! Правільна, скажу вам, робіць. Вось толькі адно дрэнна — не ўмее жыць! Другі б на яго месцы вунь як жыў! А ён... Ат! Нядаўна старшыня яму кажа: «Працуеш ты добра, Рыгор. І вось праўленне калгаса за тваю старанную работу вырашыла выдзеліць табе на хату бясплатна лесу». Чуеце, бясплатна! Дык што ён, наш Грышачка? Адмовіўся! Пакуль, кажа, другія большую патрэбу маюць... А я пачакаю... Вы чуеце! Другі б на яго месцы...

А шафёр моўчкі ўсміхаўся. Я заўважыў, што ён неяк занадта ўважліва пазірае на пузатую кашолку, якая зверху была пакрыта белай хусцінкай. І я не здзівіўся, калі ён спытаў:

— А што гэта ў цябе, цётка Фядора, у кошыку? Ці не калгасныя памідоры?

Між іншым можна было і не пытаць: з-пад хусткі даўно ўжо выглядалі вялікія чырвоныя памідоры. Цётка Фядора тут жа хуценька прыкрыла іх, зірнуўшы разгублена на шафёра.

— Ага ж... памідоркі, некалькі штук... Падабрала на полі, валяліся... А ты, Грышка, спыні машыну, калі да вёскі пад'едзем: я агародамі пайду. А то яшчэ брыгадзіра, гэтага чорта лысага, напаткаю. Абавязкова спыні!

— Спыню, спыню! Якраз да месца дастаўлю...

— Ну вось,— адразу супакоілася жанчына.— Бачыце, які ўважлівы? Золата, а не хлопец! Дзякую табе, Грышачка.— Ты як-небудзь зайдзі да мяне... Хоць ты і не п'еш, але ад маёй не адмовішся.

Але раптам цётка Фядора глянула наперад, і твар яе пачырванеў ад злосці: машына ўжо ўязджала ў вёску...

— Во які, во які ты... Я ж сказала табе на краі вёскі скінуць... Стой! Стой! Я вылезу! Чуеш? — Цётка Фядора сярдзіта схапіла хлопца за плячо. Але шафёр, як відаць, і не думаў спыняцца, моцна трымаў руль і ўсміхаўся...

— Ты што смяешся?.. Ты што надумаў!..— ужо ледзь не крычала жанчына.— А ну спыні, спыні, а то шыбы павыбіваю...

І машына спынілася, збочыўшы з дарогі, ля белага будынка.

— Што ж, вылазь, цётка Фядора! Давёз...— сказаў шафёр, раптам зарагатаўшы на ўсю вуліцу.

А мая суседка ўтаропілася на яго, зашыпела, як гадзюка:

— Дык вось што ты надумаў, паганец! У праўленне мяне прывёз? Зняславіць захацеў! Пачакай жа, я цябе так зняслаўлю, што... Папомніш Фядору!

А шафёр рагатаў... У яго аж слёзы выступілі на вачах.

— Вылазь, вылазь, цётка Фядора! — гаварыў ён.— Вунь і брыгадзір твой ідзе... Пагавары ўжо з ім! А нам няма калі, у горад едзем.

Праз некалькі хвілін мы ўжо выехалі з вёскі. Машына мякка бегла па ўкатанай дарозе. Я з цікавасцю глядзеў на твар юнака: на ім была ўсё тая ж спакойная ўсмешка. Толькі цяпер яна стала крыху інакшай, задумёнай.

*1964*

## ГРАМАДСКАЕ ДАРУЧЭННЕ

— Канешне, нашай брыгадзе яшчэ далёка да калектыву камуністычнай працы... У нас нават не ўсе маюць грамадскія даручэнні.

Брыгадзір Іван Бас сядзіць за сталом, сутульваецца і з жалем пазірае на нас. Яго позірк, поўны спачування, нібы кажа: «Добрыя вы хлопцы, але ганаровага звання з вамі цяжка дабіцца». У зале — ціха-ці-

ха. Мы вінавата апусцілі галовы, маўчым. Сорамна глядзець у брыгадзіравы вочы, бо ведаеш — ён таксама нядрэнны хлопец, і мы яго падводзім. Нават грамадскіх даручэнняў не маем...

Але вось брыгадзір весялее, пачынае ўсміхацца, шырока і дружалюбна.

— Бачу — усвядомілі сваю віну, таварышы. Дзякуй... Прыступім жа... Якія ў каго ёсць прапановы па сутнасці пытання?

А чорт яго ведае, што прапаноўваць. Маўчым. І так ясна: дрэнь справы.

— Смялей, смялей... Я думаю кожны выбера сабе грамадскае даручэнне сам. Па душы... Так я кажу?

— Так!

— Тады давайце паактыўней... Хто пачне першы?

Устае слесар Белахвосцікаў. Ён у нас што той асілак, высокі, шыракаплечы. Любіць выпіць, любіць і падэбашырыць. Што яму зробіш... Выпрастаўшы магутныя плечы, Белахвосцікаў урачыста абяцае кожны дзень назіраць за тым, каб усе члены брыгады акуратна зачынялі за сабой дзверы ў майстэрні: холадна ўжо стала...

— Ці справішся ты? — сумняваецца Іван Бас.— Тут не проста... Можа, падмога патрэбна?

— Спраўлюся адзін,— горача запэўняе здаравіла Белахвосцікаў.— Далібог, спраўлюся, сябры...

І мы яму верым. Так дружна апладзіруем, нібы на сцэне самы славуты артыст.

Далей сход ідзе хутчэй. Кантралёр Канеўскі дае абяцанне глядзець, каб усе мы выдатна абедалі ў заводскай сталовай і елі не менш, чым па два біфштэксы... Майстар Белкін, які любіць прыкласціся да бутэлькі, акрамя таго, што ён узначальвае ў нас «Чырвоны крыж», бярэ яшчэ адну нагрузку: арганізоўваць па суботах маленькія калектыўныя выезды ў лес...

Усё гэта будзе вельмі культурна. Ну, вядома, з гарэлкай. Для весялосці...

— Брава, Белкін! Няблага прыдумаў,— радасна віншуе брыгадзір Белкіна.— З такімі, як вы, хлопцы, горы можна звярнуць. Хто яшчэ?

У адказ — мора рук. Адны — жартаўліва, дру-

гія — сур'ёзна выбіраюць сабе з дапамогай брыгадзіра даручэнні. Што значыць разбудзіць актыўнасць мас! Вось і ўсе ўжо маюць грамадскія даручэнні. Толькі я ніяк не падбяру. Ды яшчэ некалькі чалавек. Прызнацца, іншае трывожыць нас. Але брыгадзір Іван Бас, відаць, думае, што я проста нясмелы чалавек. Ён дружалюбна ўсміхаецца мне: кажы, чалавеча, не саромейся!

Ну, што ж, скажу.

— А як вытворчы план? — падаю я голас.— Не выконваем мы яго...

— Што-о?

Іван Бас пазірае на мяне з такім выглядам, нібы я яму кіслы яблык падсунуў.

— Прашу не перашкаджаць сходу другараднымі пытаннямі,— вельмі суха гаворыць ён мне.— Лепш бы падумаў, дарагі таварыш, якую сам нагрузку возьмеш... Што маўчыш? Бачу, адзін не здолееш прыдумаць. Дапаможам, хлопцы?

— Дапаможам! Хай у газету аб нас напіша,— прастуджана сіпіць Белкін.— Ён жа вершыкі складае...

— Здолееш, напішаш? — падступае да мяне Іван Бас.— Не падвядзеш калектыў?

— Не падвяду.

— Ну, тады вось табе і даручэнне грамадскае — пішы пра наш сход... Ды хораша!

І я напісаў, усё — як было.

*1965*

## У ПАЛІКЛІНІЦЫ

Чалавек дзесяць пацыентаў сядзіць у прыёмнай паліклінікі і чакаюць сваёй чаргі да ўрача.

Гутараць.

Зычней за другіх гаворыць тоўстая пажылая жанчына ў вязанай кофце, з шырокім кірпатым носам, са старамоднай куксай валасоў на галаве. Яна нахіля-

еўца да рыжавусага дзядзькі і, размахваючы кароткімі рукамі, даверліва кажа:

— ...І верыце, мой дарагі, раматус Маланні як рукой зняло! За тры дні. Уяўляеце? Падрабязна вельмі ўжо не ведаю, як яе гэты стары Зубілін лячыў, але чула — вадой...

— Вадой? Як жа гэта раматус вадой лячыць? — шчыра здзіўляецца рыжавусы.— Ён мяне, пракляты, якраз і мучыць, калі прамачу ногі...

Жанчына насмешліва прыжмурвае вочы.

— А ты не ў мяне, а ў нашага Зубіліна пацікаўся... Ён табе і растлумачыць. Да яго, калі хочаш, людзі з усёй краіны за парадай едуць. І хоць ён гэтых інстытутаў не канчаў, а справу сваю лекавую ой як ведае! Па розных хваробах прымае...

— Той Зубілін ваш у бальніцы прымае, ці як? — зноў спытаў рыжавусы.

— Навошта яму тая бальніца? Прыстаў ён у прымы да адной удавы, вось у яе і жыве, і людзей лечыць. Дарага не бярэ. Ды чакай, што гэта я яшчэ пра Маланню не дагаварыла? А-а-а... Значыць, дапамагла ёй звычайная вада. Прыпісаў Зубілін Маланні ў рацэ тры дні стаяць — раніцою і надвячоркам. А затым, значыць, пасля гэтых сіянсаў, загадаў усё як чыста цела абсыпаць попелам з тоўчанай соллю, абкруціцца саматканым прасцірадлам і ляжаць так штодня гадзіны па тры на дубовай падлозе...

— І што, выздаравела, не пакутуе зараз жанчына?

— А я ўжо казала — як рукой зняло... На Міколу выпіла крышачку яна ды як пайшла скакаць! І смех той, і грэх... А ты кажаш! Так што давай, дарагі мой, не сядзі тут ды не хадзі па рыгенах розных. Бяжы да Зубіліна. Шкадаваць не будзеш. Чуеш?

— Можа... сапраўды схадзіць? — няўпэўнена разважае рыжавусы.— Толькі б не дарэмна...

— Ідзі, ідзі, дзядзька. Адрасок табе зараз дам. У каго тут, даражэнькія, ёсць папера і аловачак? Запішам.

Жанчына адразу ажывілася, вочы ў яе заблішчалі, яна хутка ўстала, узяла ў маладога хлапца лісток з блакнота, аловак і пачала старанна выводзіць назву вёскі і прозвішча.

— Вось, бяры, дзядзька. Дзякаваць мне будзеш... Значыць, як толькі ўвойдзеш у вёску — чацвёртая хата злева...

— Чацвёртая хата злева, чатыры акны з зялёнымі аканіцамі,— пачуўся старэчы голас з-за спіны рыжавусага дзядзькі.

Дзядзька адхінуўся, і ўсе адразу ўбачылі маленькага дзядка ў насунутай на самы лоб вайсковай фуражцы.

— А яшчэ ля старых варот бяроза крывая расце, так?

Жанчына спалохана зірнула на дзядка і раптам ціхенька пасунулася па калідоры.

— Гэй, куды ж ты, пазнала мяне? Лячыўся я ў твайго мужа, каб яму, шарлатану... Абдурваеце вы людзей, абібокі, вось што! Ды чакай жа, чакай, удоўка... Пакінь свой адрасок міліцыянеру, чуеш? Можа, зойдзем.

Людзі зарагаталі, пазіраючы, як жанчына подбегам кінулася па калідоры да дзвярэй.

*1965*

## ПІСЬМО ЖОНЦЫ

Пасля чарговай сваркі з жонкай, якая тут жа дэманстратыўна накіравалася да суседкі, я, разбіты і стомлены, сеў за стол і з горыччу задумаўся над нашымі адносінамі... Хто вінаваты? Бясспрэчна, жонка! Іншага адказу не можа і быць! Калі б яна, бессардэчная, хоць раз за дваццаць пяць гадоў сямейнага жыцця пажадала пачуць усё тое мудрае, што я безнадзейна спрабую ўвесці ёй у вушы ў гэтыя брыдкія хвіліны сварак, многае б змянілася к лепшаму. Я памог бы ёй зразумець яе недахопы і выкараніць іх. Але ж у тым і бяда: жонка і слухаць нічога не хоча ў час лаянкі, а пасля сваркі... я прынцыпова не размаўляю з ёй па некалькі дзён.

Апчаперыўшы галаву рукамі, доўга разважаў:

што рабіць? Ёсць жа нейкае выйсце... Жонка павінна, ў рэшце рэшт, ведаць пра ўсе недахопы свайго характару. Лепш позна, чым ніколі... І раптам, зусім нечакана, як у людзей сапраўднага творчага розуму, выратавальная ідэя бліснула ў маёй галаве... Схапіўшы чысты аркуш паперы і ручку, я пачаў пісаць. Пісьмо жонцы. Радок клаўся за радком — надзвычай лёгка, хутка, складна... Як толькі да гэтага не дадумаўся я раней: усё ж можна цудоўна выкласці на паперы, пералічыць у пісьме жончыны адмоўныя рысы, а там... хай чытае і перавыхоўваецца!

І так, каб з няўжыўчывай і злой жанчыны зрабіцца нармальнай і каханай жонкай, ёй неабходна неадкладна перамяніць свае паводзіны і расстацца: з хваравітым самалюбствам і ганарлівасцю, дробязнай прыдзірлівасцю і сварлівасцю, эгаізмам і рэўнасцю... У рэшце рэшт, хай навучыцца і сама дараваць людзям іх слабасці!

Хваляванне ахапіла мяне: атрымліваўся сапраўдны абвінаваўчы акт! Выкрывальным пункцікам і падпункцікам, здавалася, не было канца... Для большай пераканальнасці я нават падмацаваў некаторыя з іх прыкладамі з класічнай літаратуры. Безумоўна, не абышлося без Анны Карэнінай...

Нарэшце, знясілены, але незвычайна шчаслівы, я адкінуўся на спінку крэсла і слабым голасам паклікаў сваю старэйшую дачку-студэнтку: хай яна, як чалавек нейтральны, паслухае напісанае ды, можа, падправіць што-небудзь з літаратурнага боку...

— Сядай, Зойка... Спадзяюся, ты падтрымаеш... Я вось тут... намаляваў партрэцік аднаго члена нашай сям'і,— дыпламатычна пачаў я,— пра ўсе яго недахопы напісаў, якіх трэба пазбавіцца, каб у доме ўсталяваўся трывалы мір...

— Чытай, татка!

І я ўрачыста ўстаў з-за стала і зычным голасам судовага абвінаваўцы, пункт за пунктам, пералічыў усе жончыны недахопы. Напэўна, у гэты момант мой твар быў незвычайна натхнёны, бо дачка не зводзіла з мяне вачэй.

Не паспеў я скончыць, як яна кінулася да мяне, моцна абняла і са слязьмі на вачах пранікнёна прамовіла:

— Цудоўна, татачка... Я так рада, што ты рашыўся... Самавыхаванне — вялікая рэч! Заўсёды верыла ў тваю высакароднасць. Толькі вельмі прашу, дадай яшчэ адзін, апошні пункцік: раз і назаўсёды развітацца з брыдкай звычкай ужываць спіртное...

— Але... твая мама... не п'е,— здзівіўся я.

— А прычым тут мама, татачка? Калі ласка, не ўводзь размову ўбок, з сённяшняга ж дня пачынай самавыхаванне. Ды па ўсіх пунктах, асабліва па апошняму!

І шчыры пацалунак апёк маю мудрую лысіну...

*1975*

# БІЯГРАФІЧНАЯ ДАВЕДКА

Яўген Каршукоў нарадзіўся 1 студзеня 1932 года ў вёсцы Давыдавічы Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка. Тут, на Палессі, прайшло дзяцінства, з гэтым чароўным беларускім краем звязаны яго школьныя гады, час першых жыццёвых адкрыццяў, час сталення.

У 1951 годзе Яўген Каршукоў — студэнт Беларускага Дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Менавіта ў студэнцкія гады з'яўляюцца ў друку першыя апавяданні пісьменніка.

Скончыўшы універсітэт і атрымаўшы спецыяльнасць журналіста, Яўген Каршукоў працуе на Гомельшчыне — у раённых і фабрычнай газетах, на абласной студыі тэлебачання, а затым — у Мінску, загадчыкам аддзела прозы і паэзіі газеты «Літаратура і мастацтва», намеснікам галоўнага рэдактара сатырычнага часопіса «Вожык», літкансультантам Саюза пісьменнікаў БССР.

Першая кніжка прозы «У дарогу» выйшла ў 1963 годзе. У наступныя годы пісьменнік выдаў некалькі кніжак апавяданняў і аповесць для дзяцей «Змоўшчыкі».

Апошні час пісьменнік працуе ў галіне мастацкага перакладу. Цяпер Яўген Каршукоў — галоўны рэдактар выдавецтва «Юнацтва».

# ЗМЕСТ

## АПАВЯДАННІ

ГУМАРЭСКІ

Каршукоў Я.

К 21 І надыходзіць дзень: Апавяданні. Гумарэскі.— Мн.: Маст. літ., 1982.— 301 с.

У пер.: 1 р. 20 к.

У кнігу «І надыходзіць дзень» уключаны творы пісьменніка, напісаныя ім за многія гады творчай дзейнасці. Веліч сённяшняга дня, высакароднасць савецкіх людзей — вось галоўная тэма апавяданняў. У гумарэсках аўтар высмейвае бюракратаў, прыстасаванцаў, хапуг — усіх тых, хто ганьбіць высокае званне савецкага чалавека.

К $\frac{4702120200-064}{М\ 302(05)-82}$ 136—82

ББК 84 Бел 7

Бел 2

Евгений Иванович Коршуков

**И НАСТУПИТ ДЕНЬ**

Рассказы
Юморески

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар Г. В. Роліч
Мастак М. У. Чуднікаў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна
Карэктар Т. В. Трубач

ІВ № 1402

Здадзена ў набор 08.09.81. Падп. да друку 09.03.82. АТ 06520. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 15,96+0,11 укл. Ум. фарб.-адб. 16,18. Ул.-выд. арк. 14,75. Тыраж 12 000 экз. Зак. 1913. Цана 1 р. 20 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Надрукавана са стэрэатыпаў Мінскага вытворчага паліграфічнага аб'яднання імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, у друкарні «Пабеда», 222310, Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.

ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1982

**ЧЫТАЙЦЕ ТВОРЫ
БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ**

Лужанін М.
КОЛАС РАСКАЗВАЕ ПРА СЯБЕ

Прокша Л.
ЗОСЯ СМЯЕЦЦА

Пушча Я.
САДЫ ВЯТРОЎ